# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ
ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ

ЖНІВЕНЬ
ВЕРАСЕНЬ №8-9

1929





БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



ГОД ВЫДАНЬНЯ ВОСЬМЫ




## ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ
## 1929

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК



ПАЎЛЮК АДАМАВІЧ ТРУС

## СМУТАК КАХАНЬНЯ [1])

**Паўлюк Трус**

— Алеся!
Бедная Алеся,—
Дзіця Наднёманскіх нізін!..
Пад ціхі шэлест чорналесься
Забытай маладосьці дні
Прайшлі, як сон перад сьвітаньнем,
Як лёгкі ўзмах твае рукі...
Адгаманілі на растаньні,
Бы хвалі цёмнае ракі.
І мне шкада,
шкада й балюча,
Што на крыжох тваіх пуцін
Было так многа сьлёз гаручых;
Так мала радасных хвілін!..
Успомні дні і будуць сьніцца
Дзяцінства сьветлыя гады,
Яны—як зоры над крыніцай...
— Гады, гады...
Чаму-ж так рана
Вы адцьвілі ў красе вясны?
Няўжо затым, што я на Йвана
У люстэрку бачыла ў гірляндах
Сьцень белай сьмерці і труны?..
Ці мо' таму, што на купальле
(Было, здаецца, кагадзе?)
Вянкі чароўныя на хвалях
Русалкі скралі на вадзе?
Ды расплялі на дне глыбокім,
А я ў самотнасьці адно
Блудзіла смутна-адзінокай
У зачарованую ноч?
— О, страшна мне!
Мой сьцень ў завеях,

[1]) Урывак з поэмы „Сірата Алеся“.

Як здань маўклівая у сьне...
І вы—апошнія надзеі,
І вы пагасьлі для мяне!..
— Алеся!
Родная Алеся,—
Краса Наднёманскіх дзяўчат!
Адну ў палёх за чорналесьсем
Цябе ня раз я сустрачаў.
Куды ішла...
Чаго шукала?
Ў палёх засмучаных... Скажы,
Якую-ж крыўду ты хавала
На дне надломанай душы?
На дне, дзе лісьце мяты-руты
Ўпіліся золкасьцю тугі.
Там кубак з горкаю атрутай
Разьбіў, хто сэрцу дарагі!..
Хто позна ўвечары ля млыну
Табе пакляўся ад душы
І ўчора ў чорныя хвіліны
Табою цешыўся і жыў...
Табою жыў...
З табою плакаў...
Сьмяяўся ў роспачы... Як ты
Ня раз халодную вужаку
Таіла ў сэрцы маладым!..
— Алеся!
Любая Алеся,—
Краса Наднёманскіх дзяўчат!..
Ты сінь вазёрнага Палесься
Адбіла ў сонечных вачах,
Адбіла чэрвеньскія зоры,
Смуглявасьць ціхіх вечароў
І гнеў зажынкавага мора,
І казкі дзіўныя палёў.
Скажы, каго-ж цяпер суцешыш,
Як на грудзёх сырой зямлі,
Твае чароўныя усьмешкі
Да ўсходу сонца адцьвілі.
Прайшлі гады...
Завялі крозы...
Адкрасавалі дні вясны.
Ты горка плачаш...
— Сьлёзы, сьлёзы,—

Калі-ж сунімуцца яны?
Калі-ж ў асеньнім жоўталісьці
На век загубіш боль душы,
Як раны сэрца спавіліся
Красой халоднаю шыпшын.
З шыпшын асьнежаных, калючых
Табе вянок зьвіла вясна.
Таму так цяжка,
так балюча
Кляцьбу і ростань ўспамінаць:

Шалясьцелі словы,
як лісты увосень.
Шалясьцелі думы
залатым калосьсем.

Шалясьцелі чары,
Бы вятры-узьвеі,
А цяпер завялі
Адцьвілі ў завеях.

І клянуцца вусны
Не кляцьбой-дакорам.
За вакном у сьценях
Дагараюць зоры.

За вакном, дзе астры
Асыпаюць росы,
Ў залатых маністах
Журацца бярозы.

Ў залатых карунках
Не шасьцяць рабіны...
Ой, чаго-ж так плача
Бедная дзяўчына?

Ой, чаго-ж так плача,
Ой, чаго-ж так тужыць?
Ці таму, што скроні
Адцьвітаюць ружай?

Ці таму, што ружай
Паліня лі бровы?
— Дзе-ж ты, мая доля,
Дзе-ж ты, чорнабровы?!.

Дзе-ж ты, мая радасьць?
...Сум і жоўталісьце...

Ці вясной кувацьмеш,
А ці ў сьне прысьнішся?

Закувай зязюляй
Ды ў зялёным гаі.
Мо' адзін ты ў сьвеце
Думы разгадаеш?..

Мо' адзін ты ў сьвеце,
Як ніхто ніколі.
Позна, апаўночы
Заклікацьмеш долю?

— Доля-ж, мая доля,
Ня ўзышла-ж ты рана.
Ці ў пяскох ты ў полі
Коньмі патаптана?

Ці ў пяскох сыпучых
Капытамі зьбіта?
Ня ўзышла-ж, ты доля,
Каласістым жытам.

Ня ўзышла да сонца,
Як спадалі росы;
Як зьбіралі людзі
Залатую россып.

Людзі мне казалі,
Што маю нядолю
Засушылі ветры,
Як былінку ў полі.

Загубілі ў полі
Пры сырой даліне,—
Там цяпер на волі
Расьцьвіла каліна.

І шуміць увечар,
Ой, шуміць пад гаем.
Толькі сэрца песень,—
Дум ня разгадае.

— Думы-ж, мае думы,—
Дарагія хвілі!..
Ой, чаму-ж вас, думы,
На чужой магіле

Не разьвеюць ветры,
Не размыюць хвалі,
Каб душа ня ныла
Ад тугі, ад жалю!..

...Варажылі людзі,
Варажылі йначай.
Але хто згадае
Чаго сэрца плача?

Але хто згадае,
Песьняй хто адчуе!
Дзе?
Ў якіх далінах
Маладосьць пачуе?
Дзе?..
Ў якіх далінах
Дзе?..
Ў якіх завеях
Загубілі шчасьце
Навальніцы-ўзьвеі?..
— Ой, маці, маці!..
Сьлёз дзявочых
ня знала ты,

Калі для ўсіх
Дала чарнявыя мне вочы,
Каб век пакутаваць за іх!..
Журыцца з вечара да ранку
Перад адчыненым акном.
— Навошта-ж вочы мне—заранкі,—
Яны зажураны даўно!
Навошта чорныя мне бровы,
Забытай гордасьці краса,
Калі-ж пад шэлестам дубровы
Зрадзела русая каса.
— Ой, маці, маці!
Дум дзявочых
Табе ў цыганкі не згадаць!
Дала чароўныя мне вочы,—
Ня ўмела толькі шчасьця даць!
Адна, як яварына ў полі,
Расту бяз сонца, без расы...
Пад сьпеў наднёманскіх таполяў,
Я жоўкну ў росквіце красы.

А там вясна...
Квітнеюць нівы;
Гамоняць цёмныя бары...
— Каго-ж мне сёньня ашчасьлівіць,
Вянок каханьня падарыць?
Гляджу ў вакно...
з-за мора гусі
Да нас вяртаюцца адны.
Лятуць над краем Беларусі
З чужой, далёкай стараны.

Праляцелі гусі
З далёкага краю...
Пачакайце-ж, гусі,
Я вас запытаю:

Ці з таго вы краю,
Скуль мілога маю:
А мілога маю,
Ды не прычакаю.

Ой, пайду ў садочак,
Жоўты там пясочак.
Я-ж на тым пясочку
Знайду два сьлядочкі.

Вось адзін сьлядочак
Каня варанога,
А другі сьлядочак
Ды майго мілога.

Ой, пайду ў садочак
Вышчыкну лісточак,
А я-ж тым лісточкам
Прыкрыю сьлядочак.

Каб па тым сьлядочку
Людзі не хадзілі:
Каб мне маладзенькай
Быту не рабілі!..

Чакала радасьці з аддаляў,
Штодзень чаканьнямі жыла,
Нічога-ж гусі не сказалі
І патанулі край-сяла,
Узмахнулі крыльлямі высока,
Ім ўсьміхнулася вясна,

А я забытай, адзінокай
Стаю на ростані адна.
Як цяжка мне,
о, як балесьне!..
Не для мяне краса і шыр!
Сябе суцешу толькі песьняй.
Ёй расчастую боль душы.

— Прыляці, зязюля,
Заўтра ў гай.
На чарэшні-вішні
Закувай.

На чарэшні-вішні
Закувай!..
Ды мяне раненька
абуджай!..

Пабягу да сонца,
пабягу...
Блізка рэчанькі,
берагу.

Можа сваё шчасьцейка
там знайду,
Як пушчу вяночкі
на ваду...

Як вяночкі сыдуцца
на вадзе,—
За варота выйду я
паглядзець.

За варота выйду я
паглядзець.
Ці ня едзе суджаны
ці ня йдзе...

А як бегла дзеўчына
па ваду,
Дзьве сасонкі плакалі
па бяду.

Дзьве сасонкі сонныя—
дзьве сястры...
Ня шумелі ўвечары
на гары.

Ня цьвілі пад месяцам
сітнягі.
Толькі хвалі шасталі
ў берагі.

Толькі хвалі шасталі,
ды адны
Ў чаратох журыліся
тры чаўны.

Яна вёдры ставіла
на бруску.
Рассыпала пацеркі
на пяску;

Чаравала персьцені
ля ракі,
Ды зьбірала красачкі,
васількі.

А як месяц хмарыўся
ў вышыні...
Ой, гадала дзеўчына
ў цішыні.

І зьвіла як з красачак
па вянку
Іх пусьціла з сьвечкамі
на раку.

Як вяночкі плавалі
на вадзе,—
Выхадзіла дзеўчына
паглядзець.

Выхадзіла з вечара
паглядзець,
Ці ня едзе суджаны,
ці ня йдзе?

Ой, ня едзе суджаны
і ня йдзе...
І пагасьлі водсьветы
на вадзе.

Патанулі з сьвечкамі
два вянкі
Хвалі ўскалыхнуліся
ля ракіт . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .

— Дзе-ж красуня-дзеўчына,
шчасьце, дзе?
Толькі косы русыя
на вадзе.

Ой, вядзерцы з хустачкай
на бруску.
Два пярсьцёнкі й пацеркі
на пяску...

# ДРАПЕЖНІКІ

*Роман у трох частках*

**Я. Нёманскі**

Частка другая

VIII

І вось Зося наважыла скончыць самагубствам. Гэтая думка неадчэпна сядзела ў яе маленькай галоўцы. Ні наглуха забіты пакой, у якім яе зачынілі, як у труне, ні новыя цудоўныя вопраткі, чыёюсь старэннаю рукою разьвешаныя на крэсьле, ні што іншае ня прыцягвала больш яе ўвагі. Нават аб Зыкаве не прамільгнуў ніводзін успамін. Тупая беспрасьветная думка аб самагубстве абвалакла ўсю яе істоту. З пакалмачаным стагом золата на галаве, у разарванай кашулі з плямкамі крыві, з сінімі кругамі пад затухшымі вачыма сядзела яна на ўскрайчыку раскошнае пасьцелі, то сноўдалася па пакоі. Голыя яе грудзі, ногі, кашуля былі то жоўтымі, то сінімі, як толькі яна праходзіла праз прамень, які рознакаляровым снопам падаў ад вэнэцыянскага акна.

За дзьвярыма пачуўся дробны гулкі тупат. Гэтыя гукі страсянулі дзяўчыну, і яна скокнула, як дзікая каза, за цяжкае крэсла, схапіўшы мімаволі статуэтку ў рукі. Пачуцьцё самаахові яшчэ ня зусім пакінулі яе.

Замок трымкнуў два разы, і цяжкія дзьверы павольна расчынілі чорнае жарало. На парозе стаяла... Ядзя. У белым шоўкавым адзеньні з маленькім пучком нейкіх ружовых жывых кветак на грудзях, тонкая, стройная, з вясёлым жвавым тварам, на якім сьпелаю вішняю чырванелі маленькія губы, яна рэзка выдзялялася на фоне чарнаты расчыненых дзьвярэй. Быццам сьвятлей стала ў пакоі з яе прыходам.

— Матка найсьвяншая з намі! Вось дык маладая! Зося! Зося!—зашчабятала і замітусілася Ядзя, угледзеўшы сваю былую таварышку за крэслам. Сёньня-ж сьвята, ужо даўно як ўсе паўсталі, а ты яшчэ ня прыбралася! Хутчэй зьбірайся, мы сёньня паедзем у санях на фальварак. Стась загадаў запрагчы вараных коняй. Ух! як я люблю іх! Сьнег слупам ляціць, вецер сьвішча міма вушэй, дрэвы нясуцца насустрач, як шалёныя. Скарэй-жа! Стась чакае!

За крэслам нешта грукнула на падлозе. Рукі Зосі калаціліся, яны ня вытрымалі статуэткі, як і тады, як яна адбівалася ёю ад пана Ляскоўскага. Ядзя яшчэ больш зацікавілася і падышла амаль да самага крэсла. Выгляд Зосі прывёў яе ні-то ў смутак, ні-то ў вышэйшы экстаз.

— Ты, мусіць, надта пакутуеш? Ах, як хацела-б я перажываць вялікую пакуту каханьня!—паставіўшы вочы ў столь, урачыста загаварыла панна Ядзя. Нават кветкі на яе грудзях ніклява схілілі свае кволыя галоўкі.

— Пан Стась так моцна кахае цябе, толькі і гаворыць са мною, што аб табе,—ужо са ўздымам зноў залапатала яна. Ён сапраўдны рыцар як у жыцьці, так і ў каханьні...

Гэтая крыніца слоў раптам замоўкла, нутраныя застаўкі прыпынілі яе вясёлае балбатаньне. Яе былая таварышка скокнула з-за крэсла і асьцярожнымі ціхімі крокамі падыходзіла да дзьвярэй. Ядзя таксама кінулася назад, імкнучыся зачыніць іх.

— Ня бойцеся, я не спрабую ўцячы з турмы, куды засадзіў мяне ваш брат-рыцар—хрыплаватым голасам, бяз жаднага хваляваньня прагаварыла Зося. Ваш брат, мусіць, надта верыць вам, калі паслаў вас сюды нават з ключом, як астрожную вартаўніцу?

— П-фі! як ты недалікатна выражаешся. Вядома, ты ня зусім шляхетная, ты не з такога роду, як мы, але ўсё-ж павінна была-б гаварыць як сьлед... На жаль, мне цяжка больш заставацца з табою,—крыху пачакаўшы, дадала госьця.

— Калі ласка, можаце пакінуць гэты астрог; вас, мусіць, ня пасадзяць так,—пахмурна адказала Зося, зморана дакранулася да пасьцелі і агарнулася лёгкаю коўдраю. Выгляд яе стаў падобны да папсаванае лялькі, абвінутае ў пялёнкі.

Дзьверы важка зачыніліся, але ключ не даваў ніводнага гуку. Праз хвіліну-другую зноў разьзявіўся чорны чатырохкутнік, і белая постаць Ядзі прамільгнула праз рознакаляровы прамень ад вакна.

— Ну, Зосечка, даражэнькая, хоць ты і занадта пакрыўдзіла мяне, але ўсё-ж мне цяжка пакінуць цябе так. Мы з табою ўсё-ж таварышкі; помніш, як разам вучыліся, як разам прыяжджалі з гімназіі на сьвята. Памятаеш, як раз у лесе нас выкінула з саней на сьнег і мы ня маглі выкарабкацца з хутраў?

Зося маўчала і ніводная рыска на яе сьмяротна-блядым твары не паказвала зьмены ў пачуцьцях.

— Дзе-ж гэта было, каб чалавек самахоць сядзеў у адзіноце, цураючыся людзей і асабліва тых, хто яго кахае? Ты-ж ужо тры дні тут сядзіш, траціш чалавечы выгляд,—больш усхвалявана з-за маўклівасьці Зосі, гаварыла Ядзя.—Кінь ты нуду, прыбярыся, апраніся, а калі ня хочаш сама, то я прышлю зараз пакаёўку. Пойдзем з гэтага пакою, там чакае цябе Стась. Ён будзе нязьмерна рады дагадзіць табе ўсім, чаго ты толькі захочаш.

— Вось як! Дык вы, панна Ядвіга, ведаеце ўсе намеры пана Ляскоўскага? Можа вы прыймалі ўдзел у тым, каб загубіць маю чэсьць і жыцьцё?

Зося парывіста сарвала з сябе коўдру і ўскочыла на ногі. Вочы яе, запаленыя шалёнствам нянавісьці, калолі твар панны. Тая ня вытрымлівала гарачых праменьняў, якія ліліся на яе ад гэтых кіпучых вачэй. Ядзя страціла ўсю сваю лісьлівасьць, перапалох самкнуў ёй губы. Яна вабрала галаву ў плечы і толькі зрэдка кідала баязьлівыя позіркі на суседку. Потым нейкая думка прышла ёй у галаву, яна няпрыкметна ўсьміхнулася.

— А ведаеш, якая ў Маскоўцах навіна?—нібы нічога ня здарылася вось зараз, запыталася яна сваім звычайна-лёгкім тонам.—Ці ведала ты нейкага майстра Зыкава з папяровае фабрыкі?

Зося раптам зьмянілася ў твары. Едкія праменьні нянавісьці, якія да гэтага абдавалі панну Ядзю, разам затухлі пры ўспаміне аб Зыкаве. Лётаргічная прыгнечанасьць, у якой яна была ўжо два дні, зьляцела з яе. На шчоках запылалі чырвоныя плямкі, шэрыя вочы зьзялі ціхім сьвятлом.

— Ты ведаеш дзе ён? З ім здарылася нешта?—ласкава-ўсхвалявана пыталася яна. Рукі яе цягнуліся дакрануцца да пальцаў панны Ядзі.

— Чаму гэта ты цікавішся ім?—крыху ўхіляючыся ад Зосі, у сваю чаргу запыталася панна Ядзя.

Зося ня здолела адказаць на гэта запытаньне. Яна стаяла спусьціўшы вочы, рукі яе віселі слаба і бязвольна.

— Цікавіцца такімі людзьмі нельга,—прагаварыла быццам у бок Ядзя.—Ён...—панна Ядзя, наўмысьля прыпынілася і напусьціла сабе на твар выгляд спалоху.—Ён-жа чуць не забіў нашага мілага вураднїка, які невядома ці застанецца жывым.

Зося слухала кожнае слова з нярухома-ўніклівым поглядам. Толькі праз хвіліну-другую, як скончыла гаварыць Ядзя, Зося глыбока і цяжка ўздыхнула як енкнула. Вочы яе ашклянелі.

— І ведаеш,—дабівала сваю таварышку панна Ядзя,—ён ужо ня раз забіваў людзей. Дый фамілія яго зусім іншая. Гэта быў нейкі беглы астрожнік. Але што гэта з табою?

Зося павольна апусьцілася на пасьцель, яна была як нежывая. Панна Ядзя ўсьміхнулася, прайшлася разы два па пакоі, а потым, напяваючы нейкі опэрэтачны мотыў, лёгкая і вясёлая, выйшла ў чорны калідор. Дзьвярэй яна ўжо не замыкала.

Зося ачнулася ня хутка. Яна ня чула, як дзьве пары рук пранесьлі яе падземным калідорам, як яе апраналі ў шастаўшы шоўк новае кашулі і кофты, як палажылі на мяккую машаставую канапу. Яна ачнулася, калі ўжо ў чарнаце завешаных лёгкім тулем вокан вясёла міргалі сіня-зеленаватымі агоньчыкамі зоркі. Лямпа, захаваная ў блакітны ліхтар, роўным песьцячым сьвятлом залівала найпрыгажэйшы пакой. Два-тры

столікі арэхавага дрэва, палісандравага лякіраванага дрэва, шафа-камод з выразанымі па верху і нізу цудоўнымі кветкамі і птушкамі, па сьценах—малюнкі спакойнага мора, прыгожых куточкаў у горах, клясычных будынін, на ўсю падлогу тоўсты дыван, з аздоблена вытканымі па ім узорамі рымскіх воінаў у шлёмах, коняй, запрэжаных у баявыя калясьніцы, на падстаўках каля вакон раскошныя кветкі гартэнзыяў, олеандраў і іншых невядомых чужаземных расьлін. Усё гэта песьціла вока, супакойвала вострыя пачуцьці. Недалёка ад канапы, дзе, крыху падняўшыся на локаць, ляжала Зося, забаўляліся ў мармуровым каміне швыдкія язычочкі агню. Дровы вясёла патрэсківалі і напаміналі, што за вакном зімовая сьцюжа, але што тут холад ня страшны. Наадварот, прыемна адчуваць сябе зусім недасяжным для тых турбот, якія прыносіць злы сівер.

Вам напэўна здаралася бачыць скручаны віхрам, пабіты градам хлеб на полі. Кволае лісьце перамешана з зямлёю, надломаныя стрэлкі тырчаць уверх як абрубкі рук калекі. Цяжкая безнадзейнасьць, пахмурнасьць вее з палетку; здаецца кожная былінка загінула назаўсёды пад сурова-хмарным небам. Але вось блІснула сонца, асьвяціла сумную роўнядзь пакалечаных палёў—і пачынаюць выпростваццa лісточкі, падымаццa прыбітыя ў гразь галоўкі кветак, зялёныя каласкі збожжа. Няхай сабе хмары толькі-толькі сышлі і стаяць вось там недалёка, але змучаныя расьліны ня хочуць успамінаць аб навальніцы, яны шукаюць ласкі і цягнуцца да сонца, хоць-бы праменьні яго былі кароткімі, ласка яго—няшчыраю, хлусьліваю.

Гэта-ж адбывалася з Зосяю. Той упадак, які апанаваў яе пасьля цяжкіх здарэньняў з ёю, быў нарушаны новымі эмоцыямі, што былі выкліканы паведамленьнем Ядзі Ляскоўскае аб Зыкаве. Запалаўшая надзея, абудзіўшая з вострасьцю пачуцьці каханьня, раптам сарвалася і замянілася новым усьцішшам. Зыкаў—забойца, Зыкаў—астрожнік... Ён хлусіў ёй. А можа хлусіць Ядзя? Але-ж забойства... зроблена. Зося корчылася ад думкі аб гэтым, яна адчувала надзвычайны боль ад яе. Схаваццa ад гэтае думкі, выкінуць з памяці ўсё, што было ўсьцішнага! Калі некалькі гадзін назад яна ўпарта і спакойна думала аб самагубстве, дык цяпер яна шукала сьветлага жыцьця, са ўсьцішшам адварочваючыся ад здарэньняў нядаўнага мінулага. Кроў, якая зьвязвалася цяпер у яе ўспамінах з Зыкавым, душыла яе страхоцьцем, ад якога яна хацела схаваццa, забыццa так, каб ніколі ня помніць. Толькі яснага жыцьця і спакою!

Ціш у пакоі, вабныя малюнкі на сьценах, хараство кожнае рэчы, якая аздабляла пакой, вясёлыя скокі полымя ў каміне супакойвалі настрой, загойвалі раны пеpажытае пакуты. Думка аб тым, што гэта хараство чужое, варожае, хоць і налятала часамі, але закранала толькі ўскрайчыкам, лёгка, як шэры начны матыль, выпадкова заляцеўшы ў хату... Бура сьцішалася. Клясычныя колёны на малюнках, вышытыя на дыванох для падлогі рымскія воіны варочалі да мінулых лятуценьняў,

народжаных ящчэ ў гімназычныя гады... Калёны, кветкі, прыгожыя малюнкі закружыліся цудоўным колам, засланяючым нуду, чарнату, усьціш, якія так нядаўна ахоплівалі ўсю істоту дзяўчыны.

Лёгкая хваля паветра дакранулася твару Зосі. Яна нехаця адкрыла вочы і чуць падняла галаву з падушкі. Цудоўны калаўрот прыпініўся, і ўсе рэчы сталі па сваіх мясцох: малюнкі—на сьцены, кветкі—да вакон, рымскія воіны—на падлогу. Усьцішша зноў абцугамі ахапіла сэрца. Тонкая, стройная постаць пана Ляскоўскага рэзка выдзялялася на бялізьне ваконных фіранак. Зноў гэтыя прагавітыя вочы сачаць за ёю, апальваюць яе цела бяссорамным позіркам. Зося ўсхапілася з канапы, нібыхто яе падкінуў, і жахліва прытулілася за шафаю. Ляскоўскі падышоў да каміну, паправіў шчыпцамі абгарэлыя галавешкі, зноў павярнуў галаву ў бок Зосі. Крывавыя іскры блішчэлі ў яго вачох.

— Мне надта цяжка на сэрцы,—глухаватым голасам, які мала стасаваўся з яго задаволена-важным выглядам, прагаварыў ён.—Вось ужо колькі дзён вы зьдзекуецеся з майго каханьня, лічыце мяне, мусіць, за нейкага зьвера. Каханьне і толькі каханьне я адчуваю да вас, і якім-бы яно было, каб вы з яснаю душою прынялі яго. Хадзеце-ж сюды, разам сядзем каля каміну і кінем усякі былы смутак і крыўду.

Зося нярухома стаяла ў сваім прытулку. Толькі скончыў гаварыць Ляскоўскі, яна няпэўнымі, баязьлівамі крокамі кранулася да дзьвярэй. Але рука яе слаба павісла на паветры, калі яна падняла яе, каб адчыніць дзьверы. Так з працягнутаю пустою рукою стаяла яна хвіліну-другую.

— Ах, куды-ж я пайду цяпер такая? — галосна, але самой сабе сказала з запытаньнем дзяўчына.

—Ты хочаш пакінуць мяне? — з ласкаю ціха запытаўся Ляскоўскі, падыходзячы да яе. — Я кахаю цябе, аддаю табе ўсё мае багацьце, буду песьціць цябе як лялыку, навошта-ж табе непакоіцца і думаць куды ісьці. Ляскаўцы, зубры, іншыя маёнткі, увесь сьвет — усё нашае з табою.

Дзяўчына слухала гэтыя лісьлівыя словы, яны даходзілі да яе ўразуменьня. Ляскоўскі стаяў тут, побач, а яна ўжо не адскоквала больш. Усьціш, які яна раней адчувала пры адным поглядзе на Ляскоўскага, прыціх. Зося зрабілася ўжо ня тэю, якою была: замест дзікага зьвярка побач з панам Ляскоўскім стаяла ціхая, замучаная дзяўчына, якая ня ведала, куды дзець свае рукі, і сарамяжа мяла ў пальцах бант кофты.

Ляскоўскі абняў моцнымі рукамі тоненькі стан дзяўчыны, падняў яе і панёс па пакоі. У вачох Зосі ўсё замітусілася і яна слаба апусьціла галаву на плячо свайго былога ката. Праз хвіліну яны сядзелі ў шырокім крэсьле перад камінам, дзе рдзяныя вугольлі, то рабіліся цьмянымі, то зноў ажывалі, кідаючы ружовыя праменьні на блізкія рэчы.

— Дык ты будзеш кахаць мяне, мая каралева?—цалуючы дзяўчыне рукі, гаварыў Ляскоўскі. — Мы з табою разам пабачым увесь сьвет.

Цудоўнае сонца і мора Італіі, вясёлы Парыж, нямецкія тэатры, венская опэрэта — нішто ад нас не ўцячэ, нічога мы не абмінем. Усё, да чаго дасягнуў чалавечы геній, усё, што лепшага і найпрыгажэйшага мае натура,—усё мы пабачым, усяго паслухаем. Асьветленая нашым каханьнем, творчасьць людзей і натуры дасьць нам найвышэйшую асалоду. Там мы забудземся аб Ляскоўцах, аб гэтых нашых балотах, аб смуродных лапатных сялянах, аб гэтых паскудных кутніках ды паперніках, якіх мы вымушаны бачыць кожны дзень, на кожным кроку... Толькі тонкае, далікатнае хараство, утворанае вякамі праз вышэйшых людзей—вось што будзе абкружаць нас. Ты хочаш гэтага мая каханка?

Дзяўчына маўчала. Па твары яе пралятаў то смутак, то радасьць, якая запальвала вясёлыя іскаркі ў вачох. Нібы хмаркі праносіліся па ясным небе, часам закрываючы сонца. Вось адна з іх затрымалася больш, і бляск доўга не асьвятляе засмучанае натуры.

— Ці вы... праўда... так... ках... кахаеце мяне?—зачырванеўшыся, запытала дзяўчына.

— Няўжо-ж ты мне ня верыш? Якія яшчэ трэба доказы гэтаму? Я прашу, я малю толькі твайго каханьня, мая залатая рыбка.

— Я... я пакуль баюся вас, а потым, можа... я ня ведаю, што потым будзе.

Вочы дзяўчыны заблішчэлі двума дыямэнтамі. Яны рабіліся ўсё большымі, і раптам буйнымі, блішчастымі гарошынамі дыямэнты пасыпаліся з нахіленае галавы на калені.

Ляскоўскі асьцярожна прымасьціў Зосю ў кутку крэсла-канапы, паглядзеў хвіліну-другую на ўздрыгіваўшы ў сударгах плачу маленькі камячок цела і павольна накіраваўся да дзьвярэй. Тонкія, як п'яўкі, губы яго злажыліся кальцом, нібы ён гатоў быў засьвістаць. Папраўіўшы сурдут, які шчыльна аблягаў яго стройную гнуткую постаць, ён прасьлізнуў у дзьверы.

Неўзабаве ў пакоі зьявілася старая кабета з белаю паркалёваю каронкаю на сівых валасох. Пераваліваючыся з боку на бок, як качка, яна падышла да крэсла і нахіліла свой жоўты, зьдзёўбаны раўчакамі маршчакоў, твар над крохкім целам дзяўчыны.

— Годзе плакаць, дачушка,—прашамкала яна бяззубым ротам.—Няма чаго ўбівацца над страчаным дзявоцтвам, невялікі гэта скарб.

Яна дастала з-пад хвартука зялёную шкляную бутэлечку, выліла з яе на далонь нейкае вадкасьці і пачала націраць віскі і чало дзяўчыны.

— Вось я цябе пашарую крыху і ўсё, як рукою здыме... А дзявоцтва — гэта аднадзенная кветка. Кожны сквапны сарве яе... Добра яшчэ, што гэта пан наш прылашчыў цябе, не абы хто...

Старая скончыла націраць галаву Зосі. У яе руках зьявілася другая бутэлечка, якую яна, адаткнуўшы, паднясла да носу дзяўчыны. Надзвычайна прыемны пах, сьвяжыня хвалямі несьліся з маленькага рыльца бутэлечкі. Сьлёзы ў Зосі прыпыніліся, яна пакрысе сьцішалася.

— Хто вы такая, бабка?—зацікавілася яна старою.

— Я — твая сястра, якая сорак год таму назад таксама плакала, як і ты сёньня. Толькі мяне ня трымалі ў такім пакоі, не ўлагоджвалі нацiраньнямі, а проста выкінулі з палацу ў кароўнік, як толькі забралі дзявоцтва. А як мяне зваць, ці ня ўсёроўна... Ну, бывай здарова, час позьні.

Старая закруціла свае шклянкі ў рог хусткі, якая вісела ў яе на плечах, і як качка паплыла да дзьвярэй.

— А ты, дачушка, ня плач больш, а прабуй сьмяяцца, — яшчэ мармытанула яна, прыпыніўшыся. — Ды так сьмяяцца, каб твой сьмех, як бізун. Так лепш будзе... Ох-хо-хо! Дабранач!

Зося яшчэ доўга сядзела пасьля таго, як старая пакінула яе. Яна праглася ўразумець сваё зусім новае становішча. Упяршыню пасьля апошніх здарэньняў розум яе пачаў дзейнічаць супакойна. Яна доўга думала і надумалася.

Дні праз тры, пакінуўшы Ляскаўцы, яна з панам Ляскоўскім на пары багатых стаенных конях ехала ў другі маёнтак. Звонкі сьмех яе разносіўся па лесе, на белай роўнядзі палёў. Абіты мядзьвежаю скураю вазок несься ўперад, усё далей ад Ляскоўцаў, насустрэч нязвычайнай будучыні, новаму цудоўнаму жыцьцю. Ляскоўскі дапраўды любаваўся ажыўленьнем свае каханкі і сваёю ласкаю падтрымліваў павышаны настрой яе. Вазок усё ўперад—у змрочную далячыню. Сьлізкая дарога ўецца сярод глыбокіх курганаў і зьнікае ў жамчужным змроку зімовае начы.

## IX

Калі ў бакавых вулачках, па якіх праехаў пышны князёўскі караван, была ўзбуджана цікавасьць, то сярод „грамадзтва“ Менску на другі дзень і шмат пазьней прыезд Друцкіх выклікаў шматлікія хваляваньні. Пані, чыноўніцы з больш важных замітусіліся, ганялі рамізьнікаў альбо сваіх коняй ад дому да дому; вялі цэлыя патаемныя нарады, абмяркоўючы ўсе падрабязнасьці будучых прыёмаў, фасонаў, адзеньняў. З усімі „за“ і „супроць“ складаўся слоўны сьпіс „дамоў“, якія ўвайдуць у круг знаёмых князя. Пры абмеркаваньні гэтага сьпісу некалькі дам так моцна сварыліся, што парвалі знаёмства між сабою. Мужчынская частка панства і знатнейшых чыноўнікаў таксама загаманіла аб Друцкіх у канцэлярыях, більярдных, гасьцiных. Адны рады былі прыезду, іншыя шкадавалі што князь „апусьціўся да губэрні“. Больш рады былі чыноўныя колы, якія групаваліся каля губарнатара: у прыезьдзе князя яны бачылі перамогу „імпэрскай ідэі“ над самасьцiйнымі ўхіламі польскае шляхты. Няслужылае-ж панства, зьлёгку нахіленае ў бок фронды і добра ведаўшае тую ролю і значнасьць, якія меў Друцкі нядаўна, засмучаны былі, адчуваючы адзнакі змроку славы Друцкіх. Але-ж і тыя і другія з нецярплівасьцю чакалі, калі князь наведае іх і пакліча да сябе.

Аднак, князь не сьпяшаўся рабіць візыты. Прайшоў тыдзень, а імшыстая іржавая брама на рагу дзьвёх бакавых вуліц заставалася наглуха зачыненай, як яна была зачыненай да прыезду князя ў горад. Напасьледак на вуліцах усё-ж адбылося ажыўленьне. Раз надвечар з завулку выскачыў коньнік у зялёным сурдуце з срэбнымі істужкамі на нагавіцах, і шапцы; за ім, лёгка хістаючыся на выбоінах, пранеслася вялікая, як вагон, карэта з гербам, запрэжаная чацьвярыком. Карэта прыпынілася на пляцы перад губарнатарскім домам, потым праз некалькі хвілін кранулася да каталіцкага біскупа, дзе яна стаяла больш доўгі час. На астатак яна пад'ехала да белага дому, каля дзьвярэй якога стаяў таўсьценны генэрал-швайцар.

Гэты дом належаў вядомаму пану Рагальскаму, які вымушана жыў у ім ужо другі тузін год. Некалі на гэтым доме быў надпіс „Pace et libertati“; цяпер ён быў затынкованы, але ўсё-ж сьлед другога колеру заставаўся. Перад гэтым домам карэта прастаяла яшчэ больш, а потым паволі закалыхалася ў завулак. На другі і трэці дзень яна не паказвалася. Мусіць, не адна пані са злосьцю схавала ў скрыню свае парадныя ўборы.

Парадак жыцьця і сямейных адносін мала зьмяніўся ў Друцкіх з прыездам іх у горад. Упартае супраціўленьне старога князя пашырэньню знаёмства выклікала новае абурэньне з боку дачкі. Пры кожным спатканьні яна напамінала яму, што не для гэтага ехалі яны, каб замяніць адзін кляштар на другі, што яна хоча грамадзкага жыцьця. Яна нават выказвала пагрозы, што сама спрабуе завязаць знаёмствы і наладзіць свае прыёмы і выезды. Бацька заставаўся няпрыступным.

— Адзін чалавек, які заслугоўвае тут пашаны — пан Рагальскі, ні з кім ня знаецца, хоць жыве ў гэтым горадзе ўжо даўно. Я таксама ня маю намеру сыходзіцца з чыноўнікамі альбо засьцянковаю шляхтаю. Маё рашэньне непарушна.

— Ах, па-вашаму, такія... такія, як... князёўна шукала імя, на каго спаслацца... такія, як Ляскоўскі—гэта засьцянковая шляхта?

Князь звычайна не адказваў на такія запытаньні, толькі злосьць крывіла яго высокародны твар, і ён стараўся найхутчэй скончыць далейшыя размовы на гэтую тэму. Ён замыкаўся ў сваім габінэце і пускаўся ў разгляд і вывучэньне розных мэмуараў, рукапісаў, якія прывёз з сабою і ў Менск. Тоўстыя хронікі, монографіі, прыдворныя апісаньні абкружалі яго за сталом, імі былі завалены палічкі паўз усе сьцены. Ніхто не пападаў сюды, апроч пана Рагальскага, які кожны тыдзень два разы, роўна а сёмай гадзіне ўвечары, наведваў яго сьветласьць. Апроч гэтага пана ў дом князя наведваўся толькі біскуп і яго малады намесьнік, але яны прыймаліся дачкою і старою княгіняю. Губарнатар так і не адказаў на візыт князя. Гэта надзвычайна ўсхвалявала гонар князя.

— Як гэты чыноўнік сьмее зьневажаць мяне, аднаго з старэйшых прадстаўнікоў польскага магнацтва?—запытаўся ён раз у пана Рагальскага.

— Яму добра вядома ваша былая дзейнасьць і вашы погляды, ваша сьветласьць,—проста адказаў пан Рагальскі.—Губарнатар-жа—прадстаўнік поўнага расійскага самаўладзтва.

— Як губарнатар—ён можа думаць аба мне, што хоча. Але-ж ёсьць іншыя абавязкі паміж шляхетнымі людзьмі.

— Ваша сьветласьць мыляецца, калі адасабляе губарнатара ад пана. Гэта цяпер адно і тое-ж.

Князь пакінуў спрачацца, але крыўда, якую зрабіў яму прадстаўнік улады, была вельмі цяжкаю. Князь нават часамі забываўся аб сваіх хроніках, думаючы аб пагардзе. Яшчэ больш падліла алею ў агонь князёўна. Праз некалькі дзён яшчэ раніцою яна пастукала ў дзьверы габінэту і, нават не дачакаўшыся дазволу, хутка ўвайшла да бацькі.

— Вось прачытайце, калі ласка,—ледзь стрымліваючы сьмех і радасьць, прашчабятала яна.—Можа яшчэ ня так напішуць!

Князёўна працягнула руку з разгорнутаю газэтаю. Князь зірнуў на надпіс вялікімі літарамі—„Слово".

— Я ня чытаю такіх газэт!—адхіляючы руку дачкі, сказаў ён.

— А гэта вось трэба прачытаць, гэты вось артыкул „Именитые магнаты".

У гэтым артыкуле падрабязна апісвалася, як прыехалі Друцкія ў Менск, прыводзілася іх родаводная, пералічаліся тыя багацьці і маёнткі, якімі валадалі Друцкія, адмячалася, што князь зьяўляецца найбуйнейшым зямляўласьнікам губэрні. Далей выказваўся жаль, што ў князя Друцкага мала ўзгадаваны і выхаваны пачуцьці адданасьці царскаму прастолу, намякалася, што ён стаіць за польскую карону, што няпрыхільна адносіцца да тутэйшага грамадзянства і сыходзіцца толькі з такім чалавекам, які мае за сабою запэцканую ў мінулым рэпутацыю. Канчаўся артыкул надзеяю, што знатны князь зразумее свае інтарэсы і ўвойдзе ў колы шляхецтва і зойме месца, якое належыць яму, як аднаму з наймагутнейшых прадстаўнікоў арыстократыі, а таксама зьявіцца адным з гарачых вернападданых царскага прастолу.

Князь некалькі разоў парываўся кінуць газэту, але зноў дрыжэўшая рука падносіла ліст да носа нізкага на вочы князя. Ён дачытаў да канца і злосна скамячыў ліст.

— Што-ж, яны хочуць паставіць на калені князя Друцкага?—закрычаў ён, кідаючы на дачку маланкі, нібы яна пісала артыкул ці сама вяла гэты падкоп.—Ніколі гэтага ня будзе! А такія газэты, хто іх атрымлівае ў маім доме?—яшчэ больш гнеўна накінуўся ён на дачку.

— Я сама!

— Калі... калі ласка, пакіньце мяне!

Пасьля гэтага дні два князь маўчаў, як сьцяна. Але газэту ён выпрастаў, і яна ляжала разгорнутаю і перагнутаю якраз у тым месцы, дзе быў надрукаваны артыкул „Именитые магнаты". Калі а сёмай гадзіне на трэці дзень зьявіўся пан Рагальскі, то князь не адразу пусьціў яго да

сябе: ён хаваў у пісьмовы стол газэтны ліст. Потым ён зьдзівіў свайго госьця запрашэньнем бываць кожны чацьвер а восьмай гадзіне.

— Гэта наш губэрскі журфікс,—паясьніў князь.—Будзем прымаць мясцовае грамадзтва.

У наступныя дні блішчастая карэта Друцкіх аб'яжджала не адну ўжо вуліцу і прыпынялася шмат перад якімі ганкамі, дзе на дзьвярах блішчэлі каронкі, а то і проста надпісы на мядзяных дошчачках. Праз тыдзень пасьля артыкулу „Именитые магнаты", у „Слове" быў надрукаваны хвалебны гімн аб бліскучым прыёме ў палацы князя Друцкага, на якім прысутнічалі „его превосходительство гофмейстер двора его величества N, чины губернского правления, г. полицмейстер, а также наиболее знатные семейства нашего родовитого дворянства". Падрабязна апісваліся вопраткі дам і дзяўчын, указвалася, што першую мазурку губарнатар скакаў „с княжной, красота которой не поддается описанию". У канцы апісаньня гаварылася, што менскае грамадзянства „осчастливлено судьбой, пославшей в лице князей Друцких блестящих членов высшего общества". Газэта запэўняла, што пераезд Друцкіх з Аўстрыі будзе адзначаны і „всемилостивейшим монархом". На наступных „журфіксах" пана Рагальскага ўжо ня было, але аб ім нават не ўспаміналі ў мітусяніне выездаў, вечароў, прыёмаў.

Пачаў мяняцца і вонкавы выгляд гарадзкога палацу Друцкіх. Ня гледзячы на позьнюю восень, у двары і каля тынку, якім быў аддзелены палац ад вуліц, застукалі малаткі, замітусіліся маляры, дахароўшчыкі, брукары. Руда-іржавая брама набыла шэра-мэталёвы колер, на фоне якога ярка заблішчэў золатам панцырны коньнік з пікаю на лятучым кані—эмблема славутага вайсковага роду Друцкіх. На слупкох брамы, па франтону палацу зьявіліся іншыя эмблемы—леапарды, львы ў каронах, зубры з залатымі рагамі, якія зьяўляліся герольдычнымі довадамі многіх шляхетных фамілій, злучаных родам Друцкіх. За аднаўленьнем старых і прымалёўкаю новых гербаў сачыў неаслабна сам князь. Іншы раз ён загадваў прыпыняць работу і ішоў наводзіць даведкі ў сваіх хроніках і манускрыптах. Толькі ўпэўніўшыся ў тым, што эмблемы зусім адпавядаюць герольдычным запісам, ён даваў дазвол маляваць іх, робячы папраўкі чыста мастацкага сэнсу.

У самым палацы князь разам з будаўнічымі папраўкамі дамагаўся як мага больш захаваць старажытнасьць, паказаць глыбокую даўнасьць свайго роду. Дзеля гэтага асаблівая ўвага была зьвернута на партрэтны пакой, які вузкаю заляю цягнуўся ўздоўж усяго палацу. Былі прывезены партрэты князёў і іх родзічаў са ўсіх маёнткаў, нават з былых кракаўскіх палацаў. Калі пасьля заканчэньня ўбраньня палацу князь наладзіў прыёмы, то зрабіў сваёю прыёмнаю якраз партрэтную залю. З абедзьвюх сьцен на гасьцей глядзелі то прыгожыя пані, то несьліся на конях ганарыстыя панцырнікі, то наганялі холад монумэнтальнымі тварамі кардыналы з востраверхімі, як шпілі Кёльнскага сабору, тыярамі на

галаве. Пад кожным партрэтам было вызначана імя, якое месца займала асоба ў арыстакратычнай альбо дзяржаўнай іерархіі, калі яна жыла. Сталецьці і знатнасьць лезьлі ў вочы наглядчыку з кожнага палатна.

Князёўна Ваця некалькі разоў пачынала сварыцца з бацькам з-за ўбранства пакояў. Яна неадчэпна запэўняла, што ня будзе жыць у гэтым музэі.

— Абрыдлі гэтыя сутанныя шкілетныя рысы, гэтыя панцырныя коньнікі. Я жыцьця хачу,—цьвердзіла яна штодня, наглядаючы за рэстаўрацыяй палацу. Я памру тут ад гэтае барбарскае старажытнасьці.

Князь сердаваў, сварыўся, нават называў дачку барбаркаю, якая не разумее прыгожасьці, не адчувае велічы мінуўшчыны, іх мінуўшчыны. Але Ваця стаяла на сваім і патрабавала, каб хоць яе ўласныя пакоі былі зроблены так, як яна хоча. Пасьля некаторых спрэчак бацька здаўся і выпісаў з Пецярбургу мастакоў. У чатырох пакоях князёўны столі, гзымсы аздобіліся несымэтрычнымі закругленымі рысамі, гэтыя-ж рысы былі ўведзены ў каміны, мэблю. Лямпы схаваліся ў акругла-кубічныя абажуры. Па пакоях былі раскіданы нізкія тахты, кушэткі, абойка якіх вышыта была ўсё-ж тымі мотывамі модэрн. На палічках, століках расстаўлены былі балванчыкі будды, гіпсавыя індыйскія пагоды, малахітавыя і бронзавыя зьмейкі і іншая экзотычная драбяза. Вызыскі двух чалавек далі адабражэньне пад адным дахам эўропэйскага сярэднявечча і унівэрсальнага XX сталецьця ў яго пачатку ў тым выглядзе, як у гэтыя эпохі жыла прывелійная кіруючая верхавіна грамадзтва—арыстакратыя.

Прыхільнік аднае эпохі—князь корчыўся кісла ад разьмякчанага выгляду пакою дачкі, князёўна-ж сьціскалася ад урачыстага холаду парадных пакояў усяго палацу з яго гербамі, коньнікамі, выразнымі крэсламі. Але як і каму яны падабаліся—гэта рэч астатняя, першая-ж, што занадта непакоіла князя,—гэта патрэба ў грошах на стыльнасьць. Яму давялося выбіраць адно з двух: альбо „па-князёўску“ аднавіць палац і прадаць кавалак лесу, альбо захаваць незачэпнымі свае паляўнічыя выхавальнікі, застаўшыся жыць у загранічным доме. Выбрана было першае. Недарэмна Масей Рыгоравіч Ліўшыц мераў улетку рагалём князёўскі ельнік: ён такі пайшоў у продаж значным кавалкам, але-ж затое заблішчэлі коні і леопарды на варотах князёўскага палацу.

Да пачатку сьнежня палац быў зусім адрэмантаваны. Кожны чацьвер увечары да яго варот пад'яжджалі карэты, фаэтоны, гучэў пазьней усіх губарнатарскі аўтомобіль. У іншыя дні ўжо аблепленая гербамі карэта Друцкіх у шэрагу іншых больш простых выязных панарадаў адвозіла сваіх паноў альбо да маршалка, альбо да губарнатара ці пана Сьвянціцкага. Журфіксы былі замацаваны за кожным шляхетным „домам“. Князёўна Ваця зрабілася асяродкам губэрскае знатнае моладзі. Чыноўнік асобных даручэньняў пры губарнатары—нейкі там малады графёнак з высмактаным тварам, два-тры афіцэры-артылерыстыя з вядомымі расійскімі прозьвішчамі, малады барон Тызенгаўзен, які вучыўся ў трох вышэйшых школах і ні ў адну нават ня эзьдзіў, яшчэ два-тры панкі, якія

звалі сябе і якіх іншыя звалі кароткімі імёнамі, накшталт Ніка, Вово ці там Додзя. Гэта хэўра хвастом цягалася за князёўнаю, кожны вечар, а то і ўдзень зьяўляючыся там, дзе магла быць найпрыгажэйшая Ваця. Спачатку князёўне ўся кампанія падабалася (пасьля жыцьця сярод лесу) і яна з кожным была прыветнаю, жыцьцярадаю. Яе вочы з зялёнымі агоньчыкамі абяцалі кожнаму ласку; кожны з заляцаных лічыў сябе прывабным для князёўны і гатоў быў выказаць, кінуць к яе нагам свае пачуцьці ў нязьмерным каханьні. Цэлыя вечары хвост валяўся на нізкіх кушэтках, на тыгровых скурах у пакоях князёўны, займаючыся пераказамі Мопасана, дэклямацыяй Бодлера або Блока, ці вывіхаючыся ў танго. Але чым дальш, тым больш зьмяіны бляск у вачох князёўны шырыўся. Яна стала пускаць у ход колкія словы, насьмешкі, якімі дапікала сваіх нязьменных кавалераў. Ёй вельмі падабалася, калі барончык ці чыноўнік асобных даручэньняў змаўкалі і стаялі як пабітыя пад яе вострым позіркам. Аднак, і гэтая забаўка надакучыла князёўне, і яна ня раз кідала адных гасьцей у пакоі, выходзячы да сябе.

Здарылася нават раз так, што, варочаючыся з нейкіх вечарын, маладыя арыстократы сустрэлі князёўну на вуліцы. Яна ехала ў вазку, з маланкаю прамільгнуўшых коняй валіла густая пара. А тымчасам князёўна была на тэй самай вечарыне і кінула яе да пары. Словам, людзі, якіх бачыла князёўна на журфіксах, вечарынах, надакучылі ёй, не задавальнялі яе.

Яна кідала грамаду, зачынялася на некалькі дзён у сваім пакоі, і стары палац агалашаўся гукамі Бэтховэна, Вагнэра. Здавалася, што ў доме жыве занадта старэнны вучань музычнае школы. Потым рояль надоўга замаўкаў. Пачынаў паказвацца штодня ў палацы малады мужчына надсонаўскага тыпу—і з пакою князёўны чуўся тэнаровы голас, які выкладаў альгебраічныя і трыгономэтрычныя формулы. Раптам Надсон-матэматык зьнікаў, і князёўна патрабавала ад бацькі стрэльбу ехаць на паляваньне. Потым усе гэтыя штукі канчаліся і князёўна спакойна ехала з маткаю да знаёмых, у тэатр, дзе вясёла рагатала над зборнаю камандаю музыкаў, ніколі не пападаўшых у лад з сьпевакамі, якія выконвалі опэру.

Здарэньні ў Ляскаўцах далі новы кірунак настроям і пачуцьцям князёўны. На адным з вечароў Друцкія доўга чакалі губарнатара. Усе госьці даўно былі ў зборы, старыя ўжо найграліся ў карты, моладзь змарылася ад Бодлера і танцаў, а губарнатара ўсё ня было. Напасьледак, каля 11 гадзіны, яго аўтомобіль прафырчэў на двары. Усе кінуліся ў прыёмную.

— Што здарылася, ваша прэвасхадзіцельства? занепакоена запытаўся князь уваходзіўшага начальніка губэрні.

— Ах, выбачайце, ваша сьветласьць, што я спазьніўся! Выбачайце ўсе, панове,—засопшыся ад натугі падняцца на пяць усходцаў, адказаў губарнатар.—У мяне была пільная справа.

— Усё справы ды справы,—закаціўшы пад лоб вочы, пракартавіла жонка маршалка.—Па-мойму, першая справа мужчыны быць належным кавалерам. Я бяз вас так марнела, а ў вас там нейкія пільныя справы.

— Э, пані... так, і ўсе панове! Справа пільная, надзвычайная. Мне далажылі, што ў губэрні зьявіліся рэволюцыянэры.

— Ах!—піскнула маршалчыха.—Спалілі каго-небудзь, забілі, абрабавалі?—як з пісталета затрашчала яна паасобныя словы.

— Так, панове!—адышоўшы крыху ад усіх і стаўшы ў позу прамоўцы, зноў загаварыў губарнатар. Ён правёў тоўстымі пальцамі па сіваватых баках, папавіў крыжык на сурдуце, кашлянуў і, акінуўшы поглядам натоўп паноў, паведамляў далей.

— Як я ні дамагаюся зьнішчыць нават пах гэтае рэволюцыйнасьці, яна ўсё-ж недзе трымаецца. Колькі ўжо злоўлена, засуджана гэтых жыдочкаў, а праявы бунту раз-по-разу даюць аб сабе ведаць...

Губарнатар прыпыніўся, адсопся і пільна аглядзеў усіх прысутных, пераводзячы вочы з аднаго на другога па чарзе, нібы шукаў рэволюцыянэраў сярод гэтага іменітага грамадзянства. Усе па чарзе апускалі долу вочы. Нават лысы, круглы, як гарбуз, маршалак, на грудзях якога матляўся крыжык за падвойную службу на карысьць шляхецтва і дзяржавы, і той сарамліва схіліў галаву, нібы паказваючы, што да яго рэволюцыйнасьць наўрад ці прыстала.

— Дык вось,— загучэў генэральскі голас зноў,—усе вы, мусіць, чулі аб пане Ляскоўскім.

У натоўпе прайшоў шолах, усе кінулі позіркі на сваіх суседзяў, князь задаволена ўсьміхнуўся, князёўна Ваця ажывілася і зялёныя агеньчыкі заскакалі ў яе вачох наяды.

— Пан Ляскоўскі ў рэволюцыянэры пайшоў?—ня сьцерпеў запытацца нехта ззаду.

— Ну, пан Ляскоўскі не з такіх: ён і гаспадар добры і прыкладны падданы нашага абажанага монарха,—унікліва адказаў губарнатар. У маёнтку пана Ляскоўскага ўжо падымаліся бунты рабочых і нават вясковых сялян. Але пан Ляскоўскі без дапамогі з майго боку спраўляўся з імі. Аднак рэволюцыянэры тачылі свае нажы, і вось пазаўчора забіты імі паліцэйскі чын...

— Ах!—жахліва пранеслася па ўсёй портрэтнай залі. Нават кардыналы, жалезныя коньнікі, тоўстыя княгіні і каралевы зяхнулі на сьценах і спалохаліся разам са сваімі ўнукамі і праўнукамі.

— Катаваць гэтых зладзеяў! Ах, бедны пан Ляскоўскі, як ён там жыве сярод гэтых рабаўнікоў? Трэба паліцыянтаў больш усюды паставіць! А ці злавілі забойцаў, калі іх будуць судзіць?—пасыпаліся, як гарох з дзіравага мяшка, усклікі, запытаньні.

— Вось уся справа ў тым, што забойцу і яго пасобнікаў не злавілі, хоць фаміліі іх вядомыя нам. Нават зладзеі пасьпелі схаваць свае паганыя кніжкі... Ну, але мы да іх дабярэмся, ня куды дзенуцца... Дык выбачайце, шаноўныя панове, што я парушыў вашы сьвецкія заняткі. Асабліва прашу прабачэньня ў нашых мілых дам!

Губарнатар зрабіў нізкі ўклон, аж зарыпеў яго бела-шашматны рамень на сурдуце. Прапанаваўшы сваю руку старой княгіні і пазвоньваючы

шпорамі, ён кранууся ў гасьцінуюю, а за ім і ўся грамада, жвава абменьваючыся думкамі аб паведамленым здарэньні. Імя Ляскоўскага неслася са ўсіх бакоў, лятала ў паветры.

Князь некалькі хвілін быў надта задуманы. Ён нават ня ў лад адказваў на запытаньні сваіх гасьцей. Потым ён выклікаў у пусты пакой княгіню і доўга з ёю саймаваўся і на гэты раз зусім лагодна, што здаралася ня часта. Разышліся яны зусім задаволенымі.

Калі пасьля вячэры ўсё панства зноў вышла ў портрэтную, каб разьвітацца з губарнатарам, які пакідаў Друцкіх першым, князь моцна, каб усе чулі, сказаў:

— Я, ваша правасхадзіцельства, дзіўлюся з шаноўнага пана Ляскоўскага. Гэта нейкі схімнік, а ня сьвецкі чалавек: сядзіць сабе ў сваіх Ляскоўцах, корпаецца з фабрыкамі, рабочымі, нават у горад не паказвацца. Але-ж цяпер я выцягну яго сюды; пасьля такога здарэньня яму патрэбна разьвесяліцца ў нашай грамадзе. Заўтра-ж пашлю яму праз егера запросіны да мяне.

— Ваша сьветласьць мае высакароднае сэрца, я ніколі ня мысьліў аб вас інакш,—адказаў генэрал, горача паціскаючы „высакародную“ руку.

На другі дзень зялёны егер з срэбнымі ґалунамі атрымаў цьвёрды конвэрт, аздоблены князёўскаю каронаю, і выехаў з Менску. Князёўна Ваця ў гэты і наступныя дні асабліва дапікала свой графска-баронскі хвост і часта і падоўга ганяла коняй. Нават у сьнежную завіруху, позна ўвечары, яна даімчалася аж да Койданава і вярнулася ў Менск на зусім заморанаых конях.

Праз тры дні егер вярнууся. Выпадкова ці не, яго першаю спаткала князёўна. Яна выхапіла з яго рук невялічкі конвэрцік, адрасаваны князю. Але гэта мала непакоіла яе—ускрайчык конвэрту істужачкаю паляцеў на падлогу. Твар князёўны пабялеў, як крэйда, зубы сашчапіліся, ліст, гойдаючыся, паляцеў на падлогу. Толькі два радкі чорных мошак беглі па чыстым лісьце паперы: „Ваша сьветласьць! Шчыра дзякую за ўвагу“. І больш, апроч подпісу, нічога. Князёўна схапіла гарапнік з рук егера, сьцебанула ім аслупянелага пасланца і бразнула дзьвярыма свайго пакою. Па палацы панесьліся равучыя, дзікія стогны рояля.

## X

Аднак не праз доўгі час Ляскоўскаму давялося прыехаць у Менск. Ён атрымаў ад маршалка ліст, у якім паведамлялася, што праз два тыдні склікаецца зьезд шляхты.

Гэты губэрскі зьезд, як паведамлялася ў лісьце, зьявіцца ня зусім звычайным: на ім будуць пастаўлены на абмеркаваньне асобныя пытаньні, якія патрабуюць удзелу ў зьезьдзе ўсяе больш знатнае шляхты. Сьледам за гэтым лістом, праз дзень, быў дастаўлены другі, на гэты раз ад самога губарнатара. Начальнік губэрні, паведамляючы таксама аб буду-

чым зьезьдзе, прасіў пана Ляскоўскага, як той прыедзе ў Менск, папярэдня наведацца да яго, каб абмеркаваць у цесным коле кандыдатаў на пасаду маршалка, а таксама вырашыць загадзя некаторыя пытаньні, што будуць пастаўлены на абмеркаваньне зьезду.

З гэтымі лістамі пан Ляскоўскі зайшоў увечары да Зосі.

— Нам прыдзецца хутка паехаць у Менск. Ты будзеш рада, залатая мая?—запытаўся ён, садзючыся блізка ад яе на дывановай канапе.

Страх і цікавасьць адбіліся на яе рухлівым твары. Процілеглыя пачуцьці змагаліся ў ёй.

— Я-б і рада паехаць пабачыць людзей, але мне страшнавата,—шчыра прызналася яна.

— Чаго-ж ты баішся, дзяўчынка? Са мною табе няма чаго баяцца. Вось бачыш, лісты пішуць—сам губарнатар ды маршалак. Яны са мною лічацца, а ня я з імі! —самазадаволена дадаў Ляскоўскі, працягваючы Зосі лісты, аздобленыя шляхоцкімі каронкамі і выдрукаванымі пасадамі знатных асоб.

Зося адхіліла лісты, ледзь акінуўшы іх вокам.

— Вы... ты... не разумееш мяне. Вось я паеду, як пані, а хто-ж я? Як мне глядзець у вочы людзям? Я... я заўсёды і ўсюды буду адчуваць гнятучы сорам...

— Якая-ж ты нясьмелая, я думаў аб табе іначай. Помніш, як ты абараняла ў Ляскоўцах нейкую кабету, жонку, здаецца, рабочага? Ты была тады сьмелая.

— Я была тады чалавекам, а цяпер...

Зося не дагаварыла, голас сьцяўся, і буйныя сьлёзы пакаціліся з яе вачэй.

— Кінь, мая маленькая, плакаць, кінь!—угаварваў яе, як дзіця, пан Ляскоўскі, цалуючы шыю, вочы, губы.

Зося не супярэчыла гэтым ласкам, але заставалася засмучанаю.

— Ты вось думаеш, што я трымаю цябе, як каханку. А я лічу цябе за сваю жонку і... будзе час, як мы пажэнімся.

Вочы ў Зосі праясьнелі, яна ўдзячна глянула на свайго валадара.

— Дык ты не гаруй больш, няхай толькі сьветлая радасьць адбіваецца на гэтым прыгожым тварыку.

Ляскоўскі ўскочыў з канапы, схапіў дзяўчыну і запяваючы

„И скоро ты будешь, ангел мой,
Моею маленькой женой“...

закруціў яе ў танцы. Яго гнуткае цела ўсё шчыльней абвівалася каля маленькае фігуркі Зосі, якая з расчырванеўшым тварам сама нікла да мужчыны...

Зборы да ад‘езду зацягнуліся дні на тры. Пан Ляскоўскі імкнуўся сваім наведваньнем у губэрскі горад паказаць, што ён зусім заслугоўвае імя „знатнейшага шляхціча“. Шырокі вазок, аздоблены срэбнымі бляш-

камі і з мядзьведжымі скурамі, павінны былі везьці ўпрэдку дзьве пары вараных стаеньнікаў. Наладжвалася яшчэ чатыры фурманкі, у якіх павінны былі ехаць камэрдынэр, два лёкаі, пакаеўкі з вялікім запасам адзеньня, розных дамашніх рэчаў і яды.

Зося адчувала сябе гаспадыняю, шмат мітусілася, але з яе клопатаў карысьці было нямнога. Ёй некалькі разоў даводзілася чырванець перад служкамі за няведаньне нават назвы некаторых рэчаў, якія зьбіралі ў дарогу.

Выехалі пад вечар зімовага дню. Перад тым дні два была адлега, нават праходзіў некалькі разоў дробны дождж. Цяпер-жа неба выясьнілася, выскачыў лёгкі марозік. Дарога абледзянела, і сані нячутна сьлізгалі па цьвёрдым грунце. Коні віхураю панесьліся па гасьцінцы, толькі прысады прамільгвалі міма. Зімовы адвячорак кароткі. Вось толькі-што было сонца на небе, а там глядзіш—ужо толькі палае пажарам заходняя частка небасхілу ды зоркі адна за аднэю запальваюцца на сінязялёным мошасьце ўсходу. Ускрайчык месяца, які лёгкім кавалачкам хмаркі здаваўся пры сонцы, становіцца ўсё больш выразным, а потым срэбным сярпом вісіць сярод зорак. Зара на захадзе хутка траціць свой бляск, застаецца толькі вузенькая тонка-ружовая істужачка, ды і тая праз некалькі хвілін зьнікае. Цяпер толькі месяц ды зоркі шлюць на зямлю пэрлямутра-фосфарычнае сьвятло, якое прыдае зданьнёвасьць усім рэчам—і прыдарожнай вёсцы, і дальняму лесу, і стагом сена на белым балоце.

Як толькі коні пойдуць цішэй, прыслухаешся і чуеш ціхі звон, як быццам тонкае шкло б'ецца тут вось у канаве, каля дарогі, і далей па полі ці балоце. Гэта ломіцца тонкі лёд, як толькі вада, на якой ён зацягнуўся, увойдзе ў сьнег. Ад саней і да таго месца, пакуль хопіць вока, ідзе блішчастая дарожка па глянцавітаму сьнегу ў той бок, дзе плыве ў небе месяц, дыхаецца лёгка і вольна, асабліва, калі падарожны апрануты ў лісінае футра ды яшчэ закрыты ад ветру абітаю сукном будкаю, а ногі яго схаваны ў цёплую мядзьведжую скуру.

Іншая зусім рэч, калі ідзеш у лыкавых лапцях ды яшчэ зьнячэўку шлабанеш у крыху замёрзшую калюжыну: праз анучы халодная вада рване табе нагу, як злы сабака, а ты ня вельмі будзеш мілавацца на месяц і срэбраную дарогу да яго.

Але ногі Зосі былі абуты ня ў лапці, а ў далікатныя лякавыя туфелькі і захаваны ў мяккую ласьцячую шэрсьць. Срэбная дарога да месяца вабіла яе, ціхі звон крохкага лёду напяваў ёй пяшчотныя сьпевы. А ўперадзе—шырокі гасьцінец, дальні канец якога зьнікаў у недасяжнай далячыні, загорнутай пэрлямутраваю завесаю... Зося сама ўпяршыню прасунула руку пад мядзьведжую скуру і трапятліва пацiснула тонкую руку Ляскоўскага.

— А цудоўны, мусіць, горад гэты Парыж?—як праз сон запыталася яна.

Пан Ляскоўскі стромка зірнуў на сваю спадарожніцу, і агідная ўсьмешка скрывіла яго п'яўкаватыя губы. Але ў змроку будкі яна не заўважыла гэтае ўсьмешкі.

— Ого! Такіх гарадоў больш няма на сьвеце,—адказаў ён.—І мы з табою, напэўна, вясною туды трапім.

Зося пачала маляваць сабе вялізарны горад з белымі дамамі, абкружанымі стройнымі колёнамі, з цудоўнымі машынамі, якія, як вецер, носяцца па вуліцах і возяць найпрыгажэйшых кабет і мужчын, горад упрыгожаны невядомымі дрэвамі, абвіты гірляндамі ружаў. Гэты горад быў вось там за гэтаю туманнаю завесаю, далёка і блізка, так блізка, што яна бачыла яго дапраўды... Галоўка яе, захаваная ў мяккую сабалiную шапачку, даверліва схілілася на плячо Ляскоўскага, вочы сплюшчыліся... Срэбная дарога вяла ў цудоўны горад, ціхія званочкі зьвінелі пяшчотна і заспакойваюча. Хмаркі часам засланялі месяц, срэбная дарожка зьнікала. Часам ускалыхвала думка сэрца ўспамінам аб Ляскоўцах, аб пакінутым бацьку, аб... аб Зыкаве. Але хмарка сплывала і срэбная дарожка зноў сьветлаю істужачкаю лажылася на сьнег. Хмарныя думкі пакідалі галоўку Зосі, аддаючы месца ружовым лятуценьням...

У Менск прыехалі пад вечар наступнага дня. Гасьцінец перарэзваўся чыгункаю, і давялося чакаць перад застаўкаю, бо павінен быў прайсьці цягнік. Коні захраплі, застрыглі вушамі: з-за павароту выскачыў паравоз, цяжка засоп, зачмыхаў, міма замільгалі вокны вагонаў з сылуэтамі людзей за шклом.

— Вось і мы некалі паедзем так у Парыж,—падумала Зося, гледзячы ўжо на апошні вагон, які хутка зьменшваўся і, пакуль пераехалі сані цераз чыгунку, стаў маленечкім куфэркам.

Зося даўно ўжо ня была ў горадзе. Хоць яна і добра ведала ўсе вуліцы, якія вывучыла яшчэ гімназісткаю, але цяпер з цікавасьцю разглядала іх: яны здаваліся больш ажыўлёнымі, лепш прыбранымі і асьветленымі. Пасьля цёмных вулачак, дзе пахла кіслаю аўчынаю ад гарбарань, дзе пыхаў паравік у майстэрнях, вазок і ўвесь панскі „паязд" пацягнуўся па Губарнатарскай вуліцы з асьветленымі вялікімі крамамі, з натоўпам шпацыруючых людзей. На кожным рагу вуліц зьбіраліся цікавыя, якія пільна разглядвалі „паязд" і потым жвава распытвалі аб тым, хто гэта праехаў...

Ах, гэтая менская цікавасьць! Яна захавалася і да нашых часоў; варт вам нагнуцца па ўпаўшую капейку, як у момант вас абкружвае натоўп, і ўсе будуць пытацца адзін у аднаго, што здарылася. Вы ўжо знайшлі сваю капейку і праціснулісяісьці далей, а зацікаўлены натоўп усё будзе стаяць. Альбо запыніліся вы на тротуары пагаварыць са знаёмым (па-менскаму пагаварыць трэба абавязкова на тротуары і абавязкова заняць яго сярэдзіну); зараз хоча паслухаць трэці, а там глядзіш ужо чалавек з пятнаццаць. Займуць тротуар, нават кавалак вуліцы, а іншыя—абыходзь іх, калі хочаш...

Дык вось можна ўявіць сабе колькі людзей зьбіралася на рагох вуліц, каб даведацца хто гэта праехаў, ды яшчэ на чацьвярыку стаеньнікаў! Ого, колькі ў гэтым цікавага! Некаторыя нават подбегам ішлі сьледам за панскім вазком аж да самае гасьцініцы Дрэйцара, куды накіраваўся Ляскоўскі, і там задаволілі такі сваю цікавасьць.

Ляскоўскі, аднак, ня першым прыехаў на зьезд. Амаль ня ўсе пакоі гасьцініцы ўжо былі заняты панаехаўшым панствам. Калідоры разам з дрэйцараўскімі слугамі былі націсканы лёкаямі з галунамі, прыгожымі чырвонашчокімі пакаёўкамі, мусіць, таксама наехаўшымі з сваімі панямі. Усюды стаялі абкручаныя вяроўкамі куфры, саквояжы і іншыя дарожныя рэчы. Ляскоўскі забракаваў усе тры пакоі, якія заставаліся яшчэ вольнымі, і загадаў ехаць у іншую гасьцініцу. Гэта вельмі засмуціла гаспадара гасьцініцы.

— Засталіся-б, пане, пакоі надта добрыя,—заскокваючы ўперад прасіў ён.

— Пан Ляскоўскі ня будзе жыць у тваіх катухох,—адказаў за пана фурман.

— О, ды гэта-ж сам пан Ляскоўскі! Ліха маёй галаве, што-ж рабіць? Што мне скажа пан Ліўшыц, калі даведаецца, што я вас ня прыняў у сябе? Ой, Шмуйла, пасоб мне!—трашчэў гаспадар.

Шмуйла пасабіў хутка. Ён перасяліў у вольныя пакоі нейкага нязначнага панка, хоць той і сварыўся на ўсю вуліцу, валаснога пісара, які зусім не спрачаўся, дзьвёх старых паняў, якія лічылі патрэбным быць у Менску ў часы зьезду, хоць нямаведама дзеля чаго.

Абсталяваўшыся ў чатырох досыць вялікіх пакоях, Ляскоўскі з другога дня пачаў зьнікаць з гасьцініцы. То ён ехаў з візытамі да губарнатара, да старога маршалка ці да каго небудзь з наехаўшых паноў, ці ўдзельнічаў у нейкіх там нарадах, ці проста праводзіў вечары за картамі ў вясёлай грамадзе шляхты. Разы два-тры госьці наяжджалі да пана Ляскоўскага, пры гэтым адно зборышча было быццам патаемным: нават камэрдынэр пана ня быў пушчаны ў пакой, дзе сядзелі паны. Іншыя разы госьці проста пілі і гралі ў карты: тады лёкаі надрываліся, цягаючы бутэлькі і яду. Ва ўсякім разе, ці пан Ляскоўскі выяжджаў, ці прымаў панства ў сябе, Зося заставалася ў адзіноце. Ляскоўскі ня ўводзіў яе ў тыя колы, дзе бываў сам, альбо з кім меў справу. Срэбная дарожка пачынала рабіцца цьмянай, і хмаркі ўсё часьцей закрывалі празрысты месяц, які асьвятляў сэрца Зосі. Толькі абуджаныя ўжо патрэбы плоцьцевага каханьня крыху задавальнялі яе, калі, варочаўшыся позна, Ляскоўскі, ад якога пахла сьпірытусовым перагарам, прагна шукаў яе цела. Днём-жа яна альбо бязьдзейна і тупа разглядала насупроць вывеску суконнага магазыну Іоселевіча, а крыху збоку „и здесь заливают галоши“, альбо сноўдалася па вуліцах, нікому невядомая, чужая. Толькі гандляры неадчэпна запрашалі яе ў крамкі.

Тымчасам падыходзіў час адкрыцьця зьезду. У пакоях „Дворянского Собрания“ па Падгорнай вуліцы цэлы дзень таўкліся сінія, зялёныя

сурдуты з генэральскімі, палкоўніцкімі пагонамі, чорныя візыткі, фракі, якія надавалі сваім валадаром выгляд жучка, альбо скакунчыка, белыя нагавіцы некалькіх чыноў, меўшых прыдворныя „званія“. Рознакаляровы натоўп сытых людзей запаўняў буфэт, більярдную, нават бібліотэку, дзе на сталох былі разложаны „Слово“, „Губернския Ведомости“, „Новое Время“. У паасобных пакоях зьбіраліся больш санавітыя дваране і абмяркоўвалі нешта прыглушанымі галасамі. Але ўсё-ж фамілія Ляскоўскага ўпаміналася так часта, што, ня гледзячы на ціхую гутарку, яна стала вядома ўсім. І таму ня дзіва, што калі перад самым адкрыцьцём зьезду зьявіўся ў залю пан Ляскоўскі, то ён быў спатканы амаль не аднадушным шэптам; кожны агледзеў яго. Шмат хто пацягнуўся прывітаць яго, хоць многіх Ляскоўскі бачыў упяршыню. Вакол яго злажыўся натоўп і пачалася жвавая гутарка: адны распытвалі яго аб здароўі, другія—аб маёнтках, трэція—аб тых падзеях рэволюцыянэраў у Ляскаўцах, якія ўскалыхнулі ўсю шляхетную грамадзкасьць і якія так ярка абмаляваў сёньня п. Саланевіч у сваім „Слове“. Разам з п. Саланевічам, абкружаўшыя пана Ляскоўскага патрабавалі суровае кары забойцы вураднікa з Ляскаўцоў.

Князь Друцкі зьявіўся ў залі бадай пазьней за ўсіх. Яго малінавы кафтан з разьвяванымі на паветры рукавамі і сабалінаю аблямоўкаю прыцягнуў на сябе ўвагу. Стала зусім ціха, калі ён, высока падняўшы сівую галаву, з каршуновым носам і пышнымі вусамі, паважным крокам праходзіў між крэсламі на месца ў пярэднім радзе. Ён разьвітаўся ўклонам толькі з адным-двума панамі. У бок Ляскоўскага ён нават ня зірнуў.

— Мы цяпер з вамі сквіталіся, ваша сьветласьць!—нібы забаўляючыся, прагаварыў пан Ляскоўскі, падыходзячы да князя. Той уставіўся сваімі пранізваючымі вачыма.—Вы калісь адхілілі мае запросіны, як я адчыняў гуту, цяпер я ня выканаў вашага жаданьня наведаць вас. Сквіталіся—і давайце заключым згоду.

Пан Ляскоўскі працягнуў руку, але доўга чакаў, пакуль халодныя пальцы князя чуць датыркнуліся яе. Ляскоўскі яшчэ раз насьмешна зірнуў на монумэнтальна-рыцарскую фігуру князя, які нічога не адказаў яму, і пайшоў займаць сваё месца.

На ўзвышшы за даўжэразным сталом, засланым зялёным сукном з залатымі махрамі, зьявіўся губарнатар у генэральскіх эполетах, маршалак у расшытым золатам цяжкім мундзіры прыдворнага і яшчэ нейкі малады паніч, вёрткі, як уюн. Далей выйшаў з бакавых дзьвярэй архірэй з круглаю, як гаршчок, блішчастаю шапкаю на галаве, за ім пацягнуліся чорныя слупы трох-чатырох папоў. Пачаўся малебен: архірэй памахаў кадзілам перад абразамі, перад вялікімі портрэтамі ва ўсю сьцену цара і царыцы і, пасьля „многая лета“, трымаў крыж. Усё панства бяз розьніцы нацый і рэлігій, прыкладалася да крыжа, рукі архірэя; усіх крапілі „сьвятою вадою“. Абціраючы лысіны беленькімі хустачкамі, сурдуты, мундзіры, малінавыя кафтаны зноў занялі свае месцы.

Папы выйшлі на чале з архірэем. Губарнатар мацнуў крыжыкі на мундзіры, правёў рукою па баках, кашлянуў і абвясьціў зьезд паважанае шляхты адкрытым. Пры замершай залі губарнатар пачаў сваю прамову. Коратка, як сякучы сякерай, ён паведаміў аб тым, што зьезд, скліканы крыху раней звычайнага тэрміну, бо ёсьць такія пытаньні, якія патрабуюць сваячаснага дзеяньня, патрабуюць ад шляхты некаторых пастаноў. Яшчэ ня зусім згасьлі водгукі 1905 году, яшчэ надалей адбываецца дзейнасьць рэволюцыянэраў, гэтых заядлых ворагаў цара і бацькаўшчыны. Яны падбіваюць народ на паўстаньні, падгаворваюць да непаслушэнства, нацкоўваюць сялян і рабочых супроць паноў, імкнуцца пасеяць смуту, зьнішчыць магутнасьць нашае вялікае імпэрыі, нават замахваюцца на асобу „всемилостивейшего монарха“. Адзін з гэтых разбойнікаў, гэтых ворагаў цара і народу, нядаўна забіў вернага служку царскага паліцэйскага вураднік у Ляскаўцах, спакушаўся на жыцьцё пана Ляскоўскага, а раней падбіваў рабочых на бунты. Гэта грозная прыкмета, і шляхта павінна разам з чынамі „Его императорского величества“ ўжыць меры, каб з коранем вырваць пасьледкі рэволюцыйнае заразы, дзе-б яна ні была. Губарнатар скончыў тым, што пры гэтых умовах трэба мець моцных здольных людзей на чале шляхты, трэба абраць належных губэрскага і павятовых маршалкаў.

У гэтым месцы стары маршалак, блішчучы расшытаю грудзінаю, як абразом, ваганууся, пераступаючы з нагі на нагу, і спусьціў вочы, пільна разглядаючы ляжаўшы перад ім ліст чыстае паперы і аловак.

Губарнатар тымчасам прапанаваў выбраць за старшыню зьезду, а далей і за маршалка, пана Ляскоўскага.

— Хоць ён і малады яшчэ, але ён здолее выканаць свае высокія абавязкі перад царом і шляхтаю!—скончыў начальнік губэрні.

У залі было надзвычайна ціха, потым пранесьліся гукі ўхвалы, кароткія далікатныя аплёдысмэнты. Усе азірaліся ў бок пана Ляскоўскага, толькі князь Друцкі нярухома, як кіёк, сядзеў у сваім крэсьле.

Калі шолах у залі крыху заціх, пан Ляскоўскі папрасіў дазволу гаварыць. Яго тонкая стройная фігура вырасла на ўзвышшы, ён працягнуў руку наперад, нібы просячы ўвагі да сябе і пачаў гаварыць.

Ён зусім згаджаўся з „его превосходительством“ адносна задач шляхты ў барацьбе супроць рэволюцыйнага руху. Больш таго, на яго думку, некаторыя паны, нават знатныя, знаходзяцца пад уплывам розных там лібэральных ідэй і гэтым дапамагаюць распаўсюджаньню вольных думак. Як з рэволюцыянэрамі, гэтак і з шляхэтным лібэралізмам належыць змагацца, хоць і living рознымі мерамі: бізун і катарга для першых і грамадзянская зьнявага другім. Разам з гэтым ён прапанаваў прасіць уладу аб узмацненьні паліцэйскае аховы ў тых мясцовасьцях, дзе ёсьць прамысловыя прадпрыемствы, а таксама павесьці скорым тэмпам утварэньне моцных сялянскіх гаспадарак. Сталыпінскі хутар павінен зрабіць апору для шляхты і ўлады і заможнай часткі сялянства. Дзеля гэтага шляхта

не павінна прыпыняцца нават перад некаторымі ахвярамі невялічкімі кавалкамі свае зямлі, калі гэта будзе патрэбна.

— Добра гаворыць пан Ляскоўскі. Недарэмна ён гаспадар хоць куды,— чуліся галасы з розных куткоў залі.

— Іншаму-ж сялянству трэба забараніць, прыпыніць усякія паслабленьні,—гаварыў далей пан Ляскоўскі. Трэба скасаваць усякія сэрвітуты, трэба зьнізіць плату за жніва, касьбу і іншыя работы. Для хутчэйшага правядзеньня зямельнае політыкі пана міністра Сталыпіна трэба ўмацаваць Дваранскі і Сялянскі пазямельныя банкі і паставіць на чале іх людзей, якія належна праводзілі-б патрэбную і карысную нам політыку.

Падзякаваўшы паноў-шляхту ў асобе губарнатара за наданы яму гонар, пан Ляскоўскі адмовіўся ад пасады старшыні зьезду, а потым маршалка, спасылаючыся на тое, што ёсьць сярод грамады і больш знатныя, каб прыняць вялікую чэсьць, і больш здольныя, каб выконваць вялікія абавязкі.

— Сярод нас ёсьць прадстаўнік славутага князёўскага роду. Ён зможа быць нашым правадыром і стане верным служкаю цару і бацькаўшчыне. Я прапаную абраць за старшыню зьезду і губэрскага маршалка яго сьветласьць князя Зыгмунда Друцкага.

Скончыў сваю прамову Ляскоўскі і пераглянуўся з губарнатарам.

Шолах зьдзіўленьня залятаў па залі. Сядзеўшыя ў сярэдзіне ціха перамаўляліся, гледзячы недаўменна адзін на аднаго. Князь Друцкі крыху дрыжачаю рукою папраўляў вусы, кідаючы зьдзіўленыя позіркі то на Ляскоўскага, то на губарнатара.

— Ну, што-ж, калі адзін з прадстаўнікоў шляхты, і прадстаўнік вельмі паважаны, уносіць прапанову за яго сьветласьць, то я, як прадстаўнік улады, мушу далучыцца да яе,—сказаў губарнатар, робячы ўклон у бок князя, а потым Ляскоўскага.—Прашу, панове, да урнаў, калі няма больш кандыдатаў.

— Няма,—адказала некалькі галасоў.

Крэслы загучэлі, і мундзіры, сурдуты натоўпам пасунуліся ў другую залю, дзе ўжо прыгатаваны былі скрынкі і галы. Праз гадзіну галы былі падлічаны: княць Друцкі быў абраны за маршалка Некаторыя, хто галасаваў за Ляскоўскага, дзівіліся вынікам, але іншыя іх наводзілі на „путь истины".

— Вы дарэмна непакоіцеся. Пан Ляскоўскі з губарнатарам добра ведаюць, які вецер у Пецярбургу.

Больш няважная шляхта, якая не магла ўсё вынюхаць, змаўкала і пакідала дзівіцца з вынікаў выбараў.

Пан Ляскоўскі, пакідаючы пакоі „дворянского собрания" падышоў да князя і шчыра павіншаваў яго. Князь горача схапіў і доўга трос яго руку: гэта было ўжо ня слабае халоднае датырканьне адных пальцаў.

— Княгіня, князёўна і я—усе мы надта жадаем, каб вы наведалі нас,—ласкава папрасіў ён Ляскоўскага.

— Не пасьмею адмовіцца ад такое чэсьці,—адказаў Ляскоўскі.

## XI

Зьезд адбываўся сваім парадкам. Рабіліся справаздачы, пасылаліся прывітальныя вернападданыя тэлеграмы цару, царыцы, насьледніку. У буфэтнай стралялі коркі ад шампанскага, ляскатаў без канца більярд. Ляскоўскі прымаў толькі самы пільны ўдзел, калі абмяркоўваліся пажаданьні шляхты аб зямельных справах ды аб барацьбе з рэволюцыйным рухам сярод рабочых. Справаздачы яго ня цікавілі. На другі дзень зьезду, пасьля пасяджэньня, ён пад ручку з князем выйшаў з залі і яны паехалі разам у палац.

Старая княгіня спаткала пана Ляскоўскага са ўсёю прыемнасьцю і гасьціннасьцю. Яна пасадзіла яго з сабою, самым падрабязным чынам распытвалася аб дзядох і прадзедах Ляскоўскага, пералічала свае маёнткі ў Польшчы, пераказвала, з якімі высокімі асобамі яна вадзіла знаёмства ў Вене альбо Парыжы. Але Парыж ёй не падабаўся. Гэтыя міністры францускія—нейкія там гандляры, ці хто іх ведае якія яны: сярод іх, бадай, няма такіх славутых магнатаў, як яны, Друцкія. Вось Вена, Бэрлін—гэта нешта зусім іншае—там знойдзеш сабе роўню. Пералічваючы свае знаёмствы, княгіня кідала позіркі на бакавыя дзьверы. Чым далей, тым больш часта пачала паглядаць яна на зачыненыя дзьверы. Напасьледак яна ня вытрывала.

— Паклічце сюды князёўну,—нэрвова загадала яна прыйшоўшай на званок пакаёўцы.

— Князёўны няма дома,—вінавата адказала дзяўчына.

— Як няма дома? Яна-ж вось-толькі была і нікуды ня зьбіралася?—горача накінулася княгіня на спалоханую пакаёўку.

— Панна-князёўна, бадай, паехала катацца,—ужо боязна пралепятала тая.

— Добра,—схамянуўшыся, ужо спакойна прамовіла старая і адаслала пакаёўку.

— Катацца ў такі час,—падумаў Ляскоўскі і мімаволі зірнуў на гадзіньнік: была палавіна дванаццатае ўначы.

Цікавасьць гутаркі з княгіняю прапала. Ён толькі слухаў яе з далікатнасьці. Пасядзеўшы з паўгадзіны і разьвітаўшыся, ён гатоў быў пакінуць палац. Але князь яшчэ паведаміў яму, што ён мяркуе зрабіць вялікі баль пасьля зьезду, на які і запрашаў пана Ляскоўскага. Але апошняга больш цікавіла князёўна, якая ўцякла сярод начы катацца, а не захацела з ім сустрэцца. І яна была-ж напэўна дома ў той час, як ён пераступіў парог палацу. А ён так захацеў яе бачыць, яму так яскрава ўспомнілася танго, як толькі ён засоп атмосфэраю Друцкіх.

— Пачакай, ты ня будзеш уцякаць ад мяне,—прагаварыў пан Ляскоўскі.

Яшчэ можа што сказаў-бы ён, але чуць ня грукнуўся аб нейкага чалавека.

— Хто гэта сьмее пакідаць пана Ляскоўскага?—зарагатаў гартанны голас.

Ляскоўскі падняў галаву: пад бліскучым чорным капялюшыкам-цыліндрам зьзяў шырокі чырвоны твар Масея Рыгоравіча Ліўшыца. Яго чырвоныя сьвежыя, як сьпелыя вішні, губы, здавалася, гатовы былі засмактаць у пацалунку Ляскоўскага.

— Як вы тут апынуліся?—крыху зьдзіўлена пытаўся пан.

Ліўшыц кіўнуў лёкаю пакінуць іх у прыёмнай-портрэтнай.

— Фігаро-сі, фігаро-ля,—сакавітым баском запеў Ліўшыц. — Вы можа, шаноўны пане, дзівіцеся з майго так познага наведваньня сюды? Дык дзіўнага мала. У мяне пад плашчом няма мандаліны падманваць князёўну, але затое ў фрачных нагавіцах іl у à guelgue chose пянёндзы для яе бацькі. Ха-ха-ха!—заржаў ён задзёрыста.

— Слухайце, Ліўшыц, вы, здаецца, ужо без мяне пачынаеце абскубаць князя? Я гэтага вам не дарую!—зазлаваўся Ляскоўскі.—Калі зноў вы гакнулі лесу, дык даю дзесяць процантаў чыстых, ліха вас бяры!

— Выбачайце на гэты раз не пасьпеў параіцца з вамі, пане-міністар гандлю і прамысловасьці. Бачыце, час кароткі, а яго сьветласьці трэба да-зарэзу грошы—адсьвяткаваць балем сваё высокае прызначэньне.

— Дык мы-ж гэта раней ведалі і да гэтага вялі, а вы тут плот гародзіце!—зусім злосна ўжо накінуўся на „негоцыянта“ пан Ляскоўскі.

— Да я-ж зьдзелкі не рабіў, а толькі вось задатак нясу, чудак вы, ай-яй!—вясёла адказаў Ліўшыц, накіроўваючыся ў нутраныя пакоі.

Адышоўшы крокі два-тры, ён усё-ж затрымаўся, а потым на дыбачках, падышоў да Ляскоўскага, сагнуў далонь рупарам і прашаптаў:

— Бадай ці ня хутка трэба пастушку ў адстаўку пусьціць? Як вы думаеце?

— Не мяшайцеся ня ў вашы справы, я сам ведаю, што рабіць,—ганарыста адказаў Ляскоўскі.

— Мне так здаецца: не патрэбна пастушка, калі каралёўна пад бокам,—хціва ўсьміхаючыся, яшчэ шаптануў Ліўшыц.—Ну, адзье, шаноўны пане, вось нечаканае спатканьне.

— А вы знаёмы?—раздалося запытаньне князя, які стаяў на парозе.

— Другі толькі раз бачымся, шапачнае знаёмства,—сьмяючыся адказаў Ляскоўскі.

---

Зося траха не абамлела, калі раніцою Ляскоўскі сказаў ёй, каб яна рыхтавалася на баль да князёў Друцкіх. Ёй, якая ні разу ня бачыла гэтых баляў, ніколі нават здалёк не падыходзіла да знатных людзей, даводзіцца цяпер ісьці туды, можа прыдзецца гаварыць з імі. Аб чым? Як сябе трымаць? Яна-ж нават ня ўмее, як сьлед багатым людзём, апранацца. І ў якасьці каго яна пойдзе туды з Стасем—яго жонкаю, ці, можа, проста яго знаёмаю? Гэтыя пытаньні круціліся ў яе маленькай галоўцы, і яна ня ведала, як вырашыць іх.

— Я хачу, каб ты абавязкова паехала са мною,—траха не камандаваў пан Ляскоўскі.

— Не, я нізавошта не пакажуся туды,—плачучы адказала дзяўчына.

— Ах, дык ты ехала сюды толькі дзеля таго, каб прасядзець некалькі дзён у гэтай паскуднай карчме? Не, даражэнькая, трэба ўвайсьці ў тое грамадзтва, да якога належу я сам. Ты-ж скора будзеш маёю маленькаю жонкай, ці-ж ня так, Зоська?

Здалася Зося. Яна цэлы дзень рыхтавалася да вечара. Абедзьве пакаёўкі пасаблялі прыгнаць ёй адзеньне, зачэсваць і завіваць валасы, начэплівапь бліскучкі. Пакаёўкі былі больш здатны ў гэтых справах, і Зося паслухмяна аддавалася на іх волю, пакладалася на іх густ. Ужо сьцямнела даўно, а зборы ня былі скончаны, ужо зайшоў па яе Ляскоўскі, які нейдзе прападаў дзень і зьявіўся толькі пераапрануцца. Вылашчаны, здатны, ён са сьмехам разглядаў зьбянтэжаную дзяўчыну, яе ўскалмачаныя валасы, якія завівалі ўжо можа дзесяты раз. Страх усё не пакідаў Зосю, і раз-по-разу сьціскаў ёй горла; сьлёзы ліліся з ея вачэй. Ляскоўскі тады злосна загадваў супакоіцца, крычаў на пакаёвак, каб яны запудрылі заплаканыя шчокі. Напасьледак, каля дзесятае гадзіны, вазок Ляскоўскага шугануўся да палацу Друцкіх.

Баль быў поўным, як Ляскоўскі з Зосяю ўвайшлі ў портрэтную-калідор палацу. Сэрца Зосі нібы зьнікла куды, а потым моцна застукала, як толькі яна ўгледзела доўгі шнур лёкаяў у белых панчохах і сініх сурдутах. Быццам праз строй прайшла яна міма іх да дзьвярэй залі. Галава яе кружылася, і толькі моцная рука Ляскоўскага надзейна падтрымлівала дзяўчыну. У залі, як толькі яна зірнула туды, па вачох разанула нязвычайна яркае сьвятло, якое снапамі падала ад трох, нібы царкоўных, ліхтароў. Блішчастыя каменьні і золата на жанчынах зьзялі са ўсіх бакоў. Яе адзеньне, хоць яна старэнна прыбіралася цэлы дзень, выглядала зусім мізэрным і ніякаватым перад тым багацьцем, якое нахлынула вакол блішчастым калаваротам.

Пасярэдзіне залі пачынала круціцца ў танцы некалькі пар. Нявідная оркестра на хорах іграла пяшчотны вальц. Адусюль нёсься вясёлы гоман, звонкі сьмех. Зося прыпінілася ў дзьвярах, нібы хто заблытаў ёй ногі і, крыху адкрыўшы рот, разглядала нязвычайны жывы малюнак.

— Чаму-ж вы так запазьніліся, шаноўны пане Ляскоўскі?—пачула яна чыйсь голас.

— Гэта вінавата мая кузіна, якая ня толькі страціла дзень, але і частку вечара на ўборы. Для дзяўчат і жанчын баль—самая цяжкая праца,—са сьмехам адказаў пан Ляскоўскі.

Ён крыху турзануў Зосю і падвёў яе да старога пана з арліным носам.

— Вось, ваша сьветласьць, адна з маіх кузін,—пазнаёміў Ляскоўскі Зосю з князем.

— І ўсе вашыя кузіны такія прыгожыя? Я буду вашым нязьменным госьцем, пане, калі вы будзеце паказваць мне такіх здатных кузін... Ну,

але дзе мне старому? Я вось пашукаю паньне кавалера, якраз пачынаецца танец.

Не пасьпела прыйсьці ў сябе Зося, як стары князь ужо падводзіў да яе нейкага хлышчаватага андуфэльта. Гэта быў адзін з хвастоў князёўны—чыноўнік асобных даручэньняў пры губарнатары. Ён прывычным гэстам палажыў Зосі на стан сваю руку і лёгка закружыў яе па залі ў такт музыкі.

Ляскоўскі акінуў вокам кола танцуючых, упікліва затрымаўся поглядам на выдатнай фігуры князёўны, якая чуць гойдалася ў танцы, і не прыкмячала яго. Пачакаўшы, пакуль яна абышла кола, і схапіўшы яе празрыста-хуткі позірк, Ляскоўскі накіраваўся ў іншыя пакоі, дзе расстаўлены былі зялёныя столікі і дзе больш старэйшыя займаліся картамі. Амаль ўсе ўставалі і падыходзілі, каб павітацца ці перакінуцца словам з маладым панам. Сам губарнатар яшчэ здалёку запрасіў яго за свой столік, у кола больш паважаных паноў. Ляскоўскага прымалі з прыемнасьцю, хвалілі яго за разумную прамову і за тую працу, якую прарабіў ён у камісіі па зямельных справах. Але нешта непакоіла Ляскоўскага, і ён хутка пакінуў сваіх знатных прыхільнікаў.

— Вам, вядома, сумна сядзець з намі, маладасьць хоча сьпеваў, скокаў, музыкі, дзявочых уцех... Ну, ідзеце, скачэце, да загадайце там мазурку, і я прыду паглядзець,—прамовіў губарнатар, пабіваючы козырам чужога туза.

У залі скончыліся танцы. Натоўп моладзі разыходзіўся ў бакі, займаючы крэслы, аднастайным ланцужком абымаўшыя паўз сьцены ўсю залю. Вочы Ляскоўскага шукалі двух пунктаў. Вось ідзе, высока падняўшы аздобленую дыямэнтаваю дыядэмаю галаву, князёўна, абкружаная колам прылізаных панкоў. А дзе-ж другая, дзе Зося? Князёўна ўжо блізка каля яго, а Зосі ня відаць. Ага, вось там яна, у кутку, адна-адзінюсенькая. Ляскоўскі злосна ўсьміхнуўся і крануўся насустрач князёўны.

— Дазвольце вітаць вас, князёўна! Вы, як і заўсёды, сёньня зьяўляецеся царыцаю балю,—і Ляскоўскі схіліўся к яе руцэ.

— Вы не танцавалі вальц, шаноўны пане? Ах, вы так шмат страцілі—кідаючы іскры з вачэй і губ, палка сказала яна.

— Я не шкадую аб гэтым: бяз вас і найлепшы вальц мне не спадабаўся-б. Дазвольце запрасіць вас на мазурку.

— Хоць вы і шмат па якіх прычынах маглі-б спадзявацца на гэта, але я ўжо абяцала мазурку іншаму,—крыху нэрвова адказала яна і кальнула сваімі халоднымі зялёнымі вачыма.

— Ах, так!

— Дарэчы, хто гэтая панна, што скакала з губарнатарскім чыноўнікам? Кажуць, што яна прыехала з вамі, пане Ляскоўскі.

— Калі ласка, хадзем, я вас пазнаёмлю.

Не чакаючы згоды, Ляскоўскі ўзяў пад руку князёўну і найстойліва павёў яе ў дальны куток, дзе зьвярком запалоханым стаяла ў адзіноцтве

Зося. Угледзеўшы Ляскоўскага, яна рванулася да яго, але раптам запынілася пад гострым пытаючым поглядам князёўны.

— Дазвольце пазнаёміць вас,—нямоцна, але выразна прагаварыў Ляскоўскі, уперад зірнуўшы назад.—Гэта, князёўна, мая... вясковая каханка. Прашу ўважыць і пакахаць яе.

Зося рванулася і замёрла. Князёўна склізнула зьверху ўніз па фігуры Зосі і звонка засьмяялася. Ляскоўскі паглядаў з усьмешкаю сатыра на абедзьвюх дзяўчын.

— У вас ня дрэнны густ, пане Ляскоўскі,—адрэзала яна і, паварочваючыся ў бок залі, дадала:—вы вялікі наглец, але вы мне падабаецеся.

З халодным бляскам у вачох і вясёлаю ўсьмешкаю на тонкіх губах, яна пайшла назад па залі; гаманлівы натоўп засланіў яе. Ляскоўскі на адзін момант затрымаўся каля Зосі.

— Вам пара дамоў!—хрыпануў ён, паварочваючыся да ўсяго грамадзтва і прымаючы бесклапотны выгляд.

Праз хвіліну міма строю лёкаяў у калідоры прайшла хістаючаяся дзяўчына. Яна рынулася проста ў дзьверы, ня трапіла ў іх і загрукатала нагамі ў зачыненую фортку.

— Куды вы, паненка?—запытаўся падскочыўшы лёкай Ляскоўскага.

— Мне... мне кепска... галава баліць... я хачу на двор,—ледзь выгаварыла Зося.

Лёкай з усьмешкаю пераглянуўся з іншымі і працягнуў Зосі яе капялюшык, боты і верхнюю адзежу.

— Нельга выходзіць на двор распрануўшыся,—настаўніцкі сказаў ён, пасабляючы апрануць паліто.—Калі вам так дрэнна, дык я клікну фурмана адвезьці вас дадому.

— Не, ня трэба!—кінула Зося, выходзячы з прыёмнае.

Напыжаныя кардыналы, рыцары пазіралі ёй усьлед з глыбокага калідору-портрэтнае і агідна ўсьміхаліся сваімі мёртва-халоднымі вачыма.

Блукаючыся пайшла Зося вузкімі завулкамі, выйшла на Саборны пляц. На казначэйскай вежы празваніла адзінаццаць гадзін. Яна прайшла па Губарнатарскай, павярнула Падгорнаю да тэатру. Дацягнуўшыся да першае лаўкі на сквэры, які знаходзіцца побач з тэатрам, яна бясьсільна апусьцілася на засьнежанае сядзеньне. Амаль поўны месяц высока стаяў над дахамі будынкаў, але срэбнае дарожкі да яго ня было: яна затоптана пешаходамі, заезджана рамізьнікамі, застаўлена цеснымі будынкамі. Цесна і ісьці некуды, апроч гэтае абледзянелае, засьнежанае лаўкі...

Людзі праходзілі па дарожках, сьпяшаючыся на марозе. Некаторыя ўглядаліся пільна, другія ішлі міма, як быццам на лаўцы быў не чалавек, а просты кавалак дрэва. Вось каля тэатру раздаўся гоман; мусіць, разыходзіліся пасьля прадстаўленьня. Міма праходзяць хлапцы.

— Эй, Марушка, што ты сядзіш тут! Хадзем з намі!—крычаць яны на ўсю вуліцу.

Трэба сьмяяцца—вучыла старая пакаёўка Ляскоўскага. І Зося звонка рагоча.

— Да ты ня толькі жывая, але і вясёлая! Бач, якія на ёй уборы! Паненка, ды годзе!—рагочуць хлапцы.—Хадзем з намі піва-піць!

Ня ўсёроўна, куды ісьці?—Зося пакідае лаўку. Яе падхопліваюць пад рукі два юнакі з гімназічнымі рагалямі на аколышах, соўваюць ёй у губы цыгарку.

— Айда, у нумары Лівадыя, туды інспэктар ня трапіць сунуць нос,—цішэй прагаварыў трэці.

І задаволеная лёгкаю здабычаю, суполка цягне Зосю ў невядомае ёй месца.

— Пайду, мне ўсёроўна,—шэпча яна.

**М. Чарот**

*
* *

Восень сыпле пажоўклыя лісьці
На зямлю, што паліта крывёю...
Я заўсёды у бойку рад выйсьці,—
Загарэцца адвагай, развоем.

Шмат абшараў яшчэ забалочана,
Хоць і трактар працуе у полі...
Барацьба—ой, далёка ня скончана,
Вораг наш—ён ня дрэмле ніколі.

Вораг той, хто ня бачыць радасьці,
Каму сумна ў Савецкім жыць краю,
Хто на нас, як калісь, ізноў рад ісьці,
Кожны творчы наш крок разбурае.

Хто ня верыць, што Леніна словы
Сталі праўдаю—шчасьцем мільёнаў,—
За вялікі Кастрычнік гатовы
Ўсе працоўныя стаць у колёны.

Восень сыпле пажоўклыя лісьці
На зямлю, што гарыць у свабодзе...
Комуніст я—заўсёды рад выйсьці
Сказаць ворагу—зьдзеквацца годзе!

Мне чамусьці балюча і дзіўна
Ў нашы дні слухаць гэткія песьні,
Што ў сваёй-жа савецкай радзіме
Песьняру жыць і сумна і цесна.

Як-жа так? І у чым-жа тут справа?
Я чамусьці сабе ня уцямлю...
Ці-ж пясьнярская гордасьць і слава
Ў гэты сьветлы наш дзень стала цьмянай?

Не, о не! Мне здаецца ня гэта!..
Вы мяняеце радасьць на сьлёзы
Ўсё таму, што натхненьне поэты
Ад сучасных падзей нецьвяроза.

Вас палохае подых варожы,
Што імкнецца зьнішчаць нашу працу...
Край савецкі увесь сьвет пераможа,—
Буду пець яму гімн і змагацца.

Восень сыпле пажоўклыя лісьці
На зямлю, што у творчым уздыме...
Не палохайся, сябра мой, выйсьці,
Усё назваць у жыцьці сваім імем.

Можна пець пра каханьне і зраду,
Пра вясёласьць жыцьця і сумоту,
Толькі ў песьні дазнацца мы рады—
Для каго ты сьпяваеш і хто ты?

А бывае, што слухаеш песьню,
Не згадаць: дзе там радасьць, дзе гора,
Што поэту на сьвеце жыць цесна,—
Ну, а гэтым—твой цешыцца вораг.

Буду верыць—жыцьцё ўсім дакажа,
Што астатняга ворага зможам...
І я песьняй, як злотнаю пражай,
Сусьвет вольны тады упрыгожу.

Ну, а вас, хто пяе безнадзейна,
Ісьці з намі пакінула сіла,
Вось такіх не патрэбна людзей нам,—
Хай гарбатых спраўляе магіла.

Восень сыпле пажоўклыя лісьці
На зямлю, што ў змаганьні і працы...
Ня шукаю інакшага выйсьця—
Буду жыць і сьпяваць і змагацца!

14-X—29 г.

# СЯРОД ДАРОГ

**Уладзімер Хадыка**

Дзікаркай кволай на крыжы
Прысела спуджаная ночка.
На спад ад ворага бяжыць
З вадой худзенькая асочка.

Аднекуль з боку надышлі
Жалезам ўзброеныя людзі—
І рэжуць чэрава зямлі,
І ломяць лоз старыя грудзі.

Балота сьпетую красу
Абмераў шнур тугі і строгі...
Ваўкі грызуць шалёны сум,
Кідаюць цёплыя бярлогі.

Дзікліва зграямі ідуць
Шукаць кватэр, калі дзе знойдуць...
Гушчар на голълях, як бяду,
Кавалкі поўсьці стане гойдаць.

Гушчар прагнаным бедакам
Яшчэ саграе дум намеры,
Пакуль ня ляжа ў покат сам
Пад сьмех бязьлітаснай сякеры.

Насподзе горную сьлязу
Асушыць вецер-валацуга.
Да дому людзі лом зьвязуць
І дол ўзаруць сталёвым плугам.

Агорне новы тут пасеў
Рань з моцнай назваю—„Культура".
Праедзе вечар па аўсе
І бровы нават не нахмурыць.

Запаліць зорку ён знарок
Сярод зялёных саматканак,
З агністых фарб спляце вянок,
Як знак вялікае пашаны...

І будзе вечарам-гасьцём
Урачыстых песень і настрояў...
Жыцьця суровае асьцё
Гарыць за роднаю гарою.

У ружовых колерах зары
Сярод дарог заснулі сёлы.
З трывожнай думкаю на крыж
Прысела ноч дзікаркай кволай.

1929 г.

## НА ВОЛЗЕ

**Алесь Звонак**

На палубе вецер,
над палубай змрокі
Ды хмурная постаць
матроса...
Наскакваюць хвалі...
Няспынны іх рокат
І пырскаў
бурштынавы россып.

Я гэтую музыку
слухаю доўга
Пад пеністы шум
параходу...
А вокал,
а вокал—
шырокая Волга
І дзіўная ў цемразі
воддаль...

І коцяцца хвалі,
і пеняцца хвалі
І думкі —
бяз цені трывогі...
У цемры матрос
ціха песьню сьпявае
Пра Сьценьку,
князёўну,
пра Волгу...

А бераг находзіць
вагромністай глыбай,
Таемным і чорным адхонам...

І водгульлем дальнім
даносяцца нібы
Бурлацкія песьні
і стогны.

О, дзікая веліч!
З грудзей тваіх чую
Я Азіі подых гарачы.
Здаецца ня хвалі
так грозна бушуюць,
А львы белагрывыя скачуць...

А нос расьсякае
кіпучую пену,
А вецер мацнее
ў віхуру
І ў цемры
шалёна галосіць сірэна...
... Зьбіраецца бура...

Саратаў 17-VII—29 г.

# 1905

*Драма ў чатырох актах, дзесяці абразох*

**Андрэй Упіт**

Удзельнічаюць:

Стары Робежнэкс.
Мартын Робежнэкс.
Ян Робежнэкс, настаўнік, зяць Мэйера.
Мэйер, кіраўнік маёнтку.
Мэйера, жонка.
Марыля, іхная дачка.
Юзя, пакаёўка.
Рэснайс.
Гайленс, старшыня выканаўчага камітэту.
Поднэкс, валасны старшыня.
Зэтыня, яго жонка.
Вільдэ, валасны пісар.
Лепіньш, памочнік пісара.
Ганна Стэйбэргс.
Спэдэ.
Дачка Спэдэ.
Сястра Спэдэ.
Міхал Вірза.
Стары Вімба.
Вімба, Вітал, Зарэнс, Лапінь — міліцыянэры.
Саркіс, вураднік.
Фэрлінг, пастар.
Праваслаўны сьвяшчэньнік.
Брэнсон, лясьнічы.
Баронскі сын Вольф, якога ўсе называюць прост „барончык“ і „баранётка“.
Фон-Дален кундзэ[1]).
Фон-Стрыка кундзэ.
Паўвал Сяргеевіч, афіцэр.
Фон Гамэр, ротмістр.
Клясон, пісар і перакладчык.
Сяляне, жанчыны, дзяўчаты.
Драгуны.

---

[1]) „Кундзэ“—у перакладзе на беларускую мову—„пані“. „Кунгс“—пан. Згодна законаў латыскае мовы, „кунгс“ і „кундзэ“ ставяцца пасьля прозьвішча асобы і гэтак-жа вымаўляюцца, напр.: Лапінь кундзэ, а ня кундзэ Лапінь. *(Заўв. перакладчыка).*

## АКТ ПЕРШЫ

### Зьява першая

*Фальварак Варна. Даволі вялікі покой, загружаны прывезенымі з іншых месц рэчамі і мэбляй. Вокны напалову завешаны. Звонку, здалёк чуваць сьпяваньне: „Віхры варожыя...“*

Юзя (*тып літвінкі: завіхаецца ў пакоі; паглядае ў вакно*).

Ян Робежнэкс (*уваходзіць звонку, захоплены, узьняты*). А! ты, Юзя! Дабрыдзень! (*Падае руку*).

Юзя (*трохі саромячыся падаць руку, сьмяецца*). Ды як-жа гэта, пане настаўнік! Мне-ж няможна.

Ян (*моцна трасучы яе руку*). Дабрыдзень, Юзя! Якія там паны! Цяпер больш няма ніякіх паноў! Цяпер—народ! Цяпер—пролетары ўсіх краёў злучыліся!—Ці ты разумееш, Юзя?

Юзя (*хітра сьмяецца*). Як не зразумець, Робежнэкс кунгс.

Ян. Дзе мая жонка?

Юзя. Маладая пані там у бацькоў. Яна вас чакала. Яна так баіцца.

Ян. А як старая пані?

Юзя. А ўсё таксама хварэе.

Ян. Ту! Адна баіцца, другая хварэе. Знайшлі час—цяпер, калі рэволюцыя ідзе поўным ходам! Рэволюцыя, ці ты разумееш, Юзя?

Юзя (*сьмяецца*). Чаго-ж тут не зразумець?

Ян (*глядзіць на яе і таксама сьмяецца*). Ты не баішся?

Юзя. Я? Чаго-ж мне баяцца? Ці-ж я не належу да народу? Я кагадзе прышла з могілак.

Ян. Ты таксама была? Чаму-ж я цябе ня бачыў?

Юзя. Я была за плотам. Ці-ж падыдзеш бліжэй. Я чула вашу прамову. Ах, як гэта было добра!

Ян. Так? Табе спадабалася?

Юзя. Дужа! Як гэта вы можаце так прыгожа гаварыць?

Ян (*з гонарам, захоплена*). Так—такі час, і такое яго выяўленьне. У барацьбе за рэволюцыю загінулі... Тысячы працоўных... Чырвоныя і чорныя штандары... Залпы стрэлаў... Аграмадны рух мас ахоплівае ўсю Прыбальтыку, усю Расію. І замкі разбурацца, вежы разваляцца! Ці ты разумееш, Юзя?

Юзя (*глядзіць на яго і нібы захапляецца*). І я сьпявала. Толькі не магла зразумець слоў.

Ян. Слоў? Навучышся. Але навошта табе вучыцца? Можна і так. Ты ня хворая і не палахлівая. Чортава ты баба, Юзя. (*Хоча абняць*).

Юзя (*трошкі адступае*). Але, пан настаўнік! Няможна-ж так! (*Сьмяецца*). Які вы дзіўны! Ах, яны ідуць! (*Вырываецца*).

Мэйера кундзэ (*выходзіць з пакояў, накрыўшыся вялікай хусткай, выгляд хваравіты; за ёй Марыля і Мэйер*). Ах, прышоў нарэшце. Мы ўжо думалі, што ты пашоў у патрулі.

Ян (*цалуе руку*). Як вы сябе адчуваеце, маці? (*Падае руку Мэйеру, шчыра трасе*).

Мэйера кундзэ. Як тут холадна! Юзя, ты зноў ня выпаліла!

Юзя (*без пашаны, нават з пагардай*). У-га! Няможна-ж, каб печ трэснула. І на панадворку адліга.

Ян. Сапраўды, маці. Тут так горача, што дыхаць няма чым. І цёмна. Навошта-ж так вокны пазавешвалі?

Марыля (*стомлена і незадаволена*). Пакінь у спакоі. Нам і так страшна.

Ян (*гнеўна*). Што за глупствы! Ніхто вас тут не зачэпіць!

Мэйера кундзэ (*на канапе; Мэйер дапамагае ёй ахутацца*) Не зачэпіць? Ці-ж ужо не чапалі? З маёнтку выгналі—сюды прыходзяць трэсьці.

Ян. Вас трэсьлі? Ня можа быць!

Мэйера кундзэ. Зброя ім патрэбна! Якая-ж у нас зброя? Шукаюць толькі дзе нажыцца. Гультаі і нягоднікі цяпер узялі ўладу. А ты, Юзя, чаго слухаеш тут? Можаш ісьці на кухню. (*Юзя выходзіць*). Гэта таго-ж сорту, на ўсе мітынгі бегае.

Марыля. Ці-ж мала яе Ян вучыў.

Ян (*гнеўным гестам яе перабівае; да Мэйер кундзі*). Народ мне ня страшны, маці. Недалікатны ён магчыма, іншы раз самаўладны, але ня злы. Трэба ведаць душу народу. Народ...

Мэйер (*ён стаяў увесь час сьпіной да сцэны*). Душа народу... Гэтага мы ніколі ня бачылі, яго кулак, гэта так. Ну, чаму-ж вы ўцяклі назад? Заставаліся-б у Рызе, цяпер-жа там спакайней. Марыля цяпер павінна ўхіляцца ад хваляваньня.

Ян (*паглядзеўшы нездаволена*). Яна-ж пішчыць ад кожнае дробязі. Зусім не патрэбна было нам уцякаць, гэта можа пакінуць кепскае ўражаньне. Цяпер кожны павінен далажыць сваю руку, калі народ куе свой лёс, інакш застанемся без пасады. Якія перасьцярогі мне патрэбны? Мне няма чаго баяцца.

Мэйер. Ну, нічога невядома. Даволі ты пагаспадарыў у сваёй школе. Аркушы сьвяшчэннай гісторыі да гэтага часу яшчэ валяюцца на бальшаку. Пастара гэта твае вучні выгналі са школы.

Ян. Ну, што-ж ён лезе са сваімі малітвамі. Часы чорнасурдутнікаў скончыліся.

Мэйер. Ну, мне здаецца, што хутка будзе канец чырвонасурдутнікам, урад ужо пасылае войска.

Ян (*усхвалявана*). Ня можа быць! Няма чаго тут пасылаць. Рэвалюцыйны рух захапіў усю Расію. Аграрны рух расьце. У Варонескай губэрні...

Мэйер. Што нам да таго, што ў Варонескай губэрні. Але драгуны нібыта ўжо ў Дзьвінску.

Мэйер кундзэ. Ах! Хоць-бы хутчэй прышлі! Ніводнай ночы я тут вачэй не заплюшчыла.

Марыля. Не хвалюйцеся, маці, цяпер зноў будзе добра.

Ян (*нэрвова*). Эх вы! Знайшлі добрага! Але хай яны ідуць. Мне няма чаго баяцца. Я асабіста нідзе ня быў замешаны.

Мэйер. Ну, глядзі! А якія гэта вершы ты тут гады два ўжо друкуеш? Хто цябе сёньня гнаў на могілкі?

Ян (*спалохана*). Хай цябе чэрці... Вось кепска!.. (*Стараючыся супакоіцца*). Але-ж мае вершы ў легальных газэтах. І да паўстаньня ў іх проста не заклікаецца. Я так наогул, больш аб волі, аб рэволюцыі ў асабістым жыцьці... Я індывідуалісты, я сьведкамі магу давесьці. Юзя! Юзя панам шурп!

Мэйера кундзэ. Пакінь ты Юзю ў спакоі!

Марыля. У яго-ж гэта літвінка ўсюль сьведкаю.

Юзя (*уваходзіць, выціраючы рукі*). Ну? Што цяпер будзе?

Ян. Ты ў мяне ў школе служыла ўвесь час, ты сама бачыла. Ці я вучыў вучняў сьпяваць рэволюцыйныя сьпевы, ці яны самі сьпявалі? Ці-ж я загадаў пашматаць сьвяшчэнную гісторыю і высьвістаць пастара з клясы?

Юзя (*сьмяючыся, паціскае плячыма*). Скуль я ведаю.

Ян. Ты павінна ведаць! Калі паны будуць пытацца, табе трэба будзе ведаць. Ну, рабіў я гэта ці не?

Юзя. Я ведаю толькі тое, што вы падглядвалі з-за фіранкі і сьмяяліся, калі хлапцы шышкамі і трэскамі гналі пастара з узгорку.

Ян. Дурная! Скуль ты ведаеш, што я сьмяяўся з пастара кунгса? Можа ў мяне проста быў добры настрой, і таму я сьмяяўся.

Юзя. Пра ваш... настрой... пра гэта я ня ведаю.

Ян. Дурная ты. Нічога ты не разумееш. Ідзі адчыні вакно, тут можна задыхнуцца.

Марыля. Я-ж казала, што ня трэба вяртацца. Мне было дужа страшна.

Ян. Ня рыпай ты ўвесь час.

Юзя (*адчыніўшы вакно*). А-я-й! Зноў ідзе Вітал. І яшчэ ўдох. (*Чапурыцца*).

Мэйер. Хто? Вітал? (*Сьпяшаецца да вакна*)

Мэйер кундзэ (*апусьціўшыся*). Ах, зноў яны будуць тут трэсьці!

Ян. Не хвалюйцеся, яны вам нічога ня эробяць. Вітал—мой сябра.

Вітал (*уваходзіць з двума міліцыянэрамі—у яго вайсковая стрэльба і шабля, у іншых старыя паляўнічыя стрэльбы з вяроўкамі; бадзёра, троху выхваляючыся*). Ага! Уся банда разам.

Ян (*ліслiва*). Дабрыдзень Вітал! (*Падае руку*).

Вітал (*толькі даткнуўся рукой па-вайсковаму да казырка*). Упраўляючы Мэйер! У нас ёсьць весткі, што адну стрэльбу вы ўсё-ж ткі схавалі. (*Убачыўшы Юзю, хвацка вітаецца, стукнуўшы абсацамі, Юзя робіць рэвэранс, шырока ўсьміхаючыся*).

Мэйер (*стоячы*). Хто вам прыносіць гэткія весткі?

Вітал. Гэта наша справа. Аддавайце-ж лепш, ці нам зноў давядзецца трэсьці?

Мэйер кундзэ. Альбэрт, не давай!

Віталь. Маўчаць! (*Стукае прыкладам па падлозе; міліцыянэры таксама*).

Мэйер (*сеўшы*). Што вам яшчэ ад мяне трэба? Здаецца, я не адмаўляў ані ў чым. Чаго ад мяне вымагалі, усё здаў сваячасна. І ўсё-ж ткі недавер'е і непакой.

Вітал. Нічога ня зробіш, Мэйер кунгс. Даволі вы нас у свой час непакоілі. Так зьмяняюцца ролі і лёс, Мэйер кунгс.

Мэйер. Ці-ж ня я вам паказаў усе склады ў склепе маёнтку—самі вы ніколі-б не знашлі. Усе падпальвальшчыкі маёнтку абапіліся сапраўднага „Бордо". Патронаў вам хопіць яшчэ надоўга. Пуру мукі з Варнаў кожны дзень пасылаюць у пякарню будынку таварыства, штотыдзень адну карову для патрулёў у карчме Лукста. Агітатары езьдзяць на маіх конях і санях...

Вітал. Не гаварэце так многа! Ня наша справа. Гэту стрэльбу сюды, Мэйер кунгс!

Мэйер. Добра. (*Ідзе ў суседні пакой*).

Марыля. Ах, зладзеі! Ян, што ты стаіш!

Вітал. Даволі гутарак, я кажу! (*Стукае прыкладам, міліцыянэры таксама*).

Мэйер (*выносіць новую дубальтоўку*). Гэта ў мяне дарагая памятка.

Міліцыянэр. За шчырую службу ад барона. Ня думайце, мы ведаем усё.

Вітал. А патроны?

Мэйер. Добра. Вазьмеце ўсё. (*Ідзе яшчэ*).

Ян. Таварыш, вы трымаеце сябе дужа самаўладна. Мэйер кунгс ніколі ня быў супроць народу.

Вітал. Так? А хто-ж тут пашыраў кніжкі Недры? А вы самі? Чаму вы ўцяклі ў Рыгу? (*Мэйеру, які вынес патроны*). А больш ў вас няма?

Мэйер. Няма. Можаце шукаць. (*Стаіць абураны і ўгневаны*).

Вітал. А цяпер—надзеньце футра.

Мэйер кундзэ і Марыля (*ускрыкваюць*). А-ах!

Мэйер (*усхвалёвана*). Куды?

Вітал. У карчму Лукста да начальніка патруля. Загадаў Робежнэкс Мартын.

Ян. Мартын! Чаго ён хоча ад Мэйера кунгса?

Вітал. Ня наша справа. Нам загадана, і загад мы выканаем. Надзеньце футра!

Марыля. Маці, яны хочуць яго застрэліць! (*У роспачы абедзьве абдымаюцца*).

Мэйер (*апранаючы футра*). Даволі. Нічога яны мне ня зробяць.

Вітал. Хутчэй, хутчэй! Не ў царкву-ж зьбіраецеся. (*Сьмяецца, міліцыянэры таксама*).

Мэйер кундзэ (*плачучы, разам з Марыляй затуляюць Мэйера*). Што вы хачаце рабіць?.. Ах зьвяры! зьвяры!

Марыля. Татулечка, не хадзі!..

Вітал (*стукае прыкладам*). Ціха, бабы! І прэч з дарогі!

Мэйер кундзэ (*як ведзьма кідаецца на яго*). Ну, бі, бі! Забеце нас ўсіх! Гэта вы можаце! Сіла ў вас ёсьць. Ну, бі!

Другі міліцыянэр. Ці ня даць ёй раз?

Вітал. Ат! Няварта рукі пэцкаць бабамі.—Ну? Гатоў? Тады марш наперад! (*Выводзяць Мэйера*).

Мэйер кундзэ (*апусьцілася на канапу*). Ах, як гэта жудасна!

Марыля (*побач з ёй*). Маці!

Ян. Барбарызм! Гэтага я ад іх ніколі не чакаў!

Мэйер кундзэ (*да Юзі*). Ты, нягодніца, яго ўдала.

Марыля. Таму заўсёды бегаеш на гэтыя мітынгі. Таму гуляеш з гэтым Віталам.

Юзя. Вы мне нічога ня можаце забараніць. Лепш глядзеце за сваім мужам.

Ян. Не балбачы глупства. Юзя!

Марыля. А што-ж ты тут яшчэ стаіш? Чаму ня ідзеш з імі? Гэта-ж твае сябры.

Ян. Што я магу? Чула-ж як яны мяне самога...

Мэйер кундзэ. Цябе самога, цябе самога!.. Няшчасьце ўзялі ў дом. Ідзі, я кажу! Твой брат там начальнік.

Ян. Брат, так! Праклятае жыцьцё!.. (*Злы і няшчасны, няпэўна выходзіць*).

Марыля (*плачучы*). Юзя... Юзечка... Пагутары ты з гэтым сваім Віталам.

Юзя. Сваім Віталам.. Можа ён хутчэй ваш Вітал. Якая мне справа? Я з панамі ня зьвязваюся. (*Дэмонстрацыйна выходзіць*).

Марыля (*паказваючы наўздагон кулак*). Літоўка гэткая! Нягодгодніца!.. Гэта яна адважваецца мне!.. Мне!..

Мэйер кундзэ. Эх, хоць-бы гэтыя драгуны прышлі хутчэй! Але дастануць яны, я табе кажу! Дастануць! Пяць год пасядзяць, я табе кажу!

Зьява другая

*Перад карчмой Лукста. Два чырвоных штандары. Узварушаны натоўп. Некаторыя ўзброены, некаторыя ахоплены гневам, некаторыя—сьмехам. Арыштаваных ня відаць. Варта да іх не падпушчае. Паступова зьмяркаецца.*

Першы (*з натоўпу*). Каб на цябе немач. Ногі пачынаюць мерзнуць! Чаго яны там так доўга думаюць? Вялікая мудрасьць! Завесьці іх усіх шасьцярых тут у хвойнік ды—баўкс! Справа зроблена!

Другі. На! Ты прывык, як з сарнамі ў панскім лесе. Чалавек-жа ня заяц.

Першы. Не, чалавек ня заяц. Але-ж гэта тут—сабакі. Сабацы-ж і сабачая сьмерць, больш нічога!

Другі. Бяз віны нікога няможна расстрэльваць. Камітэт спачатку высьветліць—таму яны тут так доўга сядзяць.

Першы. Што? Шукаць віну? У Саркіса яшчэ віну шукаць?

Іншыя (*узрушана*). Кат!.. Забойца!.. Гэтага мы ня выпусьцім! Дайце сюды Саркіса!..

Вартаўнік. Назад, таварышы! Пальцам ніхто не дакранецца, пакуль камітэт ня вырашыць!

Першы. Камітэт... Цяпер народ сам пастанаўляе!.. А валасны старшыня! Ці-ж ня прышлося яго за ногі выцягваць з канцылярыі?

Іншыя. Як на разваліных ехалі! (*Сьмяюцца*).

Жанчына. Глядзеце, як гэта кундзя вочы вытарышчыла! Брухам наперад—сапраўдны генэрал!

Другая. Ёсьць-жа ў яе свой жаўнер, якім камандаваць. (*Сьмех*).

Трэці. А як-жа ён сябе цяпер адчувае паважанейшы. (*Сьмяецца*).

Чацьверты. Што гэты Брэнсон хаваецца там за сьпінамі? Пакажэце мне Брэнсона—як ён цяпер выглядае?

Жанчына. Лясьнічы! Гэта завецца лясьнічы! Па таксе служыў барону! Колькі кошыкаў брусьніц ты высыпаў у баб? Ягадзіну—і тую пашкадаваў для селяніна.

Другая. Цяпер вось скурчыўся, зусім маленькі! Гэх-х! вочы-б запляваць такому!

Былы парабак з маёнтку (*працiскаецца наперад*). Няхай яны і ня думаюць выпушчаць барончыка! Рабочыя з маёнтку, мы яго злавілі, мы яго судзіць будзем.

Іншыя. Барончыка мы не аддамо!

Некаторыя. Ціха, таварышы. Ідзе Мартын Робежнэкс!.. Робежнэкс будзе гаварыць!

Мартын Робежнэкс (*вышаў на ганак; за ім міліцыянэры са стрэльбамі. Рэснайс злазіць з ганку, рукі астаюцца ў кішэнях*). Таварышы! Троху назад! Арыштаваных бліжэй!

Варта (*падводзіць арыштаваных—Саркіса, Поднэка, Зэлтыня, Фэрмінга, Брэнсона і барончыка*).

Мартын Робежнэкс (*глянуўшы на іх з нянавісьцю*). Цяпер вы стаіцё тут з апушчанымі насамі. (*У вялікім гневе*). Яшчэ тыдзень назад вы таптаді народ нагамі. Вы—прадажныя душы і баронскія сабакі на ланцугу!.. (*Адвярнуўшыся, працягвае руку ў бок Саркіса*). Таго—той хай стаіць ззаду ўсіх. Нават паветра ў яго прысутнасьці сьмярдзіць. (*Варта адсоўвае Саркіса назад; у натоўпе хваляваньне і выгукі*). Ціха таварышы! Мы не на рынку, не ў царкве. А цяпер вы тут! Па-праўдзе сьмерць заслужылі вы ўсе. Усе вашы шэсьць чорных душ нявarты жыцьця аднаго чэснага рабочага. Бачу, бачу—вы хочаце адказаць, што самі ніколі сваімі рукамі нікога не катавалі, не стралялі...

У натоўпе (*хваляваньне, крыкі*). А Саркіс!.. Забойца!.. Прэч з ім!

Мартын Робежнэкс (*трохі стомлены*). Пачакайце, таварышы! (*Да арыштаваных*). Заўсёды і ўсюль вы ўсё-ж ткі былі з прыгонцамі і катамі народу. З тымі, хто яшчэ сёньня хоча зьнішчыць завяяваную народам волю і ўсю зямлю затапіць народнай крывёй. Вы тамака Саркіс... Мы шукалі, ці ня знойдзецца хоць якое-колечы апраўданьне—хоць якое-колечы здарэньне, якое б сказала: і гэта чалавек. Але пашукайце вы самі ў сваёй памяці і скажэце самі, мо‘ вам усё-ж ткі давялося якколечы зрабіць што-небудзь гэткае, што сьведчыла-б аб тым, што вы не дэгенэрат і зьвер.

Саркіс (*у паліце вураднiка з адарванымі пагонамі — наогул абшарпаны, зьмізарнелы*). Я... Мне... Я выконваў службовыя абавязкі... Што начальства загадвае... Я ведаю толькі тое, што пан фон Гэнінг загадвае... і пан Максымовіч...

Натоўп (*у нястрымным абурэньні*). Сабака!.. Ён яшчэ апраўдваецца!.. Прэч!

Мартын Робежнэкс. Так, паноў у нас заўсёды было даволі, але гэта яшчэ не апраўданьне. Гэнінг і Максымовіч маглі вам загадаць арыштаваць, але зьдзекаваліся і катавалі вы самі, па ўласнаму жаданьню. Ніводзін начальнік ня мог забараніць вам падаць вады насьмерць скатаванаму Вільнісу, аднак вы нават гэтага не зрабілі.

Саркіс. Я... мне... Скуль вы гэта ведаеце?

Мартын Робежнэкс. Даволі, злодзей! Вы чуеце! Нават цяпер, калі сьмерць у яго на носе, ён думае толькі аб тым, скуль мы гэта даведаліся аб яго разбойніцкіх учынках.—Таварышы! (*Паказвае рукой*). Адвядзеце. (*Выходзяць міліцыянэры і абкружаюць Саркіса*).

Саркіс. Таварышы... пашкадуйце... Дзеля жонкі і дзяцей...

Мартын Робежнэкс (*на момант слупянее ў гневе і агідзе*). Цяпер ён успомніў, што на сьвеце ёсьць жонкі і дзеці! Ці-ж у Зілуемнэцы не асталося грудное дзіцё? У Ласіса ня было жонкі? (*Нейкая жанчына ўскрыквае і падае*). Прэч!—Вы ведаеце, таварышы! (*Сяркіса выводзяць*).

Натоўп. Пільнуйце!.. Ён д'ябал... Каб ня ўцёк!...

Мартын Робежнэкс. Поднэкс! Скажэце мне: ці жадаеце быць з народам, ці супроць яго?

Зэлтыня (*штурхае яго, адказвае сама*). Мы ня былі супроць народу.

Мартын Робежнэкс. Чаму-ж ён не хацеў аддаць ключы? Прымусам прышлося вас выгнаць з валаснога будынку.

Зэлтыня. Як вы дзіўна гаворацё! Ён валасны старшыня, ён павінен адказваць, калі ўрад зьвернецца.

Першы мужчына. Паслухайце толькі яе! Яна чакае, калі яны зьвернуцца.

Мартын Робежнэкс. Не запамятайце, Поднэкс, што з сёнешняга дня вы—нічога. Заплюшчыць вочы і заткнуць вушы! І галоўнае язык за зубамі. Нічога вы ня бачылі. Асабліва вы, Паднэчыха! Зразумелі?

Зэлтыня. Хай д'ябал тут зразумее! Вы прыехалі з Рыгі і калі што, зноў зьнікнеце. Вам каб што—адна галава, адна бяда. Вам лёгка сказаць: трымай язык! А яму—калі ўрад пытае.

Мартын Робежнэкс. Цяпер народ кіруе! Толькі перад ім вам адказваць. Я яшчэ раз папераджаю вас: сьцеражэцеся. Больш літасьці ня будзе. Ідзеце!

Поднэкс (*таўставаты, шыя завязана хусткай, у валёнках, зусім апусьціўся*). Як? Я магу ісьці?

Зэлтыня (*цягне яго за руку*). Ну, а як-жа, торба ты! Ці-ж адважацца цябе чапаць? Пойдзем!

Поднэкс. Дзякую... паны! (*Зьбіраецца зьняць капялюш; Зэлтыня цягне яго. У натоўпе сьмех*).

Другі мужчына. Дубцоў-бы гэтай бабе.

Рэснайс (*каля ганку—таўставаты, гладкі твар, капялюш на вачох*). Пачакайце! Вам самым яшчэ будзе дубцоў. Адпушчайце толькі іх усіх!

Мартын Робежнэкс. Таварыш Рэснайс! Я выконваю пастанову камітэту. Пастар Фэрлінг!

Фэрлінг (*у тхаровым футры, самаўпэўнены, надзвычай супакойны*). Я тут.

Жанчына ў натоўпе. Гляньце, які важны наш Інга!

Мартын Робежнэкс. Ці вядома вам, што прыход звольніў вас з пасады?

Фэрлінг. Народ мяне не наймаў і ня можа звольніць. Я служу богу і пану барону.

Мартын Робежнэкс. Пра бога мы ня можам меркаваць, гэта ня ў нашай компэтэнцыі. Але мы ведаем, што барону вы служылі шчыра. Больш шчыра, чым гэта можна вымагаць ад слугі, які атрымлівае сваю пэнсію.

Фэрлінг. Я рабіў тое, што загадвала мне сумленьне.

Мартын Робежнэкс. Мы гэта ведаем. Ваша сумленьне заўсёды аглядалася на маёнтках, хоць пэнсію выплачваў вам прыход і з ім вы павінны былі ісьці разам.

У натоўпе (*вялікае хваляваньне, крыкі*). Інга!.. Прэч, далоў гэтага біблійнага асла!..

Першы мужчына. Усё лета ён на амбоню лез з кіем пад талярам[1]). Стрэльбу ў хаце пад канапу схаваў! Штандар не жадаў несьці.

Трэці. Пакуль мы не прывязалі яму штандар на сьпіне. (*Сьвіст, сьмех*).

Фэрлінг (*узлавана, але ў сваім тоне*). Сьмейцеся, сьмейцеся!.. Нада мной вы можаце, але бог не дазволіць зьдзеквацца над ім. Кара прыдзе калі-колечы для ўсіх, і тады будзе плач і скрогат зубоў...

Мартын Робежнэкс. Не блазнуйце, Фэрлінг! Мы не зьявіліся сюды слухаць вашы казаньні. Ваша роля скончана, Фэрлінг. Ня пастарам свайго прыходу, а баронскім наймітам вы былі. Самога гэтага свайго бога вы гатовы былі аддаць за лёкая ў маёнтак.

Фэрлінг (*склаўшы рукі, уздымае да неба, трагічным шэптам*). Ойча даруй ім...

Мартын Робежнэкс. Грамадзяне, вы неразумеючыя і насьмешнікі! Вы зьняважылі наш штандар! Няўжо-ж вы хочаце прывязваць яго да сьпіны кожнае сьвіньні? Фэрлінг! Не запамятайце, што вы тут цяпер стаіцё і чаго вы заслужылі. Але народ не крывяжэрны. Вока за вока—гэта вы навучалі, гэта была ваша мараль. Мы стаімо тут у імя новае, лепшае маралі. І таму я вам абвяшчаю: Фэрлінг, з гэтага дня вы болей ня пастар. Забудзьцеся, што вы калі-колечы ім былі. Лезьце ў сваю нару кратовую і не паказвайцеся больш на сонцы! Інакш мы змушаны будзем размаўляць з вамі іншаю мовай. Можаце ісьці!

Рэснайс (*сьмяецца з нянавісьцю*). Гэта-ж як у нейкай мэлёдраме. Папрасеце-ж пана пастара! Вазьмеце яго пад пахі!

[1]) Таляр—сярэднявяковая пастарская вопратка, чорнага колеру.

У натоўпе (*незадаволеньне і бурчэньне*). Гэтага няварта было-б адпушчаць!.. Ці-ж мала ён нас лаяў!.. Ну, рухайцеся, Інга!..

Мартын Робежнэкс. Фэрлінг! Я казаў, вы можаце ісьці.

Фэрлінг (*у нястрымным гневе глядзіць на яго і на натоўп, затым выходзіць з паднятай галавой*).

У натоўпе. Лобатрос!.. (*Сьмех*).

Мартын Робежнэкс. Брэнсон! Чаму вы не ўцяклі разам з баронам? Чаго вы тут бадзяецеся?

Брэнсон (*вялізарны; барадаты; зьбянтэжаны, але дыплёматычна разважлівы і хітры*). Чаму-б я павінен быў уцякаць з баронам? Я не з панамі, таварыш Робежнэкс.

Мартын Робежнэкс. Для вас, лясьнічы, я не таварыш. Адказвайце, што ў вас пытаюцца. Чаму вы тут бадзяецеся?

Брэнсон. Я зусім не бадзяюся. Я жыву ў вашага бацькі ў Робежнэках.

У натоўпе. Так—у клеці. Стуль мы яго выцягнулі.

Мартын Робежнэкс. І лісты вы атрымлівалі ад барона. Вы падтрымліваеце сувязь з баронам. Хто перадаваў вам лісты?

Брэнсон (*зьмяшаўся*). Я магу давесьці, што ў мяне няма ніякай сувязі.

Натоўп. Сувязі ў яго няма!.. Гэты нас усіх прадасьць! У хвойнік!

Першы мужчына (*праціскаючыся праз натоўп*). Я прашу камітэт гэтага аддаць мне. Я павінен з ім разьлічыцца. Яшчэ з дзевяноста трэцяга году ў мяне ў ляжцы сядзіць набой яго шроту. Цяпер ты мне давядзеш, Брэнсон, што гэта ня твой.

Брэнсон. Таварыш Робежнэкс, вы-ж не дапусьціце да асабістае расправы...

Стары Робежнэкс (*маленькі, шчупленькі, напоўсьляпы, у падпярэзаным кажушку, у пасталох,—праціскаецца да ганку, зьнімае аблавух з галавы*). Паночкі... Мне яшчэ трэба будзе чакаць?

Мартын Робежнэкс (*непрыемна зьдзіўлены*). Ты, тата?.. Чаго ты хочаш?

Стары Робежнэкс. Чаго-ж я магу хацець, паночкі, толькі за гэтую самую паездку...

Мартын Робежнэкс. Не паночкай і надзень шапку!

Брэнсон (*якому няёмкая сытуацыя дужа падабаецца, нібы дапамагаючы Мартыну Робежнэксу*). Надзень сьмела шапку, тата Робежнэкс. Тут-жа паноў няма. І сьмела кажы сыну, што табе трэба, ён ужо будзе ведаць.

У натоўпе. Чаго там гэты Брэнсон путаецца?.. Што ён там плявузгае?.. Заткнеце яму ляпу!..

Стары Робежнэкс. Я толькі хацеў ведаць, ці трэба яшчэ ехаць. У мяне конік слабенькі і мерзьне.

Мартын Робежнэкс. Куды ты езьдзіў?

Стары Робежнэкс. Паны яшчэ пытаюцца... Мне-ж, восьцека, пана лясьнічага загадалі прывезьці сюды. Ці-ж пан лясьнічы далей не не загадае везьці?

Бэнсон. Стары сябра, я больш нічога не магу загадваць. Тут цяпер твой сын кіруе.

Мартын Робежнэкс. Нікуды болей ня будзе патрэбна. Едзь толькі дахаты.

Стары Робежнэкс. Але, здаецца, трэба-б было заплаціць. Паўдня страціў.

Мартын Робежнэкс (*ледзь стрымліваючы сябе*). Гэта справа валаснога камітэту. Гайлен заплаціць.

Брэнсон. Так, Робежнэкс, едзь дахаты. Я цяпер застануся тут.

Стары Робежнэкс. Ну, дык дзякую паночкі. Сядзець, здаецца, пану лясьнічаму было ня дужа добра. Мех у мяне пуставаты. Ці ня мерзьлі ногі ў пана лясьнічага—ехалі ня шпарка. Конік у мяне такі слабенькі— і пяцёра мужчын у развалінах.

Брэнсон. Нічога стары, мы заўсёды сябравалі.

Унатоўпе. Пасаромся стары! Сябруеш з панамі!.. Брэнсона ён хавае ў сябе ў хаце!..

Стары Робежнэкс. Чаго там хаваць? Калі пан лясьнічы сам прышоў і жыве...

Унатоўпе. Гэтаму дзядзьку самому-б задаць...

Іншыя (*злосна*). Ціха, нягоднікі!.. Гэта-ж бацька Мартынаў!..

Рэснайс (*пагардліва, пацiскаючы плячыма*). Мартын, мо' ты-б скончыў ужо гэты спэктакль. Нас-жа чакаюць.

Першы мужчына (*прасоўваецца да ганку*). Гэтага Брэнна мне! Я яго падвязу!

Брэнсон. Я прашу, таварышы, не загадвайце болей вазіць мяне.

Мартын Робежнэкс. Пакуль-што мы вас далей не павязем. Раней высьветлім, дзе вы тут ткалі сваё павучыньне. (*Махае рукою. Брэнсона праз ганак вядуць у карчму*). А цяпер вы, барон Вольф!

Барончык (*у аксамітавым пінджаку, даўгіх панчохах, у капялюшы-жокей, акуляры на носе, скамянелы, напалоханы, скурчыўся, як мокрая курыца—падыходзіць бліжэй да ганку*). Так, паны...

Мартын Робежнэкс. Не паночкайце. Скажэце лепш, чаму вы яшчэ тут? Чаму вы не ўцяклі разам з усёй фаміліяй?

Барончык. Я—нічога не рабіў... Я думаў, што і народ мне нічога ня зробіць.

Унатоўпе. Брэша, нячысьцік!.. Ніводнай работніцы ў маёнтку не пакідаў у спакоі!.. Яшчэ летась увесну старую бізуном адсьцёбаў...

Рабочыя з маёнтку (*падыходзяць наперад*). Робежнэкс! Гэты нам! Мы яго ведаем! Стары воўк уцёк—гэтага мы ня выпусьцім!

Мартын Робежнэкс. Камітэт падрабязна азнаёміўся са справай барона Вольфа. Няма ніякіх простых доказаў, што ён як-колечы дзейнічаў супроць рэволюцыі і народу.

У натоўпе. Як ня дзейнічаў?.. А чаго-ж ён тут бадзяўся?..

Мартын Робежнэкс. Адзінае сапраўднае злачынства гэта тое, што ён таго-ж зьмяінага роду.

Рэснайс. І зусім даволі, каб адвесьці яго ў хвойнік. Гнёзды зьмяіныя трэба зьнішчаць цалкам.

У натоўпе. Правільна!.. Цалкам!.. без астачы!..

Мартын Робежнэкс. Таварыш Рэснайс! Зьнішчаюцца ня толькі куляй. Мы разбураем гэтыя гвёзды і ўсё нутро выкідваем вон на сьнег. Соцыяльна і політычна мы іх зьнішчаем—гэта лепшы суд. Сьмерць толькі тым, хто падняў руку супроць рэволюцыі і народу. Пра барона Вольфа мы гэтага яшчэ ня можам давесьці.

У натоўпе. Якія яшчэ там довады шукаць?.. Няхай чэрці возьмуць!.. Ці мала нас лупцавалі? Забіце гэту жабу... (*Пагрозна напіраюць*).

Барончык (*шукае абароны ў Мартына са сьлязьмі*). Сябры... я вас прашу... Вазьмеце ўсё, што ў нас ёсьць... Вазьмеце гэты маёнтак, вазьмеце і падзялеце... Вазьмеце лясы...

У натоўпе. Ня слухайце хлопца!.. Нічога ў яго няма і нічога ён ня можа даць!.. Прэч зьмяіны вырыдак!

Мартын Робежнэкс (*з працягнутай рукой*). Спакойна, таварышы! Мы не разбэшчаная банда рабоў, якая шукае помсты, разбурае і забівае. Мы—рэволюцыянэры, якія ломяць прагнілае і спарахнелае, каб пабудаваць новае і лепшае. З агнём і мячом у аднэй руцэ—а ў другой мы ўжо трымаем прылады для пабудовы новага жыцьця. Няхай дарма пралітая кроў не абмывае яго фундаманту. Не!—пакуль я тут стаю, яшчэ раз не!—Барон Вольф! Вы вольны! Але не забудзьцеся, адна ўмова: сёньня-ж увечары, не пазьней, вы зьнікнеце адсюль. І, апрача таго, назаўсёды. Вы разумееце, барон Вольф?

Барончык. Я разумею—і дзякую.

Мартын Робежнэкс. І затым—ні гуку! Сьляпы і глухі вы былі—нічога вы ня ведаеце і нікога ня знаеце. Вы чулі, барон Вольф?

Барончык. Я чуў—і клянуся!

Мартын Робежнэкс. Ах, не клянецеся! Мы ведаем, чаго варта клятва абшарніка. Але не запамятайце—другі раз гэты момант не паўторыцца! Вось вам дазвол камітэту, з ім вы паедзеце ў Рыгу або ў Лібаву.

Барончык. Я вам дужа, дужа ўдзячны. (*Хоча паціснуць руку*).

Мартын Робежнэкс. Ну! Мы яшчэ да гэтага пе дайшлі. Мо‘ пазьней, калі гэта ваша рука ў чэснай працы зробіцца чыстай.—Значыць, Рыгу або Лібаву. Географію вы троху ведаеце? І потым простым шляхам—назад у Брэмэн!

У натоўпе. У Брэмэн, так! (*Сьмех і нездаволеньне*).

Мартын Робежнэкс. Толькі не заблудзецеся і не памыляйцеся! Сьцеражэцеся трапіць яшчэ раз у нашыя рукі! (*Паказваючы рэвольвэр*). Ні бог, ні чорт вас тады ня выратуе! Ідзеце!

Барончык (*нібы прысягаючы падняўшы руку*). Я вам абяцаю, сябры! Усё, што ў маіх сілах... Усё для нараду... (*Сьлёзы перашкаджаюць гаварыць; шпарка адыходзіць*).

Рэснайс (*плюе*). Брыдкай робіцца гэтая комэдыя гуманізму! Пойдзем лепш на сход у будынак таварыства.

Натоўп (*дужа ўзбураны і нездаволены; паасобныя галасы*). Убачыце, што ён памсьціцца—вы ўбачыце, таварыш Робежнэкс! Ці праўда, што драгуны ідуць...

Мартын Робежнэкс. Гавораць. У будынку таварыства чакаюць дэлегаты шасьці валасьцей. Мы пачуем... Хто там яшчэ ідзе?

Вітал (*уперадзе, хвалюючыся*). Мы прывялі ўпраўляючага маёнткам Мэйера. Вось гэтую стрэльбу ён хаваў пад пярынай.

Мэйер. Нічога я не хаваў. Гэта мне падарунак.

Мартын Робежнэкс. Добра, гэта мы разгледзім. Вядзіце яго. (*Мэйера вядуць у карчму; ганак пусьцее*).

Ян Робежнэкс (*падыходзячы да Мартына Робежнэкса*). Ты-ж не пакінеш яго пад арыштам?

Мартын Робежнэкс. На жаль, мне прыдзецца гэта зрабіць.

Ян Робежнэкс. Але-ж гэта бязьлітасна! Маці хворая, Марыля так хвалюецца...

Мартын Робежнэкс. Дужа шкода. Але хай яна вып'е шклянку вады! Таварышы! у будынак таварыства! Я зараз прыду. (*Ідзе ў карчму; Ян, прыгнечаны, ідзе за ім*).

У натоўпе (*рух, хваляваньне, хутка абменьваюцца думкамі, асобныя выгукі*). Драгуны!.. А баронаў адпушчаюць на волю!.. Таварышы, на сход... (*Пачынаюць ісьці. Песьня: „Віхры варожыя“—абрываецца пасьля першага сказу; натоўп на момант змаўкае і слупянее, калі водаль выбухае залп*). Саркіс!.. Адным нягоднікам меньш!.. Ах, усё-ж ткі жудасна!.. Жудасны час!.. (*Ціха адыходзяць*).

Саймнэца[1]). Чуеш, стары, чаго яшчэ кукуеш! Трэба на сход ісьці!

Саймнэкс. На сход—так... Але ці-ж ты ня чула: драгуны ідуць! Я думаю, лепш трэба дахаты ісьці!

Саймнэца. Спакайней будзе—хто ведае...

Саймнэкс. Куды ты? Вар'ятка! Убачаць яшчэ! Тут—за рог; тут больш бясьпечна... (*Адыходзяць*).

---

[1]) Па ўсёй Латвіі, апрача Латгаліі, існуюць вялікія сядзібы, з зямельнай плошчай 80—100—200 і нават 300—350 дзесяцін. Гаспадары гэтых сядзіб завуцца „саймнэкамі“. Гэтыя сяляне зьяўляюцца фактычна маленькімі абшарнікамі, таму іх у Латвіі празвалі „шэрымі баронамі“. Яны складаюць найбольш моцную, у сэнсе экономічным, групу латвійскага сялянства і разам з тым, у сэнсе політычным, зьяўляюцца апораю латвійскае рэакцыйнае буржуазіі. (*Заўвага перакладчыка*).

Зьява трэцяя

*Карчма Лукста. Вялікі пакой. Даўгі стол, за ім каля сьцяны лавы. Яшчэ пара меншых тапчаноў. Пасярэдзіне пакою ў столі лямпа.*

Брэнсон (*вялікімі крокамі ходзіць па пакоі*).

Лапінь (*з Вімбам, каля дзьвярэй, знарок—палохаючы арыштаванага*). Гуляе цяпер пан лясьнічы! Няхай яшчэ пагуляе! Нямаведама, калі расстраляюць?

Вімба. Гэта невядома. Як камітэт ухваліць. Я так мяркую—што зранку.

Лапінь. Заўтра? Невядома, ці будзе заўтра час. Заўтра трэба будзе страляць тых, што ад учорайшага дня асталіся.

Вімба. Ну, што там—невялікая справа. Да хвоі і бац! Мука гатова! (*Абодва пераміргваюцца і ўсьміхаюцца, назіраючы Брэнсона*).

Брэнсон (*прыкідаецца спакойным, нібы гэта яго зусім ня тычыць*). Здорава тут напалілі. Проста прэеш.

Лапінь. Так, дроў, дзякуй богу, даволі. Ня так, як было пры панох.

Брэнсон. Ці-ж тут доўга трымаюць?

Лапінь (*як знаўца, з пыхай*). Як каго. Покуль дойдзе чарга. Але табе, я думаю, доўга чакаць ня прыдзецца.

Вімба. Го-о! З Брэнам справа кароткая. (*Перамігваюцца і ківаюць адзін-аднаму*).

Брэнсон (*яшчэ пахадзіўшы*). Пане... Не магу я папрасіць шклянку вады?

Зарэнс (*абросшы валасамі, лахматы, злы і маўклівы, вядзе Мэйера; сам спыняецца каля дзьвярэй*). Садзіся і чакай, пакуль паны прыдуць.

Лапінь. Уга. Яшчэ адзін таго-ж гатунку!

Мэйер (*Брэнсону*). Вы тут?

Брэнсон. І вы таксама!

Мэйер. Я думаў, што вы з баронам...

Брэнсон (*гестамі спыняе яго*).

Вітал (*уваходзіць, як начальнік*). Ага! Цяпер абодва яны ў нас тут. (*Варце*). Што вы ліпнеце ўсе ў кучу? Што гэта за варта? Адзін хай стаіць каля вакна.

Лапінь. Глупства! Вакно зачынена вакяніцамі, праз яго ня выскачыць.

Вітал. Не размаўляць! Я тут кіраўнік, ці ты? Значыць: Лапінь да вакна, Вімба і Зарэнс каля дзьвярэй. Станавіся!

Лапінь (*бурчыць, ідзе*). Камандзір...

Мартын Робежнэкс (*заходзіць; з ім усхваляваны Ян*). Вам, грамадзяне, прыдзецца трохі пацярпець. Цяпер ня маю часу вас дапытваць. Праз пару гадзін, калі сход у таварыстве скончыцца.

Мэйер (*абражаны*). Я ўсё-ж ткі прасіў-бы...

Мартын Робежнэкс. Мяне прасіць няма чаго. Я раблю, што магу. Вы тут будзеце чакаць двое, а там чакаюць дзьве тысячы. Пару гадзін, і я зьвярнуся.

Ян Робежнэкс. Дзеля радні мог-бы ты крыху папрацаваць.

Мартын Робежнэкс. У мяне тут няма радні. Мая радня—усе тыя, хто з рэволюцыяй, хто з народам. Іншых я ня ведаю.

Ян Робежнэкс. Пастара і барона адпусьціў, бацьку мае жонкі трымаеш тут.

Мартын Рабежнэкс. Я ня маю замеру трымаць іх тут бясконца. Мне патрэбна толькі высьветліць, якім чынам адзін атрымлівае пісьмы ад барона і чаму другі схаваў стрэльбу пад пярыну. Заўтра ўсё высьветліцца.

Брэнсон. Заўтра?.. Але-ж вы толькі-што тут казалі, што праз пару гадзін...

Мартын Робежнэкс (*злуе*). Вы мне тут тэрмінаў не вызначайце! Вы—ва ўсякім разе не! Наогул, мне здаецца, што ў вас будзе яшчэ час і заўтра і пасьлязаўтра.

Лапінь (*звонку*). Таварыш Робежнэкс. Са сходу прыслалі каня і сані. Цябе чакаюць.

Мартын Робежнэкс. Зараз.

Ян Робежнэкс. Але, Мартын... Марыля хвалюецца...

Мартын Робежнэкс. Я табе скажу раз назаўсёды: не блытайся ты тут пад нагамі! Ідзі дахаты і кладзі сваёй жонцы сьцюдзёныя кампрэсы. Пішы вершы ў часопісы. Гэта твая справа.

Лапінь. Мо' мне астацца з гэтымі?

Мартын Робежнэкс. Не, ты там патрэбен. Нам прыдзецца запісваць паведамленьні дэлегатаў і пастановы раённага камітэту. Лапінь, Зарэнс і Вімба астануцца вартаўнікамі. Ты, Вітал, паедзеш з намі.

Вітал. Добра, таварыш Робежнэкс!

Мартын Робежнэкс. Вы тутака пільнуйце добра. Сваімі галовамі адкажаце. (*Усе трое выходзяць*).

Лапінь (*сьмяецца*). Ня турбуйцеся. З маіх капцюроў мыш не ўцячэ. (*Яну*). Ну, настаўнік, чаго вы яшчэ чакаеце?

Ян (*зусім разьбіты*). Я думаю, таварышы, пана Мэйера вы дармо трымаеце. Ён нічога не зрабіў. Усёроўна яго заўтра выпусьцяць.

Вімба. Ну, калі пусьцяць, дык і пойдзе да свае мадамы зноў.

Ян. Але яго кундзэ хворая. Я думаю таварышы...

Лапінь. Тут табе няма чаго думаць.

Вімба (*пагардна сьмяецца*). Разумнік! Што ён выабразіў!

Лапінь (*стукае прыкладам стрэльбы аб падлогу*). Настаўнік! Выходзь самахоць!

Мэйер (*са зьнявагай*). Ну ідзі-ж! Усёроўна цябе тут ніхто ня слухае.

Ян (*у роспачы*). Ты не хвалюйся. Заўтра я пагутару з Мартынам. Няўжо-ж будзе зьверам...

В і м б а (*стукае прыкладам*). Начальніка не чапай! Наогул тут няма чаго размаўляць. (*Адчыняючы дзьверы*). Калі ласка!

Я н. Добрай ночы, таварышы! (*Выходзіць*).

З а р э н с. Бач, які!

Б р э н с о н (*Мэйеру*). Няма чаго казаць, добрую радню сабе нажылі.

Л а п і н ь. Не размаўляць! Тут ня рынак. Упраўляючы, зьнімі сваё футра. Якую хвілінку прыдзецца тут затрымацца.

М э й е р (*скідае хутра, кладзе на лаву; потым кладзецца на яго*).

Б р э н с о н (*зьнімае сваё, кладзе на тапчан*). Тут будзе досыць добра спаць. (*Увесь час спадцішка назірае варту*).

В і м б а (*садзіцца на лаву*). Ідзі шавец, чаго там стаіш! Вакно зачынена, нікуды не ўцячэ.

Л а п і н ь. Куды-ж яны ўцякуць. Хай паспрабуюць скрануцца! (*Трасе стрэльбаю да арыштаваных, ідзе садзіцца на другім баку*).

В і м б а. Вітал... Вітал мне не камандзір. Я слухаю толькі Робежнэкса.

Л а п і н ь. І як камітэт. Мы пад загадам камітэту.

В і м б а. Камітэту? Патруль мы, у нас сваё начальства.

Л а п і н ь. Не кажы глупства! Патрулі і начальнік—усе пад камітэтам.

В і м б а. Як—пад камітэтам? Што камітэт? Калі я хачу, я зусім яго не прызнаю і канец.

Л а п і н ь. Камітэту не прызнаеш? Вось дык міліцыянэр! Ну, а хто цябе корміць? Хто табе патроны дае? Хто толькі-што загадаў Брэнсона арыштаваць.

Б р э н с о н (*падлізваючыся*). Зразумела камітэт, пане. Лапінь кунгс таксама быў з імі.

Л а п і н ь. Ну, што я кажу!

В і м б а. Лепінь кунгс... У мяне тут няма кунгсаў. Наогул больш няма паноў. А ты, браце, не мяшайся, калі цябе ня пытаюць. Кладзіся лепш на вуха і сьпі. Так час хутчэй пройдзе.

Б р э н с о н. І я гэтак думаю, пане.

Л а п і н ь (*выцягнуў бутэльку гарэлкі*). Ці ёсьць у цябе яшчэ які кавалак хлеба?

В і м б а (*шукае*). Хлеб ёсьць, вяндліны ні кавалачка. Пракляты Мэйер, сёньня зноў нічога ня прыслаў.

Л а п і н ь (*пакаштаваўшы*). Гэта не такая смачная, як тая сёньня зранку. Мо' таму, што ня еў, ці ў мяне ў роце горка.

В і м б а. Не разважай, пі, пакуль яшчэ ёсьць. Гэта і яшчэ адна, тады канец. Шкода, што яшчэ парачку не падабраў.

Л а п і н ь. Дурны ты быў. Па-праўдзе кажучы, усе аднолькавыя. Гэткае дабро выліваць. Усёроўна на народныя грошы выгнана.

В і м б а. А потым? Дазволіць, каб перапіліся? І так ўжо некаторыя ледзь у агонь ня трапілі. Ледзь паміж сабой не пабіліся.

Лапінь (*п'е і закусвае*). Эх!.. Ведаеш, я па натуры ня п'яніца. Але час-часом шаўцу патрэбна. Для цяплыні. Адразу ногі робяцца рухавейшымі.

Вімба. Зарэнс, на глыні і ты трошку.

Зарэнс (*відавочна спакушаны*). Ня ведаю ці можна. Каб Робежнэкс не даведаўся.

Вімба. Ах, Робежнэкс! Чаго вы яго баіцёся. Мы патрулі, у нас свой начальнік. Ну, цягні, калі табе кажуць!

Брэнсон (*шэптам*). Слухайце, паны, — ці не астанецца лішняй чарачкі?

Лапінь (*вырывае ў Вімбы бутэльку*). Чаго яшчэ трэба! Даволі ты цягнуў розных шампанскіх, фруктовых і ліманадаў, а мы павінны былі піць чыстую вадзічку.

Брэнсон. Гэта праўда. Бывала выпівалі. Але цяпер так хочацца язык памачыць.

Вімба (*дакрануўшыся да таварыша*). Слухай, дай яму, хай вып'е лясьнічы. У аду Абрам усёроўна ня будзе яму язык змочваць. (*Абое сьмяюцца, Брэнсон таксама*). Ну, ідзі сюды! Ня думай, што да цябе пойдзе.

Брэнсон (*выпіўшы*). Дзякую паны. А ці няма аднэй зусім цэлай? Нас двое, і ночы тут, здаецца, даўгія. (*Выцягвае з кішэні крэдытку*).

Лапінь. Ну, зразумела, так ужо ня будзе, як пад пярынай у мадамы. (*Сьмяецца*). Слухай, Вімба, дай яму гэту адну. Хай пацешыцца лясьнічы перад сьмерцю.

Вімба (*выцягвае бутэльку, але потым ідзе паглядзець, ці зачынены дзьверы*). Калі будзе ад кожнага па пяцёрцы, дык атрымаеш.

Брэнсон. Будзе. Цяпер пяцёрка туды, або сюды. (*Дастае і дае грошы, бутэльку хавае ў футра*). Дзякую, паны.

Лапінь (*пазяхае*). Я думае так: чаго мы ўсе трое будзем тут мучыцца. Цяпер хай стаіць Зарэнс, потым ты, а затым я. Усе па-чарзе. Падрэмлем паўгадзінкі. Тую ноч амаль ня спалі. (*Садзіцца каля печы*).

Вімба. Але, так можна (*Садзіцца*). А што ты там робіш Брэнсон? Кладзіся на лаву. Дурыць ты ня зьбірайся ў мяне!

Брэнсон. Ды не, паны,—чаго аб гэтым гутарыць! Я зараз.

Лапінь. Праз поўгадзіны ты яго разбудзі. І глядзі!

Зарэнс. Ня вучы мяне. Я тут—як цьвік! (*Набівае люльку*).

Брэнсон (*заўважыўшы, што тыя заснулі, устае, футра пакідае*). Ня ведаю, што гэта такое, зусім ня хочацца спаць.

Зарэнс. Высьпішся потым. Цяпер у цябе будзе час. Паляўнічых ня прыдзецца лавіць болей.

Брэнсон. Навошта-ж цяпер болей. Цяпер лес належыць народу. Цяпер усё народнае. Ці няма ў цябе ножыка?

Зарэнс. Прыдумаў... Нож яму!

Брэнсон. Ды не. Я толькі хацеў пляшку адкаркаваць. Рот сухі, як печка.

Зарэнс. Так, кідае ў жар у гэткіх абставінах, гэта праўда. Ну, давай сюды, я адкаркую. (*Адкаркоўвае*).

Брэнсон (*п'е*). Так, адразу лепш робіцца. Хто-б мог падумаць, што ў белай можа быць гэткі смак.

Зарэнс. А як-жа! тады-ж былі ўсякія ліманады.

Брэнсон. Так, гэтыя добрыя часы мінулі.—Але тут нібыта цягне. Мо' тыя дзьверы адчынены?

Зарэнс. Куды лезеш? (*Адпіхае яго. Праз дзьверы лепш і не спрабуй. Нам загадана: як толькі хто што—баўкс!*).

Брэнсон. А! Вось як строга. Я гэтага ня ведаў. (*П'е*). Ну, як Зарэнс? Глыні і ты. На мае, як той казаў хаўтуры.

Зарэнс (*змагаецца са спакусаю, пазіраючы на пляшку*). Чорт... нібыта і можна... (*Чухае патыліцу*). Але, каб не пабачылі...

Брэнсон. Ат, што—глупства! Тут-жа нікога няма. (*Дае бутэльку і садзіцца на лаўку*).

Зарэнс. Але толькі ты нікому ні гугу! Ведаеш, у нас цяпер строгі парадак—баўкс! і мука гатова!

Брэнсон. Ну, вядома! Цяпер-жа ня так, як за панамі! Ну—яшчэ глытні, на тыя-ж мае хаўтуры. (*Нагой падсоўвае тапчан да Зарэнса*).

Зарэнс. Ну, хай будзе тады за тваё здар... Цьфу ты! Язык нешта заблытаўся! (*Сьмяецца і п'е*).

Брэнсон. Хто-б гэта мог падумаць, Зарэнс, як часы зьмяняюцца. Ці памятаеш ты яшчэ, як у мяне ў Лікшанах канавы капаў? Пятнаццаць капеек за сажань—добра зарабіў, ці так?

Зарэнс (*весялей*). Так, і на балоце за 25 капеек. (*Не заўважаючы, садзіцца*). Але там ты садраў з мяне чатыры сажні.

Брэнсон. Ці-ж я садраў? Барон. Таму, што ты той вялікі камень пакінуў у самай сярэдзіне.

Зарэнс. Барон... Але пасьля таго, як ты на гэтай пісульцы так напісаў. Ці ведаеш, драў ты з мяне даволі?

Брэнсон (*прыкідаючыся, нібы сам п'е, прысьпешвае выпіваць і гаворыць*). Ці-ж я што мог—гэткі-ж слуга маёнтку.

Зарэнс (*трымаючы стрэльбу паміж кален, круцячы ў руках бутэльку*). Гэта праўда. Драць вы ўмелі, але затое ў мяне заўсёды была праца. Я лепш на пяць капеек таней, чым швэндацца нямаведама дзе па чужых валасьцёх.

Брэнсон. Ну, вось бачыш. Мы яшчэ добра пажылі-б. Ці ня праўда, Зарэнс?—Ну, за тваё здароўе!

Зарэнс (*расчулена*). Што аб нас, пан лясьнічы! Я ў вас—сто год, і ні кроку. Мне—толькі-б праца і хлеб.

Брэнсон. Ну, вось бачыш! Скажы мне проста, Зарэнс: ці тады было лепш, ці цяпер?

З а р э н с (*чухае патыліцу*). Як вам адказаць, пане лясьнічы... Ня кепска і цяпер. Народ, так кажучы, свая міліцыя... Хлеб з маёнтку, мяса таксама. Але навошта было паліць манапольку? Без свае гарэлкі ўсёроўна далёка не паедзеш .. І тады, у мінулую ноч, амаль ня спаў—пакутуй тут зноў да раніцы.

Б р э н с о н. Правільна, Зарэнс. Страшэнна хочацца спаць. Лягу на вуха... Не, не—палажы гэту пляшачку тут-жа на подлогу—потым глытнеш яшчэ на мае хаўтуры. (*Ідзе і кладзецца спаць*).

З а р э н с. На вашыя хаўтуры—так. Адну можна. (*П'е, кладзе бутэльку на падлогу; пачынае драмаць*).

Б р э н с о н. А ты мяне штурханеш, калі твае паны прыдуць.

З а р э н с (*праз сон*). Паны... Вы, лясьнічы... Мы—сто год... Сто паноў... Драць вы ўмелі... (*Засынае*).

Б р э н с о н (*паволі ўстае, пераканаўшыся, што ўсе сьпяць, накідае футра, пасоўваецца да дзьвярэй, адчыняе і асьцярожна выходзіць*).

З а р э н с (*ад шолаху парухаўся*). Строгія парадкі... Баўкс... Гатова мука!.. Я... тут... як цьвік...

## ДРУГІ АКТ

### Зьява першая

*Сядзіба Гайленса. Вялікі пакой гаспадара. За адчыненымі дзьвярыма гудзе натоўп. Даўгі стол, пры канцы сядзіць Мартын Робежнэкс, сур'ёзны і хмурны.*

Г а й л е н с (*стомлены, але жартлівы; ідзе з другога пакою, садзіцца за стол*). Калі вы другім разам будзеце рабіць тутака рэвалюцыю, дык вазьмеце з Рыгі ўсе патрэбныя ўстановы. Патрэбна бюро інформацыі. Падрыхтоўчая кляса соцыялізму. Пагаджальная камера. Соцыяльнае забесьпячэньне. І суд—у кожным разе грамадзянскі і крымінальны. Чаму вы ўсё складаеце на старшыню Выканаўчага камітэту?

М а р т ы н Р о б е ж н э к с (*паціскае плячыма*).

Г а й л е н с. Сёньня з пяці гадзін я ўсё тутака і не магу скончыць. Дваццаць пашлі, а трыццаць на іх месца прышлі.

М і х а л В і р з а (*з другога пакою*). Пусьцеце, людцы!.. Мне трэба да начальніка. (*Праціскаецца; на ім падпяразаны кажушок, пасталы, кій у руце*). Ну, дзень добры паны! (*Да Мартына*). Вы пан начальнік ці хто?

Г а й л е н с. Чаго табе трэба?

М і х а л В і р з а (*аглядаючыся*). Бачыце, паны, у мяне тутака адна справа. Я тутэйшы, з забалотнікаў, Міхал Вірза. Я той, што робіць лыжкі і пляце кашолкі... Але яго, здаецца, тутака няма.

Г а й л е н с. Каго ты шукаеш?

М і х а л В і р з а. Свайго Пятрука, каго-ж яшчэ? Мне сказалі, што ён тутака служыць.

Гайленс. Тады, відаць, цябе ашукалі. У нас тутака ніякай службы і ніякіх служачых няма.

Міхал Вірза. Мне сказалі, што ёсьць. Калі ведаеце, скажэце. Толькі адзін у мяне сын. Заўсёды сумленна працаваў у таго-ж нашага гаспадара, але з вясны пачаў швэндацца па ваколіцах. Нанач яшчэ прыходзіць, але зранку, чуць золак, зноў ідзе. Саркіс два разы шукаў—што я ведаю... Кажуць: у соцыялістыя запісаўся, другія,—што тутака, у вас...

Гайленс. Ідзі дахаты, твой Пятрук сам будзе ведаць аб сабе.

Міхал Вірза. Аб сабе—так. Але аба мне? Семдзесят другі год. Дакуль-жа я буду лыжкі скрабаць? Вочы цямнеюць, рука дрыжыць. А ў прытулак ня хочацца—а-ёй, як ня хочацца, паночкі!

Гайленс. Ці-ж за гэтых семдзесят два гады ты нічога сабе не зарабіў?

Міхал Вірза. Зарабіў? Вось гэта! (*Трасе кіёк*). Пяцьдзесят рублёў назьбіраў, даў пастару завезьці ў Рыгу, пакласьці на процанты. Але зараз няма ні пастара, ні маіх грошай.

Мартын. Нічога, Міхал Вірза, ня сумуй. Сам пабачыш. Дастанем усё тое, што ў пастара накоплена, тое, што ў барона, а таксама і тое, што ў саймнэкаў. З усімі процантамі. На твае жыцьцё хопіць.

Міхал Вірза. Колькі-ж мне, старому, будзе патрэбна? Але нічога ня будзе, не кажэце мне. Я ў сваім жыцьці шмат чаго бачыў. Ня ўтрымаецца гэтая новая ўлада, будзе канец. Наш камітэт ужо сёньня зранку выехаў.

Мартын (*пераглядваецца з Гайленсам*). Выехаў? Куды?

Міхал Вірза. Хто казаў—у Рыгу, хто—у Лібаву. Што я ведаю... Драгуны нібыта ўжо ў Стукманях.

Мартын. Гэта мы ведаем. (*Гайленсу*). Ня маюць сілы ўжо ніякія загады—яны ўцякаюць ад аднае чуткі. (*Да бацькі, які праціскаецца ў пакой*). Чаго хочаш, тата?

Стары Робежнэкс (*сівы, згорблены, але строгі*). Чаго я хачу? Я хачу атрымаць свае грошы. Мне яшчэ не заплочана за тое, што прывёз лясьнічага.

Гайленс. Ах, што ты, Робежнэкс! Ты-ж бачыш, што мне зараз няма часу.

Стары Робежнэкс. Так,—бунтавацца, маёнткі паліць, на гэта ёсьць час. Ды вам што—вам соцыялістыя заплоцяць. Як прышлі, так і пойдзеце. Але хто за мой дзень заплоціць?

Рэснайс (*убягае; абодвы старыя, зайкаючыся адыходзяць да дзьвярэй*). Ці ня будзе разумней гэтую соцыяльную дапамогу пакінуць на потым? Цяперака трэба думаць аб сваёй скуры. І вам таксама, Гайленс.

Гайленс. Народ мяне выбіраў, я застаюся на месцы. Я ўзяў на сябе абавязкі і выканаю іх да канца.

Рэснайс. Я таксама.

Мартын Робежнэкс. Ты застаешся пры сваім.

Рэснайс. Пры тваім я ніколі не заставаўся. Твой пэрыод зараз канчаецца і пачынаецца мой. Гутаркі скончыліся і пачынаецца праца. (*Лапіню, які якраз уваходзіць*). Ну, як справы?

Лапінь (*цьвёрды, пераконаны, бадай вясёлы*). Дзьвесьце пяцьдзесят узброеных. Некаторых трэба будзе пусьціць дахаты, каб ня блыталіся пад нагамі. Дзесятак з маузэрамі.

Мартын Робежнэкс. Значыць, гэтых пяцідзесяці табе ўсё-ж не ўдалося здабыць?

Рэснайс. Не, але можна працаваць і дзесяцьма.

Лапінь. Драгуны зараз у Коплаве, папраўляюць разабраную чыгунку. Па паўдні яны могуць быць тутака.

Рэснайс. Да таго часу і мы будзем гатовы. Ты заставайся з імі, нам патрэбны і такія, якія могуць гармідар рабіць.

Лапінь. У нас ня толькі такія, што будуць гармідар рабіць. Двух з станцыённых служачых, сапсуюць рэйкі.

Рэснайс (*Гайленсу*). Пойдзеце з намі ці застанецеся тутака, покуль карная экспэдыцыя пачне спускаць па-адным? (*Робежнэксу Яну, які ўваходзіць*). Ну, як справы, пане настаўнік?

Ян (*нездаволены, знэрваваны*). Ня ідзе ні так, ні гэтак. Са ста пяцідзесяці вучняў у мяне ў клясе сёньня толькі сорак.

Рэснайс. Мала. Але затое вы ўжо сёньня зранку сьпявалі „божа цара храні“.

Ян. Скуль вы ўсё гэта адразу ведаеце? Бачыце, таварышы, гэта манэўр. Іначай нельга. Увечар драгуны прыедуць.

Рэснайс. Калі мы іх пусьцім. Дык як, пане настаўнік, ці не жадаеце маузэр? Адзін у мяне яшчэ ёсьць у запасе?

Ян. Не жартуйце цяперака. Што вы можаце зрабіць супроць рэгулярнага войска? Цяперака патрэбна зусім іншая тактыка.

Рэснайс. З божа цара храні і са съвятымі шапкамі? Вы пры гэтым застаецеся?

Лапінь. Значыць, мы ідзем займаць позыцыі. Ты ведаеш: паўтары вярсты за станцыяй, там, у ельнічку.

Рэснайс. Ведаю. Ідзеце і чакайце, я таксама зараз буду. (*Лапінь выходзіць*). Ці няма ў вас, грамадзянін старшыня выканаўчага камітэту, людзей? Цяперака мы можам іх выкарыстаць.

Мартын. Ты сапраўды вядзеш іх на пагібель.

Рэснайс. На барацьбу я іх вяду. У бойку, з чаго і трэба было ўсё пачынаць. Чаго ты яшчэ тутака? Чаму ты не сьпяшаешся назад у Рыгу? Ці-ж фэдэрацыйны камітэт усё яшчэ загадвае агітаваць за мірны пераварот і соцыялізм?

Мартын. Ня бойся. Я застануся столькі-ж, колькі і ты.

Зарэнс (*ломіцца ў дзьверы*). Пусьцеце! Я хачу сваю зброю.

Мартын. Чаго ты яшчэ тутака шукаеш?

Зарэнс. Аддайце, грамадзяне!

Рэснайс. Табе—зброю? Папытай лепш бутэльку манапалькі. Ты—стары п'яніца і нягоднік.

Зарэнс (*стрымліваючы сьлёзы*). П'яніца, так... Але нягоднік—не! Гэтага не кажэце! Аддайце мне маю зброю і я яго вам зноў знайду.

Гайленс. Каго ты хочаш знайсьці?

Зарэнс. Лясьнічага. Аддайце маю зброю і я вам ручаюся, што злаўлю яго. Слова гонару.

Рэснайс. Ты—Брэнсона? Ды ён-жа цябе ў рукавіцу ўцісьне. Нагой ён цябе растопча.

Зарэнс. Я яго знайду, калі я вам кажу. (*Трасе кулаком*). Другі раз ён ад мяне ня ўцячэ.

Мартын. Бачыш, Зарэнс. Мы табе даверылі самага небясьпечнага ворага, а ты дазволіў яму ўцячы. Цяперака ён напэўна ўжо ў Кокенгузэнскай карнай экспэдыцыі і складае сьпісак аб нас. Папраўдзе кажучы, ты ня толькі выпусьціў Брэнсона, але і здрадзіў усіх нас.

Зарэнс. Я—здрадзіў? Стары Зарэнс здрадзіў!.. (*Амаль ня плача*). Ніколі! Хай маю галаву зьнімуць з плеч!.. Толькі гэта чортава гарэлка... Пракляты, як ён мяне ашукаў! Але не, не дастане ніводнага, я гэтага не дапушчу. Толькі загадайце аддаць мне маю зброю.

Мартын (*Рэснайсу*). Ну, што там! Няхай аддадуць яму.

Рэснайс. Стары дурань! Ну, ідзі да Лепіня.

Зарэнс (*шчасьлівы*). Дзякую! Вы яшчэ пачуеце аб старым Зарэнсу. (*Выходзіць*).

Зэлтыня (*зграбная, грудзямі наперад; за ёй Поднэкс, таксама спрабуе быць спрытнейшым. Ян ад усяго пачутага робіцца ўсё больш знэрваваным*). Ну, як цяперака, Гайленс? Ці ня час ужо аддаць ключы?

Гайленс. Табе? Якія-ж ключы ты мне давала?

Поднэкс. Не жартуй, аддай самахоць. Бачыш-жа, што табе тутака не ўладарыць.

Зэлтыня (*вясёла*). Так, канец! Кароткая вышла радасьць. У іншых ужо мільгаюць пяткі. Ішлі сюды—толькі-што двух спаткалі.

Гайленс. Ніякіх ключоў і ніякай улады я ад вас не атрымліваў. Калі трэба будзе, я ведаю, каму аддаваць.

Мартын (*становіцца перад імі*). Зарана вы вылазіце са сваіх нор! Забыліся, што я вам сказаў у карчме Лукста? Ня блытацца пад нагамі, калі народ змагаецца за сваю волю! Я вас заганю так глыбока, што вы сьвету больш ня ўбачыце!

Рэснайс. Навошта яшчэ казаць гэткім казаньне! Давай мне іх Справа кароткая.

Ян. Таварышы!.. таварышы!.. Без гвалтаваньняў!

Рэснайс (*зьняважліва яго адсоўвае*). Не мяшайся,ануча!

Зэлтыня (*троху спалохаўшыся*). Ну, каб толькі потым ня прышлося пашкадаваць. У Мартынах і Калспаве казакі ўжо страляюць, як зайцоў.

Мартын (*зазлаваўшы*). І гэтага вы чакаеце і тут? Сьцеражэцеся, я кажу! Нашы тутака яшчэ не паржавелі. У апошні раз я вас папераджаю.

Зэлтыня (*цягне мужа за рукаў*). Пойдзем, што ты стаіш, як слуп! Ні ў цябе духу, ні языка. Баба, а не старшыня воласьці!

Поднэкс. Але ты-ж бачыш, што я тутака магу зрабіць... (*Абое выходзяць*).

Рэснайс (*у нястрыманым гневе*). Ці доўга яшчэ ты будзеш тутака займацца глупствамі? Можа і тым, што тамака з Кокенгузэну едуць, ты таксама зьбіраешся казаць прамовы аб волі, братэрстве і роўнасьці?

Мартын. Калі патрэбна будзе, і тым.

Рэснайс (*сьмяецца, потым паціскае плячыма*). Убогія рэвалюцыянэры! Партыйныя місіянэры старога закону! Іншага змаганьня яны не вызнаюць, як толькі языком. Заткнуць вам рот бізуны драгуноў і кулі казакоў...

Ян. Жудасныя рэчы апавядаюць аб тым, што робіцца ў Малене.

Мартын (*хмура*). У Малене... Хутка пабачым і тут.

Ян. Я не магу зразумець, мо' лепш было-б выехаць. Чорт мяне гнаў казаць гэтую прамову на могілках!

Рэснайс. Так, чорт многіх зводзіць. Трэба зраньня болей маліцца і ўвечары перажагнацца.

Ян. Ах, пакінь зьдзекі!..

Натоўп (*уваходзіць грамадой*). Ну, што, таварышы?.. Ці праўда, што драгуны ў Кокенгузэне?..

Мартын. Яшчэ бліжэй, чым у Кокенгузэне.

У натоўпе. А што цяперака будзе?..

Рэснайс. Тое, што павінна было быць у самым пачатку. Змаганьне будзе!

Мартын. Бязумоўна—змаганьне. Мы яшчэ ня ведаем, наколькі верна салдаты тутака служаць Міколе-крываваму, старому рэжыму і бальтыцкім баронам. Мы паспрабуем зьвярнуцца да іх з вольным агітацыйным словам, але зброю сваю будзем трымаць нарыхтаванай. Гэта будзе наша апошняе слова. (*Ідзе ўлева; Гаўленс за ім, за імі яшчэ некалькі ўзброеных*).

Рэснайс. Таварышы! я вам кажу, зброя—наша першае і апошняе слова. Не чакайце ніякае літасьці, каля абсац барона зноў будзе на вашай шыі. Бізун і куля—іх адказ на наша вольнае агітацыйнае слова. У мяне дзесяць маўзэраў і сто пяцьдзесят стрэльбаў, мы ідзем чыгункаю ім на спатканьне. Хто мае зброю і адвагу, хай ідзе з намі! (*Шпарка выходзіць; двое нерашуча выходзяць за ім*).

Натоўп (*застаецца ў замяшаньні і ў неразуменьні*).

Ян (*аглядаючыся, шэптам*). Лепш не хадзеце... Я не прадбачу нічога добрага... Цяперака патрэбна іншая тактыка... Ідзеце!.. (*Махаючы рукамі выходзіць у іншы бок; натоўп разьбіты, нерашуча выходзіць за ім*).

### Зьява другая

*Напоўпустое памяшканьне станцыйнага буфэту, слаба асьветленае аднэй сьвечкай. У глыбіні зусім цёмна,—там два драгуны ў кажушкох з вінтоўкамі каля дзьвярэй, як варта. На падлозе чалавек, у якім можна пазнаць Вімбу. На панадворку яркае асьвятленьне. Праз вялікія вокны з выбітымі шыбамі відаць паравоз з таварнымі вагонамі. Па пэроне бегаюць п'яныя драгуны з вінтоўкамі на плячах, ляскаюць бізунамі і крычаць. Іншыя, лаючыся, водзяць арыштаваных.*

Павал Сяргеевіч (*узлаваны, выпіўшы, але ўсё-ж ткі інтэлігент—сядзіць каля століка са сьвечкай; побач з ёй бутэлька коньяку з шклянкамі і цукеркі*). Вы гэты вучыцель?

Ян Робежнэкс (*шапка ў руках, скурчыўся; за ім варта*). Так, ваша міласьць, Ян Робежнэкс.

Павал Сяргеевіч. Пане барон Вольф! Калі ласка! Гляньце, ці той гэта, як ён кажа. (*Налівае і п'е*).

Барончык (*ходзіць каля варты ў глыбіні, выпіўшы, зухаваты, поўны гневу*). Зараз, Павал Сяргеевіч! (*Падыходзіць, аглядае, як якую жывёлу*). Так, гэта той-жа суб'ект.

Павал Сяргеевіч. Як вы казалі? Як вас завуць?

Ян. Робежнэкс, ваша міласьць, Ян Робежнэкс.

Павал Сяргеевіч (*углядаючыся ў паперу*). Ян... Ян... Вы не Мартын?

Ян. Не, ваша міласьць. Гэта мой брат.

Павал Сяргеевіч. А! таксама добра. А дзе цяперака ваш брат?

Барончык. Так, дзе цяперака твой брат?

Ян. Я ня ведаю, пане барон.

Барончык. Ах, ня ведаеш! Вось ты будзеш ведаць, калі табе дадуць бізуноў. Рабяты!

Павал Сяргеевіч (*рухам рукі спынее драгуноў*). Ці-ж ён тутака ня жыве?

Ян. Не, ён жыве ў Рызе.

Павал Сяргеевіч. А! у Рызе. У провінцыю ён выяжджае толькі рабіць рэволюцыю. Ну, знойдзем мы яго. (*Глядзіць у паперу; барончыку*). Чаму вы загадалі прывесьці гэтага?

Барончык. Як, Павал Сяргеевіч? Вы яшчэ пытаецеся? Гэта-ж брат Мартына Робежнэкса.

Павал Сяргеевіч. Але-ж гэта яшчэ не падстава,

Барончык. Але, Павал Сяргеевіч! Мартын Робежнэкс-жа павадыр усяе гэтае банды. Ня верце гэтаму, ён ведае, толькі брэша. (*Хоча кінуцца на Яна з кулакамі*). Ня лжы—ты!

Павал Сяргеевіч. Пане барон! (*Яну*). У нападзе на цягнік вы ня прымалі ўдзелу?

Ян. Не, ваша міласьць. Я быў у хаце—магу давесьці сьведкамі. І наогул са зброяй я ня ўмею абыходзіцца.

Сяргей Пятровіч. Але затое болей языком. Не кажэце, я вас ведаю.

Барончык. Бунтаўшчык, нягоднік, як усе! Хто прамову сказаў над магіламі забітых бандытаў? Чаму кнігі закону божага выкінуў са школы? Чаму вучням загадаў зьневажаць і закідаць гразёй пана пастара?

Ян (*склаўшы рукі*). Пане барон!.. Калі я гэту прамову... але-ж там ня было нічога супроць дзяржавы і закону!.. І што я мог зрабіць з вучнямі? У мяне больш ня было ніякага аўторытэту. З'агітаваны ўсе, як зьвярыны натоўп. Мяне самога выгналі з клясы коркамі, вымазанымі ў чарніла... Я магу сьведкамі давесьці... Пан Мэйер мой цесьць... Я поэта—я і мая група стаімо толькі за індывідуальную волю і арыстократыю духу... (*Вымае сшыткі з кішэні*). Тут наш часопіс. Пан барон можа пераканацца... Ваша міласьць можа пераканацца—тут я далучыў і пераклад...

Павал Сяргеевіч (*пагльядзеўшы на яго доўгім паглядам, адварочваецца з нездавальненьнем*). За тыдзень у мяне гэта ўжо чацьверты экзэмпляр латыскіх вучыцялёў. Мне здаецца, іх дзьве катэгорыі—рэволюцыянэры і дурні. Дурні і рэволюцыянэры. (*Налівае і п'е*).

Барончык (*шыпіць*). Здараецца, што гэтыя дзьве катэгорыі зьмяшчаюцца і ў адным экзэмпляры. А ўрэшце—гэта адно і тое-ж. (*Са злосьцю п'е*).

Павал Сяргеевіч (*Яну*). Вашу справу яшчэ дасьледуем. Вы застанецеся ў сваёй школе і будзеце працаваць па інструкцыях вашага начальства.

Ян (*надзвычай здаволены*). Я ўжо працую згодна іх, ваша міласьць. Са ўчарашняга дня.

Барончык. Вы-ж не хацелі яго адпускаць?

Павал Сяргеевіч (*адсоўваючы*). Дазвольце, пане барон... Заставайцеся ў сваёй школе і без дазволу нікуды не паедзеце. Зразумелі?

Ян (*радасна*). Зразумеў, ваша міласьць. Ні кроку! Даю вам слова гонару!

Барончык. Слова гонару! Які ў цябе, нягоднік, гонар!

Павал Сяргеевіч. Пан барон, ня ўмешвайцеся ў мае справы! (*Яну*). Ну, што-ж вы тутака яшчэ стаіцё! (*Стукаючы кулаком*). Ну, ідзеце-ж, калі вам гавораць! Чорт пабяры!

Ян (*шчасьлівы*). Дзякую вашу міласьць! (*Нізка кланяючыся, выходзіць; драгуны за ім*).

Павал Сяргеевіч (*з няпрыхільнасьці глядзіць усьлед*). Цьфу! Ідыёт! (*Налівае і п'е; нэрвова курыць*).

Барончык. І нягоднік! Чаму вы гэткага адпушчаеце?

Павал Сяргеевіч. Я ня бачу даволі падстаў, каб арыштаваць. (*Рухам рукі спыняе*). Дазвольце мне самому ведаць. Пан барн Вольф! Я прыкамандыраваны да пана фон-Гамэра, ня вы.

Барончык. Таксама як і я, Павал Сяргеевіч. (*Налівае і п'е; есьць цукеркі*). Ага! Цяперачка ідуць гэтыя сапраўдныя! (*Драгуны з гоманам упіхаюць Ганну і старога Вімбу*).

Ганна Стэйнбэргс (*адбіваючыся ад драгуноў*). Пакіньце, зьверы

Барончык (*накідваецца*). Што гэта баба яшчэ пішчыць? Дайце ёй раз! Навошта ў вас бізуны ў руках! Ну! падла гэткая! (*Трасе кулакамі перад яе вачыма, тая адсоўваецца назад, драгун пхае яе зноў ўперад*).

Павал Сяргеевіч. Даволі! Давайце сюды старога! (*Да Вімбы*). Як ваша прозьвішча!

Стары Вімба (*з ададраным рукавом, зьбіты, шапка ў руках*). Вімба, паночак... Андрэй Вімба...

Павал Сяргеевіч (*глядзіць у паперу*). Вімба...

Барончык. Гэта сам стары. (*Пхае яго да ляжачага на падлозе*). На, цягніся, глядзі, ці твой гэта сын!

Стары Вімба (*нагінаецца, хапаецца за галаву*). Во-ё-й, паночкі! Што вы з ім зрабілі?

Барончык. Ага! Цяпер ты выеш, як вол! Але калі ён спушчае цягнік з рэек і абстрэльвае войска, тады ты ня выеш! (*Хапае яго і трасе*). Проста стаяць, калі паны з табой гаворацьі (*Ставіць яго супроць афіцэра; вырывае шапку з рук і з нянавісьцю топча нагамі*).

Павал Сяргеевіч. Гэта ваш сын?

Стары Вімба. Ён... самы... (*Усхліпвае*).

Павал Сяргеевіч (*больш з сумам, чым са злосьцю*). Так. І гэткага толькі вы маглі выгадаваць? Рэволюцыянэра, бунтаўшчыка, падпальшчыка маёнткаў!

Стары Вімба. Паночак!.. Я ўзгадоўваў, як умеў. І па нясумленных шляхох ён ніколі не хадзіў. Злодзеем і забойцай ніколі ня быў. Але што я магу—гэткі цяперака час. Пачаў піць і сябраваць з гэтымі соцыялістымі.

Павал Сяргеевіч. Так. З якімі соцыялістымі?

Стары Вімба. Ці-ж я іх ведаю?

Барончык. Не мані ты, скаціна!

Павал Сяргеевіч. Дзе Мартын Робежнэкс?

Стары Вімба. Я не ведаю, пане.

Барончык. Павал Сяргеевіч, загадайце-ж, каб хлопцы адкрыл яму рот.

Павал Сяргеевіч. Ня вучэце, я сам ведаю. (*Нешта адзначае ў паперы*). Хай падыйдзе гэта жанчына! (*Драгуны адцягваюць убок зьняможанага Вімбу і кідаюць яго да сьцяны; іншыя падпіхваюць Ганну, якая злосна ўпіраецца*). Ганна Стэйнберг? (*Тая маўчыць*). Ведаеце вы гэтага (*глядзіць у паперы*)—Вімбу? (*Стукае кулаком*). Адказвайце-ж калі вас пытаюцца!

Барончык. Даць! Даць ёй! Тады яна салаўём засьпявае.

Ганна. Малпа!

Барончык (*падскоквае*). Што? Што ты сказала?

Павал Сяргеевіч. Перастаньце, барон! А вы — прытрымайце язык за зубамі.

Ганна (*становіцца плячыма да барончыка*). Што вы хочаце ад мяне?

Павал Сяргеевіч (*усьміхаючыся*). Вы адважная дзяўчына! Гэта ваш каханак?

Ганна. Мой жаніх.

Павал Сяргеевіч. Як вы сказалі?

Ганна. Мой жа-ніх!

Павал Сяргеевіч (*глядзіць на барончыка і ўсьміхаецца*).

Барончык (*дражнячы*). Жа-а-ніх... Так, за стогам саломы! На капе сена. (*Агідна сьмяецца, сьмяецца і Павал Сяргеевіч, драгуны рагочаць, таксама і тыя ўглыбіні*).

Ганна (*нібы паміж зьвяроў, нібы ацепаецца ад усіх наўкола*). Гады!.. Гады!

Павал Сяргеевіч (*зноў сур'ёзна*). Вы швачка?

Ганна. Так!..

Павал Сяргеевіч. Паміж іншым, гэтыя чырвоныя сьцягі таксама вы пашылі?

Барончык. Гэтыя чырвоныя анучкі ў бярозах на могільніку і на тэлеграфных слупох?

Ганна (*упарта маўчыць*).

Павал Сяргеевіч. Ну, гэта зусім ясна! Вывесьці гэтых абаіх і пільнаваць, пакуль тыя іншыя прыдуць.

Барончык (*да драгуноў*). Добра пільнуйце—і асабліва гэту—маладую. І так, каб ёй ня было маркотна. І так, каб холадна ня было без свайго жаніха... (*У садыстычным захапленьні, сьмяючыся, абдымае апошняга драгуна і па-сяброўску ідзе з ім да дзьвярэй. Звонку чуваць яшчэ зьдзекі п'яных, бессаромныя выгукі і змаганьне Ганны*).

Павал Сяргеевіч (*апускаючыся ў крэсла*). Брыдка!.. (*П'е дзьве шклянкі адна за аднэю*).

Барончык (*вяртаючыся*). Што вам брыдка, Павал Сяргеевіч? Ці не пачынаеце вы яшчэ шкадаваць гэтых нягоднікаў?

Павал Сяргеевіч. Я тутака, не шкадуючы і ня судзячы. Мне даручана арыштаваць рэволюцыянэраў і я гэта раблю. Але гэта даручэньне брыдкае.

Барончык (*паціскае плячыма*). Першы раз чую, што афіцэр расійскае арміі гэтак думае аб сваёй службе.

Павал Сяргеевіч. Ня вучэце мяне службовым абавязкам, барон! Я сам верны падданы яго імпэратарскае вялікасьці і памешчык старэйшага роду, чым вы. Расійская армія і яе афіцэры пакляліся абараняць пасад і бацькаўшчыну ад ворагаў,—але што гэта тут нам за ворагі?

Барончык (*як ужалены абапёршыся кулакамі аб стол*). Яны лютыя ворагі нашы і нашага імпэратара. Нашы замкі ў руінах, наша маемасьць зьнішчана, бясцэнныя колекцыі мастацтва і крыніцы веды разбураны, мы самі ўцякаем і хаваемся, як лясныя зьвяры пры паляваньні. Ворагі! Гэтыя банды сялян горш за гунаў і манголаў!

Павал Сяргеевіч (*стомлена*). Я ня ведаю. Я тут толькі тыдзень. Але вы тутака жывяце і ўладарствуеце ўжо семсот год. Вы самі хваліцеся ўсяму сьвету сваёй культурай. Скуль-жа ўзяліся адразу гэтыя гуны і вандалы ў вашым краі?

Барончык (*дрыжучы*). Адразу! Патроху і сыстэматычна вы самі іх ўзгадавалі. Вы зьнішчылі нямецкую царкву і школу, якія іх стрымлівалі моцнымі рэлігійнымі аброцямі. Са сваіх расійскіх школ вы прыслалі нам соцыялістых, якія цяперака падбухторваюць, разбурваюць і зьнішчаюць ўсё. І, нарэшце, вы адабралі ў нас адміністрацыйную ўладу, якая патрэбна, каб трымаць гэты дзікі народ пад уладай. І зараз нам пасылаюць афіцэраў, якія ўжо ў першы вечар робяцца сантымэнтальнымі і забываюць свае простыя абавязкі...

Павал Сяргеевіч. Пакіньце свае навучаньні сабе, барон Вольф! Я тут не на тое, каб весьці з вамі дыспут па пытаньнях гісторыі і культуры. (*Аглядваецца і ўздрыгвае*). Навошта вы загадалі прынесьці сюды гэтага расстрэленага? Ці не жадаеце вы яшчэ зрабіць з мяне вартаўніка нябожчыкаў?

Барончык. Не, але для пагрозы гэтым бандытам і тым, што страляюць у вагоны. Заўтра гэту падлу можна будзе закапаць тут-жа, каля станцыйнага паркану. Толькі няхай кажух і боты хлопцы з яго зьдзяруць...

Павал Сяргеевіч (*прыслухоўваецца да гоману за дзьвярыма*). Там здаецца яшчэ нехта. (*Стомлена сядае*).

Стары Робежнэкс (*у падранай вопратцы, боты ў гразі, бяз шапкі, няпрытомна хістаецца; упіхваюць два п'яныя драгуны*).

Драгун. Тут стой, сабака! Спакойна стаяць ня можаш?!

Другі драгун (*дае яму па карку*). Сукін сын!

Павал Сяргеевіч (*зноў ускаквае*). Хто гэта такі? Я яго не загадваў арыштаваць.

Драгун. Так точна, вашбродзьдзе! Але пан барон.

Барончык. Гэта стары Робежнэкс. У яго гнязьдзе вырасьлі гэтыя самыя злыя зьмеі. Прызнавайся, стары сабака! Ты быў тым, хто павёз

пана Брэнсона ў карчму Лукста? Дзе зараз хаваецца твой нягодны сын Мартын?

Стары Робежнэкс (*у ачмурэньні стараецца што-небудзь разгледзець і зразумець, адкрывае рот і выгуквае нейкі незразумелы гук*).

Павал Сяргеевіч. Скажы, што вы з ім зрабілі?

Драгун (*высkаляючыся*). Так точна, ваш... бродзьдзе! Ён не хацеў ісьці.

Другі драгун (*таксама высkаляючыся*). А мы яго вяровачкай да сядла!

Драгун. І трошку падганялі.

Другі драгун. Так, нагаечкай.

Барончык. Дзе твой сын хаваецца.

Стары Робежнэкс (*зноў адкрывае рот і нешта выгуквае*).

Барончык (*падскакваючы, размахваючы кулакамі*). Ты мне гэта скажаш! Ты мне гэта зараз-жа скажаш! Або я табе зубы выб'ю! Галаву я табе адкручу.

Павал Сяргеевіч (*устаўшы, адцягвае яго назад*). Даволі, барон! Тут ня бойня і не скуралупня. Зараз-жа завезьці яго назад дахаты! Каня ў развалкі і дахаты! Зразумелі?

Драгун (*хістаючыся*). Слухаемся, вашбродзьдзе.

Барончык. Але, Павал Сяргеевіч!..

Павал Сяргеевіч. У развалкі—і дахаты! (*Ідзе назад, схапіўшыся рукой за галаву, падае ў крэсла*).

Драгун. Слухаем, ваш... бродзьдзе.

Барончык (*памагае выштурхнуць старога Робежнэкса*). У лясочак вы яго, старога чорта!

Драгун (*сьмяецца*). Ведаем самі!

Павал Сяргеевіч (*п'е, доўга глядзіць на барончыка*). Страшныя вы людзі, бальтыцкія бароны. Як вы пасьля гэтага яшчэ думаеце жыць з гэтымі сваімі сялянамі? Усіх іх мы ўсёроўна не перастраляем.

Барончык. Сотню за кожны спалены маёнтак, дзьве сотні за кожнага забітага барона. Гэта была-б справядлівая компэнсацыя! (*П'е, кладзе ў рот адразу цэлую жменю цукерак і жуе*).

Павал Сяргеевіч. Кіньце грызьці, барон! Вы здольны зрабіць чалавека нэрвовым. Падобна на тое, што вы костку грызяце.

Барончык. Дапраўды, у вас слабыя нэрвы, Павал Сяргеевіч! Мой коньяк робіць на вас зусім іншае ўражэньне, чым на вашых драгуноў. Ці не перайсьці нам на шампанскае? Адзін склеп у маёнтку гэтыя сьвіньні ўсё-ж ткі не знайшлі. Ключы, праўда, у таты, але мы высадзім дзьверы. У гэткім экстраным выпадку ён злавацца не будзе.

Павал Сяргеевіч. Ці ёсьць там у маёнтку дзе спыніцца?

Барончык. Я казаў, што дом камісара цэлы. Не клапацецеся, я паруплюся аб усім. Толькі я вас буду прасіць дзейнічаць троху энер-

гічней. Пасьля гэткага бясстыднага нападу на цягнік варта было-б чалавек дваццаць пяць палажыць на месцы.

Павал Сяргеевіч. У вас апэтыт Ганібала, пане барон. Але спачатку трэба злавіць гэтых нападаўшых.

Барончык. Якія яшчэ цырымоніі вы прыдумалі з імі! (*Паказваючы на сярэднія дзьверы*). Там іх поўны пакой — гэтых нягоднікаў — проста загадайце палову з іх адвесьці тут-жа ў хвойнік. Поўнамоцтвы вы маеце!

Павал Сяргеевіч. У мяне яны ёсьць, але я з імі не адыгрываю тутака ролю вашага лёкая, пане барон. Я іх арыштаваў і загадаю адвесьці ў склеп маёнтку. Заўтра прыедзе пан фон-Гамэр, хай ён тады што робіць.

Барончык. Ну, я пэўны, што пан фон-Гамэр будзе рабіць зусім інакш. Цяперака тут ня варта навучаць моралі, а трэба даць гаварыць бізуну і кулі.

Павал Сяргеевіч. Яшчэ раз паўтараю, пане барон,—я вам ня лёкай. Значыць зараз у маёнтак! (*Устае*). Восіпаў!

Драгун (*звонку*). Што загадаеце, ваша ...бродзьдзе?

Павал Сяргеевіч. Майго каня.

Драгун. Слухаю, ваш... бродзьдзе (*Выходзіць*).

Павал Сяргеевіч. А вы, пан барон, пакажаце ім дарогу ў маёнтак. (*Выходзіць*).

Барончык. Будзе зроблена, Павал Сяргеевіч. (*Кідаецца да дзьвярэй у глыбіні, адчыняе*). Вон! Уся! банда! (*Як шалёны ад злосьці, топча нагамі, трасе кулакамі, тупае*). Вон, я кажу! Цягнецеся хутчэй! Ганеце гэта быдла! (*Драгуны выганяюць арыштаваных мужчын, жанчын, падлеткаў; некаторыя ў падранай вопратцы, зьбітыя, у іншых рукі зьвязаны*). Глядзеце за імі! Калі хто паспрабуе ўцякаць — страляць! Галовы вышэй, нягоднікі! Ногі разам падымаць! Марш! Раз! Два! (*Размахваючы рукамі, камандуючы, выходзіць сам з імі. Расстрэлены Вімба застаецца адзін*).

### Зьява трэцяя

*Канцылярыя ў валасным будынку. Стол накрыты чырвоным сукном, на ім арол. На сьценцы партрэт Мікалая II у цяжкай пазалочанай раме. Народ з воласьці—мужчыны, жанчыны, падлеткі, з непакрытымі галовамі, перапуджаныя ціха шэпчуцца.*

Вільдэ (*надзьмуты, злы і з пагардай да натоўпу, урачыста папраўляе настольнік, з бясконцай баязьлівасьцю датыркаецца да арла, папраўляючы яго*). Ня лезьце так блізка! Болей да сьцен, калі паны прыдуць.

Людзі (*палахліва ціснуцца да сьцен; ціхія ўздыханьні, усхліпваньні, жанчына з дзіцём на каленах садзіцца і ўздыхае*).

Вільдэ. Не гарланіць! Тут не карчма!

Мужчына. Пане Вільдэ! Будзьце ласкавы, пагутарце вы з панамі!

Вільдэ. Я? Што я вам? Вы-ж мяне ня выбралі. Няхай-жа гутарыць Лепіньш! Вы-ж яго выбралі замест мяне.

Другі. Не ўспамінайце-ж ліхам, пан Вільдэ.

Трэці. Я супроць вас не галасаваў, пане Вільдэ.

Першы. Ах, ты не! Ты-ж праз увесь час хадзіў разам з гэтымі соцыялыстымі.

Трэці. Я? З соцыялістымі! Але хто-ж быў першым забастоўшчыкам?

Вільдэ. Усе аднолькавы. Цяперака вас навучаць парадку!

Жанчына з дзіцём. Пане пісар!.. Ці ня можна папрасіць шклянку вады з вашай кухні.

Вільдэ. Можаш напіцца ў хаце.

Зэльтыня (*ганарыста і самаўпэўнена*). Старшыня валасьці, я табе кажу, не шкадуй нікога. Усіх хто з цябе зьдзекваўся!

Поднэкс (*з старшынскім ланцугом на шыі, хоча трымацца адважна, але відавочна разьмяк*). Чаго я тутака буду з імі разьлічвацца? Ужо паны самі будуць ведаць.

Вільдэ (*сядае на крэсла*). Не кажэце гэтак, Поднэкс. Вы-ж валасны старшыня, вас першага спытаюць.

Поднэкс (*нездаволены*). Ат! лепш ўжо кажэце вы.

Рэснайс (*шапка на вачох, рэвольвер у руцэ, шпарка ўваходзіць звонку, праціскаецца праз натоўп. У натоўпе вялікае ўсхваляваньне, крыкі спалоху*). Зараз да вас прыедуць крывавыя сабакі з маёнтку. Будуць пытацца, хто рэволюцыянэры, хто падпальваў маёнткі і нападаў на цягнік. Асьцерагайцеся казаць! Калі хто бачыў і ведае—язык за зубамі! Ніводзін здраднік не ўцячэ ад нашае кары! (*Стукае рэвольверам па стале*). Пракляты будзе на векі-вякоў, хто прадасьць свайго брата! Нас перамаглі, але ня зьнішчылі. Нас нельга зьнішчыць, як траву на лузе. Яе скасілі, а навесну яна выростае зноў. Ад імя баявой організацыі я абвяшчаю сьмерць кожнаму, хто здрадзіць змаганьнікам за волю народу. Памятайце гэта самі і скажэце вашым дзецям. Ніхто хай ня думае, што ён схаваецца, або што яму гэта даруецца. Каго куля ня зловіць зараз—знойдзе праз пяць год, праз дзесяць. Змаганьне за волю ня спыняецца і помста таксама. Хай ня будзе паміж вамі Юдаў і Каінаў! Гэта памятайце! (*Скідае са стала арла, выходзіць павольна, аглядаючы ўсіх з пагрозай*).

Натоўп (*стаіць нібы аслупеўшы, потым заварушыўся; нехта ўздыхнуў*).

Вільдэ (*з вылупленымі вачыма, выцягнуўшы рукі ўскочыў, ставіць арла*). Хто гэта быў? Чаму вы яго выпусьцілі?.. Лавіце яго! (*Нібы зьбіраецца бегчы, але застаецца*).

Зэлтыня (*каля вакна*). Едуць!.. Паны едуць!

Натоўп (*інстынктыўна адыходзіць ад дзьвярэй, момант здрантвеньня і цішыні*).

Ротмістр фон-Гамэр (*разам з Паўлам Сяргеевічам, Клясонам і драгунамі, падстрыжаныя сівыя вусы, пэнснэ. Уваходзіць шпарка, бразгаючы шпорамі, ні на кога ня гледзячы, злы і знэрваваны. Убачыўшы на стале арла, здымае шапку і кладзе на стол; сам садзіцца; Павал Сяргеевіч троху далей; Клясон выглядае абдрыпаным канцылярыстым, пры канцы стала, зьбіраецца пісаць. Народ кланяецца, ніжэй за ўсіх Вільдэ. Зэлтыня падштурхвае Поднэкса, той зьбянтэжана пераступае з нагі на ногу. Фон-Гамэр глядзіць на портрэт цара*). А на новы здабыліся! Але дзе стары портрэт яго вялікасьці? Старшыня!

Поднэкс (*падпіханы Зэлтыняй, зусім спалохаўся*). Я, вялікі пане... Стары портрэт рэволюцыянэры вынесьлі.

Фон-Гамэр. А? Рэ-волюцыянэры? Няма ніякіх рэволюцыянэраў і ніякай рэволюцыі! Зразумеў! Бунтаўшчыкі, хуліганы—банды галандранцаў. Ты валасны старшыня? Ну, паглядзеце. Павал Сяргеевіч! Гэта называецца валасны старшыня!

Павал Сяргеевіч (*паціскае плячыма*). Селянін—чаго вы хочаце, Робэрт Карлавіч?

Фон-Гамэр. Як тваё прозьвішча?

Поднэкс. Поднэкс! Рэйніс Поднэкс, вялікі пане.

Фон-Гамэр. Як ты кажаш? Под... Поднэкс? Чулі, Павал Сяргеевіч? Гэта сапраўдная сабачая мова. Язык можна вывіхнуць! А цяперака ты мне скажаш, хто былі гэтыя бунтаўшчыкі, зьневажальнікі царскага портрэту, зладзеі, падпальшчыкі і рабаўнікі маёнткаў.

Поднэкс. Ня ведаю, вялікі пане! Чужыя людзі...

Фон-Гамэр. Ня лгаць! Гэтыя сьпевы я ведаю! Павесіць я загадаю ўсіх і цябе самага першага!

Вільдэ. Ён напалоханы, пане ротмістр. Тут толькі-што адзін быў і пагражаў памсьціцца.

Фон-Гамэр. Пагражаў? Хто пагражаў? Дзе ён?

Вільдэ. Ён уцёк, пане ротмістр. Узброены—мы ня мелі магчымасьці яго затрымаць.

Фон-Гамэр. А вось зможаце! Скуру я загадаю вам усім злупіць, тады будзеце ведаць. (*Ускаквае, бяжыць на другі бок стала; накідваецца на сівога дзеда*). Ну, чаго ты тутака стаіш, як слуп? Чаму не адказваеш, калі з табой размаўляюць?

Дзядок. Я, вялікі пане, нічога ня ведаю...

Фон Гамэр (*дражнячы*). Нічога ня ведаю!.. Цяпер язык у цябе ня рухаецца, бо гаворыць бізун драгуноў. Але на тым тыдні ты, відаць, хадзіў па хатах, агітуючы? Вось будзеш ты ў мяне ведаць! Як па кнізе, ты мне ўсё раскажаш! Паскачаш ты ў мяне, стары нячысьцік! Прэч! У склеп гэтага! (*Драгуны цягнуць дзядка ў дзьверы; у натоўпе сьцішаныя стогны і ўсхліпваньні*).

Фон-Гамэр (*заўважыў Снэдзу, хлопчыка, які з кулакамі пасунуўся наперад, нібы жадаючы накінуцца*). А! парасёнак! Што ты тутака вочы вылупіў?.. А! рукі! (*Тупаціць нагамі*). Рукі па швах! Восіпаў, дай яму адну! (*Драгун ударае Снэдзу бізуном, той хістаецца, але рук і вачэй ня спушчае; жанчына з дзіцём ускрыквае*).

Фон-Гамэр (*павярнуўшыся да яе*). Не гарлань! Трымай язык, а не, дык загадаю адлупцаваць цябе гэтак, што тры тыдні сядзець ня будзеш! (*Зноў да Снэдзы*). Як ты, нягоднік, адважыўся чапаць портрэт яго вялікасьці? Хто цябе вучыў страляць у драгуноў?

Снэдза. Царскага портрэту я не чапаў і ў драгуноў я не страляў. Я нічога ня ведаю.

Фон-Гамэр. А! Ты нічога ня ведаеш! Ніхто тутака нічога ня ведае!.. Паглядзім! (*Дае знак драгуну, той штурхае хлопчыка да дзьвярэй*).

Снэдза (*са сьлязьмі, з нянавісьцю*). Ня штурхайся! Я сам магу ісьці...

Фон-Гамэр (*заходзячыся ад злосьці, круцячыся ва ўсе бакі*). Бунтаўшчыкі, грабежнікі! Сабачы род! Усіх да аднаго загадаю злупцаваць! Скуру зьдзяру! У Сібір заганю! Дзесяць год будзеце ў мяне ў турме вошай карміць! (*Ад вялікага хвалявальня ў яго падае пэнснэ; Вільдэ Поднэкс і Зэлтыня кідаюцца падымаць яго. Засопшыся, фон-Гамэр падае ў крэсла*).

Павал Сяргеевіч (*сядзіць праз увесь час нахмураны, ківае галавою, ціха*). Ну, Робэрт Карлавіч! Гэта-ж задужа!

Фон-Гамэр (*з выглядам мучаніка*). Дужа многа, вы кажаце, Павал Сяргеевіч? Дужа мала гэтага! Што мне зрабіць з імі? Вы бачыце, што гэта банда змоўшчыкаў. Загартаваныя бандыты—павесіць трэба было-б іх усіх на месцы! (*Смаркаецца з агідаю*). Тут гэткі смурод! Наўмысьне яны боты дзёгцем вымазалі. Прывядзеце таго, што мы ўзялі з сабой! (*Робіць знак да дзьвярэй. Два драгуны з вінтоўкамі ўводзяць Гайленса*).

Фон-Гамэр. Цяпер ты мне пакажаш у гэтай бандзе ўсіх, хто разам з табой дзейнічаў супроць законнае ўлады. Усіх, хто прымаў удзел у рабаваньнях, падпальваньнях і бясчынствах. Напрыклад, хто цябе прызначыў гэтым—як, чорт, яго завуць—старшынёй выканаўчага камітэту? Запішэце, Клясон!

Гайленс (*стомлены, але адважны і стойкі*). Мяне не прызначалі. Мяне выбралі. На агульным сходзе воласьці. Аднагалосна. Зразумела, супроць галасоў валаснога старшыні і яго жонкі.

Фон-Гамэр. А, аднагалосна! Паслухайце толькі самі, Павал Сяргеевіч! Але ці-ж ты ня ведаў, што гэта самаўпраўства і злачынства супроць законнае ўлады?

Гайленс. Ніякае законнае ўлады тут ужо ня было. Прыстава тэрорыстыя расстралялі, барон і пастар уцяклі, валасны старшыня праз п'янства і злачынствы згубіў усякую пашану, пісар Вільдэ схаваўся. Воласьці пагражала анархія.

Вільдэ (*гнеўны, абражаны*). Вы самі гэту анархію падымалі. Вам патрэбны быў Лапінь замест мяне.

Зэлтыня (*дарэмна падбухторвае мужа; сама выходзіць наперад*). Ня слухайце, паны, што ён там сьпявае. Ён сам найбольшы падбухторшчык і рэволюцыянэр. Самому хацелася гэтае пасады!

Фон-Гамэр (*усьміхаецца; Паўлу Сяргеевічу*). Вось гэту бабу варта-б было назначыць за валаснога старшыню. (*Гайленсу*). Ты прызнавайся! Прызнаньнем ты яшчэ можаш палепшыць свой лёс.

Гайленс. Мне няма чаго прызнавацца. Я нікога не падбухторваў. Але я ня мог быць супроць народу, калі ён больш ня мог вынесьці ярма памешчыкаў і пастараў. Калі яго гадамі топчуць нагамі і зьдзекуюцца з яго, дык ён падымаецца, каб скінуць са сваіх плеч гэта ярмо.

Фон-Гамэр. Чуеце, чуеце Павал Сяргеевіч! І пасьля гэтага вы закідаеце мне, што я задужа строгі?.. (*Гайленсу*). Добра! Наконт цябе мне ўсё зразумела. Але цяпер ты мне пералічы ўсіх агітатараў і соцыялістых. Толькі глядзі, ня хлусі! І без цябе ў нас іх даволі. Клясон, запішэце!

Гайленс. Лепш ня турбуйцеся, пан Клясон. У вас-жа ёсьць пастар, Брэнсон, Поднячыха і Вітал. Я нічога не скажу.

Фон-Гамэр (*устае*). Што? Ня скажаш? Я загадаю табе адлічыць пяцьдзесят—сто я табе дам.

Гайленс. Гэта вы можаце. Дзьвесьце, трыста. Я-ж у вашай уладзе. Але я ўсёроўна не скажу.

Фон-Гамэр (*бясьсільна садзіцца ў крэсла*). Ці бачылі вы дзе-колечы гэткі праклятых народ, Павал Сяргеевіч.

Павал Сяргеевіч. Але чаму вы так упарта ня хочаце сказаць? Пан ротмістр жадае вам дабра.

Гайленс. Аб сабе самым я нічога ня ўтойваю. Але сваё жыцьцё я не жадаю выкупаць крывёю іншых. Мой лёс мне вядомы. Ніякае жаласьці я не хачу ад гэтых маіх судзьдзяў.

Павал Сяргеевіч. Вы ўсё-ж ткі падумайце. Вы маглі-б памагчы нам атрымаць праўдзівы малюнак тутэйшых абставін і здарэньняў.

Гайленс. Нібыта вы прышлі сюды выяўляць нейкі малюнак. Ваша задача памсьціцца за памешчыкаў. На гэта ў вас даволі штыхоў. Я адказваю за тое, што рабіў сам, а іншае не мая справа.

Фон-Гамэр (*кулаком аб стол*). Даволі! У мяне няма часу тутака балбатаць! (*Паказваючы на Гайленса*). Вывесьці гэтага! (*Да натоўпу*). Удаўбеце ў свае патыліцы тое, што я вам зараз скажу. Першае: няма болей ніякае рэволюцыі, забастовак, сходаў! Няма і ня будзе больш ніколі! Другое: пачынаючы з сёнешняга дня законныя ўстановы і афіцыйныя асобы зноў на сваіх мясцох. За тыдзень павінны быць запла-

чаны ўсе спозьненыя падаткі ў воласьць і пану пастару! (*Да Поднэкса*). Ты мне за гэта адкажаш! Трэцяе: за два дні павінна быць знойдзена ўся зброя і рэчы, пакрадзеныя ў пана барона Вольфа. Разам павінны быць выданы ўсе тыя агітатары і соцыялістыя, якія яшчэ хаваюцца. Хто будзе хаваць іх, будзе пакараны, як злачынец. (*Усё люцей і люцей, зайкаючыся*). За маленькае непаслушэнства—загадаю лупцаваць... у склеп кіну... вайсковаму суду аддам... загадаю расстраляць, як сабак—усіх! усіх!.. Вон! Прэч уся банда!.. (*У нястрымным гневе шпарка паварочваецца да натоўпу плячыма*).

Натоўп (*нібы захвачаны віхрам выходзіць; драгуны бізунамі выганяюць*).

Павал Сяргеевіч (*падняўшыся нахмураны, паціскае плячыма*).

Фон-Гамэр (*павярнуўшыся; убачыўшы Поднэкса і Зэлтыню*). Чаго яшчэ стаіш? Вон! Эх, Павал Сяргеевіч! Сабачая праца!

Павал Сяргеевіч. Зусім з вамі згодны, Робэрт Карлавіч.

Фон-Гамэр (*да Вільдэ*). Ці няма ў вас... Як-жа ваша прозьвішча?

Вільдэ (*кланяючыся*). Вільдэ, пан ротмістр! Фрыц Вільдэ.

Фон-Гамэр (*усьміхнуўшыся*). Ну, добра, Фрыц Вільдэ. Ці няма ў вас чаго-колечы гэткага, каб язык намачыць?

Вільдэ. Калі ласка, пане ротмістр! Зараз! (*Бяжыць, здымае са стала арла, выбягае у пакой, выносіць адтуль бутэльку са шклянкамі*).

Фон-Гамэр (*выцягвае бутэлечку з одэколёнам, пырскае на хустачку, нюхае і абмахваецца*). Млосна робіцца ад гэтага смуроду! Горш, чым у маёй стайні. Гэты суб'ект чаго-колечы знойдзе? Вы не адмовіцеся, Павал Сяргеевіч? Па аднэй.

Вільдэ (*ставіць бутэльку проста на месца арла; бясконца паслужлівы*). Калі ласка, паны!

Павал Сяргеевіч. Дзякую! Мне тутака і так даволі. (*Дэмонстрацыйна выходзіць. Клясон, сабраўшы свае паперы, выходзіць*).

Фон-Гамэр (*цынічна гледзячы ўсьлед Паўлу Сяргеевічу*). Паненка з салёну, а не афіцэр!

Вільдэ. Адважваюся прасіць, пане ротмістр...

Фон-Гамэр (*азірнуўшыся*). Эх! Толькі гэткае вы маглі дастаць!.. Шапку!

Вільдэ (*бяжыць з шапкаю*). Калі ласка, пане ротмістр!

Фон-Гамэр. Ідзеце, скажэце, каб пад'ехалі мае сані.

Вільдэ. Зараз, пане ротмістр! (*Кідаецца да дзьвярэй*).

Фон-Гамэр (*рукой да казырка, разьвітваючыся, стукае нагою супроць портрэту Мікалая II, махаючы хустачкаю ў нос, з агідай аглядваючы натоптанае памяшканьне, выходзіць*).

*ЗАСЛОНА*

*Працяг будзе*

# ДАЛЁКІ РЭЙС

*(Поэма)*

**Юрка Лявонны**

...Хмаркі ня любяць Конго,—
Кожны прамень—штылет.
Томмі працуе па гонгу,
Што ў лёрда Сінгрэй
на стале.

Выйдзеш за белыя сьцены—
І ў раскалённай багне...
Чорнае дрэва эбэну,
А Томмі—
яшчэ чарней.

Хлопчык ня ведае стомы...
(Гнуткай спружынай—бамбук...)
Часта і ўночы Тома
Будзіць
прарэзьлівы стук.

Томмі трамбуе граві,
Томмі шаруе шкло,
Томмі рыхтуе каву
На вячэрні
„файф о клок“.

Рана ў душу надломы
Кінуў каравы лёс...
Моцна захоўвае Томмі
Кроплі няплаканых
сьлёз.

А за плянтацыі станам
Сетку пужлівых ліян
Вабіць красой акіяну
Вод неабсяжны
дыван...

* * *

І на рэйдзе, ў бухце недзе,—
Параход.
Ў лёгкай пене-шуму зьвеньні—
Ціхі ход.

З алым сьцягам, сьмелым шагам
Стаў ён тут
Будзе ўраньні, да зьмярканьня
Перагуд.

Чысты, новы ён партовы
Толькі госьць...
Дымкі таюць... Бы чакае
Ён кагось.

* * *

Бедны мой, бедны Том!
Дзе-ж весялосьці дух,
П'яны юнацтва ром,
Дым непазбыўных скрух?

Лёс няпрыветны твой
Сыпе няпраўды шрот
Над кучаравай тваёй галавой
Праплываюць за годам год...

Кіньма пакуту, Том!
Бачыш—на рэйдзе, там—
Сьветлы, плывучы дом
Кажа аб шчасьці нам.

Сэрца трывожны стук...
Кінеш мілёрда тут—
Забудзеш яго руку
І звар'яцелы бамбук.

* * *

Вецер!
Ня дзьмі,
ня дзьмі...
Ня гушкай
сьцяну ліян...
Ў сэрцы
ня будзе зімы,
Калі блізка такі
акіян...

Ноччу—
Паўднёвы Крыж
Ноччу—
агні...
агні...
Месяц!
Хоць ты
з гары
На маленькі цень
зірні!

— Што гэта?
Вахта...
— „Адкуль?!“
Гоман.
І радасьць.
І сьмех...
Зараз—
хай сотні куль—
Томмі
верыць вясьне!

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Коцяцца воды ў даль.
Хваляў чаруе ігра—
Тому дарога адна:
Прыстань—„Порт-Ленінград“!

# УЗБЭКСКІЯ МОТЫВЫ

**Аркадзь Куляшоў**

Эх, Ахмет!..
Далёкае мінула
Я, гяур [1]), пакінуў жоўты край,
Кішлакі стамлёныя заснулі,
За гару скацілася зара...
У тую ноч я слухаў як над намі
Ў стэпох шумяць карагачы [2])
І, як ты далёка пад чынарай
Свой дутор [3]) настрайваў уначы.
Ты на ростань, знаю я, заводзіў
Маю песьню любую, Ахмет,—
Пра гэроя песень палавона
Пра дзяўчыну мудрую Ізмэт...
А цяпер мінулае далёка,
За вакном і холад, і зіма,
Ходзіць месяц ў воблаках высока
І сьнягі, як белая чалма...
Мае думкі бродзяць мімаволі,
Дзе Усход і жоўтая зямля,
Ўспамінаю ў песьнях палавона—
У руках папера і калям [4]).
Можа й ты з дуторам пад чынарай,
Пад напевы дзіўных галасоў,
Можа й ты калі-небудзь ды марыў
Пра гяурца дальняга, як сон...
Эх, Ахмет!..
Далёкае мінула
Я, гяур, пакінуў жоўты край,
Кішлакі стамлёныя заснулі,
За гару скацілася зара.

22-I—29 г. Расна.

---

[1]) Гяур—чужаземец.
[2]) Карагачы—дрэвы, якімі абсаджаны стэпавыя дарогі.
[3]) Дутор—двухструнны музычны інструмант.
[4]) Калям—пяро.

*
* *

**Алесь Жаўрук**

Гаварылі: часамі увосень
Завінаюцца сьцежкі у сум
І юнацкія, сьвежыя крозы
Маладую губляюць красу.

І што сэрца у ветразі стыне
І цішэе слоў песенных цок,
Як каханьне чарнявай дзяўчыны,
Як сяброўства кудравых хлапцоў.

Толькі я, мо' таму, што прысады
Адмаячылі золатам ліп,
Калышу ў сэрцы ціхую радасьць
Ў адцьвітаньні вячэрняй зямлі.

Знаю: з часам завяне бадзёрасьць
І гады лягуць шэрагам плям,
Толькі сёньня—агністыя зоры
Азначаюць мой песенны шлях.

І калі непакорныя ветры
Расплясканюць у раздольлях свой сьмех—
Загараюцца вочы прыветней
Надыходзячай, белай зіме.

І зьвініць непаўторнасьцю чыстай
Ў кожным слове юнацкай страфы
І бароў маладая ўрачыстасьць
І сумётаў чарэшневы пыл.

Рагачоў.

# АБ ЧАРГОВЫХ ЗАДАЧАХ „ПОЛЫМЯ“

**А. Сянькевіч**

Соцыялістычнае будаўніцтва ўступіла ў такую паласу свайго разьвіцьця, калі пераможны пролетарыят, апіраючыся на беднату вёскі, пры трывалым саюзе, які з кожным днём умацоўваецца, з асноўнай масай сялянства, прыступіў да практычнай, карэннай пераробкі ўсяе народнае гаспадаркі на новых соцыялістычных асновах.

Соцыялістычная рэконструкцыя народнае гаспадаркі з кожным днём усё шырэй і глыбей ператварае ўсе клеткі ўсяго гаспадарчага організму краіны. Але пераможны паход соцыялізму, соцыялістычная рэконструкцыя ўсіх бакоў грамадзкага жыцьця не адбываецца і ня можа адбывацца гладка, роўна ісьці, накшталт аўтомобілю па асфальтавай шашы. Яна адбываецца ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы, напружанай барацьбы з закаранеласьцю, невуцтвам, убоствам і адсталасьцю тэхнікі. Росту соцыялістычнага сэктару ў прамысловасьці, у гандлі і ў сельскай гаспадарцы спадарожнічае зацятае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі. Бурныя процэсы колектывізацыі вёскі, процэсы непасрэднага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму выклікаюць адначасна абвастрэньне барацьбы кулацтва, якое бачыць у колектывізацыі сваю нямінучую пагібель.

Праз індустрыялізацыю ўсяе народнае гаспадаркі, якую перамогшы пролетарыят, пад кіраўніцтвам сваёй ленінскай партыі, праводзіць у максымальна напружаным тэмпе, перамагаючы шэраг „вузкіх месц“—шэраг труднасьцяй, зьвязаных з нашым ростам—ідзе савецкая краіна да соцыялізму.

На зьмену старым, зношаным, малалікім паравым машынам прыходзяць магутныя турбіны, сьпяваюць пераможную песьню электра-генэратары. Дапатопная прадзедаўская саха, яе успрыёмнік—жалезны плуг уступаюць месца многалямешным трактарным плугом. Сялянскі сэрп з яго малапродукцыйнай працай паступова становіцца здабыткам музэю, а на аграмаджаных сялянскіх палёх зьяўляюцца складаныя сельска-гаспадарчыя машыны, зьмяняючы продукцыйнасьць і характар самой працы.

Соцыялістычная рэконструкцыя з уласьцівай ёй тэхнічнай рэволюцыяй захапляе ў арбіту свайго дзеяньня ня толькі народна-гаспадарчы організм, яна прасякае на сталёвых моторах, на медных правадох ва ўсе куткі грамадзкага жыцьця.

Непарыўны рабочы тыдзень, у шмат разоў які павялічвае продукцыйнасьць працы, адначасна руйнуе ўсе традыцыі старога быту, наносіць непапраўны сьмяртэльны ўдар розным рэлігійным і бытавым забабонам. Социялістычнае спаборніцтва, як мэтод будаўніцтва соцыялізму, нябачна абуджае творчыя сілы мільёнаў мас.

Трактар, зьнішчаючы межы сялянскіх палёў, руйнуе ўшчэнт і дзедаўскія традыцыі: колектыўная праца ўчора „аўтономных таваравытворцаў“, павялічваючы сілу ўзьдзеяньня чалавека на прыроду, на „знадворныя ўмовы яго жыцьця“, зьмяняе і самога чалавека. Індывідуалістычная псыхіка селяніна ўступае месца новай, якая ідзе ад магутнай волі колектыву.

Соцыялістычнае будаўніцтва адбываецца ва ўмовах капіталістычнага абкружэньня СССР і хістаньня часовай, гнілой, частковай стабілізацыі капіталізму, ва ўмовах росту агрэсыўнасьці міжнароднага імпэрыялізму і шалёнай падрыхтоўкі імпэрыялістычнай вайны супроць СССР.

Нэпман у горадзе, кулак у вёсцы—агенты міжнароднага імпэрыялізму спалучаюцца ў адзіную сілу, проціпастаўляючы сябе і вядучы барацьбу супроць соцыялістычнага будаўніцтва.

У гэтых умовах у пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяго грамадзкага жыцьця, найсур'ёзьнейшае значэньне набывае тэмп культурнай рэволюцыі. Кастрычнік вызначыў самы характар культурнай рэволюцыі, гады, якія ўплылі пасьля Кастрычніка, далі значны рост культурнасьці рабочых і асноўных мас вёскі, узмацнілі элемэнты пролетарскай культуры. Але тым ня менш тэмп культурнай рэволюцыі, якая адбываецца, адстае ад патрэбнасьці соцыялістычнага будаўніцтва. Процэсы культурнай рэволюцыі, як процэсы падрыхтоўкі людзкіх кадраў для новых задач перабудаваньня грамадзкага жыцьця, як рэволюцыйнае перавыхаваньне самых шырокіх працоўных мас для пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, яшчэ адстаюць ад тэмпу экономічнага пэратварэньня краіны. Далейшы пераможны паход соцыялізму, нябачны яшчэ ў гісторыі чалавецтва тэмп нашага руху ў шырыню і ў глыбіню, упіраецца ў невыстарчальны тэмп культурнай рэволюцыі. Культурная-ж рэволюцыя зьяўляецца аднэй з асноўных задач соцыялістычнай перабудовы краіны. І калі мы ня здолеем разьвіць адпаведнага тэмпу па прыцягненьню шырокіх мільённых мас да культуры, калі шматмільённыя масы будуць уцягвацца ў актыўнае культурнае будаўніцтва ў невыстарчальна прысьпешаным тэмпе, то ўсё гэта будзе зьяўляцца тормазам у вырашэньні баявой задачы „дагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны“.

Зьнішчэньне дыспропорцыі паміж тэмпам культурнага будаўніцтва і тэмпам гаспадарчага росту, забесьпячэньне пролетарскага соцыялістычнага зьместу процэсу культурнай рэволюцыі ў сваю чаргу высувае складаную проблему стварэньня культурных пролетарскіх кадраў. Праўда, гэтая проблема, проблема кадраў не зьяўляецца спэцыфічнай рысай культурнага процэсу, яна зьяўляецца агульнай для ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва. Але на культурна-ідэолёгічным фронце гэтая проблема

набывае асаблівае значэньне, асаблівую вастрыню ў зьвязку з тым фактам, што яшчэ да гэтага часу слабая праслойка пролетарскіх кадраў на гэтым фронце, асабліва ў нашых беларускіх умовах. „Пытаньне аб кадрах набывае асаблівае значэньне цяпер, на этапе соцыялістычнай рэконструкцыі. Пры пераходзе да НЭП'у Ўладзімер Ільліч казаў, што гвозд усіх пытаньняў—у людзях. Зараз на новым этапе соцыялістычнага будаўніцтва, які суправаджаецца абвастрэньнем клясавай барацьбы, пытаньне аб людзях, пытаньне аб кіруючых кадрах—цэнтральнае пытаньне". (З прамовы тав. Гамарніка на Менскім партактыве).

Ва ўмовах Беларусі проблема людзей, проблема папаўненьня кіруючых кадраў мае актуальнае значэньне ў моц асаблівых умоў, у якіх знаходзіцца Беларусь. Беларусь—краіна экономічна адсталая, з слаба разьвітай прамысловасьцю, а значыцца з слабай праслойкай фабрычна-заводзкага пролетарыяту яшчэ і ў сучасны момант. Беларусь—край з раздробненай на 800 тысяч дробных і маленькіх адзінак сельскай гаспадаркай, пры наяўнасьці значнага проціанту хутарской формы зямлякарыстаньня, якая зьяўляецца перашкодай да тэхнічнага прогрэсу ў земляробстве наогул і соцыяльнаму прогрэсу асноўных мас сялянства ў прыватнасьці, край, у якім параўнаўча слабую ролю адыгрывае соцыялістычны сэктар у сельскай гаспадарцы. У Беларусі таксама яшчэ моцная дробна-буржуазная стыхія мястэчак і гарадоў. Беларусь—краіна з складанымі нацыянальнымі перапляценьнямі. Яна зьяўляецца форпостам Савецкага Саюзу на мяжы з капіталістычным захадам і павінна сапраўды мець такія кадры, якія былі-б здольны вынесьці на сваіх плячох усе цяжкасьці соцыялістычнага будаўніцтва, усе абавязкі, якія выплываюць з яе прыгранічнага становішча.

Соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты суправаджаецца адначасным процэсам актывізацыі варожых нам сіл ва ўсіх галінах клясавай барацьбы і абвастрэньнем барацьбы гэтых элемэнтаў супроць соцыялізму і на ідэолёгічным фронце. Ва ўмовах Беларусі гэта выражаецца ў першую чаргу ў актывізацыі беларускага нацыянал-дэмократызму, а таксама ў росьце агрэсыўнасьці вялікарускага, яўрэйскага, польскага і г. д. шовінізмаў, і ў актывізацыі прадстаўнікоў рознага роду буржуазных гора-тэорэтыкаў, прэтэндуючых на годнасьць „вучоных", вызначаючых будучае народна-гаспадарчага разьвіцьця БССР і г. д.

Актывізацыю-ж беларускага нацыянал-дэмократызму ў нас, у БССР, нельга разглядаць ізолявана ад процэсаў, якія адбываюцца па тым баку граніцы. У Заходняй Беларусі беларуская буржуазія, у тым ліку кулак і яе ідэолёгі—буржуазная інтэлігенцыя, вядуць жорсткую барацьбу супроць працоўных і эксплёатуемых мас Заходняй Беларусі, у цесным саюзе і пад кіраўніцтвам польскага фашызму. Беларуская буржуазія і кулакі ў асобе сваіх нацыянал-фашысцкіх партый з групай А. Луцкевіча на чале прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы ваеннага паходу супроць СССР, зазаняволеньне БССР, пад лёзунгам стварэньня „Незалежнай Беларускай

Народнай Рэспублікі", якая будзе знаходзіцца, зразумела, пад пратэктаратам фашысцкай Польшчы. Ажыўленьне беларускага нацыянал-дэмократызму ў БССР зьяўляецца простым вынікам ня толькі абвастрэньня клясавай барацьбы і росту актыўнага супраціўленьня кулака ў нас, але і простым адбіткам удзелу нацыянал-фашызму ў Заходняй Беларусі ў падрыхтоўцы фашысцкай Польшчай вайны супроць СССР.

Наступленьне фашызму і нацыянал-фашызму на працоўныя масы Заходняй Беларусі, актывізацыя нацыянал-дэмократызму ў Савецкай Беларусі об'ектыўна спалучаюцца і процістаўляюцца адзінаму пролетарскаму фронту Савецкай і Заходняй Беларусі.

Як вынік гэтай актывізацыі мы ў апошні час мелі шэраг прарываў на ідэолёгічным фронце. Наша часопіс „Полымя" таксама ня ўхілілася ўзьдзеяньня буржуазнага, нацыянал-дэмократычнага напору, часам паддаючыся яму.

Гэтае адступленьне пад нацыянал-дэмократычным напорам з клясавых позыцый выявілася ў „Полымі" ў тым, што на яго старонках былі надрукаваны такія наскрозь насычаныя нацыянал-дэмократычнымі поглядамі творы, як роман М. Зарэцкага „Крывічы", артыкулы З. Жылуновіча, у якіх ён разьвіваў погляды аб рэволюцыйнай ролі БСГ у стварэньні БССР і выводзіў КП(б)Б з нацыяналістычнай, дробна-буржуазнай БСГ, яго-ж успаміны за 20 год, у якіх ён ідэалізуе А. Луцкевіча, сёньнешняга правадыра беларускага нацыянал-фашызму ў Польшчы. Зьяўляліся таксама эклектычныя творы, у якіх, маскуючыся „об'ектыўнасьцю навукі", працягваліся на старонкі „Полымя" нацыянал-дэмократычныя концэпцыі.

Патрэбен рашучы паварот на клясавыя позыцыі нязломнай барацьбы за пролетарскі характар нашай культуры. Бо „пролетарскі характар нашае культуры зможа быць забясьпечаны толькі бязьлітаснай крытыкай буржуазнага нацыянал-дэмократызму, бязьлітасным змаганьнем з пранікненьнем у беларускую пролетарскую культуру варожых пролетарыяту элемэнтаў буржуазнага сьветапогляду, усьведамленьнем нашымі маладымі культурнымі кадрамі марксыцкага сьветапогляду ў мэтодолёгіі" (Кнорын).

„Полымя"—часопісь, заклíканая актыўна ўдзельнічаць у соцыялістычным будаўніцтве, выяўляючы, выхоўваючы, садзейнічаючы росту новых кадраў пролетарскай інтэлігенцыі і ўцягваючы прадстаўнікоў старых кадраў савецкай інтэлігенцыі ў гэтую работу.

„Полымя" павінна адбіваць на сваіх старонках і ў мастацкім, і ў публіцыстычным слове барацьбу і творчы энтузыязм мас, посьпехі і дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і вёсцы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Часопісь ня можа быць аполітычнай і ўжываць тэорыю „нясупраціўленьня злу", яна заклікана весьці рашучую барацьбу з варожай будаўніцтву соцыялізму ідэолёгіяй. Барацьба супроць буржуазнай і дробна-буржуазнай квазінавуковых сыстэм, бязьлітаснае выкрываньне ўсіх розных масак тэорэтыкаў нэпмана, кулака і ўсіх нашых клясавых ворагаў, складае другую важнейшую задачу нашае часопісі.

Літаратурна-мастацкі характар „Полымя“ ставіць перад ім задачу бязьлітаснай барацьбы супроць антыпролетарскіх тэндэнцый у мастацкай літаратуры і ўсякага садзейнічаньня росту маладых паросткаў пролетарскай літаратуры. Задачай „Полымя“ зьяўляецца прыцягненьне для актыўнага супрацоўніцтва ўсіх пролетарскіх і блізкіх пролетарыяту па сваёй творчасьці беларускіх, яўрэйскіх, польскіх, расійскіх і іншых нацыянальных пісьменьнікаў Савецкага Саюзу.

Задачай „Полымя“ зьяўляецца таксама аб‘яднаньне наўкола сябе кадраў марксыцкай крытыкі і садзейнічаньне іх росту.

Для пасьпяховага выкананьня стаячых перад ім задач, „Полымя“ ня можа абмежавацца межамі і матар‘яламі аднэй толькі беларускай нацыі. Асьвятленьне становішча і барацьбы працоўных іншых нацыянальнасьцяй, а таксама іх дасягненьняў ва ўсіх галінах палітычнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва складае адну з важных задач „Полымя“.

„Полымя“ таксама не абмяжоўвае горызонту свайго абхопу толькі тэрыторыяльнымі межамі Беларусі. Процэсы бурнага соцыялістычнага будаўніцтва і росту пролетарскай культуры ў братэрскіх Савецкіх Рэспубліках, рэволюцыйная барацьба заходняга пролетарыяту, нацыянальнавызваленчая барацьба колёніяльных народаў—усё гэта павінна знайсьці свой адбітак на старонках нашае часопісі. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута асьвятленьню рэволюцыйнай барацьбы працоўных Польшчы і Заходняй Беларусі.

Сапраўдны рост культуры, пролетарскі яе зьмест магчымы толькі пры ўмове, калі гэты процэс захопіць шматмільённыя масы пролетарыяту. Пролетарскую культуру стварае пролетарыят, але ў будаўніцтве яе прымаюць удзел і прадстаўнікі непролетарскіх пластоў, якія ўзьняліся да ўзроўню разуменьня задач рабочае клясы, якія поўнасьцю зразумелі і ўспрынялі найвялікшыя ідэі пролетарыяту, якія лёс свой зьвязалі з пролетарыятам і соцыялістычным будаўніцтвам, якія аўладалі марксыцкім мэтодам. Актыўны ўдзел лепшых прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі на старонках „Полымя“ ёсьць адна з умоў выкананьня стаячых перад ім задач. Але ва ўмовах пераможнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, пасьпяховага разгортваньня соцыялістычнага будаўніцтва, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы мала быць „нэйтральным“, мала „лёяльнасьці“ да савецкай улады, пэрыод „нэйтральнасьці“, „лёяльнасьці“ мінуў. Той, хто хоча шчыра служыць справе пролетарскай рэволюцыі, павінен заняць пэўнае месца ў клясавых бойках, якія разгортваюцца пад кіраўніцтвам рэволюцыйнага пролетарыяту.

Усе культурныя і навуковыя сілы, якія парвалі з традыцыямі мінулага, якія разам з пролетарыятам, захопленыя энтузыязмам соцыялістычнага будаўніцтва, прымаюць удзел у чэснай і пачэснай працы па выкананьні вялізарных задач ленінскага пляну соцыялістычнага пэратварэньня краіны, павінны прыняць удзел у супрацоўніцтве ў „Полымі“.

Вось задачы, якія стаяць перад „Полымем“.



**УЛАДЗІМЕР МАКСІМАВІЧ ФРЫЧЭ,**

**нарадзіўся 15 кастрычніка 1870 г., памёр 4 верасьня 1929 г.**

# ПАМЯЦІ ЎЛАДЗІМЕРА МАКСІМАВІЧА ФРЫЧЭ

**Л. Бэндэ**

I

Савецкая грамадзкасьць, уся марксыцкая навука, а асабліва мастацтвазнаўства страцілі ў асобе Ў. М. Фрычэ буйнейшага вучонага. У. М. Фрычэ — адзін з вучоных марксыстых „старога прызыву“, якія яшчэ ў умовах жорсткай царскай цэнзуры непакоілі стаячы вір унівэрсытэцкай навукі сьвежым струменем марксыцкай думкі.

Пролетарская грамадзкасьць у асобе Ў. М. Фрычэ страціла няўтомнага комуністага-барацьбіта на ідэолёгічным фронце, няўтомнага організатара навуковай думкі Савецкага Саюзу.

Марксызм, які амаль ужо пранік ува ўсе складаныя лябірынты прыроды і грамадзкага быцьця, яшчэ ня досыць замацаваў свае позыцыі ў галіне мастацтва. У гэтай галіне грамадзкага жыцьця, у гэтай галіне навукі і спэцыфічнай „вытворчасьці“ яшчэ да гэтага часу дае аб сабе знаць папоўшчына, фармалізм, буржуазны, а нават часта і фэодальны эстэтызм. У. М. Фрычэ быў адным з тых, хто сьледам за Плеханавым пачаў бязьлітасна штурмаваць моцна засеўшых у мастацтвазнаўстве прадстаўнікоў, чые погляды прысуджаны на пагібель.

Марксызм у галіне мастацтва толькі што пачаў заваёўваць аванпасты, — У. М. Фрычэ быў адным з лепшых змагароў, кіраўнікоў змаганьня марксызму за ягонае паказаньне ў гэтай галіне ведаў.

У. М. Фрычэ быў буйнейшым тэорэтыкам мастацтва і, у прыватнасьці, літаратуры. Апошнія гады свайго жыцьця апроч вялікай організатарскай і кіраўнічай работы ён аддаў распрацоўцы складаных проблем мастацтвазнаўства, літаратуразнаўства.

Пяру нябожчыка належаць лепшыя марксыцкія працы па гісторыі заходня-эўропэйскай і расійскай літаратуры, па соцыялёгіі мастацтва, па асноўным проблемам сучаснай літаратурнай навукі.

Акрамя распрацоўкі мэтодаў марксызму, — асноўных проблем мастацтвазнаўства, акрамя жорсткай барацьбы з рознастайнымі варыяцыямі ідэалізму, мэтафізыкі і схолястыкі ў мастацтвазнаўстве Ў. М. Фрычэ вёў бязьлітасную барацьбу з буржуазнымі і дробна-буржуазнымі плынямі ў сучаснай расійскай літаратуры, як мага спрыяў росту пролетарскай

літаратуры. У. М. Фрычэ быў буйнейшым марксыцкім літаратурным крытыкам. Яго артыкулы (што друкаваліся ў розных часопісах і газэтах і выданыя асобным зборнікам), сьціпла названыя ім „Заметками о современной литературе“, ёсьць найлепшы ўзор ацэнкі літаратурных „фактаў“ пры дапамозе і на падставе марксыцкага мэтоду.

Сваю работу на навуковым, ідэолёгічным фронце У. М. праводзіў пад кутом погляду змаганца пераможніка пролетарыяту. У прадмове да „Заметок о современной литературе“ ён выказвае погляд на сваю крытычную работу, які, за невялікімі папраўкамі, характарызуе Ў. М. ва ўсіх яго работах. Вось, што ён піша: „Аўтар ня меў намеру выступаць у ролі спэца літаратуразнаўца. Ён падыходзіў да літаратурных твораў, як публіцыст і *бальшавік*...“ Падыход да літаратурных твораў, да твораў іншых відаў мастацтва з пункту гледжаньня барацьбы клясаў, з пункту гледжаньня клясава об'ектыўных крытэрыяў пры ацэнцы і аналізе мастацкіх твораў характэрны для бальшавіка Ў. М. Фрычэ і там, дзе ён выступае як „публіцысты“ і там, дзе ён выступае ў „ролі спэца“, у ролі вучонага.

Тэорэтычныя працы нябожчыка ўяўляюць надзвычайна каштоўны ўклад у марксыцкую навуковую сыстэму. Яго працу „Социология искусства“ можна паставіць побач з працаю Пляханава „Письма без адреса“. Марксыцкі сьветапогляд быў тым базісам, на якім У. М. будаваў соцыялёгію мастацтва ці іначай „навуку, якая ўстанаўляе законамерную сувязь паміж вядомымі тыпамі мастацтва і вядомымі грамадзкімі формацыямі„ (Социология искусств, бал. 7, Выданьне ГІЗ 1926 г.).

## II

У марксызму, які вучыць, што пэўным, вызначаным спосабам вытворчасьці, спосабам організацыі грамадзкай гаспадаркі заўжды і паўсюду адпавядаюць няўхільна, законамерна вядомыя грамадзкія формацыі, а гэтым грамадзкім формацыям, таксама законамерна, таксама няўхільна адпавядаюць вызначаныя тыпы і формы ідэолёгічных надбудоў, у тым ліку і мастацтва,—У. М. Фрычэ і знаходзіў моцную падставу для пабудовы соцыялёгіі мастацтва.

Але-ж грамадзкая формацыя ня ёсьць нешта супакойнае, павольнае ў сваім разьвіцьці. Кожная грамадзкая формацыя (за выключэньнем першабытнай) зьяўлялася формацыяй антаганістычнай, наскрозь прасякнутай змаганьнем клясаў. І таму „клясавая барацьба, што адбываецца ў грамадзе ўва ўсе пэрыяды яе гістарычнага існаваньня, ня можа не адбіцца і ў мастацтве ў самых рознастайных формах“ (Социология—бал. 190).

Вось з гэтага пункту погляду ня „іманентнасьці“ самога мастацтва, а прычынай абумоўленасьці яго вызначаным тыпам організацыі грамадзкае формацыі на падставе вызначанага спосабу організацыі гаспадаркі, нясупыннай барацьбой клясаў унутры грамадзкай формацыі,—і падыходзіў У. М. Фрычэ да асноўных проблем соцыялёгіі мастацтва.

З гэтага пункту гледжаньня мастацтва радзілася не ў галовах асобных „абраньнікаў", а законамерна вынікла з самаго грамадзкага жыцьця.

Гістарычна ў сваім першапачатку мастацтва вынікае, як непасрэдны вынік і спадарожнік працы. „Мастацтва ў сваім першапачатку было ні чым іншым, як практычна-бязмэтным паўтарэньнем працы, працай абернутай у гульню" (Фрычэ). Мастацтва ў розных яго відах у сваёй дыфэрэнцыяцыі ўзьнікла неадначасова. Процэсы яго ўзьнікненьня і разьвіцьця знаходзяцца ў залежнасьці ад процэсаў дыфэрэнцыяцыі сродкаў працы і самой працы. „Плястычнае мастацтва—жывапісь, скульптура,—радзіліся толькі пасьля таго, калі тэхніка апрацоўкі сродкаў працы дасягнула значнае вышыні" (Фрычэ) і толькі пасьля таго, як у псыхіцы чалавека, у процэсе тэхнічнае работы адклалася пачуцьцё (лінейнае) формы. Аднак „гэтае пачуцьцё формы радзілася ў першабытным паляўнічым, ня толькі пасьля таго, як тэхнічная апрацоўка сродкаў працы падрыхтавала для гэтага пачуцьця псыха-фізыолёгічную глебу, але і ў выніку гэтае тэхнічнае работы, як вынік яе, прычына ёю абумоўленая" (Социология, бал. 16). Такім чынам мастацтва ідзе ад процэсу працы, ад узаемадзейнічаньня чалавека з навакольнай яму прыродай.

Мастацтва, пароджанае працай, мэтазгоднай чалавечай дзейнасьцю, ня можа заставацца ў процэсе разьвіцьця самога чалавецтва, у процэсе ўдасканаленьня сродкаў працы—„бязмэтным паўтарэньнем работы". Узьнікшы, як зьява грамадзкая, мастацтва ўключаецца ў сыстэму грамадзкіх адносін, якія яго спарадзілі. Мастацтва выконвае сталыя соцыяльныя функцыі. Праўда, у сваім зьмесьце, у формах матэрыялізацыі ідэй, у сваёй функцыі мастацтва не заставалася аднародным у хадзе разьвіцьця чалавецтва. На кожнай гістарычнай ступені мастацтва зьмяняла сваю ролю, зьмяняла свае функцыі, зьмянялася і само.

У чым-жа соцыяльная функцыя мастацтва? Спэцыфікумам мастацтва зьяўляецца вобраз. Праз вобраз мастацтва ўзьдзейнічае на пачуцьці і выабражэньні, а праз іх і на думкі індывідуума, яно організуе, прыводзіць у пэўны парадак, накіроўвае іх (думкі) у інтарэсах грамадзкага колектыву, той ці іншай клясы, калі грамада дыфэрэнцыравана на клясы.

На падставе гістарычнага аналізу соцыяльнае функцыі мастацтва, на розных этапах чалавечага разьвіцьця, У. М. робіць вывад, што „кожнаму існуючаму этапу ў грамадзкім разьвіцьці чалавецтва адпавядае мастацтва, якое выконвае сталую соцыяльную функцыю" (Социология, бал. 35). На ніжэйшай ступені чалавечага разьвіцьця, у глыбіні гісторыі чалавецтва—у паляўнічай групе „мастацтва зьяўляецца чараўнічым актам, магіяй, якая непасрэдна падпарадкавала чалавеку (паляўнічаму) прыроду (у асобе зьвяр'я)". У земляробска-фэодальных, жрэцкіх грамадах „мастацтва становіцца актам рэлігійнага ўплыву на багоў з мэтаю расчуліць іх на дабро чалавеку (раней за ўсё „знатнаму"). Народжаная ў нетрах фэодальнае грамады, і ўзьнімаючая бунт у чэраве, у якім выношна-

валася—буржуазія таксама хапаецца за мастацтва, як сродак у барацьбе супроць фэодалізму. На гэтай стадыі свайго разьвіцьця буржуазія выкарыстоўвае мастацтва, як сродак моральна-палітычнага выхаваньня членаў узьнікаючае буржуазнае грамады.

Атрымаўшы перамогу над фэодалізмам, умацаваўшы сваё панаваньне, матэрыяльна больш чым забясьпечаная буржуазія „вызваляе мастацтва ад усялякіх „ідэй“ ня толькі рэлігійных, але палітычных і моральных і прымушае яго служыць для яе сродкам жыцьцёвай асалоды“.

У пэрыяд перадсьмертных конвульсій, у пэрыяд свайго заняпаду буржуазія ізноў хапаецца за мастацтва, як за сродак разьяднаньня пролетарыяту, як за сродак паслабленьня магутнай волі і сілы пролетарыяту, каб гэтым адтэрмінаваць сваю пагібель.

У той-жа час на долю мастацтва прыпадае „пачэсная роля быць сродкам правядзеньня ў шырокія масы ідэалаў змаганца пролетарыяту, а на другі дзень пасьля яго перамогі—ідэалаў новае грамады, што будуецца“. (Соц., бал. 209).

Гэтую думку аб ролі мастацтва на другі дзень пасьля перамогі пролетарыяту, у пэрыод практычнага будаўніцтва новае грамады—соцыялізму, У. М. выразна формуляваў у сваіх „Заметках о современной литературе“. Паводле яго, глыбока-праўдзівага, погляду задачы літаратуры і ўсіх іншых відаў мастацтва „ў наш час заключаюцца ў тым, каб організаваць псыхіку чытача (гледача таксама. *Л. Б.*) у напрамку да пабудовы соцыялістычнае грамады і соцыялістычнае культуры“.

Вось, у кароткіх рысах асноўныя погляды бальшавіка мастацтвазнаўца на паходжаньне і соцыяльную функцыю, ролю мастацтва ў грамадзкіх формацыях розных гістарычных этапаў.

## III

Нябожчык У. М. Фрычэ, як мы ўжо казалі, апошнія гады свайго жыцьця, прысьвяціў распрацоўцы асноўных проблем мастацтвазнаўства і асабліва асобнай яго галіны—літаратуразнаўства. Ня спыняючыся на багацейшых думках, чотка формуляваных нябожчыкам, па рознастайных галінах мастацтвазнаўства мы ўсё-ж ня можам прайсьці міма асноўных мэтодолёгічных палажэньняў літаратуразнаўства, высунутых і часткова распрацованых У. М. Гэта тым больш патрэбна таму, што дагэтуль і ў нас на Беларусі шмат якія нашы профэсары і акадэмікі працягваюць „славутныя“ традыцыі гнілых сыстэм. Нябожчык У. М. па пытаньнях літаратуразнаўства пакінуў ня дужа многа прац. але за тое надзвычайна каштоўных і глыбокіх па сваёй навуковасьці.

У. М. Фрычэ больш за ўсё непакоілі неахайнасьць, блуканьні, эклектыка, што так уласьцівы сучаснаму літаратуразнаўству, ад якіх асабліва наша беларуская навука аб літаратуры да гэтага часу не пазбавілася. Яго далей непакоіла няўменьне літаратуразнаўцаў знайсьці галоўную,

чарговую проблему ва ўсёй навуковай сыстэме, на якой патрэбна сконцэнтраваць максімум навуковае ўвагі.

„Калі прыглядзецца да таго,—піша Ў. М. Фрычэ,—што ў апошнія гады робіцца ў галіне літаратуразнаўства, дык ня цяжка бачыць, што з вялікай настойлівасьцю, са значнай аднадушнасьцю высоўвалася і яшчэ працягвае высоўвацца на пярэдні плян дасьведчае працы, як карэнная і цэнтральная—адна проблема,—проблема стылю". (Литература и марксизм", книга 1 за 1928 г.). Але аднадушна высунутая „як карэнная і цэнтральная проблема", не знаходзіла правільнага свайго вырашэньня. Больш за тое, яна не знаходзіла правільнай сваёй пастаноўкі (варта прыпомніць хаця-б Сакулінскую канцэпцыю стылю).

„Як гэтую проблему належыць ставіць і вырашаць з пункту гледжаньня марксыцкага літаратуразнаўства", пытаецца Ў. М. Фрычэ. І за гэтым дае наступны асноўны накід вырашэньня пастаўленае проблемы. „Марксызм бярэ гэты тэрмін (стыль. *Л. Б.*) звычайна ў двукосьсе, гэтым самым падкрэсьлівае ўмоўнае яго значэньне. Пад гэтым тэрмінам належыць, відавочна, разумець—гутарка ідзе тут аб зьявах грамадзкага жыцьця—нейкі адзіны цэльны організм, усе часткі якога зьвіты адзіна ўнутранай законамернасьцю, ці, інакш кажучы, нейкі цэльны, законамерна пабудаваны організм". (Литер. и марксизм).

Проблему літаратурнага (поэтычнага) стылю Ў. М. не адрывае ад усяе цэльнае, законамернае грамадзкае сыстэмы, організуючым пачаткам якой зьяўляецца „спосаб вытворчасьці". Літаратурны стыль ён разглядае ў абумоўленасьці яго экономікай, ва ўзаемнай сувязі з усімі бакамі грамадзкага быцьця.

„З пункту погляду марксызму, піша Ў. М., поэзія, як усякае мастацтва, ёсьць толькі „выражэньне грамады", і таму, што поэзія разьвіваецца толькі ў дэталях і дробязях самабытна, зьвязаная ў сваіх істотных праявах заўсёды з экономічным базісам грамады, з яе клясавай структурай (апошняе натуральна толькі ў клясавых грамадах паміж дагістарычным быцьцём чалавецтва і надыходзячым комуністычным ладам), дык зусім натуральна, што законамернасьць, якая існуе ў гэтай галіне, ёсьць законамернасьць ня „іманентная", а „кавузальная", ёсьць нішто іншае, як соцыялёгічная абумоўленасьць поэтычных формаў" (Вестник Ком. Академии, кн. 17, бал. 169 за 1926 г.). З гэтага пункту погляду Ў. М. і падыходзіў да разуменьня стылю.

„Стыль,—піша ён,—ёсьць, па-першае, зьява звышіндывідуальная, вынік пазаіндывідуальных дзейных сіл" (там-жа). Стыль—гэта „вядомыя асноўныя прыёмы, якія вызначаюць „воспроизведение внешнего и внутреннего мира" (там-жа). Гэты літаратурны стыль—гэта такое-ж законамернае адзінства, як і стыль „грамадзкі", гэта органічнае адзінства ўсіх кампанентаў, якія складаюць літаратурны твор, ці суму літаратурных твораў кампанентаў, як псыхалёгічных,... так і тэхнолёгічных ці інакш органічнае адзінства формы і зьместу" (Литерат. и марксизм, кн. 1).

Стыль уяўляе сабою нейкае цэльнае адзінства, пабудаванае на пэўнай законамернай падставе. Літаратурны (поэтычны) стыль гэта такое адзінства, усе паасобныя часткі якога зьвязаны адна з другою нейкім „формiруючым прынцыпам“, нейкім „форматворчым цэнтрам“.

Гэты „форматворчы цэнтр“ У. М. знаходзіць не ў якіх-небудзь „нязьменных“ якасьцях пісьменьніка, а ў экономіцы данае гістарычнае эпохі. „Формiруючым..., стылявое адзінства, прынцыпам ці пачаткам зьяўляецца экономіка, „спосаб вытворчасьці“—піша У. М. Фрычэ.

Аднак, прызнаньне экономікі формiруючым прынцыпам стылевага адзінства не павінна весьці да мэханічнага, непасрэднага, вывядзеньня стылю мастацкіх твораў непасрэдна з самой экономікі, „спосаба вытворчасьці“, як гэта робяць няўдала некаторыя „Переверзяўцы“.

У. М. Фрычэ быў сьведкай мэханістычнага разуменьня абумоўленасьці стылю экономікай і таму ён рашуча падкрэсьліваў, што „бліжэйшым формiруючым літаратурны (поэтычны) стыль пачаткам зьяўляецца не экономіка, а момант выводны ад экономікі, момант псыхолёгічны“ (Литература и марксизм, кн. 1).

Але-ж гэта таксама ня тое, што сьцьвярджаюць Сакулінцы, быццам стыль адлюстроўвае псыхаідэолёгію пісьменьніка (гл. „Теорию литературных стилей“ Сакуліна), быццам стыль ёсьць вынік самога пісьменьніка. Гэтакае вульгарнае, спрашчонае разуменьне неўласьціва было нябожчыку Фрычэ. Для Фрычэ поэтычны стыль ёсьць толькі частковае, спэцыфічнае адлюстраваньне ідэолёгічнага стылю наогул.

Таму і не экономіка непасрэдна, і не псыхаідэолёгія пісьменьніка зьяўляецца тым пачаткам, які „з няўхільнасьцю організуе ўсе кампаненты літаратурных твораў—тэматыку, вобразы, жанравую композыцыю, слоўную абалонку і г. д. у адно органічнае цэлае“,—гэтым пачаткам зьяўляецца „псыхаідэолёгія клясы ці ўнутрыклясавае групы“ (Литература и марксизм, кн. 1).

На падставе такога разуменьня літаратурнага (поэтычнага) стылю У. М. Фрычэ і вызначаў асноўную, першачарговую задачу сучаснага літаратуразнаўства. „Першая і асноўная задача, якая стаіць перад сучасным літаратуразнаўствам... у тым, каб пераглядзець і занава вывучыць творчасьць амаль усіх пісьменьнікаў, расійскіх і заходніх... пад паказаным кутом гледжаньня, як стылевыя ўтварэньні, законамерна абумоўленыя ўва ўсіх сваіх частках ідэолёгіяй клясы ці ўнутрыклясавае групы на фоне пэўных вытворча-экономічных формацый“ (Лит. и марксизм, кн. 1). Але-ж гэтым задачы літаратуразнаўства ня вычэрпваюцца. Перад ім паўстае шэраг складаных пытаньняў, якія чакаюць яшчэ сваёй распрацоўкі. Перад літаратуразнаўствам усплываюць, ува ўсю сваю шырыню, пытаньні, без вырашэньня якіх нельга выканаць асноўную задачу: „пераглядзець і занова вывучыць творчасьць усіх пісьменьнікаў“. У. М. Фрычэ накідвае вялікі сьпіс гэтых пытаньняў, якія падлягаюць чарговай распрацоўцы сучаснага марксыцкага літаратуразнаўства.

„Як кляса ці тая, ці іншая соцыяльная група, якія дасьпелі, арганізуюць свой стыль..., як гэты стыль зьмяняецца, калі кляса ці група дасьпела і потым хіліцца да заняпаду, ...якімі сродкамі змагаюцца ўзаемна стылі розных клясаў і груп...; як і калі адбываецца ўплыў стылю адной клясы і групы на стыль іншых клясаў ці груп; ці магчымы і пры якіх умовах стыляўтварэньні, у якіх прыймаюць удзел некалькі клясаў ці груп; ці магчыма і калі ўтварэньне ў стылявым організьме пісьменьніка аднэй клясы новых і іншых стыляўтварэньняў; ці магчымы перанос вядомых элемэнтаў стыляў аднэй клясы ці групы ў стыль іншых і г. д." (там-жа).

У сувязі з гэтым варта спыніць увагу і на чарговых задачах поэтыкі, як часткі агульнага літаратуразнаўства. Соцыолёгічная поэтыка, паводле думкі Ў. М. Фрычэ, у працівалегласьць догматычнай поэтыцы даўнейшага мінулага часу, што вызначала правілы, якім павінны былі падпарадкавацца поэты ў сваёй творчасьці; у працівалегласьць гістарычнай поэтыцы XIX стагодзьдзя, прызначэньнем якой было ўскрываць гістарычны гэнэзыс поэтычных формаў,—соцыолёгічная поэтыка „ставіць сваёй мэтай адшукаць тую законамернасьць, якая існуе ў жыцьці гэтых формаў", а пры дапамозе гэтага вырашыць цэнтральныя проблемы поэтыкі „проблему стылю і проблему жанраў" (Вестник Ком. Акад., кн. 17).

Дачасная сьмерць не дала магчымасьці Ў. М. вырашыць гэтыя задачы ў сьвятле марксызму, дыялектыка-матэрыялістычным яго мэтодам.

## IV

Для таго, каб даць хоць-бы частковае ўяўленьне аб У. М. Фрычэ, аб гэтым буйным вучоным бальшавіку, мы зварочваем увагу чытача на адну надзвычайна характарную рысу, якая асабліва рэльефна вылучае У. М. з асяродзьдзя вучоных колаў.

У. М. Фрычэ ўсю сваю тэорытычную, усю дасьледчую працу праводзіў не для яе самой, а для практычнага жыцьця і змаганьня. У сваёй прадмове да „Заметок о современной литературе" ён піша, што паводле ягонага „даўняга пераканаaccount жыцьцё важней за мастацтва, і мастацтва мяркуецца ім толькі, як сродак організацыі жыцьця".

У. М. Фрычэ, як вучоны, як бальшавік ні на адну хвіліну не адрываўся ад агульнай барацьбы рабочае клясы за соцыялізм, ад штодзённай організуючай жыцьцё работы. Уся дасьледчая, тэорытычная работа для Ў. М. была толькі сродкам пазнаваньня і організацыі жыцьця, жыцьця пераможнага соцыялістычнага пролетарыяту.

Разуменьне законаў разьвіцьця, законаў стыляўтварэньня, гісторыі і соцыолёгіі стылю „для нас толькі падсобны сродак, каб... лепей і лягчэй разабрацца ў літаратурнай сучаснасьці, у барацьбе літаратурных кірункаў сёньняшнега дню", таксама дасьледчая работа і тэорэтычнае ўразуменьне здабытых вынікаў павінна служыць тым „базысам, на якім

магчыма будзе пабудаваць сапраўдную навуковую літаратурную крытыку, якая здабытыя на гістарычным матэрыяле палажэньні і законы зможа прымяніць да асьвятленьня літаратурнай сучаснасьці і да вырашэньня жыцьцём пастаўленай перад намі проблемы соцыялістычнае культуры, альбо проблемы „стылю“ соцыялістычнае культуры ў той яе частцы, якая ахоплівае стыль літаратуры соцыялістычнае эпохі і раней за ўсё стыль пролетарскае літаратуры“ (Литер. и маркс.).

Мы коратка спыніліся на некаторых рысах асобы і навуковай сыстэмы Ў. М. Фрычэ. Памер артыкулу і той час, які быў прысьвечаны для яго напісаньня, не дазваляе нам закрануць шэрагу іншых рысаў у асобе і шэрагу навуковых проблем, высунутых У. М., а таксама і ўзораў іх вырашэньня. Але-ж нам здаецца, што нават ужо з тых паасобных рыс і кавалачкаў, якія мы падалі чытачу, ён пераканаўся ў тым, чаму буржуазная профэсура лабавой атакай сустрэла кандыдатуру Ў. М. Фрычэ ў акадэмікі, а таксама і ў тым, якая вялізарная згуба для пролетарскай навукі—адыход У. М. у вечнасьць.

# „ПОЭТА БУЙНЫХ ВЕТРАЎ СУЧАСНАСЬЦІ“

*(Аб творчасьці Паўлюка Труса)*

**М. Аляхновіч**

Але вобразы роднага сына
Будуць доўга цьвісьці ва ўспамінах,
Хоць гады маладосьці завялі!..
*(Зб. „Ветры буйныя“).*

У шэрагах БелАПП-у ня стала аднаго з таленавітых поэтаў, аднаго з здольных мастакоў нашае пролетарскае літаратуры.

Памёр Паўлюк Трус.

Зусім нядаўна ён прыехаў з колгасу „Ленінскі Шлях“, што на Магілеўшчыне, куды езьдзіў вывучаць жыцьцё і побыт новай вёскі. Зусім нядаўна быў сярод нас. Расказваў аб уражаньнях, марыў аб новых творах, у якіх хацеў адбіць багаты матар'ял, сабраны ў часе лета. Быў поўны сваёй заўсёдашняй бадзёрасьці, радасьць жыцьця крынічыла ў ім.

Сягоньня яго няма...

Неяк раптоўна і зусім нечакана... Абвесткі з жалобнай каймой у нядзелю першага верасьня здаваліся дзікімі, здаваліся грубым жартам. Неяк ня верылася, што той, з кім ня так даўно гутарыў, сьмяяўся— сёньня адышоў ад цябе далёка. Ня верылася, што не пачуеш больш яго голасу, яго вершаў.

Але сумны натоўп у Доме Пісьменьніка, чырвоная труна, вянкі, ганаровая варта—упэўнівалі. Казалі аб тым, у што, здавалася, нельга паверыць.

Як дзіка... Якраз тады, калі поэта ўсьвядоміў усю глыбіню клясавых супярэчнасьцяй, калі ўразумеў сутнасьць і шляхі сучаснасьці і сваімі творамі актыўна пачаў дапамагаць пролетарыяту, які будуе новае жыцьцё,— яго ня стала. На рубяжы творчага ўздыму, пасьля поэмы „Дзесяты падмурак“, якая паказала нам новага Паўлюка Труса, ён адышоў ад нас. Яго ненадрукованыя яшчэ творы, як, напрыклад, лірычная поэма „Чырвоныя ружы“ паказвае, што шлях „Дзесятага падмурка“ стаў асноўным і адзіным шляхам поэты.

З беларускай вёскі прышоў ён да нас. Адтуль ідуць карэньні яго творчасьці.

Радзіўся ён у 1904 г. у вёсцы Нізок, Узьдзенскага раёну, Менскай акругі. „З раньніх дзіцячых гадоў выхоўваўся ў цёмнай сялянскай сям'і. Сям'я жыла бедна, што адбівалася на выхаваньні ўсіх дзяцей"—успамінае ён у сваёй аўтобіографіі. Агульным жаданьнем бацькі і старога дзеда было, каб ён застаўся працаваць на гаспадарцы. Каб дапамог сваім бацьком. Толькі маці настоіла, каб сын вучыўся: „чужыя-ж дзеці вучацца, няхай і ён пралазіць у людзі". Першапачатковую асьвету атрымаў у Нізаўскай 4-кляснай пачатковай школе. Потым скончыў сямігодку. Пасьля сканчэньня ён год прасядзеў дома. Добра адчуў на сваёй сьпіне польскую окупацыю. У часе наступу Чырвонае арміі на Варшаву 3 месяцы прабыў разам з канём у падводах. У часе побыту дома ён шмат чытаў і зьбіраў народную творчасьць.

У 1923 г. увосень паступіў у Менскі Пэдагогічны Тэхнікум імя Ўсевалада Ігнатоўскага. Дапамог яму ў гэтым Якуб Колас, з якім ён выпадкова пазнаёміўся і прачытаў свае першыя вершы. З 1923 г. таксама ён пачаў друкавацца. З гэтага-ж году прыймае актыўны ўдзел у ўтварэньні Ўсебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк". З 1925 г. зьвязаў свой лёс з комсамолам, увайшоўшы ў яго шэрагі.

Пасьля сканчэньня Тэхнікуму ён працаваў у якасьці газэтнага работніка, супрацоўнічаў у Гомельскай газэце „Палеская Праўда". Потым паступае на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, дзе і вучыўся да апошняга часу. Прыймаў чынны ўдзел у працы Менскай філіі БелАПП-у, дзе кіраваў масавай работай па наладжваньні вечароў і выступленьняў у рабочых клюбах і г. д. На І-м Зьезьдзе БелАПП-у абраны членам Рэвізійнай Камісіі. 30 жніўня г. г. памёр ад брушнога тыфусу ў Менску. Тут-жа і пахаваны 2 верасьня на вайсковых могілках.

Яго літаратурная продукцыя зьмешчана ў зборніках: „Вершы" (выд. ЦБ Маладняка—1925 г.) і „Ветры буйныя" (БДВ—1927 г.). Апрача таго, значная колькасьць твораў раскідана па кругабежных выданьнях, у іх ліку, адна з апошніх поэм „Дзесяты падмурак". Цяпер у апошніх нумарох нашых часопісаў друкуюцца „Смутак каханьня" (урывак з поэмы „Сірата Алеся") („Полымя" № 8—9—1929 г.), поэма „Чырвоныя ружы" („Маладняк" № 9—1929 г.).

Характар сваёй поэзіі, яе крыніцы сам поэта яскрава зазначае ў наступных радкох:

Ой, песьні!.. Песьні-веснаплыні...
Маёй душы зялёнацьвет!..
Па ўлоньні цьмянае даліны
Крыніцай сочыцеся ў сьвет!..
Вы з кветак-ружаў сонцавею
Ўяце вянок жывых былін
Пад ветра-буйныя павевы,
Пад гоман сонечных калін!..

Бурлівым подыхам прадвесьня
Вы сны калышаце нізін.
Даўно я вас, акорды-песьні,
У зрэбнай радасьці насіў.
Яшчэ з маленства, як ніколі,
Мне матка зычыла сьпяваць,—
Калі трымала на прыполе
У сьпелай постаці жніва!..
(„Ветры буйныя“, стар. 55).

Гэты ўрывак з поэмы „Цыганка“ зьяўляецца як-бы прэлюдыяй да ўсяе творчасьці поэты. Сапраўды, ён у сваіх песьнях вылівае душу. Родныя песьні, песенная стыхія беларускае вёскі—вось крыніцы яго напеўнасьці.

Мы паспрабуем вызначыць асноўныя мотывы яго поэзіі.

Бор старажытны, зруйнованы,
Вырваны імпэтам буры,
Песьні складаюцца новыя
Тут па-над лесам панурым.
Тут, дзе раней бушавалі
Посьвісты буры віхрыстай,
Сёньня бунтарскія хвалі
Поўняць мяне агнявіста.
(„Вершы“, стар. 6).

Змаганьне старога з новым, перамогу „вольнае плыні“—паказвае аўтар.

Упусьціла старое паводзьдзе,—
Калі вір маладога нахлынуў.
(„Вершы“, стар. 5).

У шэрагах змагароў за новае жыцьцё выступае аўтар:

Мы спарахнелае палім,
З ім быльняговыя межы.
(„Маладняк“ № 6, 1925 г.)

Ён чуе новыя песьні, вольныя песьні „стыхіі разводзьдзя“ рэволюцыі. На бурных хвалях ідуць аграмадныя крыгі, яны імкнуцца ў далёкую прыгожую даль. Разам з імі плыве поэта.

Адпіхнуўшы ад берагу човен
І махаючы прысам кляновым,
Я плыву—і надзею повен,
Што спаткаю сусьвет вольна-новы!
(„Вершы“, стар. 5).

Гэты „вольна-новы“ сусьвет, да якога імкнецца поэта — рэволюцыя.

Ліпень 1920 г. Апошнія польскія разьдзелы адыходзяць з Беларусі пад націскам Чырвонае арміі. Гараць вёскі і гарады. Уздымаецца хваля

паўстаньня. Магутны ўздым беларускага працоўнага сялянства, якое пад кіраўніцтвам пролетарыяту ў партызанскіх атрадах паўстае на барацьбу з польскай окупацыяй—спрабуе падаць аўтар („Ліпнёвае“ — „Маладняк“ № 8, 1925 г.).

Буйныя ветры прынесьлі з глыбінь жыцьця новыя песьні. Хвалі разгойданага мора крышуць на кавалкі рэшткі старога. Точуць гніль вякоў. Поэта з запалам зварачаецца да хваль:

Цалуйце-ж, хвалі,
Дно і гніль,
Крышэце ў бурах
Няжывое!..
Яго разьвеюць
Заўтра дні
Шырока-піністым
Прыбоем!

(„Ветры буйныя“, стар. 12).

„Шырока-пеністы прыбой“ дзён чуе поэта. Гледзячы на беларускія вёскі, сэрца яго красуе і цьвіце „у сузор‘ях радасьці“. Ен верыць, што

...там, дзе ў бурах
Сыпалася зерне,
Бур‘янам дзікім
Шлях не зарасьце...

(„Ветры буйныя“, стар. 94).

Даючы прыгожыя малюнкі працы на сенажаці, поэта ўсё-ж яскрава памятае мінулае.

Растрасаюць мурог маладзіцы,
Дні мінулага помняць яны;
Як у „Жморах“ сушылі травіцу,
А над імі стаялі паны.

(„Вершы“, стар. 41).

Гэта ўяўленьне постаці прыганятага пана, які стаяў над сялянскай працай, характэрна для поэты, які вышаў з беднай сялянскай сям‘і. Даючы мастацкія замалёўкі сялянскае працы, поэта падкрэсьлівае той момант, што гэта праца сёньня зьяўляецца свабоднай. Распрыгоненасьць сялянскае працы яскрава паказвае ён:

І кладуцца пракосы мурогу,
Запаўняюцца шчасьцем сьляды.
Нам ніхто не заслоніць дарогу, —
Вольнай раці касцоў маладых!..

(„Вершы“, стар. 40).

Як бачым, соцыяльныя мотывы ў яго творчасьці знайшлі належнае месца. Яны выяўляюцца, з аднаго боку, у успамінах аб мінулым, з дру-

гога боку, як супроцьстаўленьне, паказваецца вольнае жыцьцё сучаснасьці. Замалёўкі соцыяльных мотываў ідуць у яго пад сьцягам Кастрычніка. Кастрычнікавая рэволюцыя, якая прынесла вызваленьне Беларусі рабочых і сялян,—вось асноўная крыніца гэтых мотываў.

Пад напевамі ветраў асеньніх,
Над прасторамі ўзораных гоняў
Карнаваліць жыцьцём вызваленьня
Векапомны Кастрычнік сягоньня.

(„Сёмая гадавіна", „Полымя" № 4 (12)—1924 г.).

Паўлюк Трус бачыць, што Кастрычнік ня толькі соцыяльнае, але і нацыянальнае вызваленьне працоўным масам Беларусі, і, вітаючы сёмую гадавіну Кастрычніка, зварачаецца да краіны:

Беларусь! над табой агнявіста
Новай квадры настаў маладзік.

(„Сёмая гадавіна", „Полымя" № 4 (12)—1924 г.).

Трус разьвіваўся. Разьвівалася і яго творасьць. Выхаваны на нашаніўскіх мотывах ён ня мог не адбіць у сваёй творчасьці пэўныя нацыяналістычныя настроі.

Аддам усё, чым сэрца плача,
Дастану сэрца й падару,
Бо я людзей яшчэ ня бачыў,
Каб так любілі Беларусь!

Кажа поэта ў „Ветрах буйных".

Але гэтыя ноты паступова зжываюцца і ўжо цераз паўтара гады ён піша:

Тварцы і геніі,
Прарокі і поэты!..
Ў калючых церніях
Ня слаўце Беларусь!
Ня слаўце містыкай,
Хто ў сэрцы мае зраду;
Хто ў сьне-агоніі
Ўзьняў рукі на крыжы.

(„Ліст да сястры", „Полымя" № 9—1928 г.).

Ён абураецца супроць тых поэтаў, якія ў гэтыя дні, калі

Няма Вялікшага,
Як будаваць і жыць...

(Ibidem).

калі навокал буйна крынічыць жыцьцё, калі „усьмешкі-водблескі над краям шалясьцяць", уяўляюць Беларусь раскрыжаванай, сумуюць па старых каштоўнасьцях, ідэалізуюць мінулае роднае краіны, ня вераць у рэволюцыю.

Наадварот, у гэтыя дні, дні абвастрэньня клясавай барацьбы, дні вялізарных уздымаў рабочае клясы ў барацьбе за новую індустрыйную Беларусь, ён становіцца поруч з жыцьцём.

Мы прыходзім у сьвет,
Каб уславіць яго,
Ўсе аддаць за жыцьцё і змаганьне!

(„Літ. дадатак“ да „Сав. Бел.“ № 19 ад 25/XI 1928 г.)

Наступная група мотываў, якая займае досыць значнае месца ў творчасьці поэты—гэта мотывы прыродаапісальныя.

Стыхія вясковай прыроды, плынь народнае творчасьці — асноўныя крыніцы для гэтага. Замалёўкі прыроды ў аўтара прасякнуты непасрэднасьцю і глыбокай эмоцыянальнасьцю. Бяз штучнае вобразнасьці, мякка і пяшчотна малюе ен прыроду. У лёгкіх абрысах паўстаюць перад вачыма чытача родныя палі і палеткі, лясы і сенажаці. Малюнкі родных краявідаў спалучаюцца ў аўтара ці з думкамі аб народнай песьні, ці з мотывамі каханьня, ці даюць глебу для сваясаблівых філёзофскіх меркаваньняў. Даючы, нават, малюнкі змаганьня, поэта ў якасьці мастацкага параўнаньня дае грозныя праявы прыроды, як буру, разводзьдзе, завіруху. Для яго замалёўкі прыроды ў большасьці сваясаблівы фон, на якім разгортваюцца розныя падзеі. Любы верш зьяўляецца яскравым прыкладам пададзенай намі думкі.

Возьмем наступны:

У блакітнай высі, цёмна-сінім моры,
Дагаралі зоры—
Зоры залатыя.
А ў ружовых далях, ой, з-за бору, бору...
Калыхала песьня паплавы-прасторы.

Калыхала песьня небасхіл імглісты,
Калыхала сьвістам
Пад гарою гай.
Ой, люблю сьпяваць я на мяжы гарыстай,
Дзе ў зары празрыстай
Топіцца імгла.

Калыхала песьня вольнае бязьмежжа,
А ў грудзёх сярмяжных,
Ой, вішнёвіць жар!
Эх,
Люблю я ў полі, на жытнёвых межах
Упівацца сьвежым
Вінным сокам яру.

І тады на крыльлях вольна-сакаліных
Поглядам арлiным
Мераю прасьцяг,

Дый люблю-ж я ў полі на прыпол даліны
Сыпаць цьвет малінны—
Новага жыцьця!..
О, цябе я ўспомню, маладая вёска!..
Дзе ў вясновых ўсплёсках
Смутак утапіў,
Дзе з касою вострай, раніцою роснай
На мурог, пракосах
Хмель я шклянкай піў.
У блакітнай высі, цёмна-сінім моры
Пагасалі зоры,
Зоры ды міганьні,
А ў ружовых далях, ой, з-за лесу-бору
Растапіла сонца мклівасьць сочна-раньнем.

(„Ой люблю“—з б. „Вершы“, стар. 43).

Малюнак раньня, вось што паказвае аўтар у гэтым вершы, але адначасна сюды ўплетваецца глыбокае замілаваньне да роднае песьні. Замалёўкі прыроды, замалёўкі сялянскае працы аўтар абавязкова зьвязвае з народнай песьнай: „Веюць ветры“... („Ветры буйныя“, стар. 7), „Ой, пайду“... („Ветры буйныя“, стар., 9), „Ой, ня яснага сокала крыльле“... („В. б.“, стар. 13), „Завіліся сьцежкі“... („Ветры буйныя“, стар. 15), „Я пакахаў цябе да сьлёз“... („В. б.“, стар. 115), „Трыпціх“ („В. б.“, стар. 109), „Апала сінь“... („В. б.“, стар. 95), „Ой, ня гнецца над рэчкай каліна“... („Вершы“, стар. 41), „Вее вецер“... („Вершы“, стар. 45). Гэта зусім нязначны лік з тых вершаў, якія маюцца на гэту тэму ў яго зборніках. Народная песьня—гэта своеасаблівы прыём успрыняцьця аўтарам прыроды.

Мотывы каханьня, крыжуюцца з папярэднімі мотывамі і вельмі рэдка займаюць самастойнае месца. Замалёўкі прыроды—гэта фон, на якім разгортваецца чароўная казка каханьня. Але каханьне ў Труса пазбаўлена нездаровай эротыкі, грубага любаваньня:

У Купальскую ноч,
Над прасторамі вод
Цалаваліся явар з калінаю.
Як драмалі палі,
Засынаў небазвод,—
Я спаткаўся з чароўнай дзяўчынаю.

(„Вершы“, стар. 25).

Роснай далінай, каля няжатага жыта ідуць яны. З зёлак-красак яна ўе вянкі. „Сінявокія прасторы палёў“ вабяць іх. Здалёку нясецца песьня. Перад імі паўстае ўсё жыцьцё. Ясна і поўна. Як неабдымны абшар.

Не разьвесісты гай
Гаманіў пад гарой,
Не зязюля ў гаі кукавала,—

У купальскую ноч,
Пры спатканьні з табой,
Ты аб шчасьці з запалам сьпявала.
(„Вершы“, стар. 26).

Даючы малюнкі разьвітаньньня з любай, якая

...Сэрцам чулым
Ды другога прыгарнула
(„В. б.“, стар. 67).

поэта ў адпаведных малюнках прыроды знаходзіць падмацаваньне гэтаму

Нам з табою ў разьвітаньне
Поле крылася туманам...
(„В. б,“ стар. 66).

Зварачаючыся да другой дзяўчыны, ён кажа:

Нашто мне сьмех тваіх вачэй,
Твайго аблічча каляровасьць..
Калі душа баліць яшчэ
Па тэй чарнявай смуглабровай.
(„Маладняк“ № 9, 1926 г.).

Тады ў мотывы каханьня ўплятаюцца мотывы клясавага самапачуцьця аўтара. Напрыклад, ён піша аб спатканьні з дзяўчынай іншага клясавага асяродзішча. Яе смуглае аблічча навявае ў поэце ўспаміны аб мінулых днёх, аб дзяўчыне, з якой калісьці скрыжаваліся яго шляхі. Здаецца, успаміны ўскалыхнуць мінулае і ў абдымках новага пацуцьця знойдзе поэта новае шчасьце. Але

Можа хто адну цябе прытуліць
І за вусны моладасьць аддасьць?
Але я за зрэбную кашулю
Ў аксаміты сэрца не прадам,—
Бо на мне радняная кашуля!..
(„Маладняк“ № 3—1927 г.).

Здаровае клясавае пачуцьцё адпіхае яго.

Ён знаходзіць новыя словы, словы з багатае скарбніцы народнае поэзіі для абмалёўкі блізкай і роднай.

Вочы—ўсьмешкі вясны,
Думы—гоман крыніц;
Льну палойкі—бялявыя косы.
Зоры—зьнічкі ў душы,
У сэрцы іскры-агні;
І такая чароўная постаць!..
(„Літ. дадатак“ да „Сав. Бел.“ № 19 ад 25/XI—28 г.)

Выразна выступае ў творчасьці Труса плынь мастацкага фольклёрызму. Мы ўжо ў біографічных зьвестках падкрэсьлівалі яго захапленьне народнай песьняй, таму ён і ў сваёй творчасьці адводзіць ёй значнае месца. Народная песьня, ці то ў форме непасрэднае мастацкае апрацоўкі, ці ў якасьці сваяасаблівае лірычнае інтэрлюдыі ў больш буйных творах ці ў якасьці невялікіх купюр-рэфрэнаў, дапасаваных да зьместу, спатыкаецца амаль не на кожнай старонцы.

„Ой, у полі тры тополі“... („В. б“, стар. 88), „Цячэ рэчка з-пад явару“... („В. б.“, 102), „Ой, вярбіна зялёная“... („В. б.,“ 112)—вось яскравыя прыклады непасрэднай мастацкай пераапрацоўкі.

„Ой, куды, куды вы, ды шэрыя гусі“... („В. б.“, стар. 25), „Гара высокая ў тумане“ („В. б.“, 31), „Плыве човен вады повен“... („В. б.“, 68), „Ой, там за гуменцам“... („В. б.“, 115), „Селі гусанькі“ (Ліст да сястры, „Полымя“ № 9—28 г.)—зьяўляюцца сваяасаблівымі рэфрэнамі, дапасаванымі да зьместу.

Чуюцца ў яго і сумныя жалосныя гукі народнае скаргі, спрадвечнае ўласьцівасьці беларускае народнае песьні: „Селі гусанькі, гусі-лебедзі“... („Полымя“ № 9—28 г.). Прарываюцца і больш вясёлыя мотывы: „Плыве човен вады повен“ („В. б.“, 68).

Адлюстроўвае ён і народныя звычаі, якія зьвязаны ці то з колам песень гадавога жыцьця, ці з колам песень аб жыцьці чалавека. Паўстае Купальле з шуканьнем купальскае кветкі, вянкамі на вадзе; перадаецца і жніво з далёкім водгукам-рэхам дажынкавых песень, ёсьць і накіды аб заклiканьні вясны. Перадаючы песьні, аўтар ня можа не застанавіцца на рэштках старых абрадаў, якія дапамагаюць яму больш пуката выявіць свае асноўныя думкі.

Такім чынам намі ў лірыцы поэты вызначаны наступныя мотывы: соцыяльныя, нацыянальныя, прыродаапісальныя, каханьня і плынь мастацкага фольклёрызму.

Пераходзячы цяпер да абеглага агляду яго поэм мы і там знойдзем крыжаваньне гэтых самых мотываў, і, нават, амаль у такім-жа самым спалучэньні.

Па часу напісаньня, а часткова і па часу зьяўленьня ў друку іх можна падзяліць на 3 групы. Першая—гэта пэрыод зборніку „Вершы“, сюды можна аднесьці „Юны змаганец“ і „Астрожнік“; другая—пэрыоду зборніку „Ветры буйныя“, тут ўрыўкі з „Лірніка“, урыўкі з „Цыганкі“ і ўрыўкі з „Сіраты Алесі“; трэцяя—апошнія гады прадстаўлена „Дзесятым падмуркам“ і „Чырвонымі ружамі“.

У поэме „Юны змаганец“ падаецца той час, калі

Беларусь убінтоўвала раны,
Беларусь спавівалі пажары.
Апускаліся рукі на пана,
Ня стрымоўвала помсты душа!
(„Вершы“, стар. 7).

Паказ гэтага змаганьня мы знаходзім у радкох поэмы. Мінулае папялее з дымам для таго, каб на вогнішчы забуяніла новае жыцьцё. Таму што прыдзе час, калі:

Закалосіць свабодным уздымам
Маладога жыцьця акіян.
(„Вершы", стар. 13).

Малады Янка выбіраецца ў дуброву да свайго брата—правадыра паўстанцаў. Сьлёзы маткі, якая аддае краіне свайго другога сына, ня могуць яго стрымаць. Ен ірвецца ў бой, ірвецца да змаганьня. Маці, выпраўляючы яго ў небясьпечную дарогу, ведае і верыць, што ён ідзе для

Перамогі над панскім прыгонам,
Над разлогам палёў паднявольных.
(„Вершы", стар. 9).

У глыбі лясоў спаткаліся браты, каб на раньне зноў пайсьці на змаганьне. Пасьля паасобных малюнкаў бойкі, якія зьяўляюцца зьместам наступных разьдзелаў, поэма канчаецца малюнкам перамогі і вызваленьня БССР.

Другую поэму „Астрожнік" аўтар зборніку падае ў выглядзе цыклю вершаў, аб'яднаных адным героям і адным мотывам, але ў першадруку (час. „Малады Араты") такога падзелу няма, што і дае нам падставу называць яе поэмай. Сюжэт яе нескладаны: комсамолец Якім гіне за справу сваіх братоў, расстрэлены панамі. У яго асобе аўтар паказвае перадавых барацьбітоў беларускае вёскі, які загінулі за справу вызваленьня.

Поэта шкадуе загінуўшых, ён сумуе аб блізкіх і родных, якіх ужо сёньня няма, але глыбокая вера ў тое, што

...Справа магутная КІМ'у
Не памрэ!.. Будзе вечна квітнець!..
(„Вершы", стар. 20).

дапамагае яму.

Асноўнымі мотывамі поэм гэтай групы—зьяўляюцца змаганьне і патос барацьбы, моцная вера ў новае, прыгожае жыцьцё, радасьць маладога жыцьця.

Да другой групы мы прымушаны аднесьці толькі ўрыўкі з поэм таму, што да апошняга часу яны цалкам яшчэ ня выдрукаваны. Па зборніках, часопісах і газэтах раскіданы паасобныя часткі, прычым інады цяжка бывае выявіць, якая частка ідзе спачатку і якая потым.

У ўрыўку з поэмы „Цыганка" (зб. „Ветры буйныя", стар. 53—62) фактычна аўтар дае сваясаблівы панегірык народнае песьні. Адначасна гэты ўрывак пераплецены ўспамінамі аб уласным жыцьці, з якімі крыжуецца романтычнае (амаль ад Пушкіна) жыцьцё цыган. Урывак канчаецца ўспамінамі старога цыгана аб дачцы Зараі.

Два ўрыўкі з поэмы „Лірнік" („Маладняк" № 7-8 і № 2 за 1927 г.) даюць апрацоўкі народных „казак-успамінаў". Уступ, прысьвечаны песьні, гаворыць аб неабдымнасьці жыцьця. Поэта ўспамінае аб сьветлых дарогах, марыць аб роднай песьні. Словамі дзядулі лірніка ён кажа аб сабе:

Ты будзеш пець...
І казкі-песьні
На струнах дум зашалясьцяць..
І ўдаль пакоцяцца Прадвесьнем,
Вялікай Музыкай Жыцьця.
(„Маладняк" № 7-8—1927 г.).

Ён піша аб патрэбе моцнай, палымнеючай песьні, якая-б растапіла чалавечае сэрца. Зьмест надрукованай часткі поэмы нескладаны. Усьлед за ўступам поэта піша аб хаце рыбака, якая стаяла ў зацішку над вадой. Разам з Захарам-рыбаком там жыла яго дачка Марына. Няшчасна склалася яе жыцьцё. Лепшыя парываньні маладосьці, лепшыя мары першага каханьня, свае глыбейшыя пачуцьці аддала яна каханаму. Але той здрадзіў, кінуў яе.

...Сэрца кволае параніў,
Памяў лісты...
Вянкі надзей!
Надзей асьнежаныя астры
Памяў і кінуў за вакно.
(„Маладняк" № 2—1927 г.).

Ашуканства каханьня, сум па разьбітых марах маладосьці паказвае аўтар у гэтым урыўку.

Больш урыўкаў пададзена з поэмы „Сірата Алеся". Гэта поэма захапіла творчае выабражэньне аўтара амаль з першых год яго літаратурнае творчасьці. Ужо ў зборніку „Вершы" (1925 г.) выдрукаваны ўрывак. Паасобныя кавалкі друкуюцца і потым, і нарэшце ў гэтым нумары „Полымя" друкуецца яшчэ частка поэмы, пад назвай „Смутак каханьня", якая ўзята з недрукаваных твораў поэты.

Малюючы постаць Алесі, аўтар зьбірае самыя лепшыя ўкрасы народнае поэзіі, зьбірае спэцыфічныя сялянскія вобразы для адбіцьця яе вачэй:

Ты сінь вазёрнага Палесься
Адбіла ў сонечных вачох.
Адбіла чэрвеньскія зоры,
Смуглявасьць ціхіх вечароў.
І гнеў зажынкавага мора,
І казкі дзіўныя палёў.
(„Полымя" № 8-9—1929 г.).

На „крыжох яе пуцін" так рэдка і так мала спатыкалася шчасьце так многа было гаручых сьлёз. Інады, як скрозь дым, успамінаюцца

шчасьлівыя гады дзяцінства. Калі ўся сям'я была разам. Калі разам быў любы брат Міхась. Успамінаюцца першыя праявы пачуцьця да суседа — аднавяскоўца Алеся. Але ўсё гэта мінулася. Пяць год, як яна сірата. Кудысьці ў далёкую Сібір занесены рэволюцыяй яе брат. Алесь даўно пайшоў у горад шукаць шчасьця. Яму ўдалося паступіць, там на завод. Яна працуе ў чужых. Ад раньня да позьнага вечара хіліцца над работай. Рэдка калі ўдаецца вырвацца ў клюб. З раньня, як толькі ўстае сонца, і толькі-толькі пачынае ўзьнімацца лёгкі пухкі туман

Алеся журыцца маўкліва,
Яна запасвае чаргу.
(„Полымя" № 7—1925 г.).

У тон яе журбы часта пяе на жалейцы стары дзед—пастух

Пастух засмучанай дзяўчыне,
Легенды ў песьнях напяваў.
(„Полымя" № 7—1925 г.)

Так ішло жыцьцё. Але-ж раней было інакш. Раней, каханьне агнём запальвала яе пачуцьцё. Радасьць крынічыла ў вачох. Сіняй птушкай прылятала шчасьце.

На вуснах сьмех,
Іскрынкі-вочкі,
А на вуме?
А на вуме—
Алесь—рабочы.
(„Вершы", стар. 28).

У выдрукаваных кавалках паказу каханьня сіраты Алесі, „дзіцяці Наднёманскіх нізін", для Алеся рабочага не адводзіцца месца. Гэта каханьне падаецца ў аспэкце ўспамінаў, якія, закранаючы сэрца дзяўчыны, даюць магчымасьць аўтару даваць сваясаблівыя лірычныя монолёгі Алесі, ці уводзіць, як музычную ілюстрацыю, народныя сьпевы. Чараваньне ласкі рабочага Алеся, супольныя пагулянкі ўвечары, калі туман ахінае кусты, песьні для яго—усё гэта паўстае перад ёй, як далёкі ўспамін. Яна ўспамінае, як да яе песень прыслухоўваўся ня толькі любы, але і цёмны гай. Як гэтыя песьні каціліся далёка туды,

Дзе счасьце,
радасьць,
і...
туга!..
(„Вершы", стар 31).

За шчасьцем і радасьцю хвілін спатканьня, яна прадчувае тугу доўгага расстаньня, тугу непадзеленага адзіноцтва. І вось ужо потым

...успамінаецца дзяўчыне
У стройнай постаці Алесь.
(„Полымя" № 7—1925 г.).

Найбольш яскрава гэты смутак каханьня адбіты ў кавалку, які друкуецца ў гэтым нумары. Аўтар, праўда, вельмі асьцярожна і туманна, намякае на прычыну гэтага смутку. Задаючы рытарычнае пытаньне аб тэй крыўдзе, якую яна хавае ў глыбіні надломленай душы, аўтар сам адказвае:

Там кубак з горкаю атрутай
Разьбіў, хто сэрцу дарагі!..
(„Полымя“ № 8-9 1929 г.).

Мы прышлі да паўтарэньня падобнага ж мотыву легенды „Лірнік“. Там так таксама смутак дзяўчыны вырастае з разьбітага каханьня. Ці ня ёсьць урыўкі з поэмы (легенды) „Лірнік“ фрагмэнтамі, чарнавымі накідамі да гэтай буйнай поэмы?

— Доля-ж, мая доля,
Ня ўзышла ты рана.
Ці ў пяскох ты ў полі
Коньмі патаптана?
(„Полымя“ № 8-9 1929 г.).

Яна ласкава-мякка скардзіцца на матку, якая надарыла яе ўсім, нават

Дала чароўныя мне вочы,
Ня ўмела толькі шчасьця даць.
(Ibidem).

Для гусей, якія лятуць у далёкі вырай, усьміхаецца вясна, усьміхаюцца прыгожыя абшары. Для яе краса вялізных абшараў-цяпер не патрэбна, уцеху знаходзіць толькі ў народнай песьні.

„Ей расчастую боль душы“—кажа Алеся, пачынаючы сваю заключную песьню. Для ўсяе творчасьці Труса характэрны лірычныя адступленьні, якія часта-густа распрацоўваюць, нават, не асноўную думку твору. Адчуваецца дыспропорцыя паміж часткамі. Часта лірычнае адступленьне заглушае самы твор. Яскрава гэта адбіваецца і ў гэтай поэме. Дзедпастух, які сьпявае Алесі, дае аўтару магчымасьці для ўласных успамінаў.

Бо з ім у вольнае дзяцінства,
Я думкі ў песьнях калыхаў...
(„Полымя“ № 7 1925 г.)

Кажучы аб песьні, якую сьпявае Алеся любаму, ён захапляецца сам успамінамі аб народнай песьні, і палова ўрыўку прысьвечана лірычнаму адступленьню ад асноўнае сюжэтнае лініі поэмы, прысьвечана аполёгэтыцы роднай песьні. Спатыкаюцца тут і цэлыя кавалкі апрацованых народных песьняў: „У вішнёвым садзе...“ („Вершы“), „Ой, ляцелі гусі“ („Полымя“ № 7—25 г.), „Ты каліна мая“ (Ibidem), „Прыляцелі гусі“ („Полымя“ № 8-9—29 г.), „Прыляці, зязюля“... („Полымя“ № 8-9—28 г.), „Ой, пайду я дарогаю“ („Бел. раб. і сялянка“ № 7—1925 г.), „За далінаю зялёнай“ (Ibidem) і інш.

Апавяданьне (ці як аўтар называе: „верш у прозе“) „Дзікі сьмех“ („Маладняк“ № 1—28 г.) датавана 8-Х—27 г. Ды ня толькі па даце, але і па яго настрою можна адразу аднесьці апавяданьне да гэтага часу. Тут гісторыя жанчыны, з якой выпадкова на станцыі спатыкаецца аўтар. Ад забясьпечаных раньніх гадоў дзяцінства (бацька—абшарнік) яна дайшла да распусты, да прадажы сябе за грошы. Показ романтычны, адчуваецца трафарэтнасьць як у выбары тэмы, так і яе разгортваньні. Гэта апавяданьне адна з характэрных адзнак таго раскрыжаваньня, на якім апынуўся аўтар на пэўным этапе сваёй творчасьці. Трэцюю групу поэм, як мы ўжо казалі вышэй, складаюць: „Дзесяты падмурак“ („Маладняк“, № 12—28 г.) і „Чырвоныя ружы“ („Маладняк“ № 9—29 г.).

Поэма пачынаецца лірычнай увэрцюрай, у якой аўтар апісвае зіму. Дыямэнты-сьняжынкі ціха кружацца і падаюць на зямлю. У сьнежных вянках стаяць задуменныя дрэвы за вакном. Сьнежнымі кілімамі пакрыты паплавы і лугі. Надыходзіць вечар у тонкіх мярэжах сну. Дзесьці далёка-далёка чуюцца бомы.

І прыходзіць радасьць
  у красе маўклівай,—
Адплываюць хвілі
  смутку і тугі

Поэта ахоплены ціхай урачыстасьцю бязьмежных абшараў.

А ў душы квяцістасьць,
  І такая сьвежасьць!..

Ён засынае... Перад яго вачыма паўстае роднае сяло...

Другі разьдзел прысьвечаны апісаньню сну. Ціхая празрыстая восень. Высока над пожнямі, расьсякаючы яснае сонечнае паветра, лятуць гусі з разьвітальным крыкам, лятуць у вырай, у далёкі край з Беларусі. Як на старым малюнку Васьняцова разыходзяцца, тры сьцежкі. Поэта разьвітваецца з сумуючай маткай, якая праводзіць яго ў далёкую дарогу. На якой з гэтых сьцежак захавалася доля? Дзе нядоля? Што спаткае—ці шчасьце, ці ліха-гора? Ён просіць маці не жальбаваць і ня журыцца, таму што

Я пайду туды, дзе сьцені
На курганах блудзяць,
Дзе сланяюцца ў лахмоцьці
Пад крыжамі людзі,
Дзе раджаюцца надзеі
Ў муках чалавечых...
Я пайду, каб абагрэць іх
Песьняю адвечнай.

Ён ідзе для вялікай справы. Ён хоча абагрэць сваёй песьняй таварышоў па клясе і барацьбе, хоча асьвятліць ім шлях да лепшага жыцьця.

Чорнай дарогай у даль агорнутую смугой крочыць ён. На далёкім кургане край-дарогі — сьпяваюць жабракі песьню аб дзяўчыне. Нам здаецца, што пад дзяўчынай, аб якой сьпявалі жабракі—аўтар мысьліць Беларусь. Дзяўчына, якая сумуе і плача ў чужым палоне аб сваёй краіне, па тым, што шчасьце і доля далёка ад яе—гэта перадрэвалюцыйная Беларусь пад царска-панскім прыгонам.

Праслухаўшы песьню зноў шляхамі залатой восені ідзе далей поэта. Над абшарамі зямлі ўстаюць грозныя хмары, пачынаюць шумець вятры, стогнуць хвоі, пачынаецца навальніца—вайна. Гараць лясы, дымяцца балоты. Дымам пакрыты вёскі і сёлы. Дым расьцілаецца над соннымі раней нізінамі. Гінуць людзі.

...Сьлёзы... Кроў...
Літаньне... Жудасьць...
І крыжы на ўсходзе.

На палёх панасыпаны курганы-магілы, агорнутыя сном і тужлівасьцю. Сьціскаецца болем сэрца поэты, бачучы ідучых калек, бачучы шэрагі нязьлічоных ахвяр імпэрыялістычнае вайны. Жах ахапляе яго і ён прачынаецца („І ў зьнямозе расчыніў павекі"). На гэтым канчаецца другі разьдзел.

Трэці разьдзел поэмы можна падзяліць на 2 часткі.

Першая частка—гэта ўрачыстая песьня аб перамозе. Прайшло 10 год упартага змаганьня

Дні прайшлі, адшалясьцелі зоры
На гарачых крыльлях навальніц.
І пульсуе радасьць у прасторах,
Залатыя сьвецяцца агні.

У напорнай імклівасьці адбудоўваецца краіна, вырастаюць „волатымуры". З глыбокай радасьцю вітае поэта новы дзень, вітае чырвоную сталіцу. Глыбока ўзрушаны ён піша:

Скора ў бляску вечара, ой, скора
Празьвініць на вуліцах трамвай.

Адышоўшы ад старой вёскі, ён з запалам пытае:

О, край,
Калі-ж ты станеш
Краем фабрык дымных і машын?

Ен марыць аб блізкім будучым новай індустрыйнай Беларусі:

Буду слухаць песьні Асінстрою,
Захаплюся музыкай турбін.

Захоплены будаўніцтвам, поўны гарачай веры ў канчатковую перамогу соцыялізму, ён ня толькі бача атуляючы сусьвет, але і расцэньвае яго з пэўнага пункту погляду, з пункту погляду пролетарыяту. Ён зьмяняе

сусьвет. Ен ня толькі расчыняе ўнутраную лёгіку грамадзкага жыцьця, але організуе і прасоўвае пэўны тып клясавае практыкі да жаданай мэты.

Другая частка гэтага разьдзелу пачынаецца так:

Праходзяць эпохі—
змагаемся мы,
Дзесяты падмурак заклалі.
А Нёман гамоніць,
сярдзіта шуміць,
І коцяцца грозныя хвалі.

У супроцьстаўленьні нашае вялізарнае працы і пакут Заходняе Беларусі—асноўная думка гэтай часткі. У шуме грозных хваляў Нёману чуецца поэту крыўда і гнеў адарваных братоў, жудасьць затоеных скаргаў, скон лепшых таварышоў.

Ён адчувае, што ў Заходняй Беларусі зьбіраюцца грозныя хмары-навальніцы, ён прадчувае хуткі надыход вызваленьня для сваіх братоў па клясе і змаганьню. Зварачаецца з прызывам „распаліваць у сэрцы паходні“, таму што

Канае ў зьнямозе
жахлівая ноч
Над горкай нядоляю братняй.

І моцным акордам гучаць заключныя радкі, у якіх ён заклікае

Пад сьцягам рашучасьці
К. П. З. Б.
Услаўце-ж вы перамогу!

Як бачым, поэма мае надзвычайна зграбную пабудову. З пачатку лірычны ўступ з апісаньнем зімы, напісаны з уласьцівай Трусу маляўнічасьцю. Далей ідзе тэзіс—малюнак перадрэволюцыйнай Беларусі; як антытэзіс—даецца ў патэтычных танох наша Савецкая Беларусь і як абагульняючы сынтэз, як заключны акорд—Заходняя Беларусь, якая пад сьцягам КПЗБ ідзе да агульнае мэты—ідзе да вызваленьня.

Другая поэма „Чырвоныя ружы“ першы раз друкуецца толькі пасьля сьмерці поэты.

Што складае зьмест гэтага твору?

У агняцьвеце вясны расьцьвілі чароўныя ружы. Надышоў мароз і ружы „завялі ў асьнежаных сьцюжах“. Прайшоў нейкі час

І ў красе за вакном
расьцьвілі яны зноў,—
Расьцьвілі ружы-кветкі над краем.

Чырвоныя ружы—гэта сымболь паўстаўшай з тхлані вякоў Беларусі, якая пад сьцягам Кастрычніка выйшла на шырокія шляхі свайго будаваньня. Новым для Труса зьяўляецца ўвядзеньне ў мастацкую композыцыю твору Чырвонай арміі. Чырвоная армія, аб якой ён толькі ўспамінае

ў поэмках першае групы, тут выступае ў якасьці аднэй з асноўных дзеючых сіл.

А з-пад гор, з-за гор
Чуцен шабляў звон...
Дзіка мчыцца ў бой
Трэці эскадрон.

У абмалёўцы начальніка эскадрону ён выходзіць з уласьцівых народнай песьні вобразаў. Начальнік эскадрону замяняецца, узятай з народных песьняў, фігурай „грознага атамана". Яго

Вочы—
Гнеў-агонь,
Погляд—
Думы-сны...
Пад ім сокал-конь
Лёгкі, вараны...

Бачыце, і тут Трус ідзе ад народных вобразаў. Упартае імкненьне да пастаўленае мэты, цьвёрдае і безагаворачнае выкананьне загаду.

— Ёсьць такі загад:
Ні на крок назад!..

— характарызуюць Чырвоную армію ў замалёўках Труса. Наступныя разьдзелы прысьвечаны характэрным для Труса вобразам. Тут „лірнік-жабрак", гукі-песьні—успаміны далёкія", „быльнёг пры дарозе", „гусі, якія патанулі за гаем", „дзяўчына, якая сумуе ля варот". На гэтым фоне разгортваецца сум дзяўчыны па любым. Яна імкнецца туды, да яго, на поле бойкі. Ёй здаецца

Дзесьці ў шале коні
Скачуць перад боем,
І ў стэпу рыдаюць
Сурмы за сялом.

Малюнкі магчымага трагічнага лёсу каханага паўстаюць перад ёй:

Можа ён забіты
Ў лузе, пад вярбою
А ці мо' забраны
У чужы палон?

Апошні разьдзел поэмы прысьвечаны новаму жыцьцю. З далёкага поля сягоньня лёгка-крылы вецер гоніць у далячынь хмары-караблі. На забітых пуцявінах вырасла дзікая трава. На тых пуцявінах, дзе калісьці лілася кроў, чуліся енкі, гул перамогі... Там, дзе калісьці змагаліся арлы-паўстанцы за лепшае жыцьцё.

Сягоньня там у барваваньні
Над краям зоры шалясьцяць.

„Шалясьценьню зор“ над родным краем, „завіваньню чароўных вянкоў“ на сьцежках бур і навальніц—аддадзены гэтыя радкі. На шляхох, якія акроплены крывёй змагароў, „ня меркнуць Заўтрага агні“.

Агні гарацъ... І ў хвалях Сожу
Губляюць пэрлы пад гарой.
Там песьні льлюцца з Запарожжа,
Шуміць сярдзіты Волхаўстрой!

Захоплены нябачным, казачным патосам будаўніцтва поэта вітае „буры і прывольле, плач навальніц, парыў вясны“. Але яго думкі міжвольна зварачаюцца ад прыгожа-шырокіх малюнкаў будучай індустрыйнай Беларусі ў бок Заходняй Беларусі. Кайданы, якія ўпіліся ў рукі... Стогны... Роспач... Маленьні... Панаваньне сьмерці-жуды, вось што ён бача:

Там за ідэі Вызваленьня
Пад сьпеў на катаргу ідуць.

Заключныя мажорныя акорды поўны гарачай веры ў прыход лепшых дзён для Заходняй Беларусі. Поўны гарачай веры і змаганьня ён адчувае поступ комуны, ён адчувае поступ Соцыяльнае Рэволюцыі.

Яна ідзе ў агні сусьвету,
Як грозны цень,—
Яна ідзе...

І ў страёх красы будучых эпох, у творчым уздыме, у неабдымнае радасьці бадзёрае маладосьці, у адчуваньні сябе, як аднаго з актыўных будаўнікоў новага, поэта заканчвае свае поэму.

Прайдуць гады
І пакаленьні,—
Гады ў красе адшэлясьцяць.
І мо‘ другі
Бэтховэн-геній
Уславіць нашае тварэньне
Адвечнай
музыкай
жыцьця...

Некаторыя выказваньні філёзофскага характару, якія раскіданы ў яго творах, можна зьвесьці да наступнага. Жыцьцё ідзе цьвёрда і ўпарта ўперад, адмірае адно, нараджаецца другое. „Усё цьвіце... І адцьвітае“, як кажа сам поэта. Жыцьцё паасобнага чалавека толькі момант у параўнаньні з вечнасьцю. Толькі песьня застаецца вечнай, толькі песьня не адмірае ў душы наступных пакаленьняў. У іх сэрцах яна па ранейшаму застаўляе глыбокі сьлед. Інады жыцьцё прыносіць бруд, але ў ім самім знаходзіцца сіла, каб зьнішчыць яго.

І воды чыстыя жыцьцёвых пераліваў
Змываюць цьмянае з грудзей зямлі.

Мы ўжо казалі, што песенная стыхія беларускае вёскі—крыніца напеўнасьці Труса. Адсюль ён бярэ абедзьвума рукамі. Значнае месца ў народнай творчасьці займаюць эпітэты, тое самае мы наглядаем у Труса; яго эпітэты цалкам народныя: „зоры ясныя“, „цёмная ночка“, „жоўты пясок“, „чыстае поле“, „ясныя вочы“, „гарачыя сьлёзы“, „ветры буйныя“, „зялёная даліна“, „сіні вечар“, „буйныя росы“, „лозы ніцыя“ і г. д. Многа ёсьць эпітэтаў, але ня менш і параўнаньняў, што таксама характэрна для народнае песьні.

Ціха журацца ў лісьці асеньнім  
Саламяныя, шэрыя вёскі...  
Зацьвілі, завіліся ў дасэні  
Маіх песень лісты і пялёсткі.

(„Ветры буйныя“, стар. 14).

Часта спатыкаецца поэтычная таўталёгія рознага віду, паўтарэньне аднакарэнных і адназначных слоў, аднаго і таго-ж слова і цэлых зваротаў.

Дагаралі зоры—  
Зоры залатыя...

(„Вершы“, стар. 43).

Сыплюцца... сыплюцца  
Пацеркі вады...

(„Ветры буйныя“, стар. 19).

Вельмі часта композыцыйная пабудова твору ідзе па лініі пашыранага параўнаньня. Шматлікія вершы, інады ўстаўкі ў іх, зьяўляюцца апрацоўкамі народнай песьні. Нельга не аднатаваць параўнальнай беднасьці лексычнага матар'ялу, асабліва ў зборніку „Ветры буйныя“. Цікавіўся Трус і канонычнымі формамі вершаў. Ёсьць у яго зграбныя сонэты, трыолеты, рондо і інш. Значны лік вершаў з тых, якія зьмешчаны ў зборніках, пераапрацаваны ў параўнаньні з першатворамі, надрукаванымі ў кругабежных выданьнях. Асонансная рыфма ў яго спатыкаецца досыць часта. Ёсьць група домінуючых вобразаў, як: гусі, лірнік, шляхі, песьня і інш. Гэтыя вобразы спатыкаюцца вельмі часта.

* * *

Разглядаючы творчасьць Паўлюка Труса, мы ўжо казалі аб трох пэрыодах. Першы пэрыод канчаецца выхадам зборніку „Вершы“ (1925 г.). Тут поэта выступае, як акрэсьлены рэволюцыйны поэта вёскі. Шырокая радасьць маладога жыцьця, глыбокае захапленьне прыродай, патос барацьбы, вера ў новае жыцьцё. Ці як поэта сам піша:

Гэй, арляняты, прастору!—  
Нам ня схіліцца пад віхрам.  
Мы па бурліваму мору—  
Вольна з адвагаю віхрым.

(„Маладняк“ № 6 1925 г.).

На другім этапе, які захапляе пэрыод зборніку „Вершы“ і цягнецца з 1925 г. па 1927 г, у поэты наглядаецца яшчэ глыбейшае захапленьне народнай песьняй. *Грамадзкі рэзонанс яго поэзіі тут робіцца глушэйшым.* Адчувае гэта і сам поэта. Таму на працягу досыць значнага адрэзку часу ён нічога ня друкуе. У гэты час бліжэй падыходзіць да жыцьця. З сузіраньня ён пераходзіць да непасрэднага ўдзелу ў ім.

З другой паловы 1928 г. ён выступае з новымі творамі, якія паказваюць, што крызіс стаяньня на раздарожжы ўжо скончаны — *гэта трэці пэрыяд.* Тут ужо ён выступае ў якасьці поэты, цалкам сугучнага з сучаснасьцю. Як *жывы чалавек нашае эпохі*, ён падыходзіць да зьяў жыцьця. Ен бачыць і адбівае жыцьцё ў процэсе яго разьвіцьця, разумее сутнасьць і шляхі эпохі і сваімі творамі актыўна дапамагае пролетарыяту, які зьяўляецца перадавым змагаром за новае лепшае жыцьцё.

*Паўлюк Трус становіцца пролетарскім поэтам.*

Калі раней быў вонкавы паказ рэчаў і фактаў, калі іх уплыву на псыхолёгію чалавечае грамады амаль ня было відаць, то ў апошніх творах радасьць жыцьця і творчасьці, праведзеная цераз усьведамленьне надзвычайнай цяжкасьці будаўніцтва новага жыцьця і няўхільнасьці перамогі новага над старым, становіцца глыбейшай, больш зьмястоўнай, поўнаважнай.

У апошніх творах ён падыходзіць да жыцьця з клясавай (пролетарскай) ідэолёгіяй. Гэта значыць, што ён улічвае, якія зьявы жыцьця дапамагаюць гістарычна пастаўленым задачам кіруючае клясы. Ён усьведамляе ўсю глыбіню сучасных клясавых супярэчнасьцяй і ўсе водцені барацьбы клясаў.

З водгукаў на творы трэцяга пэрыоду выдзяляецца думка т. Гамарніка („Справаздача ЦК КПБ на ХІІ-м зьезьдзе КП(б)Б“—даклад т. Гамарніка). Даўшы ў пачатку свайго дакладу на ХІІ партзьезьдзе агульны нарыс разьвіцьця народнай гаспадаркі Беларусі, ён зачытаў урывак з поэмы Труса „Дзесяты падмурак“ і сказаў, „мне думаецца, што гэты тон сугучны настроям усяго партыйнага зьезду, усёй КП(б)Б, і ўсіх працоўных мас БССР“.

На гэтым этапе нечакана абарвалася маладое жыцьцё. Змоўклі песьні поэты. Абарваліся якраз тады, калі ён у сваёй творчасьці вышаў на шырокія прасторы. Калі ён пісаў:

О, як хочацца жыць,
Упівацца красой,
Ў моц краіны мне хочацца верыць!

# ПОЛЬШЧА І ФРАНЦЫЯ

**К. Пушкарэвіч**

(René Martel „La Pologne et nous. La lègende et e'histoire chimères et réalitàs. Paris, 1928, стар. 249).

Польска-француськія палітычныя ўзаемаадносіны маюць сваю даволі працяжную гісторыю і ў пасьляваеннай сусьветнай палітыцы заходня-эўрапэйскага імпэрыялізму адыгрываюць не апошнюю ролю.

У апошні час у Парыжы выйшла цікавая кніга вядомага французскага журналіста Рэне Мартэля, якая прысьвечана пытаньню польска-француськага сяброўства і напісана, паводле слоў аўтара, на падставе аўтэнтычных дакуматаў, дакладных і даволі праведаных фактаў.

„Нашы палітыкі, наша грамадзкая думка,—гаворыць у прадмове аўтар,—жывуць пад уражаньнем няправільнага, на наш погляд, прадстаўленьня аб франка-польскім сяброўстве. Ім здаецца, што Францыя і Польшча былі злучаны з даўных часоў нейкім містычным саюзам, што іх лёс заўсёды быў зьвязаны чымсьці непарыўным". „Сяброўства з Польшчай, на думку некаторых асоб, зьяўляецца для Францыі моцнай гарантыяй міру, яно абараняе Францыю ад германізму і бальшавізму. Польшча, паводле вядомага выразу Пэнлевэ,—гэта французская армія на Вісьле". Такое прадстаўленьне, дадае аўтар, супярэчыць гісторыі і зьяўляецца альбо легендай, альбо вынікам адпаведнай пропаганды. І калі гэта легенда ператворыцца ў сапраўднасьць, яна стане пагібельлю для Францыі і прычынай яе зруйнаваньня. Яна вядзе нашу краіну да бяздоньня і ўзьнімае супроць яе нянавісьць і варожыя пачуцьці паловы Эўропы".

Погляд аўтара на Польшчу і на адносіны да яе Францыі ўжо даны ў прадмове да кнігі. У самой кнізе Мартэль дае ўгрунтаваньне свайго пагляду ў першых разьдзелах кнігі. Ён паказвае, цытуе розныя крыніцы, як адносіліся да Польшчы француськія вучоныя, літаратары, палітыкі ў XVIII веку, гаворыць аб адносінах да Польшчы ў часе Вялікай француськай рэволюцыі, аналізуе адносіны Напалеона І да Польшчы і канчае першую часьць кнігі разьдзелам, прысьвечаным вытлумачэньню пытаньня аб тым, як узьнікла ў XIX веку містычная легенда аб франка-польскім сяброўстве.

Далейшыя разьдзелы кнігі прысьвечаны Польшчы ў пэрыод сусьветнай вайны, політыцы Польшчы на ўсходзе Эўропы (украінскае і літоўскае пытаньні). У заключных разьдзелах даецца характарыстыка сучаснай Польшчы і супастаўляюцца клерыкальна-буржуазныя погляды на Польшчу, з аднаго боку, як на гарантыю спакою для Францыі на Ўсходзе, з другога, як на авангард каталіцызму, з вынікамі, якія ў рэальным сусьветным жыцьці выцякаюць з падобнага пагляду Францыі на Польшчу.

У разьдзеле „Польшча і сусьветная вайна“ аўтар апавядае гісторыю організацыі польскае арміі. 4 ліпня 1917 г. Пуанкарэ згадзіўся на формаваньне аўтономнай польскай арміі ў Францыі. Сформаваныя польскія батальёны вельмі хутка, аднак, пакінулі нямецкі фронт і армія генэрала Гальлера, утвораная і ўзброеная Францыяй паказвала, як кажа Мартэль, сваю бояздольнасьць, б'ючыся з рэволюцыйнымі атрадамі маладога ўкраінскага народу, якому руская рэволюцыя прынесла свабоду.

Далей Мартэль апавядае гісторыю ўтварэньня „незалежнай“ Польшчы нямецкім камандаваньнем і прыводзіць рад фактаў, якія характарызуюць адносіны польскай буржуазіі да немцаў і ўказвае цікавы факт, як нямецкая ўлада ня пусьціла прадстаўнікоў „незалежнай Польшчы“ на Берасьцейскія перагаворы аб міры. Прадстаўнікі рэгенцкага савету бязупынна дэмонстравалі вернападданыя пачуцьці ў Бэрліне і Вене, аднак нямецкая ўлада па-старому ігноравала сваіх саюзьнікаў. Толькі з інтэрв'ю Каменева, дэлегата на Берасьцейскай конфэрэнцыі, данага ім у Стокгольме прадстаўнікам соцыялістычных партый польскае грамадзтва ўведала некаторыя падрабязнасьці аб Берасьцейскіх перагаворах, якія датыкаліся Польшчы.

Офіцыяльныя протэсты прадстаўнікоў Рэгенцкага савету ні да чога не прывялі, ня гледзячы на тое, што адзін з тых, які даваў натхненьне ўтварэньню незалежнай Польшчы пад протэктаратам цэнтральных дзяржаў, граф Ронікер, нясупынна паўтараў на старонках нямецкіх газэт, што Польшча гатова прыняць удзел у барацьбе Нямеччыны і Аўстрыі супроць саюзьнікаў.

Мартэль прыводзіць рад вытрымак польскіх газэт „Nowa Reforma“, „Czas“, „Kurier Lwowski“ ды інш., у якіх на розныя лады дэмонстраваліся тыя-ж вернападданыя пачуцьці, выкліканыя страхам польскай буржуазіі і абшарнікаў перад надыходзячай рэволюцыяй. Паводле Берасьцейскага дагавору, падпісанага немцамі з украінскай пятлюраўскай рэспублікай, да апошняй адышла Холмшчына. Польскі ўрад марна і бяз посьпеху імкнуўся зрабіць націск у Вене і Бэрліне, маючы на мэце перагледзець гэта пытаньне.

Да таго часу ў Парыжы організаваўся нацыянальны польскі камітэт. Старшыня ваеннай сэкцыі камітэту Велавейскі напісаў ад імя камітэту мэморандум саюзьнікам, у якім гаварылася аб патрэбнасьці пасланць польскае войска праз Баўгарыю і Румынію ў Польшчу. Гэта войска павінна

окупаваць апроч этнографічнай Польшчы Каменец-Падольскі, Берасьце і Коўна. „Гэтая окупацыя будзе гарантаваць Польшчы спакой на Ўсходзе і будзе служыць базай для ваенных падзей супроць Расіі. Прыводзячы гэтыя вытрымкі з мэморандуму, Мартэль зазначае: „Палякі, не пасьпеўшы ўтварыць Польшчу, марацъ ужо аб анэксыі Літвы".

4 лістапада 1918 г. нацыянальны польскі камітэт у Парыжы клапаціўся перад саюзьнікам другі раз аб патрэбнасьці пасланць у Польшчу армію Гальлера. Пры гэтым гаварылася, што пасьля выходу немцаў з Польшчы, чырвоная гвардыя займе Польшчу. Аднак сапраўдная мэта заключалася ў тым, каб окупаваць Галіцыю і перашкодзіць ёй далучыцца да Украіны.

Пад уплывам разьвіцьця рэволюцыйных падзей прадстаўнікі францускай буржуазіі на чале з маршалам Фошам, забыўшы нядаўныя свае адносіны да пытаньня незалежнасьці Польшчы, сталі цяпер абвяшчаць аднаўленьне апошняй у межах 1772 году.

У лютым 1919 г. польскае войска, якое прыехала з Францыі, зьявілася на тэрыторыю Галіцыі. Пачаліся польска-украінскія сутычкі. Антанта паслала дэлегатам генэрала Бартэлемі для ўстанаўленьня modusvivendi. Была ўстаноўлена дэмаркацыйная лінія такім чынам, што Львоў і нафтавыя раёны адышлі да Польшчы.

Прыехаўшы ў Галіцыю, войска генэрала Гальлера наладзіла рад яўрэйскіх пагромаў і ўвяло ў краіне стан аблогі, пад выглядам барацьбы з бальшавізмам. Протэсты Сідарэнкі старшыні дэлегацыі украінскае народнае рэспублікі ў Парыжы, не давалі ніякага скутку. Палякі па-старому нападалі на украінцаў.

У меморандуме украінскай дэлегацыі, які прыводзіцца Мартэлям, пералічаецца рад гвалтаў польскага ўраду над мірным украінскім і яўрэйскім насельніцтвам Галіцыі. „Армія Гальлера, узброеная і арганізаваная ў Францыі,—зазначае Мартэль,—набыла сабе ганебную славу ў Галіцыі, а саюзьнікі ў адказ на жалабы украінцаў далучылі Галіцыю да Польшчы". У протэсьце, які быў прадстаўлены саюзьнікам з гэтага повяду, віцэ-прэзыдэнт украінскай дэлегацыі ў Парыжы 19 ліпня 1919 г. М. Лазінскі, піша: „Мы можам падпарадкавацца сіле, але ніколі ня згодзімся жыць пад польскім ярмом. Біцца супроць польскага рабства будзе нашым сьвятым абавязкам, які мы будзем перадаваць з пакаленьня ў пакаленьне да канчатковае перамогі". Урад польскай буржуазіі не пасьпеў захваціць у свае рукі ўладу, а ўжо пачаў політыку прымусу над народамі, сілком адданымі пад яго уладу".

У далейшым разьдзеле Мартэль падрабязна апавядае аб той політыцы авантур, якую вёў польскі ўрад на Ўсходзе Эўропы, апавядае аб эпопэі цэнтральнай рады ў Кіеве, яе адносінах да Польшчы, аб гетмане Скарападзкім, Пятлюры, гаворыць пра дагавор Пятлюры з саюзьнікамі, якія высадзіліся ў Адэсе, пра ўтварэньне Савецкай Украіны, пра банды Пятлюры, на тэрыторыі Польшчы, якіх падтрымліваў польскі ўрад

дзеля барацьбы з Савецкай Расіяй. Мартэль прыводзіць тэкст трактату, падпісанага 21 красавіка 1920 г. у Варшаве польскім урадам з Пятлюрай. Трактат гэты, які ня меў між іншым, ніякага юрыдычнага значэньня ставіў Украіну ў васальную залежнасьць ад Польшчы. Польскі ўрад праз сваіх агентаў засыпаў Эўропу брошурамі і артыкуламі, у якіх прыводзілася думка, што Украіна ня мае ніякага гістарычнага права на свае незалежнае існаваньне. А Пятлюра паслужліва прапанаваў польскаму ўраду адзін за другім пляны зьніштажэньня Савецкай Украіны.

У кнізе падрабязна апавядаецца пра здарэньні, якія адбыліся пасьля паражэньня Польшчы пад Кіевам, пра адступленьне Пілсудзкага і зварот яго за дапамогай да саюзьнікаў і іншыя факты, вядомыя з гісторыі савецка-польскай вайны. Падрабязна гаворыцца пра ролю Польшчы ва ўтварэньні банд атаманаў—Цюцюньніка, Бандарэнкі, Грыгор'ева, Палея ды інш.

12 жніўня 1921 г. Рыскі трактат зарэгістраваны Лігай Нацыі. Аднак польскі ўрад да самага апошняга часу не супакойваецца і выдумляе проект дэмократычнай украінскай рэспублікі пад протэктаратам, вядома, Польшчы. Яшчэ нядаўна орган Пілсудзкага „Glos Prawdy" выпусьціў нават спэцыяльны нумар на францускай і польскай мовах, прысьвечаны Украіне, ва ўсіх артыкулах якога праводзілася думка аб утварэньні украінскай буржуазнай рэспублікі. Польскія публіцыстыя,—гіронічна зазначае Мартэль,—забылі альбо ня хочуць думаць аб тым, што 30 мільёнаў украінцаў жыве ў Украінскай Савецкай соцыялістычнай рэспубліцы, вельмі мала думаючы пра тую рэспубліку, якою зьбіраецца ашчасьлівіць іх клапатлівы і чулы польскі ўрад. Вядомы профэсар Варшаўскага унівэрсытэту (б. прыват-доцэнт Бэрлінскага унівэрсытэту і пасол Народнай украінскай рэспублікі ў Бэрліне) І. Смаль-Стоцкі ўсю сваю вучоную эрудыцыю ўжывае на довады патрэбнасьці існаваньня украінскай гэтманскай рэспублікі. „Украіна павінна быць вольнай і незалежнай ад Масквы, каб гарантаваць існаваньне Польшчы. Сувязь Украіны з Масквой—прычына польскай катастрофы. Англія павінна памятаць, што ўтварэньне вольнай Украіны дазволіць ёй на сьмерць выцяць бальшавізм і выратаваць эўропэйскую цывілізацыю". Такія аргументы прыводзіць цывілізаваны профэсар. Польскі ўрад, канчаючы разьдзел, гаворыць Мартэль, зноў хоча навязаць французам думку аб асаблівай сваёй місіі і стараецца падрыхтаваць думку Францыі да сваіх новых авантур. Палітыка ашуканства вядзецца далей.

Наступны разьдзел прысьвечаны палітыцы польскага ўраду ў адносінах Літвы—палітыка ўсім даволі вядомая. Вядомы бяспрыкладны ў гісторыі па сваёй брыдасьці спосаб, якім войска гэнэрала Жэліхоўскага заняло Вільню і цынічная прамова маршала Пілсудзкага на конфэрэнцыі ў Вільні ў жніўні 1923 г.

Наступны разьдзел кнігі Мартэля мае загаловак: „Новая Польшча— астрог нацыянальнасьцяй".

Народы, лёс якіх зьвязаны з Польшчай,—украінцы немцы, беларусы, літоўцы—маюць сваю культуру і ўладаюць даволі нацыянальнай сьвядомасьцю. Беларусы, якіх Польшча імкнецца прадставіць Эўропе як някультурны, барбарскі народ, адухоўлены моцным нацыянальным пачуцьцём.

Польшча ўсімі сіламі стараецца ў сваёй афіцыйнай статыстыцы зьменшыць лічбу ня польскага насельніцтва. Яна прымае ўсе меры, каб ня даць магчымасьці разьвівацца нацыянальнай культуры тых народаў, якія сілком з ёй зьвязаны.

Амаль усе народныя школы, адчыненыя украінцамі на Валыні, у Палесьсі, Падляшшы і ў Холмскай вобласьці былі зачынены. У 1923 г. у гэтых раёнах было 453 украінскіх пачатковых школ. У Ўсходняй Галіцыі да польскай окупацыі было 2612 школ пачатковых, 8 сярэдніх і 11 катэдраў украінскіх у Львоўскім унівэрсытэце, якія быў закрыты польскаю ўладаю. Сярэдняя адукацыя украінская згубіла ўсякі нацыянальны характар, бо выкладаньне вядзецца на польскай мове і толькі некалькі гадзін вылучана для украінскае мовы, як мовы чужаземнае. З 2612 школ засталося толькі 867 украінскіх, дый то толькі па назьве, бо гэта ёсьць польска-украінскія школы. Польскі закон аб школах 1924 г. уводзіць, як абавязковую, польскую мову ў украінскую школу, а там дзе украінскае насельніцтва водлуг польскае афіцыйнае статыстыкі складае менш 25%, былыя украінскія школы зусім закрываюцца. Прасьледваньне украінцаў праводзіцца бяз усякіх прычын. Тое самае можна сказаць і пра нямецкае насельніцтва Польшчы.

Аўтар яскравымі фарбамі малюе рэжым польскага тэрору ў так званых Усходніх провінцыях у адносінах беларусаў і літоўцаў. Пад выглядам барацьбы з бальшавізмам польская ўлада ня спыняецца ні перад якімі гвалтаваньнямі. У кнізе прыводзяцца вытрымкі з запіскі, якая прадстаўлена літоўцамі ў Лігу Нацый, дзе апавядаецца пра гвалтаваньні над мірным літоўскім насельніцтвам. Зарэгістраваны выпадкі катаваньняў, якія ўлада ўжывае да зьняволеных.

У асабліва цяжкім палажэньні знаходзіцца беларускае насельніцтва. „Далёкае ад буйных цэнтраў, мала вядомае на захадзе,—гаворыць Мартэль,—яно прадстаўляецца Варшавай як полубарбарскія натоўпы“.

„Сяляне беларусы,—піша Тугут у часопісу „L' Europe Nouvelle“ 13 ліпня 1925 г., стар. 777, у вялікай частцы няведаюць нават і назвы свае нацыянальнасьці“.

Польская колёнізацыйная палітыка ў беларускіх раёнах зводзіцца к магчымаму зьнішчэньню народу.

У 1924 годзе 30 тысяч сем'яў польскіх асаднікаў-калёністых было заселена ў Беларусі, а цяпер лічба гэтая дасягае 50 тысяч. Бяз усякага поваду зямля забіраецца ў беларускага селяніна і перадаецца колёністаму паляку.

Мартэль прыводзіць вялікія вытрымкі з запіскі, якая прадстаўлена беларусамі 5 сэсіі Лігіі нацый. Тут мы чытаем аб жахлівых фактах гвалтаваньняў над беларускім сялянствам. У свой час гвалтам захапіўшыя Эўропу гуны не рабілі такіх гвалтаваньняў над пераможнымі народамі, якія робіць польскі ўрад, без канца паўтараючы аб сваёй цывілізатарскай місіі на Ўсходзе і цынічна пераконваючы эўропэйскую буржуазію, што яна ратуе культуру ад усходніх барбараў. Цэлыя беларускія вёскі паліліся носьбітамі культуры за самую малую правіннасьць селяніна, які знаходзіўся пад цяжкасьцю падаткаў, ваенных пастояў і т. д.

У маі 1924 г. перадавая францускае інтэлігенцыя адкрыта запротэставала супроць жахлівага белага тэрору ў Польшчы; вытрымкі з гэтага протэсту прыводзяцца аўтарам гэтай кнігі.

У заключных разьдзелах кнігі аўтар аналізуе погляд на Польшчу той часьці буржуазіі, якая разглядае Польшчу, як гарантыю бясьпекі для Францыі. З 1918 г. Францыя зрабіла Польшчу істотнай часьцю сваёй эўропэйскай політыкі. Рад дыплёматычных актаў вялікай важнасьці быў заключаны з гэтага часу: політычная згода (19 лютага 1926 г.), ваенная неапублікаваная конвэнцыя (27 ліпеня 1922 г.), гандлёвая канвэнцыя (9 сьнежня 1924 г.), конвэнцыя аб эміграцыі (20 лютага 1925 г.), аб нафтавай прамысловасьці (6 лютага 1922 г.), консульская конвэнцыя (31 сьнежня 1925 г.). „Францыя,—зазначае Мартэль,—імкнецца зьвязаць свой лёс з лёсам Польшчы“.

Францускія політычныя дзеячы на чале з Раймондам Пуанкарэ жадаюць утварыць вялікую Польшчу, моцную, здольную трымаць у страху Нямеччыну і адбіць ад Захаду пагрозу бальшавізму. У такім кірунку выказваліся і Клемансо, і Пэнлевэ, і інш.

„Вялікая“ Польшча ўтворана патугамі эўропэйскай дыплёматыі, але ці ўяўляе гэтая зьлепленая вялікая Польшча тую моц, аб якой марачь францускія політыкі? На гэтае пытаньне аўтар кнігі дае адмоўны адказ:

„Не, Польшча нямоцная, яна слабая, безнадзейна слабая, яна застанецца такою, покуль ня будзе заключана ў свае этнографічныя межы. Польшча XVIII в. зьнікла часткова таму, што яна ня мела натуральных меж. Трактаты далі ёй выхад да мора — вядомы калідор,—але ня можа быць ніякага сумненьня ў тым, што калідор гэты перастане існаваць у першы-ж дзень вайны“. „Польшча слабая, — гаворыць далей Мартэль,— таму што яна не адзіна. Мы бачылі: Польшча зьяўляецца новым астрогам народаў. 8 млн. украінцаў, 3 млн. яўрэяў, каля 2—3 млн. літоўцаў, беларусаў, немцаў. Наогул, паводле самых скромных падлікаў,—14 млн. чужаземцаў і чужаземцаў варожых 30 мільёнам насельніцтва. Мартэль прыводзіць наступную сцэнку, якая наглядалася ім у Пазнані ў 1927 г. „Мы сустрэліся на вялікай дарозе з польскім палком, які сьпяваў паўкраінску,—салдаты былі ўкраінцы з Галіцыі, прыпеўка была поўная нянавісьці і зьнявагі да Польшчы. Польскія афіцэры з апушчанаю галавою слухалі моўчкі ня імкнучыся ні на вошта рэагаваць. „Мы ня можам,

на наша няшчасьце,—сказаў мне адзін з іх,—перабіць усіх або засадзіць усіх у астрог".

Польская армія, — на думку Мартэля, — такая, што камандаваньне ня можа разьлічваць ні на адну сваю дывізію. „У той дзень, калі будзе абвешчана вайна,—гаворыць ён,—лёс польскай дзяржавы будзе вырашаны".

„Другая асноўная ідэя, якая кіруе францускай буржуазіяй у яе адносінах да Польшчы, гэта тая, што Польшча — авангард каталіцызму на ўсходзе. Мартэль робіць аналіз і гэтай думкі і даказвае яе поўную нягрунтоўнасьць. Нават польскія клерыкалы зразумелі тое, чаго ня хоча зразумець француская буржуазія. У заключэньне Мартэль прыводзіць думку польскага клерыкала, сэнатара Болеслава Каскоўскага, каторы яшчэ ў 1922 г. на старонках „Kur, Warszawski" зазначаў на небясьпеку для палітычнага існаваньня Польшчы падобнага пагляду. Потым Мартэль ставіць пытаньне аб тым, якое істотнае зло для рэальных францускіх інтарэсаў прадстаўляе наяўнасьць у Францыі падобных адносін да Польшчы. Польшча ў цяперашнім яе выглядзе зьяўляецца неадхільнай перашкодай для франка-нямецкага зьлізкэньня, якое мае вялікае экономічнае і палітычнае значэньне для Францыі. Нямеччына ня можа памірыцца з існуючымі граніцамі на Ўсходзе Другое існуючае зло для інтарэсаў Францыі заключаецца ў тым, што Польшча зьяўляецца перашкодай для франка-савецкага збліжэньня. Ня гледзячы ні на якія прадказаньні, Францыя будзе бязупынна імкнуцца да збліжэньня з Савецкім Саюзам, у гэтым яе рэальныя інтарэсы. А якую перашкоду для гэтага прадстаўляе Польшча? Мартэль дае надзвычай пераканаўчую характарыстыку польскай народнай гаспадаркі і прамысловасьці і прыходзіць да вываду, што адзіны ратунак для імпэрыялістычнай Польшчы — Украіна. У гэтым пытаньні Францыя, кіруючыся мінулым сваім поглядам на Польшчу, стыкнецца з Савецкім Саюзам і тут будуць няўхільныя перашкоды для франка-савецкага збліжэньня.

У заключэньне аўтар зьвяртаецца да моральнага пачуцьця францускага грамадзяніна з наступнымі словамі:

„Наша Францыя 1789 г., наша рэволюцыйная Францыя, якая першая заклікала народы к свабодзе, Францыя нашых дзён, дзе столькі храбрых сэрцаў заўсёды гатовы па кожнаму закліку да барацьбы за прогрэс і шчасьце чалавецтва, становіцца без яе ведама ўдзельніцай жахлівай тыраніі. Няшчасныя беларусы, бедныя украінцы гібеюць у астрогах Польшчы і праклінаюць сваіх прыгнятальнікаў, упэўненыя, што гэта Польшча падтрымліваецца Францыяй, усе народы праклінаюць Францыю разам з Польшчай. Яны ня ведаюць, няшчасныя, што наш народ не падазрае аб іх мучэньнях, што ён нічога ня ведае. Наша слабасьць да польскіх катаў ставіць у небясьпечнае палажэньне гонар самой Францыі".

# СЯЛЯНСКІЯ РУХІ НА БЕЛАРУСІ ПАСЬЛЯ АГРАРНАЙ РЭФОРМЫ 1861 г. [1])

Проф. У. Пічэта

## I

## Сялянскія хваляваньні ў 1862 г.

Аграрная рэформа 1861 г. была праведзена на Беларусі неаднолькава ў заходняй і ўсходняй частках. У той час як у заходняй частцы Беларусі ў прынцыпе заставаліся за сялянамі тыя надзелы, якімі яны ўладалі да скасаваньня прыгоннага права, у губэрнях Магілеўскай і Віцебскай, за выключэньнем чатырох паветаў Віцебскай губэрні, а іменна: Дынабурскага, Дрысенскага, Люцынскага і Рэчыцкага, была прынята сыстэма максымальнага і мінімальнага надзелу (яна была прынята ў вялікарускіх і украінскіх губэрнях). Што да вышэйадзначаных чатырох паветаў Віцебскай губэрні, то тут таксама за сялянамі былі пакінуты тыя надзелы, якімі яны карысталіся ў часе прыгоннага права [2]). Аграрная рэформа 1861 году, ідучы насустрач аграрна-капіталістычным інтарэсам памешчыкаў і даючы ім магчымасьць, дзякуючы выкупам і таннай рабочай сіле, стаць на шлях капіталізацыі сельскай гаспадаркі, дапамагала абезьзямеленьню сялянства і далейшаму пагоршаньню яго матэрыяльнага становішча. У эпоху прыгоннага права сяляне карысталіся так званымі сэрвітутамі на пашу ды інш. Гэтыя сэрвітуты выражаліся ў праве сялян пасьвіць жывёлу на полі памешчыкаў пасьля ўборкі збожжа або да заворваньня поля, касіць у лесе сена, зьбіраць апал, грыбы, ягады. Бяз гэтых сэрвітутаў сялянская гаспадарка і ў эпоху інвэнтарных правіл ня мела-б магчымасьці існаваць. Аднак, ня глядзячы на вялізнае значэньне сэрвітутаў для патрэб гаспадаркі вясковага насяленьня ў мясцовых палажэньнях 19 лютага 1861 году пытаньне аб сэрвітутах было абмінута. Зразумела, калі зямляўласьнікі распачалі складаць устаўныя граматы, якімі азначаліся пазямельныя адносіны сялян да памешчыкаў ды іх павіннасьці,

---

[1]) Даная праца, маючы самастойнае значэньне, складае адзін з разьдзелаў працы якая рыхтуецца да друку— „Беларускія паўстаньні 1863 г. З гэтай прычыны экономічнае становішча сялянства і характар палажэньня 19 лютага 1861 г. адносіцца мною ў адпаведныя разьдзелы.

[2]) Пичета. Крестьянское и рабочее движение в Белоруссии в эпоху 1905 г. Працы БДУ, № 11, стар. 105.

пра сэрвітуты не ўспаміналася, што павінна было паставіць сялянскую гаспадарку ў немагчыма цяжкае становішча, яшчэ больш цяжкае ў параўнаньні з тым, у якім была сялянская гаспадарка ў эпоху прыгоннага права [1]).

Палажэньне 19 лютага 1861 г. абвяшчала ўсю зямлю сялян уласнасьцю памешчыкаў. Сяляне разглядаліся як арандатары гэтай зямлі, часова абавязаныя за карыстаньне зямлёй адбываць адпаведныя павіннасьці як грашовыя, так і натуральныя. Праўда, арандаваная зямля магла стаць уласнасьцю сялян пры ўмове выкупу, калі толькі з боку памешчыка была на гэта згода. Сам выкуп быў неабавязковы, а дабравольны, але пры канечнай згодзе памешчыка. Аднак, зямлю можна было-б выкупіць і па патрабаваньню памешчыка. Жаданьне сялян пры гэтым ня бралася пад увагу памешчыкам. Неабавязковы выкуп больш адпавядаў інтарэсам памешчыкаў, бо даваў ім поўную магчымасьць, ня трацячы капіталаў на арганізацыю свае гаспадаркі на капіталістычных асновах, весьці апошнюю так, як яна вялася ў эпоху прыгоннага права, карыстаючыся інвэнтаром і дармовай працай сялянскага насяленьня, якое ў стасунку да памешчыкаў было у часова-абавязаных адносінах. Палажэньне 19 лютага дакладна азначала і тыя павіннасьці як натуральныя, так і грашовыя, якія сялянская маса абавязана была адбываць, як плату за карыстаньне тым надзелам, які быў у яе руках [2]).

Аграрная рэформа, ідучы насустрач аграрнаму капіталізму, зразумела, цяжка стукнула па сялянству.

Сялянскія павіннасьці, на аснове Палажэньня 19 лютага, зрабіліся больш цяжкімі, асабліва ў заходняй Беларусі, у параўнаньні з дарэформеннай эпохай. Справа ў тым, што пры складаньні інвэнтарных правіл памешчыкі запісвалі за сялянамі больш высокія павіннасьці, у параўнаньні з тымі, якія яны сапраўды адбывалі. Палажэньне 19 лютага, прымаючы пад увагу інвэнтарныя правілы, фактычна ўзаконіла гэтыя павіннасьці, і, такім чынам, у гэтых адносінах становішча былога сялянскага насяленьня зрабілася куды горшым, чым у дарэформенную эпоху. Зусім зразумела, што аснова Палажэньня 19 лютага 1861 г. выклікала сярод сялянства Беларусі агульнае нездаваленьне і была прычынай тых хваляваньняў, якія адразу-ж пачаліся пасьля апублікаваньня Палажэньня 1861 г. і ня спыняліся на працягу пэўнага часу. Гэтыя рухі цалкам зразумелы. Сялянская маса разумела сваю волю, як волю ад жадных павіннасьцяй у адносінах памешчыкаў і зусім не разумела, што гэта за воля, калі і пасьля скасаваньня прыгоннага права, сяляне на падставе ўстаўной граматы абавязаны па-старому адбываць на памешчыка натуральныя і грашовыя павіннасьці. Сяляне добра ўсьведамлялі, што новыя ўмовы жыцьця не адказваюць іх жаданьням, і ўвядзеньне ўстаўных грамат фактычна зьмяняе старую форму эксплёатацыі на новую.

[1]) Пичета. Opus cit., стар. 106 -107.

[2]) Пичета. Op. cit., стар. 106.

Эпоха 60-х гадоў вельмі багатая на сялянскія хваляваньні. На Беларусі ня было хваляваньняў з разгромамі памешчыцкіх сядзіб. Хваляваньні на Беларусі былі хутчэй пасыўнымі, чым актыўнымі. Сялянская маса не замахвалася на памешчыцкую маемасьць. Выяўляючы адмоўныя адносіны да Палажэньня 19 лютага 1861 г., сялянская маса з цьвёрдай настойлівасьцю выказвала свае погляды і толькі знадворна слухалася загадаў ураду тады, калі ў вёску на пастой для экзэкуцыі ставілі вайсковую сілу, наяўнасьць якой сьведчыла аб тым, што вайсковая і цывільная ўлада ня зьбіраецца цырымоніцца з сялянамі.

Расійскі ўрад быў пастаўлены ў вельмі цяжкае становішча пры вырашэньні гэтых хваляваньняў, калі ў краіне адбывалася інтэнсыўная падрыхтоўка паўстаньня. Расійскі ўрад добра разумеў, што тыя або іншыя адносіны сялянства да паўстаньня будуць мець вялікі ўплыў на само паўстаньне. Цалкам зразумела, што расійскаму ўраду патрэбна было праводзіць такую політыку ў адносінах сялян, якая прыцягвала-б сялян на яго бок і зрабіла-б апошніх прыладай ураду ў барацьбе з паўстанцамі-шляхтаю. Урад улічваў крайнюю напружанасьць сялянска-памешчыцкіх адносін. Сялянскія хваляваньні прыгоннай эпохі былі добрым паказьнікам тае злосьці, якой былі ахоплены сяляне ў дачыненьні да памешчыкаў.

Урад, апублікаваўшы інвэнтарныя правілы і прымусіўшы памешчыкаў увесьці інвэнтары, нібы ішоў насустрач сялянскім інтарэсам. Фактычна-ж інвэнтары не далі палёгкі сялянам, а, наадварот, нават пагоршылі палажэньне, бо павіннасьці сялян у інвэнтарох аказаліся большымі ў параўнаньні з тымі, якія сяляне адбывалі. Сяляне жадалі сапраўднага вызваленьня. Яны жадалі мець зямлю і свабоду ад жадных павіннасьцяй у адносінах да памешчыка. Аграрная рэформа 1861 г. не давала ні таго, ні другога. Сялянская маса добра разумела значэньне гэтае рэформы. Нездарма сялянства заняло такую рэзка-варожую позыцыю да Палажэньня 1861 г., якое павінна было не рэорганізаваць іх быт, а замяніць адну форму эксплёатацыі другой. Расійскі ўрад вельмі добра разумеў прычыну нездаваленьня сялян рэформаю і ўсьведамляў патрэбнасьць знадворна пайсьці насустрач інтарэсам сялянства з тым, каб набыць сымпатыю сялянства і паказаць апошняму, што яго інтарэсы абараняюцца ўрадам і такою манаю прыцягнуць сялянства на свой бок.

З другога боку, расійская адміністрацыя не магла пайсьці і проці інтарэсаў памешчыкаў, хоць-бы нават польскіх, бо такая антыклясавая політыка была, зразумела, немагчымай для дваранскай улады. Гэта быў-бы поўны разрыў з польскім шляхецкім земляўласьніцтвам, што прымусіла-б перайсьці на бок паўстанцаў і тых прадстаўнікоў польскага земляўласьніцтва, якія адносіліся адмоўна да магчымасьці паўстаньня і лічылі патрэбным трымацца згодніцкай політыкі ў адносінах да расійскага ўраду. Вайсковая і цывільная адміністрацыя, урэшце, павінна была стаць на абарону інтарэсаў памешчыцкага земляўласьніцтва і ажыцьцёвіць

Палажэньне 19 лютага 1861 г., хоць добра ўсьведамляла, што такая палітыка вельмі багата на вялікія вынікі і можа стварыць шмат вельмі няпрыемных непаразуменьняў сялян з урадам. Ня ўжываючы суровых мер пры задушэньні сялянскіх хваляваньняў, расійская адміністрацыя аднак, рашуча і пэўна душыла гэтыя хваляваньні, не дапускаючы магчымасьці зрабіць у гэтым пытаньні нават мінімальныя ўступкі сялянскай масе. Зразумела, што такая клясавая палітыка не магла супакоіць сялянскую масу, якая часова сьціхала з тым, каб потым зноў пачаць барацьбу з памешчыкамі за сэрвітуты, асабліва тады, калі аграрны капіталізм, што разьвіваўся, выступіў проці таго, каб даваць сялянам карыстацца сэрвітутамі.

Жандарская адміністрацыя з вялікай увагай сачыла за настроем беларускай вёскі і паведамляла III Аддзяленьне нават пра самыя нязначныя факты выяўленьня сялянамі непаслушэнства цывільнай і вайсковай адміністрацыі. Справаздачы жандараў, паданыя ў III Аддзяленьне, зьяўляюцца дакумантам вялікай гістарычнай вартасьці, які дае дасьледчыку поўную магчымасьць выявіць настрой сялянскае масы, выявіць яе ідэолёгію. Беларускія сяляне як заходняе, так і ўсходняе частак Беларусі, думаючы, што скасаваньне прыгоннага права сапраўды вызваляе сялян ад жадных павіннасьцяй на карысьць памешчыкаў, не жадалі ўводзіць устаўныя граматы, бо яны не адказвалі іх інтарэсам, і згаджаліся толькі адбываць павіннасьці на працягу двух год, бо, на думку сялянства, пасьля гэтага пэрыоду яны павінны атрымаць поўную волю. Сяляне мелі рацыю не давяраць цывільнай і вайсковай адміністрацыі, якая стаяла на варце інтарэсаў дваранскага зямляўласьніцтва; яны паказвалі сваё недавер'е і міравым пасрэднікам, якіх яны мелі поўнае права разглядаць, як абаронцаў інтарэсаў дваранскага стану, клясы зямляўласьнікаў, а не сялян. Такія адносіны да міравых пасрэднікаў—цалкам зразумелыя. Міравыя пасрэднікі з ліку мясцовых зямляўласьнікаў павінны былі стаяць на варце інтарэсаў памешчыкаў і так ажыцьцяўляць Палажэньне з 19 лютага, каб апошняе цалкам адказвала інтарэсам клясы зямляўласьнікаў. Сялянскія хваляваньні зьяўляюцца яскравым паказьнікам сялянскіх настрояў. Сялянскія хваляваньні вельмі добра сьведчаць пра тое, што сялянская маса добра разумела клясавы характар аграрнай рэформы 1861 г., усе яе перавагі для памешчыкаў, і зусім зразумела, што яна скрозь дружнай масай выступала проці ўлады і памешчыкаў, якіх падтрымлівала ўлада. Памешчыцкая кляса, зразумела, улічвала сапраўдныя настроі і палажэньне сялянства і біла трывогу.

Настрой памешчыцкага зямляўласьніцтва вельмі ясна выразіў віленскі жандарскі штаб-афіцэр Лосеў у пісьме да шэфа жандараў 30 ліпня 1862г. [1]). У сваёй запісцы „Погляд у даны час на становішча губэрні і сялянскага пытаньня асабліва“ Лосеў зусім правільна адзначыў як адмоўныя адно-

[1]) Архив III Отделен. 4 эксп., № 193—1862 г., л. л. 1—8.

сіны сялян да аграрнае рэформы 1861 г., так і напружанасьць адносін паміж сялянамі і памешчыкамі. Лосеў думае, што аграрная рэформа дала-б толькі тады добрыя вынікі, каб памешчыкі маглі „адмовіцца ня толькі ад сваіх станавых, але яшчэ больш ад фантастычных нацыянальных мар і без карысьці для сябе дапамагаць гэтай важнай дзяржаўнай справе". Сапраўды—гэтага няма. Паміж памешчыкамі і сялянамі да гэтага часу ня было складзена ніякіх дабравольных умоў і апошнія не прадбачацца. Самі памешчыкі клапоцяцца толькі аб адным, каб патайна абудзіць у сялян думку, што „новыя для іх законы служаць не да палепшаньня, а да пагоршаньня быту, і ў гэтым яны пачынаюць мець посьпех". Памешчыкі, на думку Лосева, імкнуцца „парушыць у народзе давер'е да рускага ўраду". Сяляне, паведамляе Лосеў, не жадаюць дабравольна прымаць устаўных грамат, бо лічаць павіннасьці па іх больш цяжкімі чым ранейшыя, а памешчыкі гавораць, што „яны абавязаны падпарадкавацца выданаму ўрадам закону, і што яны нічога памагчы ня могуць". Паводле Лосева, гэтую думку „падтрымліваюць і міравыя пасрэднікі—палякі, ня гледзячы на тое, што законам забаронена павялічваць сялянам тыя павіннасьці, якія былі меншыя, чым патрабуецца па ўстаўных граматах, і адначасна памешчыкам дана поўнае права рабіць ім усякія ільготы, нават падараваць ужыткоўнасаць". Лосеў, аднак, думае, што ўсё гэта яны адкладаюць на потым, калі „яны пасьпеюць зусім адрадзіць у сялян нянавісьць проці выданага закону і, зразумела, ураду". Лосеў лічыць, што ранейшыя інвэнтары, да якіх пабудаваны мясцовыя палажэньні аб сялянах у літоўскіх губэрнях, былі вельмі выгодна складзены на карысьць памешчыкаў. Памешчыкі ў эпоху прыгоннага права не патрабавалі ад сялян нават аднэй пятай часткі інвэнтарных правіл. Значыць, зьмяншэньне павіннасьці на адну дзесятую частку, паводле ўстаўных грамат, ані не паляпшае становішча сялян. Апрача таго, у Літве былі пакінуты талокі абернутыя цяпер у паншчыну, якія да таго-ж адбываюцца ўлетку, што, зразумела, ня можа не перашкаджаць сялянам у час займацца працай на сваім полі. Лосеў канстатуе напружанасьць палітычнай атмосфэры, якая складаецца для расійскага ўраду зусім нявыгодна. Сяляне пераконаны, піша Лосеў, што „па міласьці цара, дабрабыт іх павінен палепшыцца і што гэтаму толькі перашкаджаюць памешчыкі". Калі-ж сяляне пакінуць, як міне тэрмін, працаваць на памешчыкаў, то на думку Лосева, нямінуча памешчыкі будуць пісаць скаргі, якія ўрад будзе прымушаны задавальняць сілай і вельмі строга. Гэтага чакаюць польскія паны, і тады яны „канчаткова ўзброяць сялян проці рускага ўраду і потым спагаднасьць літоўскага народу да ўраду, якая ёсьць, павінна будзе страціцца назаўсёды. Натуральна, просты народ не палюбіць таго, хто яго будзе біць, а гэта опэрацыя цалкам прыпадзе на долю ўраду, бо памешчыкі вельмі лёгка ўдаюць, што яны ў гэтым выпадку не вінаваты і такіх мер не прасілі і не жадаюць". Ужо ў даны час сярод сялян выяўляецца прыхільнасьць больш да палякоў, чым да Расіі. У Віленскай губэрні і наогул у

Літве, паведамляе Лосеў, „сялянскае пытаньне, апрача свайго ўласнага значэньня, мае ў сабе яшчэ і інтарэс палітычны: ад памыснага яго вырашэньня залежыць атрымаць ураду сілу, якую не перамогуць інтрыгі польскай партыі, і даць тутэйшаму краю такі кірунак, каб ён канчаткова злучыўся з расійскай нацыянальнасьцю“. Лосеў лічыў, што выданае палажэньне не адпавядае свайму прызначэньню, і што „для зьнішчэньня ўсіх польскіх інтрыг, для спакою і шчасьця тутэйшага краю трэба выданае палажэньне для сялян зноў пераглядзець і скласьці яго так, каб яно сапраўды зьмяншала павіннасьці сялян настолькі, каб яны ў новым палажэньні відавочна маглі бачыць сваю карысьць—хоць-бы гэта было на шкоду польскім панам, якія здаецца, даволі выразна выказваюць сваю нянавісьць да ўраду, а да народу—прыхільнасьць да самаахвяраваньня, якая выяўляецца, аднак, да гэтага часу толькі ў тым, што памешчыкі носяць чамаркі з сялянскага сукна“. Пастаноўка пытаньня з палітычнага пункту погляду была правільнай. Але Лосеў аднаго не заўважыў: дваранскі ўрад, зразумела, ня мог пайсьці проці інтарэсаў свае клясы, хоць-бы нават апошняя належала да другой, варожай ураду, нацыянальнасьці і ў прынцыпе адносілася адмоўна да палітыкі дваранскага ўраду. Зразумела, гэтыя заўвагі самі па сабе цікавыя, як паказьнікі настрою жандара, але практычнага значэньня яны не маглі мець.

Адносіны сялян і памешчыкаў заставаліся напружанымі. Сялянская маса адкрыта выражала нездаваленьне сваім становішчам і Палажэньнем 19 лютага, адмаўляючыся складаць устаўныя граматы, як дакуманты, якія не адказвалі іх інтарэсам і жаданьням.

1862 г. быў багаты на адмаўленьні сялянства складаць устаўныя граматы па тых або іншых прычынах. Гэтае адмаўленьне—пасыўная опозыцыя расійскаму ўраду—вельмі характарна для ідэолёгіі сялянскай масы. Адмаўленьні сялян складаць устаўныя граматы былі зьявай, якая ахапіла ўсе беларускія і літоўскую губэрні.

Адмаўленьні складаць устаўныя граматы адбываліся яшчэ і па крыху іншых меркаваньнях. У асобных мясцовасьцях сяляне, лічачы сябе мяшчанамі, не знаходзілі магчымым з гэтай прычыны складаць устаўную грамату. На гэтай падставе паміж сялянамі і памешчыкамі ўзьнікалі непаразуменьні, якія прышлося спыняць ня толькі адміністрацыі, але і вайсковай сіле. У гэтых адносінах цікавы наступны выпадак, які быў у Ашмянскім павеце, Віленскай губэрні, у маёнтку Ліпнішак, (належаў памешчыку Вольскаму), у якім лічылася 224 душы [1]). Часова-абавязаныя сяляне памешчыка Вольскага, лічачы сябе па нейкіх дакумантах мяшчанамі не хацелі прымаць удзелу як у выбары асоб на пасады ў вёсцы, так і наогул адмаўляліся ад выкананьня ўсіх устаноўленых для часова-абавязаных сялян правіл. Усе спробы пераканаць сялян, што дакуманты, на якія яны спасылаюцца, былі фальшывыя, ня мелі посьпеху. Таму з-за

[1]) Архив III отдел. № 193—1862. Віленская губерния, л. л. 9—14.

непаслушэнства сялян, у маёнтак Ліпнішак была паслана адна рота Сафійскага палка, а таксама член Губэрскага Праўленьня Ўмястоўскі і генэрал-маёр Абрамаў, які быў пры генэрал-губарнатары. Начальства, прыехаўшы на месца, палічыла мэтазгодным адразу-ж арыштаваць 6 сялян, якіх лічылі асабліва ўпартымі і завадыяшамі другіх сваіх вяскоўцаў. Расьсьледаваньне справы паказала, што рух пачаўся „ад памылак, пад уплывам гаворкі адстаўнога салдата Ромукі, які жыў у Пецярбургу, і салдаткі Француковай, якая была пры ім“. Каб пераканаць сялян у тым, што няма ніякіх падстаў спасылацца на няіснуючыя дакуманты, а таксама, каб пераканаць іх у тым, што дакуманты фальшывыя, у Пецярбург была паслана дэпутацыя ў складзе чыноўніка Баговіча і двух сялян. Адначасна сяляне, якія сядзелі ў турме, „выказалі памяркоўнасьць і абяцалі ўплываць на сваіх вяскоўцаў уласным пераконаньнем патрэбнасьці падпарадкавацца законам“. Дэпутацыя вярнулася з Пецярбургу і абвясьціла, што яна „цалком пераканалася, што дакуманты, у якіх яны лічыліся мяшчанамі, фальшывыя, і што салдат Ромук і салдатка Францукова прызналіся і паведамілі, што такія дакуманты былі імі куплены ў незнаёмага ім чыноўніка і што яны цалкам пераканаліся, што такога дакуманту ня было“. Арыштаваныя салдат і салдатка былі накіраваны ў горад Ашмяны пад арыштам для сьледзтва аб падбухторваньні, арыштаваныя-ж сяляне былі зволены, як асобы, што „выразілі згоду цалкам падлягаць сельскаму валасному праўленьню“. Адміністрацыя думала, што ўсё кончылася добра і таму была гатова вывесьці войска, прызначанае для пакараньня, і адправіць яго на старыя кватэры, калі толькі сапраўды сяляне будуць цалком слухаць валаснога праўленьня. Сяляне сапраўды заявілі, што яны ведаюць, што „указы“ Сэнату фальшывыя, але з тае прычыны, што яны чакалі з Пецярбургу нейкіх новых дакумантаў, якія могуць сьцьвярдзіць іх мяшчанскае паходжаньне, то яны адмаўляюцца падпарадкавацца валасному праўленьню, і ўсе спробы пераканаць сялян у процілеглым ня мелі посьпеху. Таму салдаты засталіся на месцы для экзэкуцыі на ранейшых падставах. З прычыны такога становішча спраў, на месца прыехаў сам жандарскі штаб-афіцэр Лосеў з чыноўнікам Губэрскага Праўленьня Баговічам, міравым пасрэднікам 4 вучастку Рушчыцам і з земскім спраўнікам, каб пераканаць сялян падлягаць уладзе, якая ўстаноўлена для часова-абавязаных сялян. Прыехаўшы на месца, яны сабралі адразу-ж сход, на якім былі ўсе гаспадары, тут была і вайсковая сіла. Палкоўнік Лосеў стараўся расказаць сялянам пра мэту свайго прыезду і пра няпрызнаньне Сэнатам у 1856 г. правоў на іх мяшчанства. Разам з тым Лосеў зьвярнуў увагу і на тое, што хоць яны некалькі раз і падавалі прашэньне на імя цара, аднак, вышаў указ, каб „яны выконвалі пастановы Сэнату і больш не турбавалі скаргамі яго імпэратарскую вялікасьць“. Лосеў думаў, што сяляне павінны падпарадкавацца законам, але адначасна яны могуць зноў турбавацца аб тым, каб атрымаць мяшчанства. Аднак, сяляне адназдгодна адмовіліся. Тады жандарскі палкоўнік прапа-

наваў сходу выбраць 6 чалавек для далейшых тлумачэньняў, але з гэтага таксама нічога ня вышла і Лосеў пераканаўся, што ён фактычна нічога ня можа зрабіць. Праўда, абраныя 6 дэпутатаў не абвяргалі правільнасьці доказаў Лосева, але разам з тым яны прасілі яго даць ім магчымасьць перагаварыць з рэштай сялян. Лосеў даў згоду на гэта, але вынікаў ня было ніякіх. На тым-жа сходзе сяляне пастанавілі абвясьціць камісіі, што „яны пастанавілі не падлягаць валасному праўленьню і што яны ні ў якім выпадку не адмовяцца ад сваіх правоў на мяшчанства, будуць цярпець яшчэ, як цярпелі раней і гатовы на ўсё, хоць-бы ў Сібір, маючы старыя прывілеі ад караля на мяшчанства. Пастановы Сэнату несправядлівыя, і яны спадзяюцца на пастанову цара". Хоць унтэрафіцэр Ромук ня быў на сходзе, але, паводле слоў Лосева, ён увесь час падтрымліваў у сялянах такі ўзбуджаны настрой. Відаць, сялянская маса не саромелася выказваць сваю думку.

Паводле слоў Лосева, адзін з сялян „нагла" развражаў у прысутнасьці міравога пасрэдніка. Лосеў ня вытрымаў гэтага, і вінаваты селянін быў пакараны дваццацю ўдарамі розгаў. Калі Лосеў пераканаўся ў тым, што на сялянскую масу ня ўплываюць яго доказы, то ён заявіў у катэгорычнай форме, што „калі сяляне адразу-ж дабравольна не падпарадкуюцца, то яны будуць строга пакараны". Тады сяляне папрасілі ў Лосева „падумаць і параіцца да раніцы". На гэта Лосеў згадзіўся. Аднак, назаўтра, паводле слоў Лосева, сяляне пачалі яшчэ больш упарта выказваць свае мяшчанскія правы, скардзіліся на памешчыка Вольскага, што ён адабраў у іх выганы для жывёлы, і што іх надзвычай прыцікаюць. Бачучы такі настрой сялян, Лосеў надумаў раскалоць сялянства. Яму ўдалося пераканаць частку сялян, што закону трэба падлягаць, але апошнія „пакуль прасілі абвяшчаць вяскоўцам аб тым, што яны адступіліся, і ня здымаць з іх экзэкуцый раней як з другіх". Паводле прыватных вестак, прычынай упартасьці сялян была прысяга іх на могілках „згодна абараняць свае зданьнёвыя правы". Пры такім становішчы спраў Лосеў зьвярнуўся да дапамогі унтэр-афіцэра, які разам з братам згадзіўся пагаварыць з сялянамі. Сяляне згадзіліся падлягаць закону, але пры ўмове, калі яны будуць мець сваё ўласнае валаснoе праўленьне. Усе меры, якімі хацелі пераканаць сялян у незаконнасьці такога жаданьня, ня мелі посьпеху. Сяляне выказвалі, як кажа Лосеў, дзіўную ўпартасьць. Таму Лосеў пастанавіў арыштаваць 12 чалавек, якія падтрымлівалі ўпартасьць сярод сялян. Назаўтра, гэта было 19 кастрычніка 1862 г., Лосеў склікаў новы сход сялян, на якім ён абвясьціў указ Сэнату ад 30 ліпня 1856 г., паводле якога сяляне былі прызнаны прыгоннымі памешчыка Вольскага. Цяпер Лосеў не пераконваў сялян, ён аддаў строгі загад падлягаць валасному праўленьню і што „калі далей яны будуць называць сябе мяшчанамі, то ён паступіць з імі, як з самазванцамі". Нагляд за выкананьнем гэтага загаду быў перададзены валасному старшыні, які павінен быў строга сачыць за бясспрэчным выкананьнем усіх патрабаваньняў валас-

нога праўленьня і за самае нязначнае з іх боку непаслушэнства, паводле палажэньня аб сялянах, па прысуду караць. Такі-ж нагляд павінен быў мець і вайсковы начальнік. Тымчасам высьветлілася цікавая акалічнасьць; калі ішлі спрэчкі сялян пра сваё мяшчанства, памешчык Вольскі заараў 6 дзесяцін на сваю карысьць. У выніку, сяляне павінны былі падпарадкавацца загаду начальства, пад пагрозай вайсковай кары, але, зразумела, гэта падпарадкаваньне было не добравольнае, а прымушанае, што добра разумела і сама адміністрацыя. Усе сяляне, якія не жадалі прымаць устаўныя граматы і падпарадкавацца валасному праўленьню, выяўлялі ня толькі настойлівасьць у абароне сваіх патрабаваньняў, але адначасна выявілі вялікую арганізаванасьць, солідарнасьць. Нездарма сяляне, якія абаранялі сваё мяшчанства, мелі ўночы нараду на могілках і зьвязалі сябе прысягаю. Гэтым, відаць, і можна вытлумачыць, чаму спробы раскалоць сялян, якія лічылі сябе мяшчанамі, не ўдалася.

Такія самыя непаразуменьні на глебе прыманьня ўстаўных грамат выніклі і ў Горадзенскай губэрні ў 1862 г. Сяляне адмовіліся выслухаць міравога пасрэдніка, не жадаючы мець з ім ніякай гутаркі пра ўстаўныя граматы. Яны спасылаліся на нібыта сказаныя генэрал-губарнатарам словы, які пры праезьдзе абвясьціў ім, што яны „царскія, што яны павінны пацярпець яшчэ два гады, і тады яны будуць зусім вольныя“[1]). Сяляне былі пераконаны ў правільнасьці сваіх слоў, і ўсе спробы адміністрацыі пераканаць сялян, мірна падпарадкавацца адміністрацыі канчаліся нічым. Так, граф Старжынскі, былы паверaны памешчыка Беластоцкага павету графаў Красінскіх, паведаміў у пачатку студзеня 1862 г.[2]), што сяляне спачатку склалі ўстаўную грамату і падалі апошнюю міравому пасрэдніку, каб той яе ажыцьцёвіў. Міравы пасрэднік, з свайго боку, прапанаваў выбраць з сялян 6 упоўнаважаных, якія і былі выбраны. Прышоўшы ў памяшканьне міравога пасрэдніка, яны адмовіліся ад выбару і жадных гутарак адносна ўстаўной граматы. Міравы пасрэднік неадкладна паведаміў вайсковую і цывільную адміністрацыю, а сам затрэбаваў да сябе старшыню і некалькі гаспадароў з маёнтку Сьліўна, тлумачыў ім Палажэньне пра сялян, стараўся пераканаць іх, што яны павінны бяз спрэчак выбраць упоўнаважаных для праверкі ўстаўных грамат. Сяляне тэорытычна згаджаліся, але, калі назаўтра міравы пасрэднік разам з земскім спраўнікам прыехаў у маёнтак для выбараў упоўнаважаных, то яны зноў адмовіліся ад выбараў і „нядвохсэнсна груба“ паводле слоў жандарскага штаб-афіцэра, гаварылі з адміністрацыяй.

Начальнік губэрні, які быў тут, „каб папярэдзіць шкодны прыклад, якія даюць часова-абавязаныя сяляне, калі ўпартасьць і грубасьць іх ня спыніцца“, надумаў патрабаваць дзьве роты салдат для разьмяшчэньня ў вёсцы паміж гаспадарамі. Пры наяўнасьці вайсковай сілы, міравы пас-

[1]) III Отдел. 4 эксп., № 200—1862, Гродненская губ., л. I.
[2]) III Отдел. 4 эксп., № 200—1862, л. 2-3.

рэднік і земскі спраўнік павінны былі „ўсімі мерамі лагоднасьці“ прывесьці сялян да пераканаськня „бязумоўна выконваць царскія палажэньні“. Аднак, губарнатар думаў, што перамаўленьні міравога пасрэдніка ня будуць мець посьпеху. Таму ім было загадана, калі сяляне „і далей застануцца ў ранейшай памылцы і ня будуць падпарадкавацца законам“, заклікаць вайсковага начальніка і жандарскага штаб-афіцэра для пераканаўньня. Разам з тым быў адданы загад, каб ня ўжываць проці сялян зброі, тым больш стрэлаў. Такую солідарнасьць сялян і такую ўпартасьць жандарская адміністрацыя тлумачыла „няпісьменнасьцю і простасьцю“, а таксама „недавер'ем і боязьню“, каб абраныя дэпутаты не падпісалі-б устаўных грамат, паводле якіх яны назаўсёды будуць абавязаны плаціць чынш са стратай ужо права на выкуп зямлі. У пачатку лютага салдаты былі ўжо на месцы і разьмешчаны па вёсках. Адміністрацыя папрасіла ксяндза Місевіча, каб той растлумачыў палажэньне 19 лютага. Спачатку гэта нібы дало нейкія вынікі. Сяляне пакаяліся „ў сваёй упартасьці“ і адразу-ж выбралі сваіх паверaных, ды ў той-жа дзень пачалі правяраць устаўную грамату. Аднак, апошняя ня была праверана па наступных прычынах: сяляне пераканаліся ў тым, што, з аднаго боку, ім давалі зямлю з дрэннай глебай, а, з другога боку, яны, зазначаючы на высокую цану аброку, пажадалі зрабіць некалькі заўваг у пісьмовай форме. На апошняе міравы пасрэднік згадзіўся і даў ім два тыдні тэрміну. Новае адтэрмінаваньне праверкі ўстаўных грамат было вызначана жандарскім афіцэрам, ня „як вынік злоснага непаслушэнства, а з прычыны неразуменьня, бо ім ня было абвешчана, што яны маюць права выказваць свае меркаваньні і даваць свае заключэньні адносна ўстаўных грамат“. Тымчасам паверaны графоў Красінскіх і міравы пасрэднік „патрабавалі бясспрэчнага падпарадкаваньня ўстаўным граматам, а сяляне ня ведаючы ні Палажэньня, ні сваіх правоў, па сваёй простасьці да гэтага часу мыляліся“. Бачучы такую пакорнасьць сялянства, штаб-афіцэр аддаў загад зьняць вайсковую экзэкуцыю, а ксяндзу Місевічу была абвешчана падзяка. Праз тыдзень сяляне сапраўды згадзіліся выбраць упоўнаважаных, каб заслухаць устаўную грамату, але затое рашуча адмовіліся яе падпісаць [1]). Бачучы такую ўпартасьць начальнік губэрні перадаў гэты выпадак на разгляд Губэрскага праўленьня, якое пастанавіла „прасіць міністра ўнутраных спраў, каб на будучы час падобную нягрунтоўную ўпартасьць сялян ня лічыць перашкодай да правядзеньня ў жыцьцё ўстаўных грамат, калі, яны паводле Палажэньня, не падлягаюць разгляду ні міравых зьездаў, ні Губэрскага „присутствия“. Становішча з увядзеньнем устаўных грамат было вельмі цяжкае. Адміністрацыя павінна была канстатаваць, што „вырашэньне сялянскага пытаньня пасоўваецца вельмі і вельмі паволі“. Праўда, сяляне нідзе не парушаюць правоў памешчыка, але ўстаўныя граматы нідзе не складаюцца, іх не жадаюць выслухоўваць і падпісваць. Словам сяляне пасыўна працівіліся адміністрацыі, што ста-

[1]) III Отд. 4 эксп. 200—1862, л. 6—11.

вілі ў сувязь са славамі генэрал-губарнатара Назімава, „пацярпеце два гады і вы будзеце вольнымі“. Сапраўды, сяляне застаюцца спакойнымі, падпарадкуюцца памешчыцкай уладзе і адначасна лічаць, што маюць права не падпісваць і не згаджацца на ўвядзеньне ўстаўных грамат.

Гэта пасыўная опозыцыя, якая ахапіла ўсю губэрню, нарабіла шмат няпрыемнасьцяй і адміністрацыі, і памешчыкам. Шмат якія памешчыкі надумалі зьвярнуцца да генэрал-маёра Дрэвякіна, якому яны вельмі давяралі, з просьбай аб'ехаць губэрню, каб навучыць і пераканаць сялян у патрэбнасьці складаньня ўстаўных грамат. Бяз гэтай меры памешчыкі ня бачылі ніякай магчымасьці вырашыць сялянскае пытаньне. Адначасна жандарскі штаб-афіцэр павінен быў констатаваць лёяльнасьць большасьці мясцовых памешчыкаў, якія ўсяк выказвалі яе, хоць варожасьць паміж расійскімі і польскімі памешчыкамі ўсё яшчэ была [1]).

У пачатку мая памешчык Беластоцкага павету, маршалак і сэнатар Крузэрштэрн паведаміў Беластоцкага земскага іспраўніка, што адстаўны салдат Пскоўскага пяхотнага палка Язэп Еўдакімаў падбухторвае сялян не падлягаць дваровай уладзе і складае ім „паклёпніцкія прашэньні“. Земскі начальнік неадкладна паехаў у вёску Собалева для следзтва. Сьледзтва паказала, што салдат Еўдакімаў колькі раз прыходзіў у дом, у якім жылі двое дваровых людзей, і гутарыў з імі так: „калі хто з маладых будзе служыць пры двары, то маладыя людзі будуць сасланы ў салдаты, а старыя будуць адданы ў арыштанскія роты“. Таму дваровыя людзі, баючыся трапіць у салдаты, адмовіліся часова ўслугоўваць, а потым, пераканаўшыся, што чуткі няправільныя, вярнуліся ў двор. Той самы Еўдакімаў у аднэй з сялянскіх хат чытаў сабраным часова-абавязаным сялянам Палажэньне аб абавязках і парадку выкананьня тыднёвай павіннасьці, як паншчыны, так і іншых, а таксама пісаў ад імя сялян розным асобам просьбы. Еўдакімаў быў арыштаваны і павінен быў прызнацца ў тым, што ён страшыў дваровых людзей, чытаў Палажэньне, але ніякіх просьбаў ня пісаў [2]).

Сяляне Горадзенскага павету вёскі Баранавай і Лікаўкі адхілілі ўстаўную грамату і адмовіліся выконваць загады паліцэйскай улады. Калі паліцыя арыштавала некалькі сялян, якіх лічыла завадзіламі, то сяляне ўсёй вёскай вызвалілі арыштаваных. Таму, каб прымусіць сялян пакарыцца, была паслана рота Стара-Інгерманляндзкага палка і 30 казакоў. Пасьля таго, як у Баранава прыехала жандарская адміністрацыя, былі сабраны 47 гаспадароў, а каб справа скора і добра скончылася, на зборным месцы паставілі поўроту салдат і 15 казакоў. Міравы пасрэднік стаў пераконваць сялян, каб яны прынялі ўстаўную грамату і выконвалі ўсе абавязкі па гэтай грамаце. Сяляне сталі супярэчыць і, як кажа штаб-афіцэр, „відаць было, што яны надумалі трымацца ўпарта“. Каб напужаць сялян, па загаду жандарскага штаб-афіцэра, усе вінава-

[1]) III Отд. 4 эксп., № 200—1862, л. 12.
[2]) III Отд. 4 эксп., № 200—1862, л. л. 13—14.

тыя ў непаслушэнстве і тыя, хто прымаў удзел у вызваленьні арыштаваных сялян, для прыкладу павінны былі быць пакараны розгамі. Сяляне заступіліся за сваіх вяскоўцаў. Яны з „поўнай сьвядомасьцю свае віны пачалі прасіць, каб даравалі, і адразу-ж прынялі ўстаўную грамату, абавязваючыся выконваць усё тое, што патрабуе Палажэньне“. Тады рота салдат была адаслана ў горад. Штаб-афіцэр паставіў сабе ў асаблівую заслугу, што непаразуменьне было ліквідавана скора [1]). Гэты прыклад паказаў другім сялянам, які будзе вынік, калі сяляне ня будуць прымаць устаўной граматы. Гэта было ў канцы красавіка. Тымчасам 13 мая ў Горадзенскае „присутствие“ прышло паведамленьне, што сялянская справа ў Горадзенскай губэрні пасоўваецца вельмі павольна, што толькі з 47 маёнткаў, дый то пасьля вялікіх клопатаў з боку міравога пасрэдніка, былі прыняты ўстаўныя граматы. Такім палажэньнем спраў былі ўсхваляваны ўсе памешчыкі, якія гаварылі, што „гэта не абяцае ў далейшым ніякага посьпеху, бо сяляне ўсвоілі сабе ідэю, што на той год у сакавіку ад цара выйдзе новы „ўказ“, якім сялянам будзе аддана ўся зямля на правох уласнасьці, бяз жаднае платы. Сяляне, як кажуць памешчыкі, ня маюць ніякага давер‘я да памешчыкаў, сяляне пераконаны, што гэтыя асобы клапоцяцца пра ўстаўныя граматы з уласнае карысьці [2]). Нельга не згадзіцца з тым, што памешчыкі Горадзенскай губэрні зусім правільна азначылі настрой сялянскай масы і іх сапраўдныя жаданьні. Цалкам зразумела, чаму сяляне не жадалі прымаць устаўных грамат, бо яны не адпавядалі інтарэсам сялян, але затое цалкам адпавядалі інтарэсам памешчыкаў. Пры такім палажэньні спраў выконваючы абавязкі вайсковага і цывільнага губарнатара г. Горадні генэрал-маёр Гальлер надумаў асабіста аб‘ехаць усе воласьці „для асабістага тлумачэньня часова-абавязаным сялянам усіх тых умоў, якія патрабуюцца ад іх паводле Палажэньня 19 лютага і для ўхіленьня перашкод да больш пасьпяховага ўвядзеньня ўстаўных грамат“. У ліпні генэрал-маёр пасьпеў аб‘ехаць ужо тры паветы: Горадзенскі, Сакольскі і Беластоцкі. Аб‘езд і асабістае нагляданьне прымусілі губарнатара пераканацца, што дасягнуць жаданай мэты цяжка і, лепш сказаць, немагчыма. Губарнатар павінен быў канстатаваць, што большая частка сялян, абураная проці ранейшых несправядлівых загадаў памешчыкаў і падбухтораная нясумленнымі асобамі, якіх ніяк ня выказвае, абвясьціла губарнатару, што ўстаўных грамат ні завошта ня прыме, што будзе адбываць паншчыну, але толькі да пэўнага часу, чакаючы пасьля двух год другога міласьцівага маніфэсту. Гэта меркаваньне, на думку губарнатара, так глыбока прайшло ў сьвядомасьць сялянскай масы, што ніякімі карамі, ні пераконаньнем нельга прымусіць думаць процілеглае [3]). Той самы губарнатар у канцы верасьня павінен быў аб‘ехаць другія паветы Горадзенскай губэрні, але

[1]) III Отд. 4 эксп., № 200—1862, л. л. 16—17.
[2]) III Отд. 4 эксп., № 200—1862, л. 18.
[3]) Ibid. л. л. 23—24.

і тут сяляне былі пераконаны, што пасьля двух год канечна выйдзе другі маніфэст па сялянскай справе. І ў гэтых паветах нельга было пераканаць вясковае насяленьне ў процілеглым. Ня гледзячы на тое, што ў вёскі ставяцца салдаты для экзэкуцый, сяляне зусім роўнадушна аддаюць усё, што патрабуецца ад іх для харчаваньня людзей і коняй, дадаючы пры гэтым, што яны гатовы застацца жабракамі, але будуць адбываць паншчыну на працягу двух год, згодна ранейшага Палажэньня. Губарнатар з сумам констатаваў, што ва ўсёй Горадзенскай губэрні з ліку 1764 маёнткаў устаўныя граматы былі ўведзены толькі ў 283 маёнтках [1]). Аднак, пераконаньні губарнатара ў тым, што сяляне будуць спакойна адбываць паншчыну на працягу двух год былі крыху оптымістычнымі. Улетку 1862 г. губарнатар пачаў атрымліваць весткі, што ў некаторых паветах сяляне рашуча адмовіліся адбываць паншчыну і так званыя згонныя дні, і што, хоць і былі ўжыты захады да ўстанаўленьня парадку, але трэба было баяцца, каб гэта непакорнасьць не зрабілася агульнай. На працягу 1862 г. ў Горадзенскай губэрні было нямала выпадкаў, калі часова-абавязаныя сяляне ўжо пасьля ўвядзеньня ўстаўной граматы адмаўляліся адбываць належныя павіннасьці і наогул „выконваць законныя патрабаваньні міравога пасрэдніка“.

Часова-абавязаныя сяляне маёнтку Крынкі, які належаў памешчыку Ліпгарду, адмовіліся ад выкананьня ўсякіх павіннасьцяй, якія на іх ляжалі, і ўгаворы міравога пасрэдніка не рабілі ніякага ўражаньня. Таму, каб уціхамірыць часова-абавязаных сялян, была паслана вайсковая каманда з 30 чалавек. 26 жніўня адміністрацыя два разы склікала сходы. Прысутныя на сходзе земскі спраўнік і міравы пасрэднік стараліся растлумачыць сялянам „з усімі падрабязнасьцямі“ абавязкі, што на іх ляжалі. У адказ на гэта прысутныя на сходзе гаварылі, што паншчыну яны адбываюць акуратна, і сапраўды, за сялянамі ня лічылася ніводнага прагульнага дня. Што-ж да таго, што яны не адбываюць дадатковай паншчыны замест існаваўшых раней згонных дзён, то сам памешчык Ліпгард іх вызваліў ад яе. Сапраўды-ж, на думку жандарскага афіцэра, справа стаяла ня так. Памешчык не вызваляў сялян ад дадатковай паншчыны, і ў свой час міравы пасрэднік аштрафаваў сялян, адабраў у іх розную вопратку, якая была прадана з аукцыёну, а грошы былі падзелены так: палавіна была аддана на карысьць памешчыка, а другая была аддана ў касу сельскага таварыства. Што-ж да прыманьня ўстаўных грамат, то, паводле слоў штаб-афіцэра, ужо адно гэта слова наводзіць на ўсіх сялян страх і жах. Але, аднак, сяляне ня выказвалі ніякага супраціўленьня і прасілі адтэрмінаваньня, пакуль ня вернуцца пасланыя ў Варшаву да вялікага князя дэпутаты. Штаб-афіцэр, беручы пад увагу, што „сяляне прасілі, а не адмаўляліся“, уступіў іх просьбе. З свайго боку, міравы пасрэднік, падзяляючы думку штаб-афіцэра, згадзіўся адкласьці прыманьне ўстаўных грамат на паўтара тыдні, абы

[1]) Ibid. л. л. 23–24.

толькі сяляне выявілі пакорнасьць, а ня ўпартасьць. Разглядаючы данае непаслушэнства сялян, штаб-афіцэр павінен быў прызнаць, што шмат у чым былі вінаваты ранейшыя ўласьнікі сялян, давёўшы іх да такога абурэньня сваёю несправядлівасьцю і дэспотычным кіраваньнем. З другога боку, вінаваты міравыя пасрэднікі, якія, не зразумеўшы характару сваіх абавязкаў, часта тлумачылі сялянам усе пытаньні, што іх цікавілі, або не падумаўшы, або зусім ухільна, праз што сяляне мала каму з іх верылі. Так, атрымаўшы за праданую маемасьць грошы, міравы пасрэднік заявіў, што гэтым самым пакрываецца ўся нядоімка сялян на памешчыкаў. Але міравы пасрэднік не разьлічыў на кожную хату паасобку. Гэта дало падставу сялянам заявіць, што ўся грамада павінна быць як адзін. Жандарскі афіцэр лічыў гэтыя непарадкі сур'ёзнымі бо яны маглі прывесьці да таго, што кожны гаспадар адмовіцца адбываць паншчыну, адбываць зімовыя дадатковыя дні, апіраючыся на тое, што за рэчы атрымана больш, чым трэ' было з іх сыскаць. Міравы пасрэднік зрабіў з самага пачатку вялікую памылку. Калі сяляне не пашлі адбываць дадатковыя дні паншчыны, то міравому пасрэдніку, графу Солтану, трэ' было прасіць адразу дапамогі ў земскай паліцыі, а не адкладаць да канца лета. Апрача таго, у другіх маёнтках дадатковая паншчына складае 23 дні з дзесяціны, а ў маёнтку Крынкі—67. Міравы пасрэднік зьвярнуў на гэта ўвагу даволі позна і не пасьпеў зрабіць адпаведнага загаду. Гэтым і тлумачыцца, чаму сяляне абвясьцілі, што будуць адбываць паншчыну, пакуль пройдзе два гады, як раней. Настрой сялян, паведамляў штаб-афіцэр, вельмі ўсхваляваны. Гэта ўсхваляванасьць тлумачыцца падбухторваньнем з боку ненадзейных людзей. Сяляне так пераконаны ў правільнасьці свае позыцыі і спадзяюцца на новы маніфэст, што на ўсе тлумачэньні нічога другога не гавораць, як тое, што „яны будуць служыць як раней, да 19 лютага. А там, што бог дасьць“. Штаб-афіцэр быў перакананы, што пасьля двух год у шмат якіх месцах сяляне пакінуць адбываць паншчыну. Для таго, каб прымусіць сялян скарыцца, былі арыштаваны два дэпутаты, якія езьдзілі ў Варшаву і якіх вінавацілі ў падбухторваньні [1]).

Такія-ж хваляваньні выніклі і ў вёсках Вялікая і Малая Лопеніцы Ваўкавыскага павету, дзе сяляне, якія ўжо прынялі ўстаўную грамату адмовіліся выконваць свае абавязкі. Для сьледзтва, па загаду губэрскай адміністрацыі, быў пасланы жандарскі штаб-афіцэр. Сяляне зышліся на сход і скардзіліся на ўстаноўленую паншчыну па інвэнтарных правілах, але гэта скарга была адхілена тым, што Палажэньне 19 лютага ўстанавіла другі характар паншчыны: згонныя дні былі значна зьменшаны. Сам штаб-афіцэр лічыў, што скарга сялянская была толькі адной адгаворкай, бо „ўсе сяляне не адбывалі паншчыну толькі з аднае ўпартасьці, будучы падбухтораны на тое ненадзейнымі людзьмі“, з ліку якіх быў вы-

---

[1]) III Отд. 4 эксп., № 200—1862, л. л. 27—29.

крыты адстаўны салдат Павал Бауфалаў, які паехаў у Пецярбург з просьбай да цара, каб выпрасіць сялянам новыя ільготы. Апрача таго, было арыштавана яшчэ чатыры чалавекі. Міравы пасрэднік і штаб-афіцэр аштрафавалі сялян за прагульныя дні. Быт сялян, на думку штаб-афіцэра, быў сярэдні. Усе гаспадары, за выключэньнем пяці, мелі досыць хлеба, хатняе жывёлы і ўсяго патрэбнага ў гаспадарцы. Штаб-афіцэр знайшоў, што „просты народ—вельмі абмежаванага розуму, але адначасна надзвычайна ўпарты. Відаць, сяляне ўмовіліся сваволіць у дачыненьні абавязкаў, што на іх ляжалі, і не згаджаліся прымаць ды падпісваць розныя паперы. Сяляне ня толькі не даюць веры сваім вяскоўцам, але таксама і мясцоваму папу з боязьні, што яны падпішуць дакумант, які не адказвае іх інтарэсам". Штаб-афіцэр павінен быў канстатаваць, што сяляне зразумелі дараваную свабоду зусім ня так, як трэба [1]). У кастрычніку 1862 г. сяляне маёнтку Рудкі, Вельскага павету, графа Патоцкага таксама праціўіліся ўвядзеньню ўстаўных грамат і адмаўляліся падпарадкавацца міравому пасрэдніку. Для заспакаеньня сялян быў скліканы сход, на якім былі павятовы спраўнік, міравы пасрэднік і сам афіцэр. Усе прысутныя дзейнічалі па трафарэту. Яны растлумачвалі сэнс устаўной граматы і абавязкі, што ляжалі на сялянах, а таксама даводзілі патрэбнасьць бясспрэчнага падпарадкаваньня ўстаноўленай уладзе як „пры правядзеньні ўстаўных грамат, так і другіх законных распараджэньнях". Прысутная адміністрацыя тлумачыла сялянам новыя правы аб пераходзе да самастойнага і лепшага быту і парадку на падставе Палажэньня 19 лютага 1861 г., але пры гэтым тут-жа тлумачыла, што „ў выпадку далейшай непакорнасьці і супраціўленьня будзе пастаўлена ваенная экзэкуцыя і вінаватыя будуць строга пакараны". Аднак, гэтыя развагі адміністрацыі ня мелі ніякага посьпеху. Часова-абавязаныя сяляне ўпарта заставаліся пры сваёй думцы і адмаўляліся прымаць і ўводзіць устаўныя граматы. У якасьці матываў былі паданы наступныя: 1) ворная зямля—дрэнная, 2) плата—вельмі вялікая, 3) недахват пашы, 4) немагчымасьць карыстацца дарма дрывамі, з прычыны чаго яны ня могуць выконваць павіннасьці, што ляжаць на іх. Часова-абавязаныя сяляне выказалі цалкам законную небясьпеку, што пры складаньні ўстаўных грамат яны страцяць права атрымаць задаволеньне ў іх прэтэнзіях, і каб самі памешчыкі дазволілі ім пасьвіць жывёлу на зямлі маёнтку, на што яны мелі права да апошняга часу. Сяляне заявілі, што яны яшчэ будуць працаваць два гады і будуць чакаць другога маніфэсту па сялянскай справе. Цяпер яны чакаюць рэзолюцыі на паданую Константыну Мікалаевічу просьбу, але якога зьместу—яны не сказалі. Селянін з вёскі Бросока зазначыў, што ім невядомы, як вялікі надзел, і што яны ўладалі і будуць уладаць тымі надзеламі ды ўжыткоўнасьцямі, якімі ўладалі раней. Адміністрацыі было, зразумела, вельмі важна прымусіць сялян падпарадкавацца яе загадам. Для гэтае мэты

[1]) III Отд. 4 эксп., № 200—1862, л. л. 30—31.

яна старалася раскалоць сялян. Часткова яна гэтага дабілася. Сяляне сельскага таварыства Чорнага-Вялікага „образумились“ і заявілі, што яны перш складуць умову з памешчыкам наконт аброку і тады гатовы падпісаць устаўную грамату. Гутаркі з асобнымі сялянамі дазволілі адміністрацыі адзначыць наяўнасьць падбухторваньня з боку розных асоб, асабліва з боку адстаўнога салдата Аланецкага пяхотнага палка Лявона Мартынава, які падбухторваў сялян супраціўляцца ўладзе, узяў на сябе волю ўпоўнаважанага сельскага таварыства і, сабраўшы патрэбныя грошы, езьдзіў у Вільню і падаў начальніку краю просьбу, нікім не падпісаную, але просьба мела пячатку „добрасумленнага“ Малецкага таварыства. Пасьля таго, як ён вярнуўся з Вільні, пашла чутка, нібы на паданае прашэньне атрымаўся адказ, не падпісваць і ня прымаць ніякіх грамат“. Падбухторшчыкамі сялян аказаліся прадстаўнікі сялянскага таварыства—добрасумленныя Пабакроўскай валасьці С. Колтэк і стараста Малецкага таварыства С. Асмольскі, якія таксама пераконвалі сялян ня прымаць грамат, супраціўляцца пры іх увядзеньні і ня слухаць устаноўленае ўлады. Прышлося арыштаваць салдата. У гэты-ж час памешчыкі заявілі, што „яны заўсёды гатовы ўступіць сялянам, калі сяляне прымуць устаўную грамату і складуць з імі згоду адносна ўмоў, асабліва, калі сяляне згодзяцца на выкуп зямлі“. Тымчасам, да гэтага часу ніхто не звярачаўся да памешчыка для складаньня ўмоў, што штаб-афіцэр растлумачыў „наяўнасьцю чутак, паводле якіх сядзібы, якімі ўладалі сяляне, павінны былі застацца за імі бяз жаднага выкупу, калі толькі яны ня прымуць устаўных грамат [1]). У лістападзе такую самую пазыцыю ў дачыненьні ўстаўных грамат занялі сяляне Вігаўскага сельскага таварыства, якія належалі да маёнтку Кусьціна памешчыка Сяржпутоўскага. Яны таксама адмовіліся прыняць устаўную грамату, нібы падбухтораныя на тое суседнім дробным памешчыкам Касакоўскім. Гэтага не давялі, бо ня было ніякіх довадаў проці яго, дый другія ня чулі, каб Касакоўскі заклікаў сялян ня прымаць устаўныя граматы [2]). І ў Гарадзенскай губэрні былі выпадкі, калі часова-абавязаныя сяляне, лічачы сябе мяшчанамі, не жадалі выбіраць і падпарадкавацца сельскаму валасному праўленьню. У ліпні часова-абавязаныя сяляне мястэчка Хорацы адмовіліся ад выбару вясковай адміністрацыі, лічачы сябе мяшчанамі, на падставе пастановы Гарадзенскай палаты грамадзянскага суду ад 31 сакавіка 1861 г., хоць Сэнатам гэтая справа яшчэ ня была вырашана. Ня гледзячы на пераконаньні адміністрацыі выбраць асоб на вясковыя пасады, сяляне адмовіліся арганізаваць сельскае таварыства. Праўда, губарнатар Дрэвякін прапанаваў міравому пасрэдніку „растлумачыць часова-абавязаным сялянам тое, што арганізацыя сельскага таварыства нічуць ня можа перашкаджаць ім абараняць свае правы на

[1]) III Отд., № 200—1862, л. л. 32—39.

[2]) III Отд. 4 эксп., № 200—1862, л. л. 40—41.

мяшчанства, або сьціскаць ці абмяжоўваць гэтыя правы, калі толькі яны канчаткова будуць прызнаны ўрадам, але што яны да гэтага часу павінны падпарадкавацца законам пра сялян, вызваленых ад паншчыны". Губарнатар прыгразіў, што калі яны адмовяцца выбіраць адміністрацыю, то будуць назначаны старасты і другія асобы з сумленных жыхароў. Пераконаньні, аднак, не памаглі. Сяляне заявілі, што ў іх ёсьць свой бургомістр Мартын Рамаоўскі, а назначаных валасных старастаў яны адхіляць, і пра залічэньне іх у воласьць яны не хацелі слухаць. Назаўтра сяляне сабраліся на рынку ў колькасьці 40 чалавек і, пасьля нарады, падбухтораныя паверанымі таварыства Тамашом Абражэвічам ды Язэпам Асташэўскім пашлі да новага экономічнага будынку, які будаваўся, разабралі фундамант і адначасна ўхіліліся ад выкананьня на карысьць памешчыка зьдзельнай павіннасьці і ад уплаты аброку. Разам з гэтым яны разграбілі земскі сялянскі магазын і пачалі секчы самавольна лес памешчыка. Было сьледзтва, і адміністрацыі яшчэ раз было даручана напомніць сялянам іх абавязкі і паказаць ім, як яны будуць адказваць за невыкананьне законных патрабаваньняў улады. Аднак, сяляне засталіся пры сваёй ранейшай думцы, тлумачачы, што грамадзянская палата замацавала за імі мяшчанскія правы і што яны не абавязаны організаваць сельскія таварыствы. Складзены з гэтай прычыны пратакол быў пасланы на разгляд начальніка губэрні [1]).

Сяляне Віцебскай губэрні таксама ня выказвалі асаблівага жаданьня прымаць устаўную грамату. Апрача таго, у асобных маёнтках былі выпадкі непаслушэнства сялян мясцовай адміністрацыі. Найбольш характэрным зьяўляецца наступны выпадак. Валасны старшыня мястэчка Кубінчы, Лепельскага павету, Шах і пісар Корсак адмовіліся слухаць прыстава III стану Шостака, які прыехаў спаганяць падаткі за першую палову 1862 г. і нядоімку за другую палову 1861 г. Валасны старшыня ў катэгорычнай форме адмовіўся зьявіцца да станавога прыстава. Каб націснуць на вясковую адміністрацыю, станавы прыстаў загадаў пакараць розгамі дзесяцкага, на гэта Шах выразіў у рэзкай форме протэст, адначасна заявіўшы, што падатку яшчэ ня трэба плаціць, і што ён наконт гэтага не аддаў ніякага загаду. Для расьсьледваньня гэтага выпадку была організавана цэлая сьледчая камісія ў складзе судовага сьледчага, члена павятовага суду, чыноўніка мясцовай паліцыі і штаб-афіцэра корпусу жандараў. Што вырашыла сьледчая камісія, невядома, але штаб-афіцэр у сваёй адносіне да шэфа жандараў 9 сакавіка паведаміў, што „ўсе весткі зьяўляюцца пераўвялічанымі і што разгляд справы паказаў, што ў шмат якіх выпадках была сваволя з боку земскае паліцыі". На думку штаб-афіцэра, „грубасьць станавога прыстава нічым ня выклікана і ня можа быць апраўдана". Як ён кажа, „апрача некаторага недавер'я сялян да памешчыкаў і неразуменьня праз сваю цёмнасьць і няпісьменнасьць зробле-

[1]) III Отд. 4 эксп., № 200—1862, л. л. 19—22.

нага ім дабра, тутэйшыя сяляне адрозьніваюцца мяккім характарам і пакорай уладзе—хай толькі гэта ўлада гаворыць з сялянамі ня крыкам, які зьбівае іх з панталыку, але разумна і зразумела тлумачыць тое, што да іх належыць, і шчыра ўваходзіць у іх патрэбы і пажаданьні". Штаб-афіцэру прышлося стаць на абарону сельскае адміністрацыі, бо вінаватасьць земскай паліцыі і неўгрунтаванасьць абвінавачаньняў адміністрацыі ня мелі за сабой ніякай глебы [1]).

І сяляне Менскай губэрні таксама адносіліся адмоўна да прыманьня ўстаўных грамат, і ніякія пераконаньні на іх ня ўплывалі. Найбольш характарным у гэтых адносінах быў выпадак у Ігуменскім павеце, калі сяляне Новасельскай і суседняй з ёю воласьці рашуча адмовіліся прымаць устаўныя граматы і падпарадкавацца адпаведным загадам. Штаб-афіцэру, які дасьледваў гэтую справу, прышлося зьвярнуцца за дапамогай да вайсковай улады. У пачатку ліпня было паслана поўсотні казакоў. Да паловы ліпня сяляне слухаліся загадаў паліцэйскай улады бяз прымусу з боку войска і войска было адаслана ў Менск [2]). Цалкам зразумела, што сяляне падпарадкаваліся, бо салдаты, прызначаныя для экзэкуцыі, былі, зразумела, вялікай карай для насяленьня. Асобныя выпадкі нежаданьня сялян прымаць устаўную грамату былі і ў Магілеўскай губэрні. Так, у красавіку, у Гомельскім маёнтку міравога пасрэдніка Байкова, дзе лічылася 200 душ сялян, якія спачатку падпісалі добраахвотна з памешчыкам устаўную грамату, адмовіліся плаціць аброк, і, калі ў вёску прыехала земская паліцыя, выявілі непаслушэнства. Адміністрацыя зьвярнулася за дапамогай да вайсковай улады. Прыехаў сам губарнатар, а разам з ім і вайсковая каманда. Сяляне ўсе разьбегліся, але потым некаторая частка вярнулася дахаты і пасьля перамаўленьня з паліцэйскай уладай згадзілася заплаціць палавіну належнага з іх памешчыцкага аброку, а выплату другой часткі прасілі адкласьці. На гэта была дана згода з боку адміністрацыі і сяляне ўзяліся за свае палявыя работы. Для падтрыманьня парадку і для пагрозы сялянам на некаторы час у маёнтку засталася вайсковая каманда [3]). Зусім зразумела, чаму сяляне падпарадкаваліся паліцэйскаму ўгаворваньню. У маі вынiклі непаразуменьні ў маёнтку памешчыка Гадзіцкага, у якім лічылася 150 душ. Часова-абавязаныя сяляне таксама адмовіліся хадзіць да памешчыка на паншчыну па ўстаўных граматах, і калі ў маёнтак прыехаў маршалак, міравы пасрэднік і земская паліцыя, то сяляне выявілі „непаслушэнства і нават буйства". Быў выкліканы жандарскі штаб-афіцэр з салдатамі, які прапанаваўісьці на паншчыну. Пад прымусам вайсковай сілы сяляне вымушаны былі прызнаць няправільнасьць сваіх пераконаньняў і сваю віну ў непаслушэнстве [4]). Некалькі сялян было пакарана паліцэйскімі

[1]) III Отд. 4 эксп., № 199—1862, л. л. 1—2.
[2]) III Отд. 4 эксп., № 208—1862, л. л. 6—7.
[3]) III Отд. 4 эксп., № 209—1862, л. 1.
[4]) III Отд. 4 эксп., № 209—1862, л. 2.

мерамі. Сяляне былі прымушаны падпарадкавацца ўсім загадам адміністрацыі. У лістападзе часова-абавязаныя сяляне вёскі Соржыцы, Сеньненскага павету, маёнтку Глушаноўскіх адмовіліся прыняць устаўную грамату для выкананьня зьдзельнай павіннасьці, а таксама не пажадалі быць на аброку або вызваліцца ад абавязковых адносін да памешчыка праз выкуп зямлі. Адміністрацыя тлумачыла такія дзеяньні сялян думкай „нібы зямля ім будзе аддана дарма і таму яны чакаюць новай царскай волі“ і ня верачы ў магчымасьць існаваньня закону, паводле якога старыя і малыя надзяляліся зямлёю, за што трэ‘ было адбываць адпаведныя павіннасьці на карысьць памешчыкаў. Штаб-афіцэр сабраў сялян на сход і пачаў тлумачыць сялянам сэнс Палажэньня 19 лютага. Штаб-афіцэр даводзіў усю выгаду гэтага Палажэньня і найхутчэйшага ўвядзеньня ўстаўной граматы, дзякуючы якой зьменшыцца лік дзён паншчыны, бо замест трох дзён паншчыны, як гэта было цяпер, сяляне будуць адбываць паншчыну толькі два дні. Сяляне сапраўды згадзіліся перайсьці на выкуп, але ўласьнік маёнтку, стацкі саветнік Глушаноўскі, адмовіўся ад увядзеньня ўстаўных грамат на тэй падставе, што праверка грамат і канчатковае іх увядзеньне працягнецца 3 або 4 месяцы і хай у гэты час сяляне ходзяць на паншчыну па-старому. Калі-ж адразу ўвесьці грамату ў жыцьцё, то маёнтак траціць праз гэта 6.000 рабочых дзён. Штаб-афіцэр паведаміў пра ўсё начальніку губэрні, які загадаў па тэлеграфу не сачыць за захаваньнем формы і адразу-ж увесьці ў жыцьцё ўстаўныя граматы па маёнтках Глушаноўскага, асабліва ў вёсцы Соржыцы, бо такія захады „патрэбны для супакою крыху ўсхваляваных сялян і служаць таксама спыненьню ўсіх няправільных тлумачэньняў, якія ідуць часамі ад ненадзейных людзей“. З гэтае прычыны былі ўведзены ўстаўныя граматы, і рота батальёну Віцебскага гарнізону была зноў выпраўлена на месца[1]).

Шырокае нездавальненьне ўстаўнымі граматамі ахапіла і сялянства Ковенскай губэрні. Сяляне Панявескага павету бадай усе зьяўляліся ўсхваляванаю масаю, якая вельмі варожа адносілася да Палажэньня 19 лютага і да патрэбнасьці складаць устаўныя граматы. Ужо ў сьнежні 1861 г. міравы пасрэднік Роп давёў да ведама Ковенскага губарнатара, што „ад шмат якіх памешчыкаў сталі прыходзіць скаргі на няспраўнае выкананьне паншчыны часова-абавязанымі сялянамі і што сяляне Рымдаўскага таварыства адмовіліся плаціць па раскладу дзяржаўныя падаткі і мірскія зборы“. Сам міравы пасрэднік паехаў на павет, каб растлумачыць сялянам іх абавязкі, але не пасьпеў прывесьці іх да пакорнасьці. Сяляне аказалі міраваму пасрэдніку ўпартае супраціўленьне: „Рымдаўскае таварыства памешчыка Гаарана заявіла, што яно ня будзе плаціць ні дзяржаўных, ні мірскіх падаткаў, а гаспадары з свайго боку, дадалі, што яны будуць адбываць паншчыну толькі да першага сту-

[1]) III Отд. 4 эксп., № 209—1862, л. л. 3—5.

дзеня 1862 г., а потым ня пойдуць на паншчыну[1]). Тое самае паведамілі і сяляне Германіскага таварыства Фінкельштэйна. Сяляне Тальгеймскага таварыства баронэсы Гротус паведамілі, што „яны зусім ня будуць адбываць паншчыну і слухаць загадаў міравога пасрэдніка, якія яны знаходзяць няправільнымі“. Сяляне Панямунскага таварыства памешчыка Сестэцкага, у якім, паводле вылічэньня міравога пасрэдніка, сяляне павінны былі адбываць 18 дзён паншчыны з дзесяціны і плаціць 20 руб. аброку, паднялі „з газартам крык і не хацелі слухаць міравога пасрэдніка ды без яго дазволу разышліся са сходу“[2]). Сяляне Бутаўскага таварыства памешчыка Тарноўскага заявілі, што яны пойдуць на паншчыну ў тым разьмеры, як у другіх таварыствах. Лупкецкае таварыства памешчыка Чаркасава і Пойліцкае—памешчыка Гаарана заявілі, што „яны пойдуць на паншчыну, як ім захочацца“. Тое самае заявілі сяляне і ў Комянскім таварыстве, якое належала генэрал-маёршы Непкойчыцкай. Сяляне ва ўсіх таварыствах адмаўляліся ад выкананьня зьдзельнай павіннасьці і заявілі, што з першага студзеня 1862 г. „яны пяройдуць на аброк бяз згоды памешчыка, якому думаюць плаціць аброк, як самі вылічаць“. У некаторых таварыствах былі адмаўленьні ад выплаты дзяржаўных і мірскіх павіннасьцяй. Міравы пасрэднік Роп паведаміў губарнатара, што хваляваньне сялян было зроблена часова-абавязанымі Андрэем і Антонам Шкірнамі, якія вазілі па таварыствах малога хлопчыка Бальчунаса, што чытаў і няправільна тлумачыў Палажэньне 19 лютага. Сяляне маёнтку Попеле памешчыка Касьцікоўскага ў Нова-Аляксандраўскім павеце адмовіліся плаціць грашовы збор на карысьць памешчыка за лён ды семя, што патрабавалася, паводле Палажэньня, і „аказалі непаслушэнства ды грубасьць да міравога пасрэдніка“. Калі-ж станавы прыстаў арыштаваў аднаго з галоўных верхаводаў—селяніна Аўштальціса, то другія сяляне, прышоўшы натоўпам на памешчыцкі двор, гвалтам вызвалілі яго, а потым не дазволілі паліцыі арыштаваць другіх галоўных вінаватых і моцна пабілі паліцэйскага дзесятніка Крыўцова. Памешчык контр-адмірал Крыгер таксама прасіў, каб хутчэй прыслалі адміністрацыю ў Панявескі і Нова-Аляксандраўскі паветы і каб прынялі меры для заспакаеньня часова-абавязаных сялян. Жандарскі штаб-афіцэр, паведамляючы пра ўсе акалічнасьці ІІІ Адзяленьне, лічыў патрэбным дадаць наступнае: „мяркуючы па настроях, нельга думаць, каб сяляне адмовіліся плаціць дзяржаўныя і мірскія падаткі. Калі-ж гэта і было, то толькі з прычыны якога-небудзь непаразуменьня[3]). Згодна паведамленьня начальніка Ковенскай губэрні, яшчэ ў сьнежні часова-абавязаныя сяляне маёнтку Ляуксадзе адмовіліся ад выкананьня павіннасьцяй на карысьць памешчыка. На думку губарнатара „прычынай для хваляваньня было пераконаньне, што існуе нейкі інвэнтар з вельмі абмежаванымі павін-

[1]) III Отд. 4 эксп., № 205, л. 1.
[2]) III Отд. 4 эксп., № 209—1862, л. 3.
[3]) III Отд. 4 эксп., № 209—1862, л. 4.

насьцямі“. Справа не абышлася без агітацыі з боку сялян Мандырса і Язэпа Садаугу. Апошнія былі арыштаваны, але сяляне натоўпам вызвалілі іх з-пад арышту. Калі-ж для захопу Мандырса і для пакараньня вінаватых была накіравана вайсковая каманда з 32 чалавек, то сяляне, сабраўшыся ў ліку 150 мужчын і кабет, з каламі і рознымі прыладамі ў руках, ня пусьцілі каманду ў вёску. Штаб-афіцэр і земскі спраўнік былі таксама варожа спатканы ўзброенымі сялянамі. Самы ўваход у вёску быў забарыкадаваны. Для ўціхаміраньня вёскі быў пасланы конны атрад з эскадрону. Сяляне былі ўціхаміраны без ужываньня крайніх мер строгасьці [1]). У маёнтку Белы-Плоняны і другіх маёнтках 4-га міравога вучастку Панявескага павету часова-абавязаныя сяляне сталі ўхіляцца ад выкананьня інвэнтароў [2]).

Наогул, паводле падліку адміністрацыі, к пачатку году выступілі проці памешчыкаў 19.957 душ у Нова-Аляксандраўскім і Панявескім паветах. У маёнтку Попель Яна Касьцікоўскага, у якім лічылася 2.237 душ, часова-абавязаныя сяляне адмовіліся плаціць дадатковыя грошы за лён ды семя, што патрабаваліся паводле Палажэньня 19 лютага. Міравы пасрэднік стаў пераконваць сялян выканаць прад'яўленыя ім патрабаваньні, але на сялян угаворы міравога пасрэдніка не зрабілі ніякага ўражаньня. Між іншым, на сялянскім сходзе адзін з яго ўдзельнікаў заявіў міраваму пасрэдніку, што ён няправільна тлумачыць Палажэньне. Міравы пасрэднік абурыўся „з прычыны такіх непаважных да яго адносін“ і аддаў загад валасному старшыні вывесьці селяніна са сходу. Тады сяляне выразілі сваю солідарнасьць сваім вяскоўцам і не пажадалі заставацца на сходзе. Міравы пасрэднік, бачачы гэта, зьвярнуўся да земскага спраўніка і патрабаваў пакараньня паліцэйскімі мерамі чатырох сялян, якія былі заўважаны „ў грубасьці“. Але і тут усе сяляне выступілі проці земскага спраўніка, заявіўшы, што яны не дазволяць пакараньня сялян. Калі-ж адзін з паліцэйскіх-дзесяцкіх захацеў арыштаваць аднаго селяніна, то прысутныя пабілі яго і вызвалілі арыштаваных. Тады станавы прыстаў зьвярнуўся за дапамогай да земскага спраўніка. Сяляне выступалі аб'яднанай групай, не дазвалялі арыштаваць падвіноўных і адначасна дамагаліся задавальненьня сваіх прэтэнзій да памешчыка, вырашыць якія земскі спраўнік ня меў права. На сходзе 31 сьнежня сяляне заявілі, што яны не адмаўляюцца плаціць належныя з іх грошы, але толькі раней трэба задаволіць іх прэтэнзіі да памешчыка, які застаўся ім вінаваты за выкананьне такіх павіннасьцяй, якіх яны маглі не адбываць. На гэты раз міравы пасрэднік прызнаў, што сяляне павінны быць неадкладна задаволены грашыма на харчы за паездку ў Рыгу, а тым, якія пасылаліся ў Рыгу больш разоў, чым устаноўлена інвэнтарамі, павінна быць аплачана за кожны дзень удвая проці ацэнкі аднаконнага

[1]) III Отд., 4 эксп., № 209—1862 г., л. л. 5—6.
[2]) Ibid. л. л. 6.

рабочага. Пры выплаце трэба прыняць таксама пад увагу і тыя грошы якія былі пазычаны памешчыкам у сялян у розны час. 20 студзеня 1863 г. ўсім сялянам было абвешчана аб пастанове міравога пасрэдніка. Сяляне зрабілі некалькі пярэчаньняў, але, як і раней, адмовіліся плаціць належныя з іх грошы і не заплацілі іх на працягу двух дзён. Тады 10 чалавек, вінаватых у супраціўленьні паліцыі, былі арыштаваны і пабіты розгамі ад 50 да 100 удараў. Такая дзікая расправа прымусіла сялян скарыцца і заплаціць належныя грошы. Вайсковая каманда, якая тут была, каб сяляне хутчэй скарыліся, была выведзена [1]).

У маёнтку Біржы графа Івана Тышкевіча Панявескага павету лічылася 14.000 часова-абавязаных сялян. Часова-абавязаныя сяляне Біржанскай воласьці, даведаўшыся, што на працягу 2-х год яны абавязаны выконваць павіннасьці на памешчыка і, лічачы, што з зацьверджаньнем валасной організацыі яны зноў стануць прыгоннымі, заявілі аб сваім адмаўленьні ад выбару службовых асоб, дадаўшы пры гэтым, што яны толькі тады пачнуць організаваць воласьці, калі будуць зусім вольныя і атрымаюць палёгку ў павіннасьцях. Міравому пасрэдніку Верашчынскаму ўдалося пераканаць некалькі гаспадароў прызнаць новы парадак. Калі-ж пачаліся выбары, то сяляне, якія зьявіліся, катэгорычна заявілі, што яны не дазволяць ніякіх выбараў і прымусілі перайсьці на свой бок і тых сялян, якія перайшлі на бок адміністрацыі. Настрой сялян быў вельмі ўзрушаны. На думку жандарскага штаб-афіцэра, розныя асобы, карыстаючыся такім настроем сялянства, зьбіралі з іх грошы, пераконвалі іх, што хутка будзе другая воля, а калі яны падпарадкуюцца ўстаноўленаму новаму начальству, то страцяць правы на новыя ільготы. Біржанскія сяляне, шукаючы праўды, сталі падаваць розныя просьбы начальству і нават хацелі пасланы просьбу да самога цара, але толькі адпраўленьне было затрымана, бо ня было пашпартоў у пасланцоў. Жандарская адміністрацыя павінна была прызнаць наяўнасьць агітацыі сярод сялян асобных людзей, якія выдавалі сябе за вялікага чыноўніка, і расказвалі сялянам розныя глупствы, а таксама заклікалі сялянскую масу не падпарадкавацца новаму ладу, пакуль ня будзе атрыманы асобны ўказ з Пецярбургу або адтуль прыедзе сьледчая камісія. Каб уціхаміраць сялян, было арыштавана сем чалавек, але гэта ані не супакоіла сялян. Сяляне адбывалі паншчыну, але не хацелі плаціць ніякіх падаткаў, што, зразумела, павінна было зрабіць пэўны ўплыў і на суседніх сялян, якія заяўлялі на сходах, што „дараваная воля нікім ня можа быць адабрана і што ў Расіі няма і ня будзе ніводнага прыгоннага“. У адказ на сантымэнтальныя тлумачэньні адміністрацыі, сяляне казалі, што „да атрыманьня новае царскае рэзолюцыі яны ня могуць прызнаць новага парадку і што, пакуль ня будзе адказу на пададую просьбу, яны ня будуць слухаць, ня будуць несьці павіннасьці“. Міравы пасрэднік аддаў

[1]) III Отд. 4 эксп., № 205—1862. Стар. 6 і наступныя.

загад, каб на працягу двух дзён былі заплачаны грошы. Спачатку сяляне далі згоду, але калі зьявіўся зборшчык падатку, то апошні быў спатканы лаянкай ды кпінамі, і грошай сяляне не заплацілі. Тымчасам, сабраўшы патаемна падаткі, яны паслалі іх у Панявескае казначэйства, жадаючы гэтым самым паказаць, што яны толькі не падпарадкуюцца валасному праўленьню. Аднак, на мірскія патрэбы сяляне ня далі ніводнай капейкі. Хоць пасланыя ў Панявеж былі арыштаваны і адвезены ў Біржы, а сялян ня раз зьбіралі на сходы, каб пераканаць іх, што трэба выбіраць валасных старшынь—гэта не дало ніякіх вынікаў. Самі-ж сяляне зьбіраліся самавольна на сходы і ня ішлі ні на якія ўступкі. Тады адміністрацыя выклікала конны эскадрон. У прысутнасьці 700 гаспадароў было арыштавана 23 чалавекі і пакарана розгамі за невыкананьне загаду жандарскай адміністрацыі і за падбухторваньне на тое другіх сялян. Пасьля таго, як дзесяць сялян было пакарана, уся рэшта, паводле слоў жандарскага афіцэра, „была гатова прызнаць сваю памылку, пачала прасіць дараваньня і абяцала падпарадкавацца новым парадкам“. Разам з тым сяляне выступілі абаронцамі арыштаваных і прасілі дараваць рэшце яшчэ непакараных. Жандарскі афіцэр бачачы такое „шчырае каяньне“, вызваліў ад пакараньня рэшту. Сяляне згодна заплацілі грошы ды зноў „выказалі сваю пакорнасьць“ і выбралі пад кіраўніцтвам міравога пасрэдніка валасных старшынь. Жандарскі афіцэр, паведамляючы аб пакорнасьці сялянскай масы ў маёнтку Біржы, аднак, адзначыў, што падбухторшчыкам біржанскіх сялян быў адстаўны унтэр-афіцэр Нічыпар Варфаламееў, які быў злоўлены ў Курляндыі і прызнаўся ў складаньні „неўгрунтаваных просьбаў“. Варфаламееў разам з селянінам Бальчугом былі арыштаваны і адданы пад суд. Жандарскі палкоўнік лічыў, што ўжытыя меры зрабілі „добры ўплыў на другія сялянскія таварыствы“. Як толькі штаб-афіцэр прыяжджаў у той ці іншы маёнтак, то ўсе дзяржаўныя падаткі ўжо былі заплачаны да яго прыезду. Нідзе сяляне не адмаўляліся ад выкананьня зьдзельнай павіннасьці, але адначасна гаварылі, што так будуць рабіць толькі да новага году. Такую позыцыю сялян жандарскі афіцэр тлумачыў імкненьнем многіх памешчыкаў захаваць ранейшыя парадкі, што, зразумела, абуджала ў сялянах недавер'е і небясьпеку быць абманутымі, тым больш, што яны чакалі ад новага загаду, з прычыны розных чутак, значнай для сябе палёгкі ў зьдзельнай павіннасьці[1]).

Пасьля ўціхаміраньня біржанскіх сялян прышла чарга сялян маёнтку Монтэгалішкі памешчыка Гольстэна, маёнтку Падгайцы—Гольстэна, Бутнюны—Гана, Понямуні—Сапукога, Рымдаўгі—Гаарэна, Тальгейма—Гротуса. Сяляне ўсіх гэтых маёнткаў яшчэ ў палавіне сьнежня адмовіліся выконваць свае павіннасьці і часткова плаціць дзяржаўныя падаткі.

[1]) III Отд. Дело № 205—1862, 4 эксп. Стар. 12 і наступныя.

Апрача таго, сяляне Понямунскія вінаваціліся ў тым, што самавольна пакінулі з крыкам і лаянкаю міравы сход, пры абвяшчэньні ім міравым пасрэднікам, колькі з іх належыць павіннасьцяй.

На працягу 3 дзён—з 18 па 20 студзеня—жандарскі штаб афіцэр аб'ехаў усе вёскі, у якіх сяляне выявілі непаслушэнства. Пасьля прыезду штаб-афіцэра ўсе дзяржаўныя падаткі былі заплачаны і сяляне выказалі „пакорнасьць і абяцалі дакладна выконваць свае абавязкі". Другія-ж вёскі, якія адмаўляліся на працягу 7 месяцаў выбраць на валасныя пасады асоб, „бяз жаднага супраціўленьня выбіралі". Аднак адміністрацыя знайшла патрэбным пакараць трох гаспадароў розгамі за тое, што яны самавольна пашлі са сходу і аднаго селяніна маёнтку Монтэгалішак за грубасьць міравому пасярэдніку. Жандарскі афіцэр тлумачыў патрэбнасьць такой кары так: каб надаць на будучы час сялянам „павагу і пакорнасьць устаноўленаму начальству". Пры разглядзе сялянскіх спраў выявілася: 1) што ў маёнтку Монтагалішкі сялянам не заплачаны харчовыя грошы і не залічана паншчына за паездку ў Рыгу; сяляне Понямунскія маюць права быць на аброку, а не адбываць мяшаную павіннасьць; 3) сяляне Рымдаугі ня ведаюць прызначаных ім павіннасьцяй па інвэнтарох. Міравы пасярэднік прапанаваў неадкладна па ўсіх спрэчных пытаньнях задаволіць сялян. У другіх маёнтках Панявескага павету парадак быў наладжаны да прыезду жандарскага штаб-афіцэра. Ня так скора скончылася хваляваньне ў маёнтку Белыя Плоняны, дзе сяляне з канца сьнежня адмовіліся выконваць паншчыну. Апошняя акалічнасьць была выклікана тым, што памешчык адмовіўся даваць ім гальлё на апал. Міравым пасрэднікам гэта патрабаваньне сялян было здаволена, але сяляне на паншчыну не пашлі, а станавы прыстаў ня мог паліцэйскімі мерамі навесьці парадак. Тады па загаду міравога пасрэдніка, селянін Думброс, які прышоў з другога маёнтку падбіваць да непаслушэнства, быў пакараны. Але сяляне вырвалі яго з рук адміністрацыі, пакінулі сход, павялі яго з сабою, называючы міравога пасрэдніка „разбойнікам і другімі ганебнымі словамі". Пасьля таго, як прыехаў жандарскі штаб-афіцэр, сяляне згадзіліся акуратна высылаць на паншчыну работнікаў конных і пешых. Селянін Думброс і 7 сялян былі пакараны розгамі, а памешчыку Рэке было прапанавана не патрабаваць ад сялян паншчыну ў нядзелю. Між іншым, сяляне заявілі на сходзе адміністрацыі, што адміністратар памешчыка Рэке патрабуе ад іх паншчыны ў нядзелю, не запісваючы гэтыя дні за паншчыну. Адміністрацыя тлумачыла, нібы за паншчыну ў нядзелю яны вызваляюцца ад працы на каляды. Жандарскі штаб-афіцэр знайшоў патрэбным катэгорычна заявіць, што сяляне не павінны адбываць ніякай паншчыны ў нядзелю.

Потым жандарскі афіцэр накіраваўся ў маёнтак Ляуксодзе памешчыка Верашчынскага. Тут былі арыштаваны, як падбухторшчыкі, Мулдара і Сідаўга. Абодва яны потым былі пасаджаны ў турму і над імі было назначана судовае сьледзтва. Аднак, арыштаваць вышэйназваных асоб

было ня вельмі лёгка. Натоўп вызваліў затрыманых і зусім не жадаў падпарадкавацца паліцыі ды выконваць загады губарнатара. Было выклікана войска, але сялянская маса, як вядома, выказала пэўнае супраціўленьне і яму. Зразумела, пад уплывам вайсковай сілы сяляне павінны былі адмовіцца ад свайго нявіннага супраціўленьня і падпарадкавацца распараджэньням жандарскага афіцэра, тым больш, што войска ў маёнтку было разьмешчана ў экзэкуцыйным парадку. Абвяшчаючы аб сваім жаданьні падпарадкавацца законам, сяляне скардзіліся на памешчыкаў у незаконным патрабаваньні паншчыны і на тое, што ім ня плацяць заробленых грошай. Сьледзтва паказала, што дваровае кіраўніцтва да гэтага часу не разьлічылася з сялянамі за адпрацаваныя дні, а таксама, што яно не кіравалася абмежаваньнем, установленым інвэнтаром да фурманкавай павіннасьці. Даючы загад адміністрацыі, каб яна ўпарадкавала разьлікі з сялянамі, жандарскі штаб-афіцэр, аднак, лічыў патрэбным надаць сялянам, каб яны цалкам выконвалі ўсе распараджэньні ўраду". Гаворачы пра супраціўленьне войску, калі яно ехала ў вёску, сяляне пацьвердзілі, што „яны не жадалі выступаць проці каманды, але толькі хацелі аказаць супраціўленьне паліцэйскім і дзесяцкім". З тае прычыны, што сяляне пастанавілі „падпарадкавацца загадам начальства", жандарскі афіцэр абмежаваўся пакараньнем 26 чалавек розгамі ад 50 да 100 удараў усіх тых, хто адбіваў арыштаванага Мулдара. Жандарскі афіцэр задаволена заяўляў, што гэтая мера зрабіла моцнае ўражаньне і што ўсе сяляне пашлі дахаты. На працягу 1862 г. і ў другіх маёнтках Ковенскай губэрні былі непаразуменьні, якія выражаліся ў нежаданьні плаціць падаткі, адмаўленьні ад паншчыны і ад выплаты розных падаткаў. Можна сказаць, што ўся Ковенская губэрня была ахоплена пасыўным супраціўленьнем сялян, на якіх угаворы паліцыі і міравога пасрэдніка не рабілі ніякага ўражаньня. Сяляне ўсьведамлялі, што яны маюць рацыю, і падпарадкаваліся толькі пад фізычным націскам вайсковай сілы ды пагрозай пакараньня.

Губэрская жандарская адміністрацыя, паведамляючы пра сялянскія хваляваньні, заўсёды падкрэсьлівае наяўнасьць агітацыі з боку тых ці другіх асоб. Гэта былі або самі часова-абавязаныя сяляне, або адстаўныя салдаты, якія, будучы выказьнікамі народнага жаданьня, тлумачылі па-свойму Палажэньне 19 лютага і пераконвалі ня слухаць дваровае ўлады. Пра такога агітатара, які меў вялікі посьпех сярод сялян, паведамляе генэрал Назімаў у сваёй адносіне 12 мая 1862 г. на імя шэфа жандараў [1]). Часова-абавязаны селянін вёскі Юдзейкі Антось Вайшвіла, пры дапамозе пісара Цельшаўскай жандарскай каманды Вавілава, тлумачыў няправільна Палажэньне 19 лютага і, падбухторваючы сялян да непаслушэнства дваровому кіраўніцтву, узбудзіў тым самым паміж сялянамі суседніх вёсак моцнае хваляваньне, праз што прышлося пасылаць спэцыяльны

[1]) III Отд. Дело № 205—1862, 4 эксп., стар. 33 і наступныя.

атрад у Цельшы для заспакаеньня сялян і арышту вінаватых. Што да рэшты ўдзельнікаў гэтага хваляваньня, то генэрал-губарнатар аддаваў загад абмежавацца толькі адным пераконаньнем пры дапамозе мясцовага папа, каб больш строгія меры былі ўжыты „ў крайнім выпадку і вельмі асьцярожна". Сьледзтва паказала, што селянін Вайшвілі сапраўды заклікаў сялян да невыкананьня павіннасьцяй, а таксама няправільна тлумачыў Палажэньне, якое ён сам пераклажыў на жмудзкую мову. Сяляне сапраўды выявілі сваё непаслушэнства. 23 сакавіка яны абвясьцілі Вайшвілу сваім валасным старшынёй. Міравы пасрэднік аддаў загад арыштаваць такога незаконнага старшыню. Калі-ж былі пасланы соцкія і дзесяцкія для арышту, то Вайшвіла з дапамогаю 50 сялян, якія памаглі яму, арыштаваў соцкага і, пагражаючы яму караю, адабраў ад яго пісаны загад аб сваім арышце. Другая спроба арыштаваць Вайшвілу таксама ня мела посьпеху. Разгляд папер Вайшвілы паказаў, што Вайшвіла падтрымліваў сувязь з рознымі асобамі і браў на сябе клопаты па справах сялян суседніх маёнткаў. Таму, цалкам зразумела, што калі ўдалося зноў арыштаваць Вайшвілу, то сяляне яго зноў адбілі, хоць пры гэтым было затрымана 10 чалавек. Пасьля гэтага, прышоўшы на сход, сяляне патрабавалі або вызваліць усіх арыштаваных, або арыштаваць іх усіх. Урэшце, яны пасьля доўгіх гутарак пашлі дахаты. Праз некалькі дзён сабралася на сход каля 1.000 чалавек, якія патрабавалі вызваленьня ўсіх арыштаваных, інакш пагражалі тым, што яны адаб'юць сілаю ўсіх арыштаваных. Тады, па згодзе з вайсковаю ўладай, усе арыштаваныя былі вызвалены „з-за боязьні давесьці сялян да яшчэ большага хваляваньня". 23 красавіка міравы пасрэднік сабраў новы сход. Сяляне зьявіліся на сход, але злавіўшы паліцэйскага соцкага, моцна зьбілі яго і, прыцягнуўшы ў валаснае праўленьне, вырвалі ў яго з вопраткі мядзяны паліцэйскі знак. Завёўшы яго ў дом і закаваўшы ногі ў калодкі, сяляне загадалі вартаваць яго і не выпушчаць бяз іх ведама. У гэты час зьявіўся начальнік коннага эскадрону і сяляне ўсе разьбегліся. Уплыў Вайшвілы захапіў шырокі раён. Сяляне ва ўсім яму давяралі. Выступаючы абаронцам сялян на ўсёй прасторы ад Плунглян да Балтыцкага мора, Вайшвіла пераконваў сялян, што цар „ня любіць памешчыкаў, што іх можна будзе выразаць, што ён мае намер наладзіць агульнае паўстаньне сялян ня толькі проці памешчыкаў, але і проці ўсяго начальства". Цалкам зразумела, што пад уплывам такіх гутарак сяляне, паводле слоў Назімава, былі вельмі ўсхваляваны. Цывільная і вайсковая адміністрацыя імкнулася, зразумела, да таго, каб як мага хутчэй спыніць гэтыя хваляваньні, якія зацягваліся і пагражалі пабольшыцца. Адміністрацыі ўдалося, урэшце, арыштаваць Вайшвілу, пасьля чаго сяляне крыху супакоіліся, але хваляваньні ня спыняліся і „пакорнасьці сяляне ня выказалі". Аднак, пагроза вайсковай экзэкуцыі ўсё-ткі прымусіла іх падпарадкавацца. Разам з гэтым разгляд паданай скаргі сялян на памешчыка паказаў, што з боку дваровай адміністрацыі быў цэлы шэраг „недапушчальных учынкаў",

у выглядзе скарачэньня зямельнага надзелу, павялічэньня аброку, забароны карыстацца лесам і г. д. Вядучы сьледзтва па гэтай справе, Назімаў знаходзіў патрэбным старанна і грунтоўна расьсьледваць усю чыннасьць міравога пасрэдніка, на якога „ў пэўнай ступені ёсьць падазрэньне ў складаньні з дваровым кіраўніцтвам камэрцыйнай зьдзелкі, якая, у сваю чаргу, была прычынай да нараканьня з боку сялян“.

Такім чынам, на працягу ўсяго 1862 г. ўсе беларускія губэрні былі ахоплены хваляваньнем і выяўленьнем непаслушэнства з боку сялян ня толькі да памешчыкаў, але і да самое адміністрацыі. Праўда, урэшце, гэтыя хваляваньні спыніліся. Фізычная сіла прыдушыла нават упартае супраціўленьне сялян. Але, зразумела, прыдушэньне сялянскіх хваляваньняў яшчэ ня значыла прымірэньне сялян з сваім палажэньнем. Незадаваленьне сялян магло пайсьці ў глыбіню і пры першай-жа магчымасьці, пры добрых умовах зноў выявіцца ў тым або другім выпадку проці памешчыкаў. Гэтую акалічнасьць, зразумела, трэба ўлічваць пры аналізе падзей 1863 г. Разглядаючы прычыны сялянскіх хваляваньняў, трэба канстатаваць наступнае:

1) Сялянскія хваляваньні былі выкліканы нежаданьнем сялянскай масы пераходзіць на ўстаўную грамату, праз якую іх павіннасьці рабіліся больш цяжкімі.

2) Памешчыкі ў шмат якіх маёнтках дапушчалі значныя злоўжываньні ў дачыненьні да сялян, ня плацячы заробленых грошай і патрабуючы незаконнай паншчыны.

3) Памешчыкі ў некаторых маёнтках адабралі ў сялян іх зямлю і абмяжоўвалі права карыстацца сэрвітутамі, што не магло ня выклікаць хваляваньня сярод сялян.

4) Міравыя пасрэднікі, зразумела, былі прадстаўнікамі дваранства і абаронцамі інтарэсаў апошняга, на што нават зьвярнуў увагу і генэрал-губарнатар Назімаў.

5) Сяляне ў сваіх выступленьнях выяўлялі надзвычайную солідарнасьць у сваёй чыннасьці, настойлівасьць ды ўпартасьць і падпарадкаваліся толькі голай сіле з боку вайсковай улады і паліцыі.

6) Няпрыманьне ўстаўных грамат выклікалася таксама пераконаньнем у тым, што праз два гады сяляне будуць вольнымі і ня будуць плаціць ні падаткаў, ні хадзіць на павіннасьці.

7) Вельмі характарнай зьяўляецца прысутнасьць арганізатараў і кіраўнікоў у колах сялян у выглядзе адстаўных салдат і часова-абавязаных сялян.

8) Агітацыя арганізатараў сялянскіх хваляваньняў, аднак, ня выходзіла за межы невыкананьня сялянамі павіннасьцяй і няпрызнаньня новай валасной адміністрацыі, і толькі ў адным выпадку сьледзтва паказала на наяўнасьць чутак, паводле якіх організатар хваляваньня выказаў думку аб патрэбе забіць памешчыкаў і потым пайсьці нават проці адміністрацыі.

9) Цывільная і вайсковая адміністрацыя павінна была стаць на бок інтарэсаў памешчыкаў, павінна была абараніць яго матэрыяльныя інтарэсы і пайсьці проці сялянскай масы. Толькі ў тых выпадках, калі ўжо былі вельмі відавочны злоўжываньні з боку памешчыкаў або калі бяз пэўнага задаволеньня сялян нельга было іх супакоіць, тады міравым пасрэднікам прыходзілася ўмешвацца ў дачыненьні сялян да памешчыкаў і патрабаваць ад апошніх задаволеньня сялянскіх скаргаў. Зразумела, справядлівасьць скаргі ўстанаўлялася міравым пасрэднікам, які ня мог ніяк дапусьціць як шырокага тлумачэньня задаволеньня справядлівасьці, так і страт дваранска-памешчыцкаму зямляўласьніцтву.

*Канец будзе.*

# ВЫЯЎЛЕНЧАЕ МАСТАЦТВА У МАСЫ

**І. Цьвікевіч**

Проблемы беларускага выяўленчага мастацтва вельмі рэдка трапляюць у орбіту грамадзкае ўвагі. Гэта ёсьць адна з галоўных прычын, чаму жыцьцё нашага выяўленчага мастацтва існуе неяк ізолявана і разьвіваецца бяз крытыкі, бяз удзелу шырокіх працоўных мас. Як і ўсе іншыя галіны мастацтва, выяўленчае мастацтва ня можа нормальна расьці, калі вакол яго няма грамадзкай пролетарскай думкі, пролетарскай прыхільнасьці.

Для каго мастакі малююць свае малюнкі? Да каго зьвяртаюцца, з кім размаўляюць праз свае мастацкія творы?—З пролетарамі гораду і вёскі. Пролетарам аддаюць мастакі сваю творчасьць, сваё натхненьне. Ім-жа мастакі аддаюць сваю творчасьць на суд. І гора таму мастаку, творчасьці якога не зразумее рабоча-сялянская маса. Гора таму мастацтву, якое ня ведае пролетарскай мовы і ня можа захапіць масу. Без'язычнае, нёмае яно бязьлітасна будзе засуджана на сьмерць.

Вось тут і ўстае проблема, зьмест якой дасканала акрэсьліваюць словы лёзунга—„мастацтва ў масы“. Трэба адшукаць шляхі набліжэньня мастацкіх твораў да рабочых і сялян, адшукаць способы масавага тлумачэньня зьместу гэтых твораў, способы масавай пропаганды соцыяльнай сутнасьці і значэньня самога выяўленчага мастацтва. Трэба праканаць рабочых і сялян у тым, што выяўленчае мастацтва, насычанае пролетарскім клясавым зьместам, ёсьць частка соцыялістычнай культуры, што яно патрэбна, як культурная зброя ў барацьбе за соцыялістычную перабудову грамадзтва. Праканаць іх у тым, што гэту зброю яны мусяць ведаць, авалодаць ёю і скарыстаць у цяжкім змаганьні з капіталістычным сьветам і яго буржуазнай культурай.

Ці будзе вырашана гэта проблема, калі вялікім організацыйным напружаньнем удасца зусім наблізіць творы выяўленчага мастацтва да рабочых і сялян? Уявім сабе на момант, што ўсю мастацкую продукцыю Пэндзля, Алоўка і Разца нам удалося так шырака паказаць, што яе пабачыла ўся пролетарская маса гораду і вёскі. Ці зьдзейсьніўся-б праз гэты масавы паказ лёзунг „мастацтва ў масы“? Зразумела, не. Бо паказ— гэта толькі частка справы. Мала паглядзець на мастацкі вобраз, трэба зразумець яго, трэба зразумець мову мастака і „пачуць“, пра што ён кажа гледачу. Паміж мастаком і гледачом павінна быць жывая сувязь

праз мастацкую мову. Але паколькі мастак мусіць навучыцца размаўляць з масай, пастолькі і глядач павінен навучыцца разумець мову мастака. Здольнасьць разумець гэту мову не зьяўляецца прыраджонай уласьцівасьцю чалавека, і патрэбна пэўная культурная падрыхтоўка, каб аўладаць мовай мастакаў.

У Маскве быў зроблены цікавы вопыт. У адным з рабочых клюбаў організавалі выстаўку малюнкаў, прычым, побач з творамі сучасных маскоўскіх мастакоў, разьвесілі спэцыяльна набытыя для гэтай мэты танныя олеографіі. І аказалася, што рабочы глядач больш захапляўся прымітыўнымі творамі кірмашовых маляроў. Амаль тое самае было і ў Менску ў часе трэцяй усебеларускай мастацкай выстаўкі: масавы глядач найбольш увагі аддаваў і найбольш хваліў самыя слабыя творы і асабліва малюнкі-прымітывы мастакоў-самавучак. У чым справа? Каб разумець мову выяўленчага мастацтва, каб адрозьніваць мастацкі твор ад псэўдо мастацкага, трэба навучыцца глядзець мастацкія творы, трэба набыць пэўныя культурныя навыкі, трэба разьвіць свой мастацкі густ. Рабочыя і сяляне вякамі былі адарваны ад усякай мастацкай культуры. Мастацкі паёк, на які іх пасадзіла буржуазія, складаўся з царкоўных кніжак, „Бовы-королевічаў“, соньнікаў, пісьмоўнікаў, пінкертонаўшчыны і літаратурнай порнографіі—у галіне прыгожага пісьменства, з карусэляў, кірмашовых балаганаў і цыркаў—у галіне тэатру, з танных антымастацкіх олеографій ды ўра-патрыотычных лубкоў—у галіне выяўленчага мастацтва.

Мастацкі густ, эстэтычнае пачуцьцё (ня ў сэнсе „эстэцтва“, а ў лепшым разуменьні—як пачуцьцё харàства форм, ліній, каляровых гам і г. д.), сапсаванае, атручанае гэтымі сурогатамі мастацтва зьяўляліся вялікай перашкодай для таго, каб рабочыя і сяляне цікавіліся сапраўдным выяўленчым мастацтвам. Лепшыя ўзоры сусьветнага мастацтва захоўваліся ў музэях, карцінных галерэях, у прыватных кватэрах багатых мэцэнатаў, г. зн. там, куды рабочы і селянін трапляў зрэдку або зусім ня мог трапіць. Культурна-грамадзкае жыцьцё плыло такім чынам, што мастацкім выхаваньнем пролетарскіх мас ніхто не займаўся і ня цікавіўся. Ніхто не гаварыў ім пра мастацтва, ніхто ня тлумачыў ім пра сэнс, мэты і карысьць мастацтва для культурнага разьвіцьця працоўнага колектыву. Груба адсунутыя пануючымі клясамі ад сапраўднага мастацтва масы жылі сваім жыцьцём, занятыя экономічнай і політычнай барацьбой.

Так на працягу стагодзьдзяў паглыблялася і пашыралася бяздоньне паміж працоўнай клясай і мастацтвам. Пролетарская рэволюцыя зьнішчыла ўсе перашкоды, якія стаялі прад рабочымі і сялянамі на шляху да культурных крыніц. Пачаўся пэрыод культурнай рэволюцыі, якая павінна ўзьняць самыя глыбокія пласты працоўных гораду і вёскі на нячуваную дагэтуль культурную вышыню. Нямалую ролю ў гэтым мусіць адыграць і выяўленчае мастацтва. Прышоў час, калі трэба паскораным тэмпам ліквідаваць праклятую буржуазную спадчыну—някультурнасьць шырокіх мас у галіне выяўленчага мастацтва. Трэба як найхутчэй збу-

даваць мост паміж ім і рабоча-сялянскім гледачом. Зацікавіць гэтага гледача, разьвіць і ўдасканаліць яго густ, навучыць разумець і любіць мастацкае хараство—вось задача сёнешняга дня, якая стаіць перад мастакамі і культурна-грамадзкімі сіламі. Гэту задачу трэба безадкладна вырашыць, каб праз мастацкія вобразы сучаснага рэволюцыйнага мастацтва вызваліць масавага гледача ад абывательскіх мяшчанскіх густаў, захапіць яго клясавым, пролетарскім зьместам мастацкіх вобразаў, арганізаваць яго псыхіку для змаганьня са старым бытам, падтрымаць яго волю да актыўнага соцыялістычнага будаўніцтва. Задача, як мы бачым, вялікая і складаная. Вырашыць яе магчыма толькі колектыўнымі, агульнаграмадзкімі высілкамі пры існаваньні сталага організацыйнага цэнтру.

Думкі пра тое, каб распачаць шырокую масавую працу популярызацыі выяўленчага мастацтва, набылі асаблівую актуальнасьць пасьля трэцяй усебеларускай мастацкай выстаўкі. Заўважана было, што рабочыя масы гор. Менску наведалі выстаўку ў самай нязначнай колькасьці. Гэты факт прасыгналізаваў небясьпеку таго, што ёсьць адарванасьць выяўленчага мастацтва ад рабочых, ёсьць няўмеласьць зацікавіць шырокія масы жыцьцём нашага мастацтва. Адразу-ж пасьля зачыненьня выстаўкі організаваўся невялічкі гурток па вывучэньні і популярызацыі выяўленчага мастацтва. У працу гэтага гуртка былі ўцягнуты і ўсе мастакі гор. Менску. На працягу некалькіх месяцаў, пасьля шэрагу дакладаў і дыскусій аб мастацтве і способах яго пашырэньня ў масах, выявілася што рамкі гуртка залішне цесныя, каб разгарнуць шырокую культурную працу. Усё часьцей ды часьцей на сходах гуртка выказвалася думка, што трэба выйсьці са словам пра мастацтва ў шырокія масы рабочых і сялян і пачаць плянавую пропагандыцкую работу па рабочых клюбах, школах, хатах-чытальнях, дамох-селяніна, на вялікіх сходах і г. д. Выявілася яшчэ і тое, што для такой працы трэба стварыць вялікі грамадзкі актыў, стварыць самую цесную і жывую сувязь з рабочай масай праз профэсыянальныя організацыі, увязаць свае пляны з працай культкамісій клюбаў, чырвоных куткоў на прадпрыемствах і г. д. Трэба мобілізаваць грамадзкую думку вакол гэтай справы і ў першую чаргу ўцягнуць у працу тую масу, для якой робіцца сама справа.

Усе гэтыя шуканьні лепшай арганізацыйнай формы для працы зышліся на думцы аб патрэбе заснаваньня „Беларускага таварыства прыхільнікаў выяўленчага мастацтва“.

Восемнаццатага траўня г. г. у Доме Пісьменьніка адбыўся сход, прысьвечаны пытаньню па організацыі гэтага таварыства. Пасьля дакладаў і абмену думкамі ўдзельнікаў сходу была прынята рэзолюцыя, якая ў кароткіх рысах характарызуе мэты т-ва. Вось яна:

„У той час, як іншыя галіны мастацтва—літаратура, тэатр, музыка—што год усё буйней разьвіваюцца і зрабіліся неаддымнай часткай культурнага жыцьця шырокіх працоўных мас БССР, выяўленчае мастацтва разьвіваецца надта павольным тэмпам.

Дагэтуль выяўленчае мастацтва нязвычайна мала папулярызавана ў масах. Толькі час-ад часу, калі адчыняліся ўсебеларускія мастацкія выстаўкі, беларускае выяўленчае мастацтва дэмонстравала перад шырокім грамадзтвам свае дасягненьні і спыняла на сабе грамадзкую ўвагу. У пэрыод паміж выстаўкамі ўсе забывалі пра выяўленчае мастацтва і пра тыя шляхі, якімі павінна ісьці творчая праца беларускіх мастацкіх сіл.

Беларускае выяўленчае мастацтва толькі тады здолее нормальна разьвівацца, калі яно будзе набліжана да мас і калі будзе створана вакол мастацкай дзейнасьці прыхільнасьць грамадзкай думкі. Трэба паказаць кожнаму рабочаму і селяніну, што мастацтва—гэта не забава, але адзін з магутных культурных сродкаў, які пры належным яго скарыстаньні актыўна дапамагае соцыялістычнаму будаўніцтву.

Выходзячы з гэтых меркаваньняў, Беларускае т-ва прыхільнікаў выяўленчага мастацтва ставіць сваёй мэтай:

1) папулярызаваць выяўленчае мастацтва сярод шырокіх працоўных мас;

2) вывучаць усе формы выяўленчага мастацтва і організаваць крытычную марксыцкую думку вакол пытаньняў выяўленчага мастацтва;

3) дапамагаць у вырашэньні сучасных мастацкіх проблем;

4) імкнуцца да ўтварэньня лепшых умоў для творчай працы мастакоў.

Выяўленчае мастацтва ў савецкай краіне павінна быць аднэй з форм клясавай пролетарскай зброі. Пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі працоўныя масы павінны скарыстаць гэту зброю ў барацьбе за новы быт, за новую соцыялістычную культуру, новую соцыялістычную гаспадарку“.

Якімі іменна шляхамі павінна пайсьці дзейнасьць т-ва, каб вырашыць проблему „мастацтва ў масы“?

Першы крок—гэта зрабіць само т-ва сапраўды масавай організацыяй, уцягнуць як мага болей сяброў. Утварыць шчыльную сувязь з профэсыянальнымі і партыйнымі ячэйкамі на прадпрыемствах, з культкамісіямі фабзаўкомаў і клюбаў, каб гэтыя організацыі дапамаглі азнаёміць шырокія масы рабочых з мэтамі і задачамі т-ва. Падтрыманьне і прыхільнасьць саміх рабочых ёсьць галоўная база для існаваньня т-ва і яго плённай працы на карысьць гэтых-жа рабочых.

Каб даць рабочым першую вестку пра сябе, з восені бягучага году т-ва павінна ладзіць у рабочых клюбах, пачынаючы з найбольш адлеглых ад цэнтру гораду, пэрыодычныя мастацкія выстаўкі-перасоўкі. Колькасьць экспонатаў мусіць быць зусім нязначная, але трэба іх падабраць з пэўнай культурна-пропагандыцкай установкай. Лекцыённа-тлумачальная частка гэтых выставак павінна быць на першым пляне. Кожны лектар павінен будзе ўцягваць і саміх рабочых у крытыку малюнкаў, каб такім чынам прывучаць рабочага гледача да ацэнкі маляўнічых твораў як з боку ідэолёгічнага, так з боку формальна-мастацкага

зьбіраньне праз гэтых лектароў матэрыялаў рабочай крытыкі дасьць магчымасьць нашым мастакам пачуць голас масавага гледача. Рух клюбных выставак трэба разьлічыць такім чынам, каб на працягу зімняга сэзону ў кожным клюбе адбылося ня менш трох выставак (кожны раз новых).

У больш шырокім маштабе і з больш шырокімі культурнымі мэтамі трэба правесьці працу па лініі масавых лекцый пра выяўленчае мастацтва. Лекцыі ілюстраваць паказам рэпродукцый з мастацкіх твораў пры дапамозе дыяпозытываў (аднатонных і шматкаляровых). На першы сэзон трэба вызначыць такія, напрыклад, тэмы: „Рэволюцыя і мастацтва“, „Клясавая барацьба і мастацтва“, „Праца ў мастацтве“, „Што такое выяўленчае мастацтва“ (віды, кірункі, значэньне яго ў культурным будаўніцтве), „Індустрыялізацыя краіны і мастацтва“, „Сучаснае беларускае мастацтва“, „Соцыялістычнае будаўніцтва і мастацтва“, „Імпэрыялістычная вайна і мастацтва“ і інш.

Лекцыі трэба пачаць у гэты зімні сэзон, спачатку ў Менску па рабочых і чырвонаармейскіх клюбах, у Доме Селяніна, у школах, тэхнікумах і ў Доме Пісьменьніка, а на летні час гэтыя лекцыі перанесьці ў акруговыя і раённыя гарады БССР. Тыя з лекцый, якія будуць мець найбольшы посьпех у рабочай і сялянскай аудыторыі, трэба выдаць спэцыяльнымі брошурамі, каб на мясцох любы лектар мог па гэтых брошурах чытаць лекцыі пра мастацтва (колькасьць дыяпозытываў павялічыць, каб іх можна было перасылаць па запатрабаваньню з месц).

Асабліва карыснымі могуць быць гэтыя популярныя кніжкі пра мастацтва для школ. Кожны настаўнік вясковай школы, атрымаўшы кніжку і дыяпозытывы да яе, здолее праводзіць лекцыі і гутаркі пра мастацтва і яго значэньне. Лекцыі з дэмонстрацыяй малюнкаў зацікавяць ня толькі вучняў, але і дарослае вясковае насельніцтва. Эстэтычнае выхаваньне школьнай моладзі ў сэнсе разьвіцьця мастацкага густу ўключаецца зараз у навучальныя програмы. Вясковае настаўніцтва, з прычыны об'ектыўных умоў, само далёка стаіць ад актуальных проблем сучаснага выяўленчага мастацтва. Нагружаныя штодзеннай працай настаўнікі ня маюць магчымасьці самастойна падняць сваю кваліфікацыю ў гэтай галіне ведаў нагэтулькі, каб кіраваць разьвіцьцём мастацкага густу дзяцей і даваць навуковыя тлумачэньні розных мастацкіх кірункаў з спэцыяльнымі экскурсіямі ў мінулыя гістарычныя эпохі. Вось тут якраз популярная літаратура па выяўленчаму мастацтву (усіх яго відаў) і дыяпозытывы шмат дапамогуць нашым школам. Лекцыі ў школах для вучняў і дарослых будуць адным з масавых спосабаў популярызацыі мастацтва.

Популярызаваць у масах мастацтва трэба яшчэ шляхам выданьня і распаўсюджаньня рэпродукцый з твораў беларускіх мастакоў і мастакоў іншых савецкіх рэспублік. Адначасна з выданьнем каляровых танных мастацкіх паштовак, трэба разгарнуць выданьне мастацкіх народных лубкоў на політычна-грамадзкія і культурна-бытавыя тэмы з жыцьця

гораду і вёскі. Для школ трэба выдаць сэрыі мастацкіх рэпродукцый на тэмы, увязаныя з комплексамі, каб гэтыя малюнкі дапамаглі настаўніку пры выкладаньні розных дысцыплін, напр.: грамадазнаўства, эконом-географіі, краязнаўства і г. д. У дарэволюцыйныя часы ў школах на сьценах віселі рэпродукцыі карцін на тэмы гістарычныя, географічныя, рэлігійныя, прыродазнаўчыя, бытавыя. Вобразнае мастацтва буржуазныя клясы скарыстоўвалі, каб у школах праводзіць сваю клясавую політыку: вучні на працягу некалькіх год глядзелі на розныя там „битвы русских с татарами на р. Калке“, „крещение Руси“, „подвиг Сусанина“, партрэты сьв. айцоў, імпэратараў і г. д. Чаму нам не скарыстаць творы мастакоў, каб у яскравых вобразах паказаць вучням гісторыю клясавай барацьбы, героічныя эпізоды змаганьня рабочых з царскай уладай, гісторыю комуністычнай партыі, паказаць нашу экономіку, наш быт, будаўніцтва, даць мастацкія малюнкі па барацьбе з клерыкалізмам, алькоголізмам, антысэмітызмам і г. д. Тут побач з пэдагогічнымі мэтамі можна шмат зрабіць і для популярызацыі самога выяўленчага мастацтва, шляхам тлумачэньня, як мастацтва дапамагае культурнай рэволюцыі і наогул соцыялістычнаму будаўніцтву.

З гэтай восені трэ‘ пачаць вопыт вулічнага паказу прац беларускіх і інш. мастакоў. Дзьве-тры пустых вітрыны ў розных мясцох гораду заняць малюнкамі. Побач з малюнкамі даць тэкст аб тэме малюнкаў, пра аўтараў, і самыя популярныя тлумачэньні для масавага гледача—формальна-мастацкага і ідэолёгічнага характару. Кожныя два тыдні экспонаты ў вітрынах зьмяняць, каб падтрымліваць у насельніцтва цікавасьць да гэтых вітрын-выставак. Толькі ў самых выключных выпадках у якасьці экспонатаў дапускаць мастацкія рэпродукцыі (галоўным чынам з твораў мастакоў іншых рэспублік). Такі спосаб паказу і прывучэньня масавага гледача да твораў выяўленчага мастацтва, паколькі нам вядома, нідзе ў СССР не практыкуецца, у той час як, па нашай думцы,—гэта добры спосаб популярызацыі мастацтва: танны і масавы.

Для азнаямленьня шырокіх мас з мастацкай творчасьцю іншых народаў Саюзу трэба штогодна ладзіць у Менску выстаўкі твораў расійскіх, украінскіх і інш. мастакоў.

Прад адчыненьнем мастацкіх выставак шырока скарыстаць пэрыодычную прэсу для концэнтрацыі грамадзкае ўвагі вакол выстаўкі. У часе выстаўкі ладзіць рабочыя экскурсіі і абслужыць іх кваліфікаванымі лектарамі, каб рабочыя гледачы выходзілі з выстаўкі перакананыя ў вялікім значэньні мастацтва для культурнага будаўніцтва. Пры зачыненьні выстаўкі ладзіць шырокі грамадзкі дыспут з удзелам рабочых мас на тэмы аб задачах і шляхох мастацтва ў БССР і СССР.

Трэцяя ўсебеларуская мастацкая выстаўка паказала, што ў творчасьці беларускіх мастакоў зусім адсутнічаюць такія актуальныя тэмы, як індустрыялізацыя нашай краіны і колектывізацыя сельскай гаспадаркі. Адсутнасьць твораў на гэтыя тэмы асабліва кідалася ў вочы, бо сярод

тэм, вызначаных Галоўмастацтвам на прэміі, была і такая: „Будаўніцтва БССР“. На грамадзкім дыспуце, што адбыўся сьледам за выстаўкай, мастакі ў сваіх прамовах шмат гаварылі пра цяжкія матэрыяльныя ўмовы. у якіх праходзіць іх творчасьць. Хранічнае безграшоўе штурхае іх на бязупынную пагоню за кароткатэрміновай працай, якую заказчык тут-жа купляе. Мастакі ўвесь час хоць-нехаць прымушаны круглы год жыць у горадзе, у буйным цэнтры, дзе хутчэй можна атрымаць той ці іншы мастацкі заказ. Тэрміновасьць працы па гэтых заказах не дае магчымасьці часта і падоўгу бываць на прамысловых прадпрыемствах, каб рабіць зарысоўкі, знаёміцца з фабрычна-заводзкім бытам, запасацца непасрэднымі ўражаньнямі. Тым болей мастакі ня маюць магчымасьці выяжджаць на вёску, у саўгасы на доўгі час, бо тады яны цалкам павінны адарвацца ад матэрыялнай базы.

Беларускае т-ва прыхільнікаў выяўленчага мастацтва як адну з сваіх мэт вызначыла „імкнуцца да ўтварэньня лепшых умоў для творчай працы мастакоў“. І вось першым крокам дзейнасьці ў гэтым напрамку было тое, што т-ва дало матэрыялную магчымасьць дваццаці беларускім мастаком паехаць на летні час у індустрыяльныя асяродкі БССР, у калгасы і саўгасы. Надалей, у залежнасьці ад сродкаў т-ва, мяркуецца дапамагаць мастакам ладзіць колектыўныя паездкі па СССР і заграніцу. Трэба стварыць магчымасьць для маладых беларускіх мастакоў пабачыць шырокі сьвет, паглядзець мастацкія скарбніцы сусьветнага значэньня, як музэі Ленінграду, Масквы, Парыжу, Лейпцыгу, Бэрліну, Рыму, каб узбагаціцца ўражаньнямі ды пашырыць свой культурны і палітычнаграмадзкі горызонт.

Адным з спосабаў наблізіць мастацкае жыцьцё да мас павінны быць: таварыскія спатканьні мастакоў з рабочымі колектывамі ў рабочых клюбах, удзел мастакоў у афармленьні пролетарскіх сьвят, організацыя шэфства мастацкіх аб'яднаньняў над фабрычна-заводзкімі клюбамі і інш. Мастацкія аб'яднаньні, якія возьмуць шэфства над рабочымі клюбамі, павінны ў парадку грамадзкай нагрузкі актыўна ўдзельнічаць у мастацкім афармленьні памяшканьня клюбаў: дэкорацыі для сцэны, разьвеска плякатаў, лёзунгаў, малюнкаў, портрэтаў, роспіс сьцен і інш. Пры пабудове новых будынкаў для клюбаў мастакі павінны ўдзельнічаць у будаўнічых камісіях і дапамагаць сваімі ведамі і густам у пытаньнях знадворна-архітэктурнага і асабліва ўнутранага аздабленьня гэтых будынкаў. Тут шырокае поле для мастакоў, каб не на словах, а самай працай паказаць рабочым масам, што мастацтва здольна абслугоўваць культурныя запатрабаваньні рабочых.

Урэшце, яшчэ аб аднэй працы ў галіне популярызацыі выяўленчага мастацтва. Вышэй мы казалі пра той галодны і шкодны мастацкі „паёк“, на якім буржуазія царскіх часоў трымала рабочых і сялян. На жаль, сягоньня мы ўсюды бачым „адрыжку“ гэтага зьявішча: нейкія спрытныя прыватнікі на Украіне організавалі ў шырокім маштабе выраб нікчэмных

антымастацкіх рэчаў—цацак, статуэтак, малюнкаў, дываноў, разьлічаных на самы закарузлы, адсталы абывацельскі густ. А беларускія коопэратары купляюць гэтыя рэчы цэлымі партыямі і прадаюць у сваіх крамах. Зайдзеце ў менскія цэрабкопаўскія крамы і паглядзеце на гэтыя дываны, статуэткі, цацкі: тут безразьдзельна пануе самы нікчэмны густ мешчаніна-абывацеля. На дыванох намалёваны ідылічныя сцэнкі з баярскага жыцьця, прычым намалёваны нагэтулькі бязграматна і неахайна, што брыдка глядзець. Відаць, што пастаўшчыкі гэтай „мастацкай" продукцыі перайшлі апошнія межы нахабства і бессаромлівасьці. Яны пастаўляюць на масавы рынак у літаратурным сэнсе культурную атруту, якая безнадзейна калечыць і забівае пачуцьцё мастацкага густу. Трэба прыймаць рашучыя крокі, каб спыніць продаж і выраб падобных антымастацкіх і антыкультурных рэчаў. Трэба організаваць мастацкі контроль над рабочай коопэрацыяй, каб яна выкінула з асортымэнту сваіх тавараў усе гэтыя нікчэмныя дываны, расфарбованыя пікантныя статуэткі і грубыя антымастацкія олеографіі. Інакш культурная праца па мастацкаму выхаваньню мас будзе на кожным кроку страчаць перашкоды з боку амяшчаненага абывацельскага густу.

# ДА БІОГРАФІІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

*(Па матэрыялах губ. архіву Н.-Ноўгараду)*

**М. Цыганоў**

Біографія Максіма Багдановіча да гэтага часу яшчэ не напісана, бо няма дакладных вестак аб яго жыцьці; таму нават і Інстытут беларускае культуры (цяпер БАН) у акадэмічным выданьні твораў пісьменьніка, у першым томе, зазначыў, што біографічны нарыс будзе пісацца на падставе ўспамінаў бацькі ды невялічкай захаванай перапіскі і што ён будзе зьмешчаны ў II ці III томе (стар. VII).

Для біографічнага нарысу ўспаміны былі скарыстаны проф. Піотуховічам: у яго працы „Нарыс гісторыі беларускай літаратуры“ мы і знаходзім некаторыя весткі аб жыцьці поэты. Аднак, трэба зазначыць, што надрукаваная біографія ня мае дакладнасьці ў тых мясцох, дзе справа ідзе аб жыцьці поэты ў Н.-Ноўгарадзе. Мэта гэтага артыкулу—высьветліць, на падставе архіўнага матэрыялу, спрэчныя пытаньні, з аднаго боку, і дапоўніць існуючыя даныя,—з другога.

## I

Першае, што можна ўстанавіць, гэта час нараджэньня поэты.

Проф. Піотуховіч пра гэта піша наступнае: „Нарадзіўся поэта ў 1891 г. ў Менску, у сям'і настаўніка і досыць вядомага этнографа Адама Юравіча Багдановіча“ (Нар. гіст. бел. літар., стар. 181), а дасьледчык і крытык М. Гарэцкі заяўляе: „Поэта радзіўся 12 мая 1892 г. ў Менску, у сям'і вучыцеля-беларуса, народавольца і этнографа Адама Багдановіча“ (Гіст. бел. літар., стар. 211).

Параўноўваючы гэтыя тэксты, няцяжка заўважыць, што ў той час, як проф. Піотуховіч зусім не гаворыць аб дні і месяцы нараджэньня, М. Гарэцкі вызначае 12 мая, паміж іншым, мы назіраем і розьніцу ў часе нараджэньня ў гадох: паводле даных проф. Піотуховіча Максім Багдановіч нарадзіўся ў 1891 г., а Гарэцкага—у 1892 годзе. Як бачым, пытаньне аб часе нараджэньня поэты ня высьветлена ў нашай крытычнай літаратуры, але яго вырашаюць даныя Ніжгубархіву. На падставе іх выяўляецца, што Багдановіч Максім нарадзіўся 27 лістапада ў 1891 г.

Гэтыя весткі найбольш дакладныя, бо ўзяты з мэтрыкі, якая пры пераводзе поэты ў Яраслаўскую гімназію была адаслана туды 15 сьнежня 1908 г. (Дело о белорусском поэте Макс. Богдановиче и его брате Льве. Лист 24).

II

1 жніўня 1902 году Максім Багдановіч быў залічаны вучнем Ніжэгародзкай губэрскай гімназіі і з самага пачатку вучэньня праявіў сваю непасьпяховасьць.

З даных справаздач „клясных настаўнікаў" і сшыткаў, у якіх ацэньваліся посьпехі вучняў (яны цалком не захаваліся), відаць наступнае: за першую квадру навучальнага (1902) году ён амаль-што па ўсіх дысцыплінах меў нездавальняючыя адметкі, за выключэньнем прыродазнаўства і географіі. Як ён вучыўся ў канцы году невядома; ва ўсякім разе, прыходзіцца констатаваць, у другую клясу быў пераведзены.

За час яго навучаньня ў другой клясе мы маем больш вестак аб пасьпяховасьці. Я іх ня буду падаваць па розных дысцыплінах, пакажу толькі на тое, што па справаздачах кляснага настаўніка за канчатак году (3-яя—4-ая квадра) у Максіма Багдановіча сярэдняя пасьпяховасьць, наогул, паніжаецца з $3\,^7/_8$ да $3\,^1/_2$; сярэдняя пасьпяховасьць па галоўных прадметах паніжаецца з $3\,^2/_3$ да $2\,^2/_3$; увага і стараннасьць застаецца на адным узроўні (4), таксама, як і павядзеньне (5). У выніку гэтага Багдановіч папаў у шэраг непасьпяховых вучняў.

З другога на трэці курс поэта пераводзіцца з экзамінам па арытмэтыцы і працай па „закону божью". Тут трэба зазначыць, што вывучаць яго ў Максіма Багдановіча ня было ніякай ахвоты. Калі па гэтаму прадмету ў першай клясе ён меў добрыя адметкі, дык у канцы другога навучальнага году ён ня толькі дрэнна вучыўся, але нават на занятках трымаў сябе вельмі дрэнна, таксама як на арытмэтыцы, нямецкай і францускай мовах.

На трэцім курсе, у канцы 1904 году, перад 1905 годам, ён вучыцца пастарому: у клясе лічыцца непасьпяховым.

За год рэволюцыі ніякіх даных аб посьпехах Багдановіча не захавалася.

На пасяджэньнях пэдагогічнай рады займаліся больш пытаньнямі аб непарадках у школе і зусім не ацэньвалі паводзін вучняў. У выніку гэтага немажліва бачыць, наколькі хісталася вучоба і паводзіны поэты.

Аднак, трэба зазначыць той факт, што ў навучальным 1905-1906 г. Максіма Багдановіча пакінулі на паўторны курс (Книга записей протоколов заседаний Педагогического Совета за 1905-1906 уч. год. Прот. № 2), як слабага па альгебры, латынскай і францускай мовах.

І ў далейшыя часы мы назіраем, што з мовамі ў Багдановіча справа стаяла надта дрэнна; таму пісаць, нібы ў поэты было жаданьне вывучаць мовы (як гэта робіць проф. Піотуховіч у Нар. гіст. бел літ.,

стар. 182), няправільна. У час жыцьця поэты ў Н.-Ноўгарадзе мы якраз назіраем адваротную зьяву.

Цікава цяпер падаць некаторыя адозвы аб Максіме Багдановічу, настаўнікаў, у якіх ён займаўся. У кандуітным сьпіску настаўнік па гісторыі А. В. Надзёжын ад 21 мая 1904 году піша: „Мальчик хороших способностей, но, к сожалению, не всегда прилежный и внимательный. Поведения отличного“ (Дело о белор. поэте М. Богдановиче и его брате Льве. Лист 14), а праз год, 23 мая 1905 г., Гармонін падкрэсьлівае, што: „заметна перемена к худшему по части поведения: шалит и болтает на уроках, беспокоен во время перемен, при выходе учителей непрочь сделать выкрик, при чем старается быть незамеченным. Прилежание не обнаружил“ (Ib., Лист 14). Такім чынам, мы бачым па гэтых адозвах, што поэта быў здольнай асобай і толькі дзіцячая жвавасьць, а часткова і гультайства пасоўвалі яго ў разрад кепскіх вучняў.

Трэба, аднак, сказаць, што за ўсе яго школьныя ўчынкі адметку паводзін яму не памяншалі, нават і ў рэволюцыйным годзе; толькі калі поэта быў у 5-ай клясе (1907 г.), пастановай пэдагогічнай рады за няпрыхільныя адносіны да заняткаў адметку зьменшылі да чатырох (Кн. зап. прот. засед. Пед. Сов. за 1907—8 уч. г., № 18).

Да вучобы Максіма Багдановіча адносіцца і пытаньне аб уплыве на яго настаўніка гісторыі А. Кабанава.

Як сьцьвярджае проф. Піотуховіч (Нар. гіст. бел. літ., стар. 182), апошні паглыбіў у поэты каханьне да бацькаўшчыны. Пытаньне гэта вельмі і вельмі спрэчнае. Па гісторыі М. Багдановіч вучыўся ў 1-й і 2-й клясе ў А. В. Надзёжына, у 3 і 4-ым—Гармоніна і толькі з паўторнага курсу 4-ай клясы і ў 5 ай займаўся ў Кабанава. Гаварыць аб яго ўплыве на поэту, як аб нечым сыстэматычным, мы ня можам і таму, што на яго лекцыях поэта трымаў сябе дрэнна, выказваючы гэтым нежаданьне слухаць лекцыі. Аб гэтым сьведчыць запіс у кандуіце за 1906—1907 г. (Дело о белор. поэте М. Богдановиче. Лист 14).

## III

Рэволюцыя 1905 году застала М. Багдановіча 12 гадоў у 4-й клясе, а яго брата Вадзіма ў 6-ай.

Гімназія ў 1905 г., як і ўсе іншыя школы, зрабілася бурлівым катлом. Выступленьні вучняў былі вельмі частыя. Трэба толькі падкрэсьліць, што першая палова рэволюцыйнага году была значна спакайней канца, гэта значыць 1905-1906 навучальны год. На працягу гэтага часу адбылося рэволюцыйных падзей шмат і кожнаму з іх прысьвячалася надзвычайнае пасяджэньне пэдагогічнай рады.

Вучнёўскі рух адпавядаў агульнаму настрою Расіі, што падкрэсьлівае пэдагогічная рада ад 5 верасьня 1905 г. (Кн. прот. з. П. С. за 1905-1906 уч. год, № 5). У выніку гэтага ўдзельнікам школьных непарадкаў

якія адбываліся цэлы тыдзень, ніякай кары, апроч паніжэньня адметкі паводзін, ня было.

Рэвалюцыйны рух вучняў, нарэшце, прымусіў (11 кастрычніка 1905 г.) на надзвычайным пасяджэньні пэдагогічнай рады дырэктара прызнаць, што „волнения разнятся от прошлогодних (пачатку 1905 г.), а ученики действуют спокойно, сознательно, обдуманно. Волнения не носят характера невменяемости“ (Кн. пр. за 1905-1906 г., № 8), а 15 верасьня у выніку рэвалюцыйных запатрабаваньняў усіх вучняй, дырэктар прымушаны быў патрабаваць ад настаўнікаў корэктных адносін да іх (Кн. пр. за 1905—6 г., № 6).

Правадыром рэвалюцыйнага руху ў школе ў 1905 г. Максім Багдановіч не зьяўляўся. Кіравалі рухам яго брат Вадзім—у 6-ай клясе і Зак з Сібіраковым—у 7-ай. Пад іх непасрэдным кіраўніцтвам адбываліся ўсе вучнёўскія рухі, якія, па фіксацыям пэдагогічнай рады, зусім не захаплялі клясу, дзе вучыўся поэта.

Зак і Вадзім Багдановіч былі кіраўнікамі рэвалюцыйнага руху вучняў, у той час. Калі 9 лістапада 1905 г. першы быў пазваны для адказу за кіраваньне рухам на пэдагогічную раду, то заявіў, што ён робіць усё сьвядома і паўстае супроць старога сухога формалізму (Кн. зап. пр. П. С. за 1905—6 уч. год, № 18). Крыху пазьней ён быў выключаны з ліку вучняў школы.

Такі-ж лёс Вадзіма Багдановіча не спаткаў, бо ён захварэў. 14 лютага 1906 г. бацька яго паведаміў школу, што сын дзякуючы хваробе ня можа вучыцца (Кн. пр. Пед. Сов. 1906—7 г., № 29).

Гэта падана для таго, каб было лягчэй зразумець удзел у рэвалюцыйным руху Максіма Багдановіча.

Яго выступленьне ў школе ў 1905 г. было толькі адно, якое сьцісла зьвязана з братам Вадзімам. Справа ў тым, што апошні 9 лістапада ад настаўніка па нямецкай мове Ежэ патрабаваў, каб той адмовіўся ад сваіх слоў „убирайтесь вон из класса“, сказаных некаторым вучням з самага пачатку лекцыі. Калі той ня выканаў гэтага, то вучні, пад кіраўніцтвам Багдановіча В., пашлі да дырэктара з тым, каб той прымусіў Ежэ выканаць іх запатрабаваньне. Справа скончылася тым, што заняткі ў 6-ай клясе былі спынены, а Ежэ ад сваіх слоў не адмовіўся (Кн. пр. Пед. Сов. 1905—6 уч. г., № 18).

На другі дзень, у якасьці протэсту выніку падзей у 6-ай клясе, паўстала 4-ая, дзе кіраўніком і зьявіўся Максім Багдановіч. Справа стаяла так. Перад прыходам настаўніка па латынскай мове вучні вышлі з клясы і спаткалі яго крыкамі. З сьвістам і шумам яны ўвайшлі ў клясу. Катэдра была запэцкана, крэсла знаходзілася на дошцы, на якой было напісана „долой Макаренко“ (якраз гэты настаўнік). Калі вучні крыху супакоіліся, Макарэнка запытаў, што азначае іх протэст. Тады поэта ўстаў і заявіў „гэта супроць Хвёдара Юравіча Ежэ, які абразіў нашых таварышоў“. Потым вучні гаварылі, што паўстаюць супроць „строгости

и требовательности“ (Кн. зап. прот. Пед. Сов. 1905—1906 уч. г., № 20). Справа скончылася роспускам вучняў на няпэўны тэрмін.

Вось і ўсе фактычныя даныя, якія могуць характарызаваць удзел поэты ў рэволюцыйным руху. З паданага факту мы бачым, што непарадкі ў 4-ай клясе зьяўляліся самастойнымі, якімі кіраваў М. Багдановіч. Але калі мы і можам гаварыць аб рэволюцыйнасьці поэты, дык яна зьявілася бясспрэчна вынікам уплыву на яго рэволюцыйна настроенага Вадзіма і была толькі несьвядомай, пераймальнай Вадзіму.

У апошні час з друку вышаў т. II твораў М. Багдановіча. Нічога новага аб жыцьці поэты ў Н.-Ноўгарадзе, апроч вестак, дадзеных раней проф. Піотуховічам у „Нарысе беларускай літаратуры“, у ім няма, калі ня лічыць апісанага проф. Замоціным у біографічным нарысе ўдзелу М. Багдановіча ў выбуху ў гімназіі. Вось на гэтым я і павінен застанавіцца.

Выбух у гімназіі адбыўся 19-га кастрычніка 1906 году і паўтарыўся ў наступны дзень. Зараз пасьля яго сабралося экстранае паседжаньне школьнай Пэдагогічнай рады (20-га кастрычніка 1906 г.), якое „занималось обсуждением двух крайне возмутительных инцидентов, происшедших в стенах гимназии“ (Кн. прот. шк. сов. за 1906—1907 уч. г.).

Выбух я апісваць ня стану, падкрэсьлю толькі, што на працягу ўсяе справы ня толькі імя Максіма Багдановіча, але і яго брата Вадзіма, не ўспамінаецца, таму ня можна гаварыць, як гэта робіць проф. Замоцін, што поэта „пакрываючы таварышоў, умяшаў сябе ў справу аб выбуху ў гімназіі і прымушаны быў даваць тлумачэньні гімназычнаму начальству“ (Творы Багдановіча, т. II стар. XXIV). Максім Багдановіч удзелу ў выбуху ня прымаў, як і брат яго Вадзім. Як відаць з архіўных матарыялаў, кіраўніком у ім зьяўляўся В. І. Сібіракоў, вучань 7-е клясы, які быў організатарам выбуху.

Такім чынам, нельга думаць, што Максім Багдановіч прымае вялікі ўдзел у вучнёўскіх мітынгах і школьных непарадках, закідае вучобу, захапляецца анархізмам (проф. Піотуховіч. Нар. гіст. бел. літ., стар. 182). Па ўсіх архіўных школьных матэрыялах, якія захаваліся, у мітынгах прымаў удзел Вадзім і паданы тэкст больш за ўсё датычыць яго. Поэта ў рэволюцыйным руху праходзіць неяк зусім няпрыкметна.

Нельга таксама гаварыць і аб „закіданьні вучобы“ ў рэволюцыйны год М. Багдановічам, бо, як мы ведаем, ён заўсёды адставаў у вучобе, а падругое, у 1905-1906 навучальным годзе наогул адставалі ўсе вучні.

Такім чынам, усё выкладанае зводзіцца да наступнага:

Наша крытычная літаратура павялічвае надта рэволюцыйную дзейнасьць Максіма Багдановіча, якая зводзілася да пераймальня рэволюцыйна-настроенаму брату Вадзіму.

# „СЯЛЯНКА“ В. ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧА НА МЕНСКАЙ СЦЭНЕ

*(Гістарычная спраўка)*

**Альбэрт Паўловіч**

„Сялянка“—гэта двухактовая комэдыя-опэра; выдана яна была ў Вільні, у 1846 годзе (16°. 109); музыку да яе скомпанаваў Станіслаў Манюшка, выдатны беларускі композытар.

Гэтая опэра карысталася вялікім посьпехам і ставілася яна ў Менску, у Бабруйску і Слуцку; на провінцыі, як мне вядома, яна ставілася на кватэры ў нашага далёкага сваяка Валерага Паўловіча, у Глуску.

Валеры Паўловіч сам быў беларускі поэта [1]) і быў блізка знаёмы з Дунін-Марцінкевічам.

Склад трупы В. Марцінкевіча быў звыш 20 чалавек, у тым ліку сам аўтар і дзьве яго дачкі.

Апрача аўтара, вельмі чынны ўдзел прымалі яго два таварышы: Авэр‘ян Васільеў і Ляўданскі. Вось на гэтых двух асобах я мушу спыніць увагу.

А. Васільева я пазнаў дзякуючы таму, што з ягоным сынам, Якавам, мне давялося служыць на Лібава-Роменскай чыгунцы.

Я. Васільеў нарадзіўся і памёр у Менску, быў шчырым беларусам. Нацыянальнае пачуцьце перайшло да яго ад яго бацькі, Авэр‘яна. Шмат гадоў мы з ім служылі і таварышкавалі. Неяк раз зусім выпадкова пачалі паміж сабой гутарыць пабеларуску. Тутака выкрылася сама сабой наша прыхільнасьць да роднае мовы і мы пасьля таго ўжо так гутарыць не пакідалі.

На нас, праўда, зьвярталі ўвагу,—некаторыя казырыліся, некаторыя нас высьмейвалі і толькі лічаныя асобы: А. С. Шыманскі, браты А. і Ї. Каспэрскія, П. Малішэўскі і П. Астанковіч зусім шчыра нас

---

[1]) В. Паўловіч быў вайсковы і ў 1860 г. жыў у Бабруйскім павеце (між іншым, у Глуску і Парычах). Аб ім часта мне ўспамінаў дзядзька Апалінары Паўловіч, які спатыкаўся з ім у Парычах і расказваў, што ён пісаў вершы і папольску, і пабеларуску Їм вельмі быў зацікаўлены Ян Луцкевіч, які меў рукапісы яго, і мой бацька дакладна яму даў весткі аб радні, у каго-б Луцкевіч мог дастаць яшчэ што-колечы з рукапісаў (перапіска з Іванам Луцкевічам у мяне захавалася, у ёй-жа ён цікавіўся і аб афішы „Сялянка“).

разумелі і нам спагадалі і ахвотна гутарылі на „простай“ мове. Ведама, у той час,—гэта 20—25 гадоў назад,—лічылася дрэнным тонам гаварыць папросту.

Я. Васільеў меў добрую памяць і шмат вершаў даўгіх, як „Евгений Онегин“ Пушкіна, „Stare Wrota“—Сыракомлі (Л. Кандратовіча) казаў з памяці, ведаў многа беларускіх вершаў.

На запытаньне мае—адкуль у яго такі багаты запас матэрыялу для дэклямацыі на беларускай мове,—ён мне расказаў наступнае:

Яго бацька, Авэр‘ян, быў таварышом Вінцука Марцінкевіча і Ляўданскага (імя апошняга ня помню). У той час Васільеў быў пісарам у міравога судзьдзі, а Ляўданскі старшым нейкім у друкарні. Абодва гэтыя прыяцелі Марцінкевіча разам з апошнім прымалі гарачы ўдзел у спэктаклях, якія адбываліся ў Менску ў тэатры Поляка, а пасьля забароны беларускіх твораў (у 1852 г.), на кватэрах прыватных асоб (у Сьвіды і Лапіцкай). А. Васільеў выконваў ролю адміністратара, а Ляўданскі—артысты на ўсе амплуа.

Між іншым, Якаў Васільеў адзначаў вельмі ўдалую ролю Ляўданскага, які, маючы нязвычайную, проста фэномэнальную памяць, станавіўся да выконваньня ролі бяз жаднае падрыхтоўкі. Досыць яму было перад выступленьнем прачытаць тэкст адзін раз і ўсё моцна ўкладалася ў яго галаве. Ён помніў кожнае слова і мала пільнаваўся суфлёра.

Да таго і фігура яго была высокая, статная, быў вельмі рухавы, прыгожы, меў добрую вымову і ўсё гэта рабіла яго пажаданым гасьцём—у гасьціне і дасканалым артыстым—на сцэне. Ролі сабе ён не выбіраў, але ў кожнай ролі быў удалым выканаўцам, на сваім месцы.

Афішу аб пастаноўцы ў Менску 9 лютага 1852 г. комэдыі Дунін-Марцінкевіча—„Сялянка“ [1]) мне падараваў Якаў Васільеў.

Захавалася гэтая афіша выпадкова. Ляўданскі, які меў беспасрэднае дачыненьне да друкарань, заўсёды стараўся як найхутчэй атрымаць афішы. Разам з бацькам Якава Васільева, удвох яны абыходзілі знаёмых і запрашалі ў тэатр.

У часе забароны мясцоваю ўладаю беларускіх спэктакляў, яны пісалі афішы ад рукі, а спэктаклі адбываліся ці на кватэры ў Ляўданскага ці ў самога В. Марцінкевіча, або ў знаёмых. Улетку Марцінкевіч над‘яжджаў з Люцынкі.

У афішы адзначана, што ролю Наума Прыгаворкі—войта—граў сам аўтар, поэта-драматург, а сялянак—дочкі яго. Гэты ўдзел усёй сям‘і Вінцука Марцінкевіча ясна сьведчыць аб тым, што ўсе, а асабліва сам поэта любілі беларускае слова.

Між іншым Васільеў казаў, што гэтая афіша была першай і апошняй абвесткай аб ужываньні на сцэне беларускай мовы: у той-жа дзень быў,

[1]) Гл. Запіскі Аддзелу гуманітарных навук, кн. 2. Працы клясы і філёлёгіі, т. І. ІБК 1928 г., стар. 314—315 (адбітак).

выданы слоўны загад (а пасьля і пісоўны) аб забароне спэктакляў на „простонародном языке“. Усё-ж такі ў той дзень, 9 лютага 1852 г., спэктакль адбыўся, бо дазваленьне на той дзень было ўжо мясцовай уладай дана, але была толькі нейкая замінка з расклейкаю афішы,—яе меліся зьнішчыць.

Афіша ня была расклеена, яе давялося саматугам разносіць па знаёмых, як запрашэньне. Вестка аб забароне хутка разьнеслася па Менску і дзякуючы гэтаму збор быў нябывалы.

І вось пасьля разноскі афіш некалькі іх асталося яшчэ на руках, але захавалася ўсяго толькі адна, якая і была мне Я. Васільевым падаравана.

Карыстаючыся выпадкам, хачу адзначыць цікавасьць гэтай афішы „Сялянка“ яшчэ і з другога боку. Вядома, што для гэтай опэры „Сялянка“ музыку ўлажыў Станіслаў Манюшка—асабовы прыяцель Марцінкевіча з удзелам композытараў Крыжаноўскага і др.

Композыцыя, на жаль, нідзе не захавалася, страчана, прапалі ўсе сьляды, а разам з тым упала і вера ў тое, што рэч гэта ім, Манюшкай, была напісана.

І вось выпадкова захаваны экзэмпляр афішы пацьвярджае самы факт, які пачынаўся брацца грамадзянствам ужо пад сумненьне.

Аб тым, што мне пашчасьцілася атрымаць рэдкі экзэмпляр афішы, я паведаміў Яна Луцкевіча і Рамуальда Зямкевіча.

Вельмі зацікавіўся тады афішай і корэспондэнт газэт — „Kurjera Wileńskego“ і „Gońca Porannego“, Дворжачак, які ў абедзьвюх газэтах [1]) адначасова даў абвестку, што бачыў у мяне афішу, зазначыўшы, што „опэра гэта, здаецца, зусім невядома і ў ніякім сьпісу твораў Манюшкі ня лічыцца“. Між іншым, Дворжачак пасьля прапанаваў мне прадаць гэтую афішу Гэнрыку Опіньскаму (?), які зьбіраў увесь матэрыял, які датыкаўся твораў Ст. Манюшкі.

25 III 99

[1]) „Goniec Porannу“ № 496, 1911 г.

# ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ МАЛАДОЙ СЛАВАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**І. Дворжак**

Літаратурны пераварот, ані падгатавым, ані чаканым ня быў. Аж да 28 кастрычніка 1918 г., г. зн. да моманту ўзьнікненьня Чэха-Славацкае рэспублікі, кожны праблеск славацкага адраджэньня гвалтам прыдушваўся мадзярамі (вэнграмі). Інтэлігенцыі, якая-б усьведамляла і вучыла шырокія колы амаль што няграматнага народу,—ня было. Ня было школ, ня было амаль што і газэт, а тыя два або тры патрыотычных гурткі, якія стварыліся навакол некалькіх энтузіястых, жылі ў атмосфэры наіўнага панславізму. У гэтай атмосфэры вырастаюць і твораць два вялікія романтыкі і вялікія песьняры свайго народу *Павел Орсаг-Гвездослав* і *Сьветозар Гурбан Ваянскі*, у той час, як выдатны дзеяч *Марцін Кукучын*, блукае па сьвеце, потым пасяляецца на сталае жыцьцё ў Паўднёвай Амэрыцы, а на бацькаўшчыну пасылае толькі свае ўспаміны ў форме новеляў, успаміны, поўныя гарачага болю і тугі па родным краі.

У часе перавароту фактычна старога пакаленьня ўжо ня было. Яно ўжо вымерла. І *Іван Краско*, поэта выхаваны на чэскай культуры, змоўк. Дні перавароту сяк-так перажылі толькі *Янка Есенскі, Язэп Грэгор Паёўскі*, што піша апавяданьні, і поэта *Марцін Разус*. Чым, аднак, маглі быць гэтыя нясьмелыя рэволюцыянэры для пакаленьня, якое ўзьнікла дзякуючы самому факту гэтага перавароту, для таго пакаленьня, чые творчыя сілы гэтага перавароту былі вызвалены і ад яго атрымалі магчымасьць вялізарнага размаху. Ці-ж маглі яны быць правадырамі тых людзей, якія былі прасякнуты наэлектрызаванаю сучаснасьцю, якія ўвесь жах сусьветнае вайны адчулі проста трагічна і ў страшэнных муках імкнуліся дайсьці да больш правільнага пагляду на жыцьцё і стварыць новы лепшы лад на гэтым сьвеце? Правадырамі такіх людзей гэтыя поэты быць не маглі. У тыя дні патрэбны былі цьвёрдыя, а не сантымэнтальныя людзі, ваяўнічыя і натхнёныя прамоўцы, пропагандыстыя і здольныя організатары, якія-б здолелі апанаваць і афармаваць тую масу, пазбаўленую ўласнага твару, якія-б маглі ўпарадкаваць усе гэтыя поўныя фальшы ўзаемаадносіны, якія-б умелі ня толькі жыцьцю, але і цэламу людзкому мэтаімкненьню даць новы зьмест.

Тымчасам у першыя дні людзі жылі самым фактам політычнага перавароту і толькі *Марцін Разус* яшчэ ў 1919 г. выдае кнігу „*О, зямля дарагая...*“, дзе ў бязьмежным, а мясцамі нават і наіўным натхненьні

апавяе здабытую волю. Пасьля яго *Штэфан* (Сьцяпан) *Крчмэры* выдае збор твораў пад загалоўкам „Калі нарадзілася воля" і тут тая-ж многаслоўнасьць, аднастайнасьць і ўсё той-жа дэкарацыйны патос. Але ўжо з самага зьместу гэтых дзьвёх кніжак відаць, што хоць і вышлі яны з сучасных суадносінаў, але сучаснасьці і яе ідэёвым плянам яны чужыя і далёкія. Яны зьяўляюцца працягам романтычнае традыцыі, што была перад пераваротам, яны ня ўзьніклі спонтанна (самі сабою) і не адбіваюць у сабе шматбаковасьці сучаснага жыцьця, часамі імпэнтнага і дэзорыентаванага, але пачуцьцёва ўзрушанага. Нічога не здабываюць з жыцьця, не прабіваюцца да яго істотных, жывых каранёў. Не ўрастаюць у новае асяродзьдзе і ня хочуць стацца яго органічнай часткай, тонучы ў палоне пясьнярскага акадэмізму.

Гэтая апошняя заява заўважаецца і ў іншых пісьменьнікаў, што выступаюць сьледам за імі, хоць ідэолёгічна з імі разыходзяцца і нават ня маюць нічога супольнага.

*Тідо І. Гашпар, Ян Грашоўскі* і *Ян Смрэк*, хоць зьмяняюць, і пры тым часамі нават грунтоўна, традыцыйны характар і агульную лінію славацкае тае літаратуры, што была перад пераваротам, усё-такі сваёй ізоляванасьцю і пасыўнасьцю форм гэтую традыцыю падтрымліваюць. Яны вырастаюць самі з сябе, але ня з сучаснасьці. Яна іх выносіць наверх, але яны застаюцца ёй чужымі. Вецер, які падзьмуў у Эўропе і які мог зьмяніць яе выгляд, гэтых маладых пісьменьнікаў не закрануў. *Тідо І. Гішпар*, што выдаў некалькі кніжак прозы—„Ганна" (1920 г.). „Дэпутацыя мёртвых" і „Буві-Буві" (1925 г.), ня здолеў органічна зжыцца з новай духоўнай і соцыяльнай атмосфэрай сучаснасьці. Тое-ж можна сказаць і аб *Яну Грушоўскім*, добрым стылістым і зручным аўтары апавяданьняў; апошняя яго кніга „*Мужчына з протэзам*" (1925 г.)—пэўная адмена сучаснага Печорына, у свой час узбудзіла даволі жывую дыскусію. *Ян Смрэк* сваімі трыма кніжкамі вершаў—„*Дні ўгрунь*", „*Прысуджаны да вечнай смагі*" і „*Боскія вузлы*" выўляе сябе як любоўны лірык з няшырокім размахам, хоць з значным імпэтам. Ён не пранікае да самых падстаў жыцьцёвых зьяваў і адчуваньняў, яго выказваньні маюць імпровізаваны характар, а вершам бракуе вышэйшага поэтычнага натхненьня.

На гэтых пісьменьніках можна лепш, як на кім-небудзь іншым прасачыць усю беспарадна сьць і дэзорыентаванасьць пасьляваенных гадоў. Ад старога асяродзьдзя, у якім фактычна не ўкараніліся, яны адыйшлі, а да новага, жывейшага і рознастайнага—не дарасьлі. Таму агулам яны азначаюцца як згубленае пакаленьне; гэтымі славамі паняцьце згубленасьці найлепш і найясьней выказваецца. Хоць яны і мелі магчымасьць і нават былі павінны выступіць актыўна і свае творчыя сілы прысьвяціць шуканьню новага зьместу, новай дынамічнасьці і формы, але не зрабілі гэтага. Яны засталіся на пэрыфэрыі літаратурнай творчасьці, былі ў пасыўнасьці. Калі і была ў пэўныя моманты іх творчасьць об'ектам крыху

жывейшых комэнтараў, дык не таму, што яны былі вынаходцамі і творцамі новае рэчаіснасьці, але таму, што тут была рэакцыя здаровага розуму ў адносінах да формы і нутраных элемэнтаў, наяўна дэкадэнцкіх. Даць новы сучасны зьмест славацкай літаратуры прызначана было ня ім, але пакаленьню, якое беспасрэдна за імі прабівалася на літаратурную арэну, пакаленьню ўжо выразна выхаванаму на чэскай і сусьветнай культуры, сапраўды пругкаму і рухаваму, здольнаму рэагаваць на ўсе зьмены жыцьця, вынаходзіць новыя пажаданыя сілы і быць супрацоўнікам у справе соцыяльнае і псыхо-ідэолёгічнае зьмены цяперашняга чалавека.

У гэтым пакаленьні, што азначаецца, як *„маладое пакаленьне“*, поруч з поэтамі *Эмілям Болеславам Лукачам* і *Яэпам Ніжнанскім* і прозаікам *Міло Урбанам,* важную ролю іграе літаратурная група [1]) *„левае арыентацыі і самая шматлюдная“*.

Сконцэнтравала ў сабе і навакол сябе найвыразьнейшыя і самыя баявыя творчыя індывідуальнасьці. Да яе належыць *Ян Роб Понічан;* ён выступіў з сваім першым і дагэтуль адзіным зборнікам твораў *„Я ёсьць“* (1923 г.), як баявы пясьняр пролетарыяту, які ня толькі зьместам, але і формаю застаецца на месцы ў поўнай нярухомасьці. Яго апошнія, толькі па часопісях, выпадкова апублікаваныя лірычныя вершы, створаныя пад моцным Есенінскім уплывам, зьяўляюцца бясьсільнымі рыторычнымі выкрыкамі чалавека, што свой поэтычны талент ня здолеў паглыбіць. Ад яго сапраўднасьць, у якой-бы мог ён узяць новыя каштоўныя здабыткі, уцякае з-пад рук. Другі пясьняр і, здаецца, найбольш варты ўвагі—*Ладзіслаў Новамерскі,* поэта наскрозь лірычны, але з моцнымі і ўласьцівымі яму ад прыроды соцыяльнымі мотывамі; у сваёй *„Нядзелі“* (1927 г.) ён дзякуючы концэнтраванасьці і баладнай кароткасьці гэтага твору і надзвычайнай лірычнай чыстаце формы—прабіўся на самыя верхавіны сучаснай поэтычнай творчасьці. Зьявішча прымітыўнае і ня вельмі разьлічанае на тонкі густ; лавец пачуцьцёвых вібрацый, поэта дзіўных настрояў, глыбока, як той клін, увоткнуты ў дух часу,—цягне за сабою і робіць уплыў якраз гэтаю сваёю прастатою і чыстатою формы.

*Даніла Окалі,* больш вядомы, як праніклівы крытік і пропагандысты новых ідэй,—зьяўляецца поэтам суровай сапраўднасьці і дзікага імпэту, але чыстаты формы і конкрэтнасьці, уласьцівых Новамерскаму, ён не дасягае. *Яго вершы асобным зборнікам ня былі надрукаваны.* Яны апублікоўваюцца ў часопісях,—таму аб іх і ня можна яшчэ сказаць апошняе, рашучае слова. Старанна ўпарадкаваныя, яны напэўна адыгралі-б баявую ролю, дзякуючы сваім спэцыфічным уласьцівасьцям, бо *Окалі* пры ўсёй сваёй прымітыўнасьці ёсьць асоба высока культурная і псыхолёгічна цікавая. Да гэтых поэтаў далучаецца і *Петра Ілемніцкі,* родам чэх, але асыміляваны Славакіяй. Яго роман (1928 г.) *„Пераможны*

[1]) Комуністычнае орыентацыі. (Увага перакладчыка).

*спад*“ (Vitazný pád ад слова padati) некалькі гадоў шукаў выдаўца; ён зьдзівіў чытачоў сваёй компактнасьцю і гармонічнай пабудоваю, ён азначае далейшы этап у разьвіцьці ня толькі маладых прозаікаў, але і наогул славацкай прозы, узятае цалкам. Ніхто раней за яго ня здолеў з жыцьця простай горнай вёскі ў далёкім павеце, прыведзеным да выміраньня алькаголем, згалелымі, эксплёатаванымі карчмарамі і гандлярамі, выхапіць і высукаць тое валакно, якое хоць памалу, а ўсё-такі цягнецца і павольна прыносіць аздараўленьне. Ніхто не прасачыў так матэматычна і дакладна крыніцы і ўзрост рэволюцыйнага гневу прымітыўнага мужычка, перасьледаванага лёсам, але поўнага протэсту, а ня роспачы. Пісьменьнік схапіў той здаровы і моцны корань, які нават вайна ня здолела сапсаваць і які ў будучыні сам знойдзе выхад з цемры на сьвет, адшукае сабе вольную прастору для жыцьця.

Падобны-ж вобраз дае і *Міло Урбан* у сваім двохтомавым романе „*Жывы біч*“ (1927 г.). У Славакіі сусьветная вайна адчувалася глыбей чымся ў Чэхіі. Славацкі селянін у самым корані не змад'ярызаваны, прыгнечаны ня толькі фізычна, але і моральна—значна вастрэй мусіў рэагаваць на гэты ўціск, бо справа ішла аб чалавеку ня толькі прымітыўным, але і выхаваным у бутафорскіх традыцыях. Гэты прымітыўны чалавек мусіў адчуваць моральны і фізычны гвалт больш інтэнсыўна, яму гэта проста фізычна балела, чаму між ім і вакольным сьветам, прадстаўленым уладай сьвецкай і духоўнай, мусіла ўзьнікнуць прорва, якая дала магчымасьць выявіцца рэволюцыйнасьці, да гэтага часу стрыманай. Супольнае расчараваньне і супольны боль яднаюць людзей дагэтуль аддзеленых адзін ад аднаго эгоізмам маемасьці, стапляе іх у адзінае зьвяно нянавісьці і гневу, якое з моцаю змушае людзей ісьці наперад, насустрэч іншым новым вяком.

Гэтую вёску з часу вайны, узьнікненьне і разьвіцьце там рэволюцыйнасьці і яе выяўленьне 28 кастрычніка 1918 г.—паказвае *Міло Урбан* і пры тым без ніякай ідэалізацыі, не ўскладаючы на яе аўрэолі харакства, радасьці і цярпеньня, калі іх ня было ў сапраўднасьці. Надмерным тэорэтызаваньнем аўтар сябе не абцяжае і роман пазбаўлены ўсіх чыста адзнакаў літаратурнасьці таму, што ён паказвае нам поўна і ясна і пры тым бяз ніякага патосу—прымітыўнага чалавека, якому сусьветная вайна дала цывілізацыю і якога яна, такім чынам, узьняслa на вышыню. Працягам „*Жывога біча*“ зьяўляецца роман „*Імгла*“ („На сьвітаньне“) у 2-х частках, якія цяпер друкуецца ў літаратурным славацкім часопісу „*Словенске Діло*“ („Славацкая справа“), а ўвосені будзе выпушчан выдавецтвам „Коопэрацыйная праца“ ў Празе. Тут *Міло Урбан* ахапляе пасьляваеннае жыцьцё вёскі і прасочвае яе органічны ўваход у новы парадак жыцьця.

Сапраўдным антыподам Ілемніцкага і Урбана зьяўляецца *Іван Говат.* Ён расьце неяк воддаль ад усяго. Бацькаўшчынай зьяўляецца для яго цэлы сьвет, прастора бяз межаў, на якой выраслі вялікія гарады, разьлі-

ліся рэкі і моры, узьняліся горы і дзе знайшлі сабе месца лясы і сенажаці. Вандроўнік. Сягоньня ён чалавек з роду Кнута Гамсуна, заўтра— таварыш Горкага, прайдзісьвет, якому дадзен адзін загад „жыць“. Адбіцьцём гэтага зьяўляецца яго другая кніга „*Чалавек з вуліцы*“ (1928 г.), што складаецца з дзьвёх новэляў: „*Браты Юргоўцы*“ і „*Ладзя і Брацiслава*“.

Гэта кніга аб людзях, не абцяжараных ніякімі проблемамі і ніякімі замерамі, аб тых людзях, што жывуць звычайным жыцьцём, а пры тым зусім вольна і не абмежавана. Ніщто іх ня змушае рабіць так ці гэтак. Самі жывуць для сябе, незалежна ад другіх. Перажываюць свае прыкрасьці ды прыкрасьці тых людзей, якія ня ведаюць, што рабіць, але якія-б нешта і хацелі рабіць, бо бязьдзейнасьць іх прыдушвае і атупляе. Так вандраўнік Томаш Юрга ходзіць у жыцьці з заложанымі за сьпіну рукамі. Вышаў на вуліцу жыцьця, але ня ведае—дзеля чаго. Вольга і Вера становяцца яму ўпаперак дарогі. А Інгеборг—натуршчыца душа таксама вандроўная. Томаш Юрга хвілінку з імі пастаіць, хвілінку ідзе з імі разам. Але скора ізноў адыйдзе ад іх, бо вельмі-ж добра не турбавацца ні аб чым. Таксама Ладзя (Laco) ды Жэлка з новэлі „*Ладзя і Брацiслав*“. І яны належаць да роду Юргаўцаў. Навошта ім абцяжаць сябе рознымі проблемамі. Бацькі далі ім магчымасьць жыць бясклопатна, вось чаму гэтыя людзі лёгка абмінаюць проблемы сучаснага моманту. Што цэлы сьвет ня можа вырвацца з пасьляваеннага крызісу, што фабрыка за фабрыкай спыняецца і чалавек губляе магчымасьць мець свой хлеб штодзенным, аб гэтым яны нічога ня ведаюць і не стараюцца ведаць гэта.

Такую павярхоўнасьць у поглядах на жыцьцё можна закінуць Горвату як хібу. Але хіба гэтая толькі фіктыўная. Горват злучае далёкія месцы, па-рэпартэрску занатоўвае падзеі, але ніякага заключэньня з гэтага ня выводзіць. Гэтак сама паняцьце аб трагічнасьці для яго чужое. Усё ён прыводзіць да належнае роўнавагі сваёй рухавасьцю і плыннасьцю і гэтым спосабам загойвае кожную, нават самую балючую, рану.

Але трэба зноў вярнуцца да лірыкі. Маладая славацкая лірыка не абмяжоўваецца толькі *Понічанам, Новамерскім і Окалім*. Яшчэ ў часе, які быў беспасрэдна пасьля перавароту, сьвядома працягвае Гвездоcлаваўскую традыцыю выхаванец францускіх каталіцкіх поэтаў—*Эміль Болеслаў Лукач*, выступаючы ў 1922 г. са зборнікам „*Споведзь*“, у 1925 г. „*Дунай і Сена*“ і „*Гімны ў славе госпада*“ (1926 г.), каб толькі ў чацьвертай сваёй кнізе „*Аб неласкавым каханьні*“ (1925 г.) знайсьці ці вывіць свой сапраўдны поэтычны скарб у лірыцы каханьня. Яго апошні акорд лагодны, мяккі і нежны; голас яго чысты, хоць яшчэ там-сям і гучыць патэтычна. З дваістасьці каханьня, што ён так востра адчуваў, мусіў ён прабівацца к па-людзку цёпламу і вернаму яго разуменьню.

Сам па сабе і ні з кім ня зьвязаны стаіць *Язэп Ніжнанскі*—поэта, адарваны ад роднай зямлі і перасаджаны ў вялікі горад, дзе ён ня

можа пусьціць карэньне. Яго лірычны дэбют *„Між небам і зямлёю“* (1928 г.) нясьпелы з формальнага боку, але пры ўсёй сваёй аднаструннасьці—багаты зьместам і мае органічнае адзінства, гэты твар мусіў крывавою ранаю ўрэзацца ў цела таго народу, які новымі абставінамі быў змушаны сваю жыцьцяздольнасьць захоўваць іншымі спосабамі, а не традыцыйным земляробствам. Нутраны крызіс, які выклікае гэтую зьмену жыцьця і ўмоў працы,—вось што адбівае поэзія *Язэпа Ніжнанскага*, гэтага селяніна, узятага ад яго роднага поля і пасаджанага за рэдакцыйны стол. Ён ходзіць у гэтым каменным горадзе ад дому да дому—і з усіх бакоў грозная сапраўднасьць яму крычыць аб тым, што ніколі ўжо нічога ён ня знойдзе і нічым не насыціцца.

Гэтую супярэчнасьць часткова адбівае ў сваёй творчасьці і *Маша Галямава*, адзіная кабета, якую дало маладое пясьнярскае пакаленьне. Пад уплывам *Юрыя* (Іржы) *Волькера*[1]), з якім яе зьвязаў супольны лёс (абое хварэюць на сухоты), а таксама і пад уплывам *народнай поэзіі*,—яна сьпявае не сантымэнтальна, а людзкі-шчыра пра свае балючыя адчуваньні ад жыцьця, а разам з тым і пра радасьць і волю жыць,—і напэўна толькі гэтым сябе ратуе ад згубы. Яе першая кніжка, названая выпадкова *„Дар“* (1928 г.) зьяўляецца абяцаньнем, што малады талент, гэтак адважна сябе праявіўшы, і надалей захавае сваю баявую сілу і што ў будучыне яе можна будзе ацэньваць ня толькі асьцярожна ўважліва, але ўжо і крытычна.

Аб адхіленьні ад шляху або аб глухіх бязвыхадных завулках, куды магла-б трапіць славацкая маладая літаратура не павінна быць нават і гутаркі. Наадварот, гэтая літаратура знаходзіцца зараз у стадыі прогрэсыўнага павялічэньня, праўда, на вялікі жаль, не дайшла яшчэ да памнажэньня ў некалькі разоў. Прыліў новых творчых сіл спыніўся. Тое, што адасоблена прыходзіць альбо вымагае сабе доступу,—усе гэта ёсьць галасы, якія бясьсьледна губляюцца, якія, праўда, патрабуюць усё-такі, каб іх выслухалі, але самі сабою не выказваюць ніякае баявое настроенасьці. Нават многія з маладых ужо адыйшлі ад творчасьці або самі, або дзякуючы крытыцы, мужным прадстаўніком якое зьяўляецца *Даніэль Акалі* (у пэўнай меры і *Андрэй Мраз*). У галіне крытыкі, як здаецца, застанецца працаваць і *Ян Гамальяр*, што, ня гледзячы на протэсты з боку „патрыётаў“, першы з маладых пісьменьнікаў адважыўся *зноў пісаць па-чэскі* і сваім землякам сказаць у вочы бясспрэчную, але ня надта прыемную праўду. Усе тыя, што адыйшлі так ці інакш ад літаратуры, наўрад ці вернуцца да яе. Не дасьпелі яны яшчэ, каб мець тую беспасрэдную і нутраную праўдзівасьць, якую мастацкі твор мусіць у сабе зьмяшчаць, бо толькі тады ён зьяўляецца каштоўнасьцю чыстай і нязьменнай.

Зразумела, усё тое, што калісьці было і што ёсьць цяпер—усё гэта толькі зьбіраньне сіл. Сапраўднае слова яшчэ ня было сказана.

Пераклаў **М. К.**

[1]) Юры (Іржы) Волькер—вядомы чэскі пролетарскі поэта. (Увага перакладчыка).

# ЯПОНСКІ ТЭАТР [1])

**Зьм. Сьнежка**

Японскае тэатральнае мастацтва, як і наогул мастацтва і культура Японіі, рэзка разьмежавана на дзьве часткі, якія вельмі розьняцца паміж сабою. Адна частка культуры і мастацтва—гэта старая японская самабытная культура, утвораная людзьмі вышэйшых кляс у старадаўныя часы, у эпоху фэўдалізму, культура, якая наскрозь прасякнута рэлігійным містыцызмам, культура з тысячагадовымі традыцыямі, з старажытнай мастацкасьцю. Другая частка культуры—эўропэізаваная, амэрыканізаваная культура Захаду, занесеная ў Японію. У апошні час асабліва ўзрасла цікавасьць Японіі да новай культуры, якая творыцца ў СССР. Савецкая культура ўжо пачынае пранікаць ва ўсе галіны культурнага жыцьця Японіі. Тэатр Японіі таксама адлюстроўвае гэтыя дзьве культуры. Прадстаўніком старой фэўдальнай культуры ў тэатральным мастацтве зьяўляецца старажытны тэатр Но; за ім ідуць: тэатр лялек і тэатр Кабукі.

Модэрнізаваным тэатрам, які ўспрымае ўсё, чым толькі багаты эўропэйскі тэатр, зьяўляецца „Цукідзі—малы тэатр“.

Вось пра іх і будзеісьці наша гутарка.

У Токіо, на ўзгорку Кудан, каля царквы Жукуні, стаіць тэатр Но. Гэта адзін з старажытных тэатраў Японіі. Ён утварыўся ў часы змаганьняў паміж фэўдаламі, у часы Асікацкай эпохі. Тэатр Но, як і наогул усё мастацтва ў той час, абслугоўваў пераважна „вышэйшыя колы“—арыстократаў, царскі двор і паасобных багатых фэўдалаў. У тэатры Но і адбіўся гэты арыстократычна-фэўдальны дух, у значнай меры перавіты рэлігійнасьцю. У той час літаратура, малярства і іншыя віды мастацтва знаходзіліся пад уплывам рэлігіі. Цэнтрам разьвіцьця мастацтва быў Палац Сьегуна, дзе арганізоўваліся турніры поэтаў, чайныя цырымоніі разам з паказамі тэатру Но. З таго часу прайшлі тысячалецьці, а тэатр Но застаўся амаль-што нязьменным. Чым-жа цікавы тэатр Но?

Як мы казалі вышэй, тэатр Но быў тэатрам вышэйшых колаў, працоўны народ яго нават і не разумеў. Рэпэртуарам тэатру былі старыя

[1]) Гэты артыкул напісаны, паводле матэрыялаў, атрыманых ад вядомага японскага драматурга Удзяку Акіта, яго гутаркі з артыстымі БДТ 2 і БДЯТ у часе наведваньня Менску і паасобных вестак, атрыманых ад эспэрантыстых Японіі.

За матэрыялы т. У. Акіце і інш. таварышом шчыра дзякую.

мітолёгічныя легенды, казкі і рэлігійныя быліны. Зьмест іх вельмі трудны для зразуменьня, дый наогул трудна сказаць, каб у іх быў які-небудзь зьмест, хоць для арыстократаў яны мелі вялікае значэньне. Характарна для тэатру Но і тое, што ён і цяпер застаўся выключна тэатрам багатых; ніколі ў памяшканьні тэатру ня сустрэнем пролетара-рабочага ці селяніна. Яны туды ня ідуць, бо для іх ня ўсё зразумела, і білет каштуе на адзін паказ ад 10 да 15 іен (на нашы грошы каля 10—15 рублёў). Тэатр працуе з раньня і да вечара; бяз усякіх перапынкаў цягнецца тэатральны паказ адзін за адным. Нідзе, здаецца, так не паважаюць тэатр, як у Японіі. Пабыць у тэатры—абавязак ня толькі гараджаніна, але і кожнага селяніна, які прыехаў у горад. У тэатры Но іграюць у масках, якія пераходзяць разам з амплуа ад бацькі да сына ў спадчыну. Акторы тэатру перадаюць сваё мастацтва толькі сыну, якога ўжо з малых гадоў прывучаюць да тэатральнай працы. У старых тэатрах Но ёсьць маскі, якім ужо па 400—500 год. Гэтыя маскі прайшлі праз рукі 10—12 пакаленьняў. Грыму ў тэатры Но ня ўжываюць, ды ён і не патрэбен, бо маска заўсёды закрывае твар. Іграюць акторы вельмі павольна: іншы раз праходзіць поўгадзіны, пакуль актор прыдзе на сцэну. Ігры дапамагаюць музыкі, 3 або 4, якія іграюць на асобных інструмантах—„сямісэнах“. Музыка адпавядае ігры актора сваёй монатоннасьцю і павольнасьцю. Сцэна ў тэатры Но выходзіць у залю так, што публіка сядзіць з трох бакоў сцэны. Крыху пазьней зьявіўся і масток ад сцэны, які некаторыя лічаць памылкова за прототып „дарогі кветак“ у тэатры Кабукі. Мост гэты Хісігакары і цяпер застаўся ў некаторых тэатрах Но; дэкарацый ніякіх няма. У тэатры Но па традыцыі забаронена іграць жанчынам. Усе жаночыя ролі выконваюцца мужчынамі. Гэта традыцыя перайшла потым і ў тэатр Кабукі. Тэатр Но дажывае свае апошнія часы. Штогод усё менш і менш гледачоў наведвае тэатр Но; нават і сучасныя японскія багатыры ня вельмі ходзяць. Рэпэртуар там мяняецца ў сталецьці раз. І толькі, як каштоўны помнік старажытных часоў, ён зьяўляецца цікавым.

Тэатр лялек значна адрозьніваецца ад такога-ж кітайскага тэатру; у кітайцаў лялькі вырэзваюцца з паперы або кардону і паказваюцца на цень, а ў Японіі лялькі сапраўдныя. Неяк дзіўна: рост іх падобен да росту нормальнага чалавека і на сцэне іх рухаюць людзі. І калі вы сядзіце ў тэатры лялек, вы нібы павінны ня бачыць гэтых людзей, што пераносяць, рухаюць і робяць усё, што патрэбна для лялькі. Вы павінны толькі слухаць, што пяе чалавек з сямісэнам, які сядзіць з боку ды глядзіць на лялькі, што яны робяць.

Гэты тэатр таксама вельмі старажытны і ў сучасны момант ня вельмі карыстаецца посьпехам у Японіі. Такіх тэатраў становіцца ўсё менш і менш.

Кабукі—тэатр утвораны ў часы Токугаўскай дынастыі, і па сягоднешні дзень зьяўляецца для Японіі вельмі характарным. Ён карыстаецца

вялікімі посьпехамі сярод гледачоў. Акторы—гэта нацыянальныя героі Японіі. Калі іграе заслужоны актор, тэатр заўсёды паўнюткі. П'есы, у якіх выступае гэты актор, ведаюць напамяць. Нават усе рухі актора ўжо вядомы даўно гледачом. Гэтыя рухі ў тэатры Кабукі строга рэглямантаваны. Ведаюць яго амаль усе мігі—гэта таму, што няма ніводнага японца, які ня любіў-бы тэатру. Кожны раз у дзьве гадзіны па паўдні пачынае сваю працу тэатр Кабукі. Ня гледзячы на тое, што час яшчэ рабочы, у тэатры поўна. Купляюць білеты хто на адну п'есу, а хто да канца паказу, гэта значыць да 12 гадзін ночы. Памяшканьне тэатру Кабукі вельмі падобна да памяшканьняў эўропэйскіх тэатраў: такія-ж залі, буфэты, кіоскі і г. д. Толькі часамі ў залі ў лёжах замест крэслаў ляжаць падушкі для тых, хто хоча ў тэатры адчуваць сябе, як дома. Японец ня вельмі любіць сядзець па-эўропэйску: ён яшчэ ня прывык да гэтага „эўропэйскага мэтоду".

Сцэна падобна да нашай з памостам, які цягнецца праз усю залю да задняй сьцяны тэатру. Гэта вядомая „дарога кветак", якая, як і сцэна, мае вялікае значэньне ў японскім тэатры Кабукі. Як кажуць некаторыя, гэту „дарогу кветак" і рухомую сцэну наш тэатр запазычыў у японскага. Там яшчэ з XVIII сталецьця пачалі рабіць розныя тэхнічныя вынаходкі. Вядомы вынаходца Накамура Дэнсіцы прыдумаў рухомыя дэкарацыі і сцэны, што перакручваюцца. Гэтыя навіны вельмі спадабаліся гледачу таго часу, і тэатр прыняў гэтыя навіны.

У Японіі ўпяршыню прыдумалі рухомую сцэну. Раней на сцэне ставілі пляцоўку і яе круцілі „ніктошкі", а потым зрабілі сцэну падобную да карусэлі. Але потым гэтыя тэхнічныя вынаходзтвы адыйшлі ў мінулае, засталася толькі дарога кветак—ханаміцы. У Кабукі, як і ў тэатры Но, ёсьць сямісэн—струнны інструмант. Музыканты і сьпевакі сядзяць у кутках сцэны. Каля іх знаходзяцца і „ніктошкі", апранутыя ў чорнае. Іх работа вядомая: яны прыбіраюць дэкарацыі і рэквізыт, падаюць актору патрэбныя рэчы. Ніктошкі часамі ходзяць за акторам. Сочаць за яго вопраткай, папраўляюць яе, калі гэта патрэбна. Яны варочаюць дэкарацыі, пераапранаюць артыстага на сцэне і па-за сцэнай.

Сьпевакі або сямісэншчыкі паведамляюць аб тым, што робіцца на сцэне; на апошняй фактычна даецца толькі ілюстрацыя да песьні, якую сьпяваюць і іграюць музыкі. Актор у Кабукі-тэатры прайшоў свой шлях ад ніктошкі нікчэмнага стану да нацыянальных герояў. Раней у Японііактораў лічылі за людзей ніжэйшае рангу, за „чэрнь", цяпер актор займае такое месца, як і пісьменьнік. Выдатных актораў і глядач, і сямісэншчыкі сустракаюць з шумам. Як і ў тэатры Но, акторы зьяўляюцца адасобленай кастай. За апошні час у тэатры Кабукі „акторская дынастыйнасьць" парушылася, але, ня гледзячы на гэта, Кабукі стараецца ўтрымаць і захаваць звычаі старажытнасьці. Бацька перадае сыну сваю нувуку, сын замяняе бацьку і гэтым захоўвае традыцыі тэатру.

Кабукі-тэатр—гэта моцная тэатральная школа, якая з роду ў род перадае ня толькі імя або амплуа, але манеру ігры і сцэнічнае аблічча.

Актор мае групу вучняў, і пераважна гэта сваякі (блізкія і далёкія) актора. Іх ён навучае тэатральнаму мастацтву і потым пад старасьць перадае лепшаму з іх сваё імя і свае ролі. Тэатральныя вучні працуюць у розных дробных тэатральных ролях, папрацаваўшы пэўны час у якасьці ніктошкі. Што асабліва каштоўна ў маладых актораў—іх здольнасьць перадаваць сцэнічны вобраз так, як яго перадае настаўнік, найчасьцей—бацька. Перадача ролі і пасьвячэньне ў акторы—сьвята ў тэатры. У гэты дзень ідзе заўсёды лепшая драма, у якой галоўную ролю выконвае новы актор. Перад паказам стары актор выходзіць на сцэну і апавядае гледачом аб сваім намесьніку: ён расказвае яго біографію, яго здольнасьці ў ігры і ўрачыста абвяшчае яго сваім намесьнікам. У канцы прамовы ён просіць паважаць новага актора так, як паважалі яго. З гэтага часу на тэатральнай дошцы, што вісіць пры ўваходзе ў тэатр і замяняе нашы прытэатральныя плякаты, прыпісваецца разам з прозьвішчам старога актора і новае імя. Вось гэта „родаводнасьць“ у тэатры і захоўваньне яго традыцыі робіць гэты тэатр консэрватыўным.

Але гэты консэрватызм умоўны. Тэатр Кабукі эволюцыянуе, і вельмі паступова. Сучаснасьць у тым ці іншым адлюстроўваецца абавязкова на тэатры. Раней было, што актор павінен перадаць сваё імя толькі сыну; цяпер гэтага няма, ён перадае сваё імя лепшаму з сваіх вучняў. Раней сын актора павінен быў пераймаць амплуа—сцэнічны вобраз бацькі. Цяпер гэта неабавязкова. Сын можа і зусім ня быць акторам. Дый у манеры ігры кожны новы актор уносіць свае тлумачэньні, сваю ігру. У „старажытную“ драму актор уносіць нешта ад сёньнешняга рэальнага. Так ідзе паступовая эволюцыя, наогул-жа традыцыя для тэатру Кабукі зьяўляецца самым найкаштоўным, што беражэцца з даўно мінулага часу.

Як і ў тэатры Но, тэатр Кабукі ня ведае жанчын-акторак. Жаночыя ролі выконваюць з вялікім мастацтвам мужчыны. Жанчыну даўней лічылі ніжэйшым стварэньнем, і гэта традыцыя захоўваецца ў тэатры Кабукі.

Для нашых гледачоў будзе яшчэ больш дзіўна, калі яны даведаюцца аб тым, што 70—80 гадовы стары грае ролі часамі маладых дзяўчат. Зразумела, гэта вельмі цяжка і здольны на гэта ня ўсе. Кабукі ведае толькі некаторых актораў, якія дасканала выконваюць жаночыя ролі. І калі глядзіш іх, то здаецца, што грае сапраўды жанчына; так добра яны перадаюць жаночыя ролі. Актораў, што граюць такія ролі, у Японіі называюць—оннагата.

І сярод сучасных оннагата тэатру Кабукі мы бачым 74-гадовага старога актора Унаэмона, які вельмі добра грае і старых, і маладых жанчын. Яго манеры ў тэатры робяцца моднымі, іх пераймаюць японскія жанчыны

Ёсьць яшчэ некалькі оннагатаў у тэатры Кабукі, аб іх мы скажам некалькі слоў, калі будзем казаць аб акторах сучаснага тэатру Кабукі наогул.

Граюць акторы бяз масак, але іх грым вельмі падобны да масак: усё робіцца так, што адразу можна пазнаць, якую ролю выконвае актор. Па колеры твару, па яго агульнаму выгляду гледачу адразу зразумела, якую ролю выконвае актор: злодзея ці добрага чалавека, багацея ці жабрака. Такім выходзіць актор на сцэну. Ён ня ведае „рэжысэрскіх законаў“; яго законы—гэта традыцыі старажытнасьці. Яму яго бацька перадаў усе дэталі ролі. І трэба толькі дзівіцца, як усё гэта робіцца заўсёды аднолькава і ў адзін час. Усё, аж да дробязі, узгоднена паміж акторамі: кожны міг рукі, кожнае слова жыве сталецьці. Гэта нібы і надае хараство тэатру Кабукі, як вартаўніку старога японскага тэатральнага мастацтва. Сцэна ў японскім тэатры асьветлена так, як нідзе ў эўропэйскім тэатры. Пры нормальным асьвятленьні магчыма правесьці кіноздымак. Гэта гаворыць аб тым, што сцэна тэатру Кабукі нібы затапілася ў электрычным сьвятле. Некалькі прожэктараў выконваюць гэту работу—кідаюць снапы электрычных праменьняў на сцэну.

Там знаходзяцца сямісэншчыкі, якія ня толькі граюць, але і пяюць, і ніктошкі. Роля апошніх намі ўжо апісана. Сямісэншчыкі выконваюць ролю конфэрансье спэктаклю. Яны абвяшчаюць назвы п'ес, апавяшчаюць аб выхадзе актораў, адзначаюць асабліва цікавыя месцы п'есы, апавядаюць гледачом аб тым, што робіцца на сцэне. Цягучы сумны голас сьпевака зьліваецца ў адну сымфонію суму і гэтым утварае ў гледачоў патрэбныя настроі. „Тэатр—гэта ня жыцьцё, а кавалак мастацтва“—вось як кажуць у Японіі пра тэатр Кабукі.

Дэкорацыі, бутафорыі—усё гэта зроблена з вялікай уважнасьцю да самых дробязяй. На японскай сцэне рэдка можна сустрэць бутафорскія рэчы. Замест бутафорскіх дрэў, скал, на сцэну ніктошы прыносяць сапраўдныя рэчы. Ханаміцы—дарога кветак, а таксама і рухомая сцэна даюць магчымасьць як мага паўней паказаць п'есу гледачом.

Рэпэртуар тэатру—найменш цікавы бок у тэатры Кабукі. Увесь рэпэртуар складаецца амаль з п'ес, напісаных самымі акторамі, і рэдка—людзьмі, далёкімі ад тэатру. Драматычны жанр Кабукі ведае некалькі катэгорый такіх драм: драмы севомонто—з мяшчанскага жыцьця, драмы дзідаймона—гістарычныя, пераважна героічныя паказы, драмы з ухілам у балетны бок і інш.

Програма спэктаклю складаецца на дзень так, каб былі паказаны п'есы розных тэатральных жанраў. У кніжцы В. Пільняка „Корни японского солнца“ даецца некалькі зьместаў паасобных п'ес. У большасьці ўсе яны маюць характар інтрыгі, што асабліва характэрна для п'ес гістарычных, якія малююць жыцьцё фэўдальнай Японіі. У такіх п'есах ёсьць і змаганьне паміж дайнамі (князькамі) і героізм, і зладзействы, і сцэны здрады, і байкі,—адным словам усё, чым багата было жыцьцё фэўдальнай Японіі.

Зьмест п'ес, як відаць, далёкі ад сучаснасьці, ня сугучны ёй. У тэатры Кабукі зьмест п'есы ня мае вялікага значэньня. Галоўнае—ігра

актора, выразнасьць яго паказу таго ці іншага тыпу. Актор—гэта жрэц мастацтва. Пакоі актора—нібы „сьвятое сьвятых“ мастацтва. У пакоях усё проста, чыста і нібы неяк „патаемна“. Перад уваходам да сябе актор скідае свае боты, як гэта робіць усякі, хто ўваходзіць да яго.

У Японіі актор карыстаецца вялікаю пашанаю. У сучасным тэатры Кабукі ў Токіо вельмі популярны актор Утаэмон Накамура 74 год, стары, „галоўны актор“ сучаснага Токійскага тэатру Кабукі. Ён іграе жаночыя ролі, прычым карыстаецца вялікім посьпехам. З іншых актораў трэба адзначыць Канью Морыта, Тайко Оноэ, Костро Мацумото, Содзюро Савумура; Ічымура Удзаемон—першы каханак і рыцар японскай сцэны, Оноэ Кікугоро, што іграе заўсёды дзяўчат, Омоэзо Ішочыю і інш. Акторы найбольш популярныя атрымліваюць самую вялікую пэнсію. Актор Унаэмон з Токійскага Кабукі атрымлівае самую вялікую пэнсію. Акторы, ігра якіх прыгожая, мастацкая і эфэктная, таксама аплачваюцца высока.

Менш атрымліваюць простыя акторы. Часта некаторыя з іх робяцца вялікімі спэцыялістымі ў сваёй галіне. Так, напр., каня іграюць два акторы: адзін „іграе“ толькі пярэднія ногі, другі—заднія. Улазяць яны ў зробленую з кардону фігуру каня. І вось у гэтай ігры набываюць сабе амплуа і вядомасьць.

Ці ня дзіўна для нас гэта амплуа актора, які ўвесь час выконвае толькі заднія ногі каня.

Што яшчэ характарна для тэатру Кабукі,—гэта вялікае значэньне так званай галёркі. Яна заўсёды напоўнена тэатраламі, яна адгукаецца на кожны дробязны міг актора, яна заўважае недахопы актора, яна з энтузыязмам сустракае сваіх улюбёных актораў. У тэатр прыяжджаюць з вёсак і суседніх гарадоў. У Токіо дый у іншых вялікіх гарадох ёсьць каля тэатру спэцыяльныя дамы, дзе спыняюцца прыежджыя гледачы.

Тэатр Кабукі—нацыянальны тэатр японскай арыстократычнай культуры, у ім уся глыбіня, уся прыгожасьць японскай тэатральнай тэхнікі,— тэатральнага мастацтва.

Разам са старым нацыянальным тэатрам Кабукі ў Японіі ёсьць і другі эўропэізаваны малы тэатр—Тэатр Цукідзі. Заснавальнікам яго зьяўляецца малады рэжысэр Каору Осанайя. Год 16 таму назад Осанайя скончыў літаратурны факультэт Токійскага унівэрсытэту. К. Осанайя заснаваў потым у Токіо так званы „вольны тэатр“, дзе ён паказаў японскай публіцы эўропэйскіх клясыкаў. У 1914 годзе Осанайя едзе ў Маскву, дзе пэўны час вучыцца ў Станіслаўскага. Вярнуўшыся з Масквы Осанайя цалкам аддаецца пропагандзе мастацка-тэатральных мэтодаў Станіслаўскага. Разам з акторам Ікітава Саданзі ён заснсўвае новы тэатр Цукідзі. Гэты тэатр зьявіўся новай старонкай у гісторыі японскага тэатру.

Тэатр Цукідзі зьяўляецца адным з масавых тэатраў Японіі: цана білетаў даходзіць да поўіены (поўрубля)—гэта самая танная цана білета. Тэатр Цукідзі мала чым адрозьніваецца ад нашых тэатраў; ды гэта і зразумела, бо ён зьяўляецца нібы аддзяленьнем нашага МХАТ, зане-

сенага ў Японію. Рэпэртуар Цукідзі-тэатру—гэта рэпэртуар любога эўропэйскага тэатру. У Цукідзі ставяць п'есы: М. Горкага („На дне“), А. Чэхава („Тры сястры“, „Вішнёвы сад“), Мэтэрлінка, Ібсэна, Л. Талстога („Улада цемры“), Чапэка, Кайзэра, Газэнклевэра, О'Нэйля, Луначарскага, Пірандэло, Стрынбэрга. З японскіх аўтараў ставяць п'есы Удзяку Акіты („Бомба“, „Ноч на дзяржаўнай мяжы“, „Скок шкілетаў“ і інш.).

Як у сцэнічным афармленьні, так і ў ігры актораў шмат чаго запазычана ў тэатры Станіслаўскага. Дэкорацыі малюе для тэатру мастак-канструктар—Томоіосі Мураяма—японскі лефавец і добры мастацкі актор. Сярод іншых актораў трэба адзначыць маладога драматурга Тоому Янасэ, якога ведае ўся Японія за яго ўдалыя карыкатуры, Міякіцы Оно Канічыро Убуката, Зоя Сонда, Такамору Сасакі Суга, Наказіма і інш.

К. Осанайя—рэволюцыянэр у японскім тэатры. Ён прынёс у Японію модэрнізаваную культуру з Захаду, ён адмовіўся ад умоўнасьцяй японскай культуры, ён прынёс новы рэпэртуар, і ў лік актораў прыняў жанчын. П'есы, якія ставіць Осанайя, адбіраюцца і зацьвярджаюцца мастацкаю радаю, куды, апроч яго, уваходзяць: У. Акіта і галоўны з актораў. П'есы, якія прыняты радай, часта псуюцца паліцыяй, якая забараняе актору гаварыць тыя ці іншыя словы і фразы. А ў драме У. Акіты „Бомба“ забаронены да паказу цэлы акт. Тры п'есы, прынятыя тэатрам да пастаноўкі, былі зьняты паліцыяй за „рэволюцыйнасьць“. Такіх забарон і скарачэньняў ня ведае яшчэ ніводзін тэатр, амаль кожная пастаноўка, кожная п'еса мае скарачэньні, зробленыя ў паліцэйскіх вучастках. Вось у такіх умовах працуе тэатр Цукідзі, які прынёс на Ўсход эўропэйскую тэатральную культуру.

Осанайя і яго пасьлядоўцы пільна сочаць за навінамі эўропэйскага тэатру і пераймаюць ад яго ўсё новае. У 1922 г. рэжысэр Хадзіката знаёміўся ў Маскве з пастаноўкамі Мэйерхольда, потым з нямецкім экспрэсыяніцкім тэатрам,—усё гэта значна павярнула тэатр Цукідзі на новыя рэйкі. У часе Кастрычнікавых сьвят Осанайя быў у Маскве, дзе знаёміўся з новымі дасягненьнямі савецкага тэатру, якія ён думае ўжыць у японскім тэатры.

Не хапае Цукідзі-тэатру толькі п'ес японскіх аўтараў. П'есы сучасных драматургаў неяк яшчэ нясучасны, нясугучны для эпохі, у іх няма рэалізму жыцьця.

Калі быў скончаны гэты артыкул, прышла вестка аб тым, што Каору Осанайя памёр ад разрыву сэрца. Японская грамадзкасьць мае вялікую страту. Вучні і пасьлядоўцы Осанайя павядуць далей яго працу.

Усход ідзе вучыцца на Захад, але не на капіталістычны захад, а ў СССР, дзе запазычае новую культуру. Тэатр Цукідзі арыентуецца не на гнілую культуру капіталістычнага захаду, а на здаровую культуру краіны Саветаў—гэта паказвае, што ён стаў на здаровы шлях.

Будучыня тэатру Цукідзі залежыць ад таго, як ён і надалей будзе выконваць запаветы свайго заснавальніка. Калі ўзятая арыентацыя і надалей будзе праводзіцца тэатрам Цукідзі—яму належыць вялікая будучыня.

# КНІГАСЬПІС

**Асьвета.** *Штомесячны часопіс. Выданьне Народнага Камісарыяту Асьветы БССР, № 3, 1929 году Менск (стар. 44, цана паасобнага нумару 80 к.)*

З таго часу, як „Асьвета“ з паўтарамесячнага часопісу зрабілася месячным, у ёй адбылася паважная зьмена. Гэта ўжо ня вузка спэцыяльнае, чыста і выключна мэтодычнае выданьне, як гэта было раней. Цяпер часопіс выходзіць на шырокі грамадзкі шлях. Асабліва шмат такога агульна-цікавага матэрыялу ёсьць у разгледжаным № 3. Пабачым, што ўдалося і што не ўдалося зрабіць рэдакцыі ў гэтых новых пачынаньнях.

Офіцыйная часьць—рэзолюцыі і тэзісы чацьвертага ўсебеларускага зьезду інспэктароў народнае асьветы падкрэсьліваюць канечную патрэбу змаганьня з рознымі выяўленьнямі ідэолёгіі, варожай пролетарыяту і яго справе. Адзіная зброя для гэтага—пашырэньне асьветы, агульная і палітычная барацьба з няпісьменнасьцю (у літаральным сэнсе) і з політняпісьменнасьцю. Пры гэтым школе трэба працаваць ня толькі з самымі вучнямі, але і з іх бацькамі, каб у тых і другіх разьвіць дух колектывізму і ўзаемадапамогі, узмацніць грамадзкае пачуцьцё, пролетарскую клясавую сьвядомасьць.

Гэтыя думкі кіравалі рэдакцыяй часопісу пры падборы артыкулаў для друку. З іх адзначым наступныя: артыкул П. Панкевіча „Н. К. Крупская—пэдагог“. У гэтым артыкуле аўтар гаворыць і аб літаратурнай дзейнасьці т. Крупскай, аб яе кніжцы „Народное образование и демократия“, аб яе зацікаўленасьці проблемамі політэхнічнага працоўнага прынцыпу выхаваньня і пытаньнямі грамадзка-карыснае працы.

Аб антырэлігійнай пропагадзе найбольш удала гаворыцца у мэтодычным лісьце, зацьверджаным Навукова-мэтодолёгічным камітэтам „Антырэлігійная пропаганда ў масавых політасьветных установах“. Пропаганда тут увязана з агрыкультурнымі пытаньнямі і з прыродазнаўствам.

У артыкуле А. Паўленка „Вывучэньне рэлігійнасьці вучняў“ (з практыкі Віцебскае 14-ае сямігодкі) даны вынікі імянное анкеты, зробленай у гэтай школе. У сваёй увазе (стар. 67) рэдакцыя слушна зазначае на тое, што анонімныя анкеты лепш дасягаюць свае мэты. Што рэдакцыя мае рацыю—даводзіцца некаторымі фактамі, констатаванымі самым аўтарам артыкулу. Напрыклад, на пытаньне: „Ці вядуцца дома гутаркі на рэлігійныя тэмы? на якія? Перадайце зьмест гутарак“,—адказы былі адны і тыя-ж: „не вядуцца“—констатуе аўтар (стар. 72). Апрацоўка сабранага матэрыялу (аб каштоўнасьці якога ня будзем ужо ўзьнімаць пытаньня)—зроблена наўрад ці добра. Аўтару здаецца, напрыклад, што адказ на анкеты: „Якія пытаньні рэлігіі вас асабліва цікавяць?—нявыразны. Ён гаворыць: адказваюць вельмі нявыразна, як-бы ня зусім разумеючы самае пытаньне“ (стар. 68). А як прыклады прыводзіць, паміж іншым, наступнае: ці ёсьць бог, ці быў хрыстос і ці расьпіналі яго; рэлігійныя кнігі. „Тым часам, гэта якраз і ёсьць асноўныя

пытаньні рэлігіі: догма і крыніцы яе. Ствараецца ўражаньне, што дзеці якраз і добра зразумелі сэнс пытаньня. Таксама выразна адказала і большасьць дзяцей, што рэлігійныя пытаньні іх ня цікавяць.

Артыкул Я. М. Крэмеза „Грамадзка-карысная праца школ“—паказвае, як школа рыхтуе клясава-сьвядомых грамадзян. Дзякуючы вучням пасьпешна прайшлі перавыбары ў сельсавет. Дзеці рабілі плякаты і лёзунгі, пісалі абвесткі—і абсэнтэізм на выбарах значна зьменшыўся ў параўнаньні з ранейшымі гадамі.

У артыкуле Марголіна (Арнольдзі) „Вучнёўская моладзь аб сумесным навучаньні“ мы знаходзім вынікі вельмі ўмела апрацаванай і добра праведзенай анонімнай анкеты ў школах гораду Гомелю (у 1927—28 навучальнам годзе). Вучні шчыра выказвалі свае думкі, падкрэсьлівалі свае і чужыя заганы і хібы. Выявілася, што большасьць вучняў і вучаніц нездаволены цяперашнімі ўзаемадачыненьнямі паміж хлапцамі і дзяўчатамі, наракаюць і на сябе, і адны на адных усе ганяць вакольнае мяшчанскае асяродзішча. Ад сумеснага навучаньня, аднак не адмаўляюцца і сьвядома прызнаюць яго добрыя бакі. Вывад для кожнага ясны: трэба захаваць назаўсёды супольнае навучаньне і палепшыць выхаваньне, асабліва, зварочваючы ўвагу на грамадзкую працу, на колектывізм, на ўзаемадапамогу сярод вучнёўскае моладзі. Такім чынам, думка найлепшых пэдагогаў і імкненьні нашых дзяцей, што вучацца ў школе—супадаюць. Уважлівае і ўдумлівае выхаваньне зьнішчыць і флірт, і лаянку, і хванабэрыю, а застануцца чалавечыя, разумныя, сапраўды таварыскія суадносіны паміж мужчынай і жанчынай. У даным разьдзеле „З вопыту школ“ асабліва цікавы „матэрыялы камісіі пры НКА па вывучэньню сучаснага становішча нашае школы“. Тут ахарактарызаваны ўсе чыста бакі сучаснага школьнага жыцьця; людзкі матэрыял і праца з ім, зразумела, асабліва добра разгледжаны.

Пасьля характарыстыкі праграм 1-га концэнтру ідзе артыкул аб „Пазашкольнай рабоце сярод дзяцей“ (Грамадзка-карысная праца, піонэррух ды інш.).

У № 3 зьмешчаны і артыкул акадэміка Я. Лёсіка: „Проект рэформы і стабілізацыі беларускага правапісу“. Аўтар думае спрасьціць правапіс і зрабіць друк больш танным (бо, паводле яго проекту, *ь* выкідаецца заўсёды паміж падвойнымі зычнымі, а таксама і паміж сычачымі гукамі і далейшым мяккім зычным). З гэтым можна згадзіцца, бо ніякіх непаразуменьняў гэта выклікаць ня можа. У пэўных выпадках аўтар прапануе перад гукам *а* пісаць прыназоўнік: *ув*. Гэта можна было-б зрабіць, калі-б ня было тут парушэньня графічнага правіла, што *в* на канцы слова ня бывае. Таму лепш пісаць *„ув“* (з апострофам, умоўна тлумачачы вучням *„ув“*, як скарочанае, абцятае: *ува*). Паводле проекту пачатковыя *у* ды *і*, а таксама і прыназоўнік *у* ды злучнік *і* — заўсёды складовыя. Гэта значна спрашчае правапіс.

Паколькі акад. Я. Лёсік у злучэньнях зычных, менавіта ў групах: *стн*, *здн*, *стл* і *рдн*, як гэта было і раней, выкідае, згодна з вымаўленьнем, сярэдні член комплексу, то было-б, здаецца, някепска пашырыць гэткае спрашчэньне і на некаторыя іншыя выпадкі. Напрыклад, на старонцы 28 Яз. Лёсік піша: *аб'ездчык*. Ці нельга было-б і тут выкінуць *д*, як у слове баразна? Слова *судзьдзя* Яз. Лёсік піша—*суддзя*, фонэтычна правільна, але тады трэба пісаць і *сметце*, а ня *смецце*, як ён піша.

У правапісе морфолёгічных форм можна згадзіцца з лёгкім і простым правілам аб канчатках: у проекце гаворыцца, што ненаціскное *е* ў склонавых формах застаецца ў канцавым адкрытым складзе, а ў закрытым—перадаецца праз *я:* поле, але полям. Ня трэба толькі пад-

крэсьліваць, што: добрыя, сінія—выключэньні, бо ў жаночым родзе, праўда, было калісьці *е* (з ѣ), але ў ніякім магло захавацца адвечнае славянскае ја. Тады будзе цьвёрдае правіла і ні якіх выключэньняў ня трэба рабіць, а *я* можна ўмоўна раз-разглядаць, як прыняцьце ў правапіс формы ніякага роду. У дзеясловах справа іншая—там *е* трэба вытрымаць дзеля адзінства адчуванае цяпер асновы.

З адным з правілаў Яз. Лёсіка цяжка згадзіцца. Ён хоча пісаць: на дубі, на маліні, аб слові. Вышэй памянёнае правіла самога-ж ак. Лёсіка дасканала дазваляе пісаць тут *е*, а калі нават у значнай часьці дыялектаў вымаўляецца тут гук—і пад уплывам мяккага варыянту адпаведных скланеньняў, то, узаконьваючы такія зьявы, можна прыняць таксама вельмі пашыраныя: косе, носе, косюць, носюць і г. д.

Рэшта заўваг Яз. Лёсіка не выклікаюць спрэчак.

Проф. Мрочак даў у парадку абмеркаваньня вельмі цікавы артыкул аб рэформе падрыхтоўкі выкладчыкаў на фізмаце наогул, маючы на ўвазе і адпаведнае аддзяленьне пэдфаку БДУ. Проф. Мрочак раіць наблізіць матэматыку да вытворчых процэсаў—больш конкрэтнасьці хоча ён унесьці ў гэту навуку. Гэта конкрэтнасьць і практычнасьць цалкам адпавядаюць вымаганьням школы і духу нашае эпохі.

У мэтодычным аддзеле А. Станкевіч абмяркоўвае спосабы дапамогі непасьпяваючым вучням. М. Ламака піша аб беларускай мастацкай літаратуры, як аб матэрыяле для антырэлігійнага выхаваньня. Найцікавейшы артыкул ў гэтым разьдзеле належыць. З. Маскалевічу: „Проблема соцыяльнага перавыхаваньня на Беларусі“. Ён паказвае, як шляхам давер'я і добрага ўплыву перавыхоўваюцца дзеці і падлеткі. Трэба падумаць, аднак, аб тых небясьпеках, якія пагражаюць самым выхаванцам, а часам і іх выпадковым спадарожнікам у выніку розных абставін у часе іх уцёкаў. Усё-ткі думкі аўтара заслугоўваюць вялікае ўвагі.

Мова часопісу перажывае пэўную эволюцыю. Ёсьць імкненьне наблізіць да жывое народнае гутаркі: усюды „дачыненьне“ замест кніжных „адносін“, бываюць і пашыраныя на вялікай тэрыторыі дыялектызмы: „гостры“, „захострываць“. Усё гэта някепска. Але ёсьць і тахтнасьць (стар. 40), і Шастаковага (стар. 116), і „цяжка выхоўваемы“ (=выхоўны) (стар. 57) і імя назоўнае ад гэтага слова (стар. 58), праца па падрыхтоўцы (стар. 74), насельныя пункты (стар. 74), панабэрыстасьць (стар. 77) (=хванабэрыстасьць) ды некаторыя інш. З гэтым ужо цяжка згадзіцца.

**Л. Смаляціч**

**„Маладняк“ № 7—1929 г.** *Літаратурна-мастацкая і грамадзка-політычная часопісь—орган Беларускай асоцыяцыі пролет. пісьменьнікаў.*

У часопісі ёсьць два апавяданьні: Ір. Барашкі—„Ліст вылучэнца“ і Н. Беліны-Падгаецкага—„Рыбакі“. Тав. Барашка меў вельмі добры намер: хацеў даць малюнак таго, як адчуваюць сябе нашыя вылучэнцы на сваіх новых пасадах, як нашыя бюрократы вельмі часта ня толькі не дапамагаюць, але нават сваімі паводзінамі перашкаджаюць працы вылучэнцаў. Вылучэнец так і піша: „А цяжка, знаеш, на фронце гаспадаркі працаваць. Лягчэй у рамонтных пры станку... Стой сабе, шрубуй і хітрай механікі ня відаць табе. А ўсё—партыя. Паставіць цябе ў масласаюз,—здохні, а цісьні масла... Так вось, браток, я цісну...“

Тэма, бязумоўна, цікавая, актуальная. Але гэта тэма патрабуе больш шырокага размаху, палатна. Прымітыўнасьць формы (ліст), мастацкая непераконанасьць, слабая апрацоўка тэмы—вось галоўны недахоп апавяданьня.

Беліна-Падгаецкі даў апавяданьне з жыцьця француского рабочага.

Поэма В. Маракова „Муляр“ вельмі расьцягнута, мысьлі расплыўчыя, разбуханыя, раскіданыя... Бачыце, Маракоў палюбіў Натальлю.

Стала праца вясёлай
І сьветлай...
Мэта знойдзена, мэта жыве.
Дзень праходзіў
З усьмешкаю ветлай
І праменьнем расы на траве.
Мэта знойдзена...
Але—
І пакрыўдзіла горка яна,
Надсьмяялася...Плюнула ў сэрца.
І Маракоў упадае ў роспач.
Я ў ёй шукаў
Вялікіх спраў,
Я-ж памыліўся да загубы
І справу дрэнную сыграў...

Нюрын, таварыш Маракова, надае яму духу:

Мы ўсе па-рознаму шукаем
Жаданых
Сьветлых берагоў...
Дык, дай забудзем,
Што мы маем,
І пойдзем зноў рука з рукой.
І пашоў Маракоў.

Як бачыце, звычайная гісторыя, добра яшчэ, што Маракоў не застрэліўся...

У поэме есьць добра напісаныя, прачулыя мейсцы аб нашым будаўніцтве.

Астапенка даў прыгожы верш.

Вершы Плаўніка „Калі ападаюць лісты“ зьяўляюцца перапевам старых мотываў: восень, смутак, журбота і... любая. І цікава, калі Плаўнік піша верш „Кастрычнік“, у яго чамусьці верш ня злучаецца з рэволюцыяй, з Кастрычнікавай рэволюцыяй. Вось чаму мы павінны зараз асабліва востра паставіць перад нашай пролетарскай поэзіяй пытаньне аб соцыяльнай лірыцы. На перажоўваньні індывідуалістычных настрояў і мотываў наша поэзія трымацца ня можа. Плаўнік, бязумоўна, мае мастацкія магчымасьці (довад—яго верш „Лістапад“) і ад яго мы можам больш патрабаваць.

Добра зрабіла рэдколегія, што дала артыкул аб татарскай літаратуры і пераклад вершаў з татарскай мовы.

Вельмі цікавым зьяўляецца артыкул т. Карака „Украінская савецкая літаратура“.

Цікавы таксама артыкул Ів. Цьвікевіча „Аб дзіцячай літаратуры“.

Тав. Кучар дае наогул правільны нарыс літаратурнай дзейнасьці поэты Маракова. Але такія месцы ў артыкуле, як, напрыклад: „Увесь архіў вершаў ён хавае ў кішэнях“, альбо: „Валеры Маракоў вучыцца ў Менскім Беларускім Пэдагогічным Тэхнікуме. Ён прапускае большасьць лекцый“— такія „біографічныя дэталі“ зьяўляюцца зусім непатрэбнымі.

У часопісі шмат карэктарскіх памылак. Ці нельга як-небудзь бяз іх абыйсьціся? **Н. Кабакоў.**

**Літературний ярмарок**. *Альманах місячник. Книга перша (131), Грудень 1928. Девеу.—Книга друга (132). Січень—1929. ДВУ.*

Бясспрэчна зьява новая і сьвежая ў украінскай літаратуры. Цікавая сваім імкненьнем парваць з усялякімі літаратурнымі і часапіснымі традыцыямі; і размаляваная стракатая вокладка, на якой як на рэбусах, трэба шукаць, дзе твар чалавека, дзе рыба, дзе дрэва, пад ёй другая, унутраная вокладка з аўтографамі пісьменьнікаў, малюнкі на палёх кніжкі зусім ня ў сувязі з тэкстам, розныя інтэрмэдыі, эпілёгі, у якіх „конфэрансье“ хваліць чытачу „вырабы“ пісьменьнікаў, абвесткі на палёх, аркушыкі календароў з паведамленьнем аб гадавінах (Квіткі-Аснаўяненкі і Вас. Блакітнага),—усё гэта, сапраўды, цешыць чытача навіной сваёй. А самае новае тое, што самы „ярмарок“ утворан па зусім іншаму тыпу,—гэта сапраўды коопэрацыйны „ярмарок“, у якім не пачуем выкрыкаў конкуруючых адзін з адным прыватных гандляроў-прыватнікаў, клапаціцца за ўсіх ярмарком, які нібы з аднолькавай, шчырай об'ектыўнасьцю прапануе чытачом вырабы ўсіх сваіх

пісьменьнікаў, адчыніўшы ярмарок па радыё: „Алло! Алло! Алло! Всім! Всім! Всім! Говорить Ярмарком „Літературного Ярмарку“ на хвилі 500.000 метрів з міста Харкова, столиці Української Соціялістичної Радянської Республікі. Читайте, шановні товариші, чергове 131 число нашого позагрупового періодичного альманаху“. Ярмарком, бясспрэчна, шукае чытача, вядзе за яго барацьбу і таму, як гэта слушна заўважыў украінскі рэцэнзэнт „Літер. Ярм.“ (Критика, журнал, 1929, №2, ст. 18) Васіленка, з пункту гледжаньня чытача і трэба ацэньваць гэты альманах.

А вось гэтаму чытачу навіны якраз найменш ад усяго спадабаюцца. У гэтых лірычных уступах і інтэрмэдыях думка хутка пераскаквае з аднэй рэчы на другую, намёкі на розныя свае, хатняга характару літаратурныя справы,—так што масавы чытач амаль што нічога не зразумее. Расчароўвае ў II кн. Літ. Ярм. і доўгачаканая „Зялёная Кабыла“, якой ярмарком так заінтрыгоўваў чытача ў першай кнізе. І дасьціпнага ў гэтым дыспуце аб зялёнай кабыле, трэба прызнацца, вельмі мала. Прыкрае пачуцьцё нярэдка выклікаюць і дзеячыя асобы інтэрмэдый: цыган, залаты певень і чорт Зануда.

А цяпер скажам па некалькі слоў аб паасобных творах. У І-й кн. з вершаў заслугоўвае ўвагі „Апотеоза“ І. Ю. Куліка, які такі добра спэцыялізаваўся на амэрыканскіх нэграх.

У мастацкай прозе на першым месцы ў І-й кн. стаіць апавяданьне М. Хвілёвага „Із Вариної біографії“. Словы гэтага бэлетрыстага, сказаныя калісьці ім аб сваёй прозе, можна цалкам дапасаваць і да гэтага апавяданьня: сюжэту не чакайце ў мяне. Малюнак мяшчанства даў, аднак, добры і бясспрэчна таксама, што толькі выпадак зьвязаў гэроіню з комуністымі.

Наступнае апавяданьне Коцюбы „Обовязок“ трэба лічыць удалым, а яго аўтара—жывым чалавекам: яго партыйны рэцэнзэнт можа асудзіць за парушэньне партыйнае дысцыпліны (замест таго, каб ехаць у другі горад па загаду партыі, ён аддае сябе ў рукі контр-разьведкі, каб гэтым выратаваць заарыштаваную каханку, якая да партыі ня мела ніякіх адносін), але ён павінен вызнаць, што барацьбу паміж сьвядомасьцю абавязку і ўласнымі пачуцьцямі аўтар змаляваў з мастацкім рэалізмам. Працілеглай канцавосьсю гэтага апавяданьня ў II кнізе зьяўляецца „Станцыя Знам'янка“ Леваніда Чэрнова, прысьвечаная аднаму з момантаў грамадзянскае вайны. Гэрой яе, каб не аддаць паравоза белым, забівае з рэвольвэра афіцэра, а разам з ім і сваю каханку Іду, за якой схаваўся гэты самы афіцэр. А канец апавяданьня, калі гэрой, моцна пацалаваўшы ў вочы забітую Іду, кідае яе ў топку паравоза, зусім пахне ўжо сярэднявечнай мэлёдрамай.

Працягваю агляд прозы І-й кніжкі. Апавяд. „Червоноградські портрети“ І. Сэнчэнкі—у якасьці гэрояў выбірае прадстаўнікоў з лягеру клясавага ворага—ранейшае буржуазіі. Адзін зі х па духу земляроб, другі—буйны гандляр. У першага з гэрояў (Міхайла Кішка-Самійла) побач з некаторымі дадатнымі рысамі знойдзем і такія адмоўныя, якія робяць агідлівым яго характар.

Жахлівымі, змрочнымі фарбамі аўтар малюе, як Кішка-Самійла раз на тыдзень катуе сваю жонку. Б'е яе да крыві, да няпрытомнасьці, пасьля чаго нявестка яшчэ пасыпае яе закрываўленае цела сольлю і тады ледзь жывая жонка Кішкі мые сваймучу-мужу-кату ногі і п'е гэтую ванючую юшку пасьля яго ног. Другі гэрой апавяд.—Рыгор Хвёдаравіч Галаваты—змаляваны больш сымпатычнымі фарбамі—ён разумны арганізатар, які ўмее рознымі спосабамі прывабіць пакупніка, ідзе насустрач яго запатрабаваньням,—так што ні адзін чытач пазайздросьціць: чаму мала такіх гандляроў сярод коопэратараў?

„Ніч і день“ П. Іванова—адзін з звычайных пераказаў усходняй леген-

ды—зразумелая рэч—на фоне адпаведнай прыроды (у даным разе крымскай), але-ж такія пераказы ўсё менш і менш пачынаюць хваляваць.

Бясспрэчна карыснае і больш-менш удала выкананае апавяданьне М. Майскага „Іспит“. Паперш, здаецца, гэты адзіны з усіх твораў абодвых выпускаў, прысьвечаны псыхолёгіі працаўніка. Па-другое, закранута цікавая тэма: трусьлівы працаўнік Сініца, які быў дагэтуль толькі шаптуном—шаптаў аб розных хібах больш адважным таварышом, якія не баяцца выступаць на паседжаньнях,—набраўся нарэшце сам адвагі і выступіў супроць злачынстваў майстра Суботы. Калі яго падтрымалі іншыя працаўнікі, ён пасьля гэтага першага „іспиту“ адразу адчуў сябе моцным, бадзёрым „незнаёмае сьвятло запалілася ў яго душы“.

Прыблізна такога-ж запужанага баязьлівага гэроя знаходзім у II вып. у апавяд. Рыгора Эпіка „Радіоаматар“. Але Курочка галавой вышэйшы ад Сініцы: ён і з пэўнай асьветай і мае прынцыпы, прыхільнік парадку. Але вось трапілася няшчасьце, і студэнты і настаўнікі Пэдтэхнікуму паволі расьцягалі кніжкі з бібліотэкі. Курочка чакае турмы, але ўсё канчаецца шчасьліва. Гэта зьдзекваньне з мяшчан-шаптуноў усё часьцей цяпер трапляецца ў літаратуры, і яго трэба шчыра вітаць—трэба бароцца за зьдзяйсьненьне сапраўднае самакрытыкі.

Барацьба з мяшчанскай трусьлівасьцю, уцягваньне ўсіх грамадзян у барацьбу за палепшаньне нашае вытворчасьці—бясспрэчна, вельмі важлівая справа данага моманту і літаратура, і прэса павінны тут адыграць вялікую ролю.

Бясспрэчна, не заўсёды лёгкая бывае барацьба і з Сініцамі, а тым больш са шкоднікамі буйнейшае катэгорыі. Пасьля ўдатнага канца паседжаньня другі, больш адважны гэрой апавяд. „Іспит“ кажа Сініцы: „Це діло таке: або ти, або тебе, середнього нема“.

Канчаем нашы заўважаньні аб І-м вып. Доўгі загаловак апавяданьня („Подорож ученого доктора Леонардо і його майбутньої коханки прекрасної Альцести у Слобожанську Швайцарію“) Майка Йогансэна. Ці гэта не стары наш знаёмы Міхайла Йогансэн, якога поэты лічаць добрым граматыстым, граматыстыя-ж лічаць добрым поэтай. Што гэта той самы, відаць з лаянак па адрасу граматыстых (I, ст. 158—159). Свайго брата, відаць, добра ведае. Але, зразумела, мы пажартавалі, і таварыш Майк не раззлуецца на нас. Дыялектолёгам ён паказаў сябе, сапраўды, ня дрэнным, нават у гэтым-жа апавяданьні, адзін з гэрояў якога просіць даравацъ яму за тое, што ён „неубуздані хохол“, а вось апавяданьне самае, на жаль, нам ня зусім спадабалася. Аўтар добра ведае прыёмы творчасьці, у лёгкім, іранічным тоне гаворыць аб каханьні, на перашкодзе якому часта зьяўляюцца нечакана розныя фізыолёгічныя функцыі чалавечага організму, але сьлед ад гэтага, сапраўды, не мацнейшы, чымся ад „лімонаду“ (з якім Йогансэн і параўноўвае літаратуру),—і менавіта ад лімонаду летам: на другім рагу вуліцы зноў хочацца піць.

Адсутнасьць пэўнага сюжэту-рыса, характэрная і не для аднаго толькі Хвілёвага. Так, напр., апавяданьне Ю. Смоліча „Біля ліжка хворого“ пакідае прыкрае пачуцьце: навошта яго аўтар напісаў? Так і хочацца спадзявацца, што ён далей скажа яшчэ нешта цікавейшае, што рэдакцыя альманаху проста забылася зазначыць, што працяг будзе далей.

У „Записках Юрія Діброві“ П. Лісовога ёсьць цікавыя месцы. Часьціна, надрукаваная ў І вып., прысьвечана, галоўным чынам, барацьбе паміж бацькам Дібровы і яго дзедам, які ніяк не хацеў нікаму з сыноў дазволіць выдзеліцца з „сямейнага калгасу“ і зажыць хоць бедна, але сваёй хатай. „Не про себе, про вас я думаю, кажа стары дзед,

ну який з кожного з вас буде у чорта хазяін на трьох десятинах?“

Спынімся яшчэ на некаторых апавяданьнях II-га выпуску.

Пачатак апавяданьня Досвітняга „Сірко“ рэдакцыі адразу не спадабаўся, але калі потым яна яго прачытала, схапіла сябе за валасы і пачала цягаць па пакоі.

Прачыталі і мы да канца апавяданьне, і шкода нам зрабілася рэдактара. Мусіць, давядзецца яму пакутваць двойчы, бо пры першай магчымасьці можа хто-небудзь з чытачоў схопіць яго за валасы і пачне цягаць па пакоі—за тое, што ён усё-ткі надрукаваў апавяданьне, якое напамінае вядомыя ў кожнай ВЫШ‘ы хадзячыя анэкдоты аб расьсеянасьці профэсароў. Але ёсьць у апавяд. і дзьве, тры рэальныя рыскі. Большменш удала змаляваны сяляне. Рэдакцыі, праўда, зрабілася сорамна за сялян, і яна запэўнівае чытачоў, што ў рудым дзядзьку ня трэба бачыць усяго сялянства, але ўсё-ткі яны ўсе з вялікай прыемнасьцю глядзелі, як беднага профэсара загрызалі сабакі: „тимчасом дядьки сиділи, стояли біля хаток, парканів і не рухались: вони, певно, зачаровані були такою цікавою картиною...“

Далей ідзе „Геній“ Юр. Шоўкапляса. Вось апавяданьне, якое можна прачытаць, як кажуць расійцы, „за один присест“, можна прачытаць, не падштурхоўваючы сябе.

Аўтар дае жывы малюнак з жыцьця Вышэйшай школы, рэальна - об‘ектыўнымі рысамі змалёўвае галоўнага гэроя—Макара, асьпіранта і сакратара навукова-дасьледчае катэдры—кандыдата партыі. Яго адмоўныя рысы Шоўкапляс так выразна адцяніў на фоне моцнае натуры, што чытач пачынае сумнявацца—ці ня хоча ўсё-ткі аўтар выправўдаць свайго гэроя. Рэцэнзэнт Васіленка апавяданьнем, аднак, не задаволіўся; яго ня цікавіць гэрой як жывы чалавек з „життьовою філософією“—„моралістичний підхід“ аўтара яму не спадабаўся, і ён дапытваецца ў аўтара аб зьмесьце „чыстай філёзофіі“ гэроя. Ці ня зьбіраецца ён за гэтую філёзофію апраўдаць гэроя, але ў такім разе ён спазьніўся: значна раней зрабілі гэта профэсары таго Інстытуту, у якім працаваў Макар.

Цікавы нарыс, хоць і бясьсюжэтны „Ярмарок у Славгороді“ Гордыенкі. І наогул кніжку другую трэба вызнаць больш удалай.

Апавяданьне К. Котка „Василь“ прысьвечана грамадзянскай вайне. Усё цяжэй робіцца цяпер пісаць на гэтую тэму, бо аб чым ня скажаш, аб гэтым ужо пісаў хто-небудзь, калі не з украінскіх, дык з расійскіх або з беларускіх пісьменьнікаў. Ёсьць, зразумела, трафарэты і ў Котка (напр., хуткае распаўсюджваньне па гораду выдуманае брахні), але апавяданьне цікава іншым, яно змалёўвае якраз той сумны момант барацьбы, калі дзянікінцы ў Кіеве закатавалі Чумака і Гната Міхайлічэнкі.

Дзіўную трохі ролю ўзяў на сябе О. Вішня—сьмяшыць людзей на паніхідах. І ён сам, мусіць, адчувае, што ад яго абодвых нарысаў (прысьвечаных Квітку-Аснаўяненку і Еллану) чытачу ўсё-ткі таксама сумна, як і яму самому.

Нарэшце, застаецца сказаць аб нарысе Лебедзя, прысьвечаным „Вялікай кнізе“ харкаўскага літаратурнага будынку ім. Блакітнага. З гэтага нарысу, які аўтар пачынае ў дусе Чэхаўскае „Жалобной книги“ м. інш., і беларусы змогуць даведацца, што-ж іхнія пісьменьнікі пісалі ў гэтай кнізе і, зразумела, яны зайздросьцілі украінцам, але-ж заўсёды бывае так, кажа Лебедзь, што лепш нам здаецца там, дзе нас няма; тое самае гаварылі і украінскія пісьменьнікі беларусом у Менску.

Вось і ўсё аб першых дзьвюх кніжках „Літературного Ярмарку“. Яшчэ некалькі слоў аб мове твораў. Тут аўтары дасягаюць найбольшых посьпехаў (пар., хоць-бы яскравыя вобразы ў апавяд. Гордыенкі). **П. Р.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

* Беларускім дзяржаўным выдавецтвам друкуецца новы зборнік твораў Янкі Купалы пад назваю „1918-1928“.

* Цішка Гартны падрыхтаваў і здаў Белдзяржвыдавецтву для друку першы том поўнага збору сваіх твораў.

* Зьм. Бядуля пераклаў і здаў у друк аповесьць яўрэйскага пісьменьніка Шолэм Алейхэма „Хлопчык Мотка“. Таксама друкуецца трэцім выданьнем яго зборнік апавяданьняў „На зачарованых гонях“.

* Валеры Маракоў і Б. Барысэвіч пішуць сцэнары з жыцьця Асінбуду пад назваю „Балоты абуджаюцца“ ў 6 частках.

* У Белдзяржвыдавецтве друкуецца другім выданьнем роман Міхася Зарэцкага „Сьцежкі-дарожкі“.

* Алесь Гародня напісаў і здаў БДВ для друку зборнік крытычных нарысаў пад назваю „На літаратурным фронце“.

* Мсьціслаўскай студыяй Бел. АПП‘у быў наладжаны вялікі вечар беларускае літаратуры, на якім пасьля дакладу і чыткі вершаў была пастаўлена п‘еса сябра гэтай студыі Аўг. Сінякова „Выпярэднікі“ з студэнцкага сучаснага жыцьця.

* М. Лынькоў здаў Белдзяржвыдавецтву для друку новы зборнік пад назваю „Андрэй Лятун“.

* У верасьні г. г. у Менску пачынаецца выданьне беларускага ілюстраванага часопісу.

* БДТ-І закончыў свае гастролі ў Бабруйску, і ўвесь склад яго да паловы верасьня пойдзе ў адпачынак. За мінулы тэатральны сэзон тэатр правёў 210 пастановак. Новы тэатральны сэзон тэатр распачынае ў Гомлі. Яшчэ будучы ў Бабруйску, БДТ-І пачаў рыхтаваць п‘есу Курдзіна „Міжбур‘е“, якая будзе пастаўлена ў Гомлі ў кастрычнікавыя сьвяты. Мастацкае афармленьне гэтай п‘есы даручана кіеўскаму мастаку Крэйну. У Кіеве таксама заказаны дэкорацыі для гэтай-жа п‘есы.

Тэатральны сэзон БДТ-І мяркуе адчыніць п‘есай „Мост“, далей будзе пастаўлена п‘еса „Верацёны“, трэцяй пойдзе „Міжбур‘е“.

Рыхтуюць новыя п‘есы т.т. Міровіч і Рамановіч.

Сэзон 1929-1930 г. пачнецца з першых дзён кастрычніка. Першы Белдзяржтэатр будзе працаваць у працягу 9 месяцаў у Гомлі, робячы выезды ў суседнія акруговыя і раённыя гарады (Рэчыца, Мазыр, Рагачоў, Жлобін, Новабеліца і Добруш). У Менску першыя 5 месяцаў сэзону будзе працаваць Дзяржаўны яўрэйскі тэатр, які адчыняе сэзон п‘есай Даўгапольскага „Поединок машин“, а апошнія 3 месяцы—2-гі Белдзяржтэатр.

* На Асінбуд выехала група кіноработнікаў, каб зрабіць здымкі будаўніцтва станцыі для вялікага культфільму „Знойдзеная зямля“.

У канцы жніўня прыяжджае ў Менск навуковая экспэдыцыя для вывучэньня культуры балот і лугоў на чале з праф. Дзьмітрыевым. Экспэдыцыя наведае цэнтральную балотную станцыю і яе філіі на мохавым балоце, а таксама і Тураўскую дасьледчую станцыю.

* Дырэктар Белгеофізу проф. Кайгародаў канчае вялікую працу „Клімат Беларусі“. Гэта праца зьяўляец-

ца тэкстам да выданага Інстытутам кліматычнага атлясу Беларусі.

Беларускай сел.-гасп. акадэміяй здаюцца ў друк: праца проф. Пелехава „Вынікі экспэдыцыйнага вывучэньня жывёлагадоўлі Віцебскай і Менскай акруг“ і чарговы нумар часопісу „Сельская і лясная гаспадарка“, прысьвечаны пытаньням мэліорацыі і культуры балот.

* ЦК ЛКСМБ пастанавіў з лістапада месяца пачаць месячнік беларускай культуры.

Да месячніку будуць прыцягнуты грамадзкія і дзяржаўныя організацыі.

* Галоўмастацтвам дазволена мастацкаму тэхнікуму наладжваць пэрыодычныя выстаўкі карцін беларускіх мастакоў. Бліжэйшую выстаўку намечана організаваць у студзені 1930 г. З Віцебску выстаўка будзе пераведзена ў Менск.

* Згодна пастановы журы па правядзеньні конкурсу на лепшую п'есу для клюбнай і вясковай сцэны—конкурс працягнут да 1-га верасьня.

З паступіўшых п'ес пакуль ніводная не прэміравана, аднак, сярод аўтараў ёсьць здольныя драматургі.

* З паловы жніўня БДТ-2 приступіў да падрыхтоўчай працы да новага тэатральнага сэзону. Тэатр будзе працаваць да сакавіка 1930 г. у Віцебску, пасьля чаго пераяжджае ў Менск. У сучасны момант падрыхтоўваецца музыкальная п'еса Заявіцкага „Простыя сэрцы“.

* Дзяржвыдавецтва РСФСР адначасова з выданьнем лепшых твораў пісьменьнікаў і поэтаў саюзных і аўтономных рэспублік парашыла выдаваць і ноты нацыянальных композытараў. У бягучым годзе будзе выдана да 60 музыкальных твораў беларускіх, украінскіх, грузінскіх і татарскіх аўтараў.

* Галоўнавука БССР пастанавіла давесьці лік асьпірантуры ў 1929-30 годзе да 250 чалавек замест цяперашніх 130. Асьпіранты будуць разьмеркаваны наступным чынам: у ВНУ—165 чал., Акадэміі Навук—35 чал., у Інстытуце імя Леніна—44 і ў Інстытуце Прамысловасьці—6 чалавек.

* Белдзяржкіно здымае фільм „Гомельшчына“, які адбівае гаспадарчыя і культурныя дасягненьні Гомельскай акругі. Фільм робіцца па заказу Гомельскага Акрвыканкому.

* У гэтым годзе Белдзяржкіно пасылае 10 стыпэндыятаў у кіно-тэхнікумы РСФСР. З 10 месц—7 прадастаўляюцца на рэжысэрскіх аддзяленьнях кіно-тэхнікуму ў Маскве, 3 чалавекі пасылаюцца на опэратарскае аддзяленьне фото-кіно-тэхнікуму ў Ленінградзе і 3 месцы вызначаюцца для рабфакаўцаў у маскоўскі кіно-тэхнікум.

* Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр, пад кіраўніцтвам народнага артыстага Галубка, 31 ліпеня вярнуўся з паездкі па провінцыі ў Менск.

Вандроўны тэатр працаваў у Гомельскай акрузе і пабываў у самых глухіх кутках. За 70 дзён сваёй працы тэатр паставіў у розных кутках Гомельшчыны 64 спэктаклі і концэрты. Спэктаклі адбываліся ў вялікіх пунях, куды сяляне сходзіліся з вакольных вёсак, нясучы з сабой зэдлікі, лаўкі і калодкі для сядзеньня.

Было шмат выпадкаў, калі сяляне з далёкіх вёсак прыходзілі з просьбай, каб тэатр прыехаў да іх. Сялянства, батракі і чырвонаармейцы з вялікай ахвотай ішлі на пастаноўкі тэатру. І тэатр-пуня ніколі ня мог умясьціць усіх жадаючых пабачыць беларускі тэатр.

У Лоеве ў дзень міжнароднага сьвята коопэрацыі тэатр даў концэрт на плошчы, дзе прысутнічала да 5.000 сялян, і, апрача таго, у гэты дзень артыстым прышлося даць яшчэ 2 концэрты ў памяшканьні мясцовага тэатру.

Наогул, за ўвесь час працы ў Гомельшчыне, Вандроўны тэатр абслужыў да 70.000 чалавек-сялян, батра-

коў, чырвонаармейцаў, абслужыў тэатр і шэраг конфэрэнцый. Усюды тэатр карыстаўся вялікім посьпехам.

Асаблівым посьпехам карысталася ў сялянства п'еса „Кастусь Каліноўскі", якая была пастаўлена 8 разоў.

Большую частку сваёй працы Вандроўны тэатр правёў у вёсках Гомельшчыны, спэктаклі даваліся бясплатна, а таму тэатр адчуваў вялікі недахоп матэрыяльных сродкаў. Наркамасьветы трэба падумаць аб тым, каб у бюджэце будучага году прадугледзець павялічэньне асыгнаваньняў на выезды тэатру ў сельскія мясцовасьці.

Цяпер колектыў тэатру атрымаў водпуск для адпачынку.

* На фабрыцы Белдзяржкіно скончана карціна „Готэль Савой" паводле сцэнарыя т. Вольнага. Карціна паказвае, як формуецца клясавая сьвядомасьць чырвонаармейца, спракаванага стракапытаўшчынай на барацьбу з савецкай уладай.

* У Віцебскай акрузе зараз кіноэкспэдыцыя пад кіраўніцтвам рэжысэра А. Леўшына робіць натурныя здымкі для карціны „Хамельён"

* Рэжысэр Тарыч працуе над распрацоўкай вялікага сцэнарыя „Чорная кроў" (назва ўмоўная), які адбівае жыцьцё фашысцкай Польшчы.

* Таварыства прыхільнікаў вобразнага мастацтва мяркуе організаваць увосень у Менску выстаўку украінскай жывапісі і скульптуры. Зараз па гэтым пытаньні вядуцца перагаворы з Галоўмастацтвам НКА УССР і аб'яднаньнямі украінскіх мастакоў.

* ЦП саюзу працаўнікоў мастацтва пастанавіла адкрыць у памяшканьні цырку новае кіно „Музік-хол". Перад Белдзяржкіно ўзьнята пытаньне аб забясьпечаньні кіно новымі фільмамі.

У новым кіно будуць выступленьні артыстых эстрады пасьля сэансаў.

* Белдзяржмузтэхнікум у надыходзячым годзе падрыхтуе пастаноўку дзьвёх опэр „Галька" і „У даліне". Опэры будуць пастаўлены ў Белдзяржтэатры.

* Этнограф Сербаў, па даручэньні Акадэміі Навук, езьдзіў у маладасьледаваныя раёны Мазырскай і Гомельскай акруг (дэльта Дняпра і Прыпяці).

Абсьледаваны раёны — Юравіцкі, Хойніцкі, Брагінскі, Лоеўскі і Рэчыцкі.

Мясцовасьць гэта па сваёй прыродзе вельмі орыгінальныя. Рэчка Брагінка падзяляе яе на два зусім паасобныя вучасткі. Правабярэжная заходняя частка (Брагінскі, Хойніцкі раёны) мае багатыя ўраджаі збожжа ярыны; насельніцтва жыве заможна; па левым-жа баку Брагінкі цягнуцца сыпучыя пяскі (Лоеўскі, і Рэчыцкі раёны), ураджаі малыя, насельніцтва рэдкае.

Да гэтага часу была пашырана думка (па вестках ЦСУ), што ў гэтым раёне вельмі мяшанае насельніцтва (расійцы, беларусы, украінцы). Вывучаючы іх матэрыяльную і духоўную культуру, асабліва фольклёр, дасьледчыкі пераканаліся, што там жывуць пераважна беларусы.

Захаваліся бытавыя старыя беларускія абрады (радзіны, вясельле, хаўтуры і г. д.).

У мове добра захаваліся тыповыя формы жывой беларускай гаворкі. У народных абрадавых песьнях і песьнях працы выяўлена многа старадаўніх мотываў і мэлёдый (у жніўных песьнях).

З матэрыяльнай культуры зварочвае на сябе ўвагу мяжа тыповых беларускіх азяродаў; яна канчаецца ў Юравіцкім раёне (вёска Аўцюцівічы). На ўсход ад гэтых мясьцін азяроду ўжо няма.

З помнікаў старажытнасьці выяўлена стаянка нэолітычнага пэрыоду: каля в Клёвы на сядзібе Загальскага лясьніцтва знойдзены каменныя прылады: малаткі, тапары, карнёвыя нажы. З пэрыоду курганнай культуры выяўлена некалькі магільнікаў, якія занесены на карту. Ускрыты два магільныя курганы каля вёскі В. Аўцюцівічы і два каля вёскі Пасялічы.

У курганах знойдзена тыповае трупапаленьне. Агледжана паселішча паміж Вялікімі і Малымі Аўцюцівічамі на левым беразе рэчкі Зацаванкі. Гадоў 75 таму назад, тут, у тарпяных балотах, знойдзена загінуўшае судно з грузам воску, які сяляне прадалі гандляром.

Зараз на гэтым паселішчы знойдзены чарапкі гаршочнага начыньня з тыповым орнамэнтам старых часоў.

Другое такое-ж паселішча выяўлена на захад ад вёскі Клёвы, дзе знойдзены старадаўнія сярпы і косы.

Ня гледзячы на тое, што этнографічная экспэдыцыя ня мела магчымасьці доўга спыняцца на вызначаных пунктах, аднак матэрыялу сабрана багата па ўсіх галінах этнографіі.

* Скончыў працу камітэт па арганізацыі Інстытуту прамысловасьці ў БССР. Ужо выпрацаваны плян працы інстытуту на наступны год і складзены каштарысы. Камітэт зьвярнуўся ў СНК з просьбай адпусьціць сродкі на проектаваньне будынкаў інстытуту. Зараз ідзе выбар канчатковага месца для пабудовы дому пад інстытут. Ёсьць два варыянты: адзін— пабудаваць дом за Ляхаўкай, каля фабрыкі цукерак, і другі—на Камароўцы.

У бліжэйшыя дні абвяшчаецца конкурс на замяшчэньне кіруючых пасад у інстытуце. Ужо зараз інстытуту прамысловасьці перадаецца тарфяная станцыя. ВСНГ мяркуе перадаць інстытуту хэмічную лябараторыю, керамічную і мэханічную лябараторыі.

Нам. дырэктара ўсесаюзнага Інстытуту сылікатаў проф. Юнг згадзіўся адкрыць аддзяленьне інстытуту сылікатаў пры Беларускім прамысловым інстытуце.

Інтытут прамысловасьці будзе адкрыты з 1 кастрычніка бягучага году.

* Па даручэньні юбілейнай камісіі дзесяцігодзьдзя БССР мастак В. Воўкаў працуе над заказанай яму камітэтам вялікай карцінай—„Падпісаньне маніфэсту аб абвяшчэньні БССР“.

Гэтымі днямі мастак свой першы эскіз прадставіў на разгляд удзельнікаў гэтага акту і прадстаўнікоў розных організацый, якія зрабілі мастаку свае заўвагі. Увосень будзе дадзены яшчэ адзін эскіз. пасьля чаго т. Воўкаў прыступіць да пісаньня карціны, якую мяркуе скончыць да кастрычнікавых сьвят у 1930 годзе.

* Акадэмія Навук пасылае т. Азбукіна ў Марыйскую вобласьць у склад географічнай экспэдыцыі проф. Дабрыніна. Марыйская вобласьць зьяўляецца мясцовасьцю, падобнай да беларускага Палесься, і задача т. Азбукіна даць параўнальны агляд Марыйскай вобласьці і Палесься.

* Ленінградзкае яўрэйскае гісторыка-этнографічнае таварыства організуе навуковую экспэдыцыю ў БССР.

* З 22 чэрвеня да 6 ліпеня „Рабочы тэатр“ пабываў у наступных пунктах: Смалявічах, Барысаве, Крупках, Бабры, Слаўным, Талочыне і Кохանаве.

За гэты час дадзена 16 паказаў абслужана $3^1/_2$ тыс. насельніцтва.

Свае пастаноўкі колектыў робіць у тыдзень сем разоў без выхаднога дня.

* У гэтым годзе Віцебскі Мастацкі Тэхнікум скончылі 21 чалавек, з іх: па жывапіснаму аддзяленьню—19 і 2—па скульптурнаму. Керамічнае аддзяленьне тэхнікуму свой першы выпуск дасьць у наступным годзе.

* Калегія Наркамасьветы прыняла 5-гадовы плян кінофікацыі БССР.

Паводле гэтага пляну прадугледжваецца выпуск Белдзяржкіно 52 мастацкіх фільмаў. Выпуск кіно-хронікі павялічыцца з 10 нумароў у год да 24 нумароў.

У канцы пяцігодкі ў Віцебску намячаецца пабудова кіно-фабрыкі, на што будзе адпушчана да 350.000 р.

Сетка кіно-ўстаноў будзе разгорнута так, каб усе найбольш буйныя

насельныя пункты і раёны мелі кінотэатры. У Віцебску і Гомлі будуць адчынены курсы на 440 кіно-мэханікаў.

Новыя кіно-тэатры будуць пабудованы ў Менску, Бабруйску і Воршы.

* У 1930 годзе мяркуецца распачаць пабудову новага будынку гарадзкога тэатру ў Менску. Гэты будынак будзе каштаваць каля мільёну рублёў. Тэатр будзе разьлічаны на 2.000 чалавек і будзе прыстасаваны для пастановак балету, опэр і масавых драм.

* Праўленьне Дому Пісьменьчіка склала проект на заканчэньне рамонту Дому Пісьменьніка. Пад Дом Пісьменіка будзе адведзена таксама ўсё памяшканьне, якое цяпер займае акруговая прокуратура. Паводле каштарысу, на рамонт дому патрабуецца 15.000 руб.

Гэты каштарыс унесены на зацьверджаньне Наркамасьветы.

* Савет Народных Камісараў БССР адпусьціў БелАПП'у 1.500 руб. на організацыю экскурсій пісьменьнікаў у яўрэйскія колгасы і на буйныя будаўнічыя работы.

Першая група экскурсантаў ужо выехала.

* Прэзыдыум БАН пастанавіў накіраваць экспэдыцыю для вывучэньня вапнякоў у раёне р. Сар'янка, Полацкай акругі. Экспэдыцыю даручана організаваць Геолёгічнаму інстытуту.

* Пры беларускай кіно-фабрыцы ў Ленінградзе організуецца група сцэнарыстых. У гэту групу будуць накіраваны маладыя беларускія пісьменьнікі і рабкоры. Для іх будуць організаваны шасьцімесячныя курсы па вывучэньні сцэнарнай справы. Курсанты будуць атрымоўваць стыпэндыі.

* 15-га верасьня ў Доме Пісьменьнікаў адбыўся вялікі жалобны вечар, прысьвечаны ўшанаваньню памяці поэты Паўлюка Труса.

З дакладам аб жыцьці і творчасьці нябожчыка выступіў тав. Аляхновіч. Пасьля дакладу Аляхновіча таварышы з БелАПП'у прачыталі найбольш характэрныя творы нябожчыка.

З чыткай уласных твораў, прысьвечаных памяці Паўлюка Труса, выступалі: Васіль Каваль, Валеры Маракоў, Юлі Таўбін і інш. Заля Дому Пісьменьніка была перапоўнена моладзьдзю.

* Беларуская Асоцыяцыя Пролетарскіх Пісьменьнікаў энэргічна рыхтуецца да правядзеньня беларускага тыдню ў Маскве і ажыцьцяўленьня на справе лёзунгу братэрскай сувязі нацыянальных пролетарскіх культур.

10 кастрычніка ў горадзе Тыфлісе адбудзецца пленум савету ВАПП'у. На гэтым пленуме канчаткова будзе вырашана пытаньне аб правядзеньні беларускага тыдню ў Маскве і паездцы туды беларускіх пісьменьнікаў.

* Новы сэзон яўрэйскага Белдзяржтэатру ў Менску пачаўся 12 кастрычніка і будзе працягвацца да 15 сакавіка.

Тэатр дасьць 80 спэктакляў—па 4 у тыдзень; па чацьвяргох, пятніцах, суботах і нядзелях. З новых п'ес, якія яшчэ ня былі пастаўлены ў Менску, трэба адзначыць—„Тойбер" Бэргельсона, „Гопля жывём"—Толера, „Барацьба машын"—Доўгапольскага і „Амэрыка"—Гадзінэра. З мінулых пастановак у новы рэпэртуар уключаны „Ботвін", „Лекерт", „Овечий источник", „На покаянной цепи" і „Патомства". Як і ў мінулыя гады, тэатр будзе абслугоўваць організаванага гледача.

На працягу сэзону мяркуецца склікаць дзьве конфэрэнцыі рабочых гледачоў, а таксама конфэрэнцыі рабкораў разам з работнікамі газэт.

* Прэзыдыум ЦП Саюзу працаўнікоў мастацтва пастанавіў падтрымаць прапанову рабочых аб правядзеньні 2-га дню індустрыялізацыі.

Усе кіно і тэатры Беларусі 25 сьнежня будуць працаваць у фонд індустрыялізацыі краіны.

* У зьвязку з уходам т. Сянькевіча на работу ў ЦК КП(б)Б рэктарам Беларускага комуністычнага унівэрсытэту імя Леніна назначаны т. Саевіч.

Да гэтага часу т. Саевіч быў рэктарам Беларускай с.-г. Акадэміі ў Горках.

* У сярэдзіне верасьня г.г. ў Менск прыяжджаў прадстаўнік самай вялікай аргентынскай газэты „Ла Нацыон“, вядомы гішпанскі пісьменьнік і журналісты Альварэц дэль-Вайо, аўтар першага твору пра СССР на гішпанскай мове „Новая Расія“.

Іншыя нарысы гэтага аўтара „Чырвоная сьцежка“ прызнаны лепшай кнігай на гішпанскай мове за 1928 г. У ёй сабраны ўражаньні пісьменьніка аб яго жыцьці ў часе вайны і рэволюцыі ў Нямеччыне. У бліжэйшы час „Чырвоная сьцежка“ выйдзе на расійскай мове ў выданьні ГІЗ‘а.

Мэта прыезду Альварэца дэль-Вайо—дэтальна пазнаёміцца з бытам, жыцьцём і культурай народаў СССР.

* Поэта Андрэй Александровіч назначаны намесьнікам дырэктара Белдзяржкіно.

* Яўрэйскі дзяржтэатр распрацаваў шэраг мерапрыемстваў па дапамозе рабочым клюбам у правядзеньні антырэлігійнай кампаніі. Організавана спэцыяльная консультацыя па дапамозе мастацкімі выступленьнямі ў часе сьвят.

* Рэжысэр Найдзіч здымае культурфільм „Новы горад“, які адбівае дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва Гомельшчыны.

* Пры Беларускай кіно-фабрыцы організавана экспэрымэнтальная група па гукавому кіно пад кіраўніцтвам опэратара Машковіча. Група праводзіць досьледы на падставе сваіх вынаходцаў.

* Галоўмастацтва БССР атрымала запрашэньне організаваць гастролі яўрэйскага дзяржаўнага тэатру БССР у Нікалаеве.

* У 1930 г. ў Маскве наладжваецца ўсесаюзная алімпіяда нацыянальных тэатраў. Галоўмастацтва атрымала прапанову прыняць удзел у алімпіядзе. Пачынаюцца падрыхтоўчыя работы да алімпіяды.

* У Менску організуецца беларускае таварыства прыхільнікаў тэатру. Культнарада пры ЦСПСБ вызначыла 5 прадстаўнікоў ад профсаюзных і клюбных організацый для правядзеньня адпаведнай організацыйнай работы.

* ЦБ Краязнаўства выклікае на соцыялістычнае спаборніцтва Украінскі Камітэт Краязнаўства.

Об‘ектамі спаборніцтва вызначаны: разгортваньне краязнаўчай сеткі на паасобных прадпрыемствах і нізавых адміністрацыйных аддзелах, разгортваньне школьнай краязнаўчай сеткі ў 7-годках, тэхнікумах, ВНУ, уцягненьні ў краязнаўчую справу большага процанту рабочых, сялян і моладзі, вывучэньне колектыўнай формы гаспадаркі, гісторыі рэвруху і г. д.

Праверку вызначанага пляну пастаноўлена праводзіць праз паўгода.

## Беларуская культура за рубяжом

* У вышаўшай 2 чэрвеня ў Дзьвінску кніжцы, прысьвечанай Лагальскаму сьпявацкаму сьвяту пад назовам „Latgałes dziesmu un muzikas swetki“ зьмешчаны на старонках 16-й 23-й, 24-й і 37-й розныя весткі аб беларускім хоры Дзьвінскае беларускае дзяржаўнае гімназіі, які ў ліку 60 чалавек прымаў удзел у памянёным сьвяце. У тэй-жа кніжцы зьмешчаны беларускія сьпевы, сьпяваныя хорам (надрукаваны па-беларуску) і фотографія ўдзельнікаў беларускага хору.

* Гэтымі днямі вышаў у Рызе зборнік твораў Пётры Сакола „На сьвітаньні“, з прадмоваю К. Езавітава і біографічнымі данымі пра Пётру Сакола.

Пятро Сакол—адзін з першых маладых беларускіх поэтаў у Латвіі, „першакрокавец“, што прымаў удзел у выданьні першага зборніку 20 маладых латвійскіх поэтаў „Першы крок“, які вышаў у Рызе ў 1926 г.

Аднак літаратурны стаж яго пачынаецца значна раней, і ўжо ў 1923—24 навучальным годзе ён зьмяшчае свае вершы і ўваходзіць у рэдакцыйную колегію вучняў Люцынскае беларускае гімназіі, якія друкавалі на шапірографе штомесячнік „Ластаўка“, а потым у красавіку 1924 г. выпусьцілі невялічкі зборнік пад тым-жа назовам „Ластаўка“, апошні быў надрукаваны ў Люцынскай друкарні В. Суэра.

Радзіўся Пятро Сакол 1 ліпеня 1905 году ў мястэчку Пасін, Люцынскага павету. Дзіцячыя гады правёў на вёсцы, тут-жа і пачаў вучыцца, а потым вучыўся ў Себежы і ў Люцыне, спачатку ў асноўнай школе, а потым у Люцынскай беларускай гімназіі т-ва „Бацькаўшчына“. Калі гэтая гімназія зрабілася ўрадавай гімназіяй, дык Пятро Сакол з яе выступіў, бо ня меў сродкаў вучыцца. Праз некалькі год накіраваўся ён у Рыгу на беларускія дзяржаўныя настаўніцкія курсы, а пасьля іх—на пасаду настаўніка. Аднак на настаўніцкай пасадзе ня доўга прабыў Пятро Сакол: праз год быў пазбаўлены права выкладаньня і звольнены з пасады. Зараз Пятро Сакол—рабочы на чыгунцы.

„Бяздомнае і бадзяжнае жыцьцё адбілася і на маіх вершах“,—зазначае ў сваім лісьце да беларускага выдавецтва ў Латвіі Пятро Сакол: „Мой „шлях жыцьця“ адбіўся ў маім зборніку, які выяўляе тры галоўныя этапы майго жыцьця: нацыянальнае адраджэньне, „голас цела“ і змаганьне пролетарыяту, у шэрагі якога ня ўступіў“.

Беларускае выдавецтва ў Латвіі, выпускаючы гэты першы асобны зборнік вершаў Пётры Сакола, зазначыла ў прадмове, што яно не жадала ні рабіць паправак у мове, ні націскаць на пераробкі ў вершах з мэтаю выраўненьня іхнае ідэолёгіі. Зроблена гэта з тэй мэтай, каб зафіксаваць сучасны твар поэты і потым сачыць за ягоным разьвіцьцём і ростам.

Кніжка зборніка складаецца з 80 старонак і мае 4 разьдзелы: „На сьвітаньні“, „Дурман каханьня“, „Песьні волі“ і „Пераклады“. У кніжцы ёсьць вершы, якія ўжо друкаваліся ў газэце „Голас Беларуса“, ёсьць і зусім новыя недрукаваныя вершы. Пажадана, каб наша крытыка грунтоўна разабрала гэты зборнік, бо беларускае крытыкі на месцы, у Латвіі, сярод беларускае меншасьці—яшчэ не нарадзілася. Між тым, з узростам поэтычных спроб і чыннасьці беларусаў у Латвіі, патрэба ў крытычным разглядзе твораў маладых беларускіх поэтаў усё больш нарастае.

Па ўсёй Латгаліі, дзе ёсьць беларускае жыхарства, распачаліся „дні беларускае культуры“, організаваныя мясцовымі беларускімі настаўнікамі пры школах, з дапамогаю беларускага рыскага народнага тэатру і беларускіх лектароў, якія наяжджаюць з Рыгі. Асабліва цікава дні беларускай культуры адбываюцца ў вёсках. Так, 7 ліпня адбыўся гэткі дзень у Залескай беларускай школе ў Пасіншчыне, люцынскага павету. На гэты дзень у школу, што знаходзіцца ў палацы былога маёнтку барона Розэна „Залесьсе“ сабралася 500 чалавек сялянства з усяе акругі. Ставілася п'еса „На Антокалі“. Гралі артыстыя рыскага беларускага народнага тэатру. Затым выступаў беларускі хор і прамоўцы. Уражаньне ад дню засталося моцнае. У наступную нядзелю адбудуцца гэткія-ж дні ў іншых пунктах Люцыншчыны і Дзьвіншчыны.

* У часопіс „Seunacinlo“ (Інтэрнацыянал“), якая выдаецца на эспэранцкай мове ў Парыжы, надрукаваны артыкул Зьм. Сьнежкі пра літаратурную творчасьць Зьм. Бядулі, з портрэтам пісьменьніка.

* 27-28 (падвойны) нумар двухтыднёвай ілюстраванае часопісі Усесаюзнага таварыства культурнае сувязі з замежжамі, якая выдаецца ў Маскве на трох мовах: нямецкай, францускай і ангельскай, цалкам прысьвечаны культурнаму жыцьцю Беларусі.

* У чэскім часопісе „Новэ Руско“ увесь 10-12 нумар цалкам прысьвечаны Савецкай Беларусі. Паміж іншымі матэрыяламі часопісу зьмешчаны шэраг артыкулаў, якія малююць рост нацыянальных культур у БССР.

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* У Адэскім гістарычным архіве знойдзена жандарская справа з чэрвеня 1847 г. „Кірыла-Мэтодзіеўскае брацтва“. Начальнік корпусу жандараў лістом паведамляў адэскага палкоўніка Гравэ, што мастак Шэўчэнка, Кастамараў і настаўнік Куліш хлусьліва малююць Украіну, якая быццам знаходзіцца ў дрэнным становішчы, убостве. У лісьце пералічваюцца кнігі, забароненыя ў зьвязку са справаю аб брацтве. Сярод іх—„Кобзар“—Шэўчэнкі, аповесьць Куліша „Украінскі народ“ і „Украінскія балляды“—Кастамарава. Асабліва жандарскі генэрал лютуе супроць твораў Шэўчэнкі „Пасланьне мёртвых жывым“ і „Тры душы“.

* У пачатку чэрвеня ў Харкаве адчынілася 2-я ўсеукраінская выстаўка архітэктурнага будаўніцтва. Заданьне 2-й выстаўкі, як і 1-й (што была ў чэрвені-ліпені 1927 г.), выявіць дасягненьні ў галіне будаўніцтва за час пасьля рэволюцыі, устанавіць практычны абмен досьледамі паміж будаўнічымі організацыямі і асобнымі архітэктарамі, зацікавіць пытаньнямі архітэктуры шырокія масы і выявіць архітэктурныя сілы краіны.

Акрамя таго, выстаўка ставіць сабе за мэту зьніжэньне выдаткаў па будаўніцтву і рацыяналізацыю яго, падкрэсьленьне позытыўных і нэгатыўных момантаў мінулага этапу.

* Нядаўна выдавецтва „Рух“ выпусьціла наступныя новыя выданьні: Мікола Горбань—„Казак і ваявода“ (гістарычная аповесьць), Іван Франко—„Лель і Полель“ (аповесьць, дагэтуль недрукаваная); Пётра Голота—„Бруд“ (аповесьці і апавяданьні); Г. Хадкевіч—Творы, т. IV (апавяданьні); Л. Старыцка-Чарняўская—„Іван Мазэпа“ (аповесьць); П. Хрысьцюк — „Пісьменьніцкая творчасьць В. Вінічэнка“.

* У чэрвені вярнуўся ў Харкаў украінскі вокальны квартэт ім. Лысэнка, які браў удзел у культпаходзе за украінскую культуру. У культпаходзе квартэт ім. Лысэнкі быў больш 4 месяцаў.

У Харкаве квартэт ім. Лысэнкі прабыў да пачатку ліпня. Гэты час быў скарыстаны для падрыхтоўкі падарожжа на Каўказ, пасьля якога квартэт мае зноў выехаць у падарожжа па Украіне.

Квартэт імя Лысэнкі выклікаў на соцыялістычнае спаборніцтва квартэт ім. Леонтовіча пад лёзунгам „Музыка масам“.

* Вядомы цюркскі поэта Алла-Вэрдаў рыхтуе да друку выданы ім пераклад на цюрскую мову вядомай поэмы Шэўчэнкі „Наймічка“. Яна мае выйсьці ў Азэрбайджане ў гэтым годзе.

* У гэтым годзе ў Кіеве мае быць адчынена выстаўка японскага кіно. Выстаўку наладжвае Ўсеукраінскае таварыства культурнай сувязі з закардонам.

* У першай палове чэрвеня ў Харкаве, у будынку літаратуры ім. Блакітнага адбыўся тэатральны дыспут аб „Падліку зімовага сэзону і пэрспэктыве наступнага сэзону 1929-30 году“.

* Коопэрацыйнае таварыства „Рух“ падрыхтоўвае да друку сэрыю монографій пра украінскіх мастакоў пад назваю „Украінскае малярства“ пад рэдакцыяй проф. С. Таранушанка.

* Пры Інстытуце Шэўчэнка ў Харкаве організоўваецца збор усіх шэўчэнкаўскіх малюнкаў, рукапісаў і мэморыяльных рэчаў, а пры харкаўскай філіі інстытуту мяркуецца заснаваць літаратурны архіў усіх украінскіх пісьменьнікаў, пачынаючы ад Катлярэўскага.

* У зьвязку з тым, што ў часе раскопак на Украіне сабрана шмат розных гістарычных монэт, Усеукраінская акадэмія навук прыступіла да організацыі ў Кіеве Усеукраінскага нумізматычнага музэю.

* Паводле пастановы цэнтральнай камісіі для ўвекавечаньня памяці Міхайлы Кацюбінскага, Віньніцкая акруговая камісія і Віньніцкая філія ўсенароднае бібліотэкі пры ВУНА павінны апрацаваць і выпусьціць у сьвет ілюстраванае выданьне такіх твораў Кацюбінскага: „Цені забытых продкаў“ і „Fata morgana“. „Першае выданьне і сваёй тэмаю (з гацульскага жыцьця) і апрацаваньнямі (ілюстравала О. Кульчыцкая з Перамышлю, прадмову напісаў А. Крушальніцкі з Львова) мае выявіць Кацюбінскага як пісьменьніка украінскай зямлі, не зважаючы на кардоны. Выданьне нядаўна ўжо вышла з друку і праз мясцовыя акруговыя камісіі для ўвекавечаньня памяці Міх. Кацюбінскага будзе пашырана па ўсіх акругах Украіны.

Выданыя аповесьці „Fata morgana“ прадстаўляюць Кацюбінскага як песьняра рэволюцыі 1905 г. на сяле і пісьменьніка-грамадзяніна. Камісія для ўвекавечаньня памяці М. Кацюбінскага надае гэтаму выданьню асаблівае значэньне і хоча, каб яно было шэдэўрам украінскага кніжнага мастацтва. Падрыхтаваньне гэтага выданьня даручана спэцыяльнай камісіі ў складзе т.т. Лакізы, прадстаўніка камісіі па ўвекавечаньні памяці Міх. Кацюбінскага, В. Атаманаўскага і прадстаўніка ДВУ т. Шыла, якая 18 чэрвеня пад старшынствам заг. кіеўскай філіі ДВУ т. Шмайонэка ўстанавіла асноўныя прынцыпы мастацкага афармленьня выданьня. Мастацкае афармленьне выданьня даручана вядомаму украінскаму графіку В. Касьянаву. Само выданьне будзе вялікага формату, будзе мець 30 ілюстрацый.

Кніга пойдзе ў друк у сярэдзіне лістапада г. г. і выйдзе ў сьвет у пачатку мая 1930 г.

Увесь прыбытак ад продажу гэтых выданьняў пойдзе на фонд будаваньня помніка Міх. Кацюбінскаму, а орыгінальныя ілюстрацыі (дрэварыты) камісія па ўвекавечаньні памяці Міх. Кацюбінскага перадасьць пасьля аддрукаваньня музэю ім. М. Кацюбінскага ў Віньніцы.

* У Львове нядаўна організавалася „Украінскае таварыства бібліографаў“.

Таварыства ставіць сваёй мэтай спрыяць росквіту украінскай кнігі, дбаць пра захаваньне даўнейшае кнігі і пашыраць азнаямленьне з ёю. Таварыства мае на мэце організоўваць сходы членаў з рэфэратамі і дыскусіямі, наладжваць адпаведныя курсы і лекцыі, організоўваць выстаўкі друку, скліканьне нарад і зьезды па справах кнігазнаўства, аднаўляць сувязь з іншымі таварыствамі, якія маюць падобныя-ж мэты, выдаваць бібліофільскія выданьні, весьці антыкварыят даўнейшай кнігі.

У члены праўленьня „Украінскага таварыства бібліографаў“ абраны старшынёю—В. Шчурата, членамі—д-р Іл. Сьвяніцкі, д-р Крыпяткові́ч, В. Дарашэнка, П. Каўжук і М. Матчанка.

* У ліпні ў Савецкую Украіну прыбыў з Канады вядомы украінскі пісьменьнік Міраслаў Ірчан. 9-га ліпня ў будынку літаратуры ім. Блакітнага ў Харкаве на чарговым сходзе харкаўскай організацыі ВУСПП‘у Міраслаў Ірчан выступіў з дакладам пра стан украінскае літаратуры ў Канадзе і пра адносіны канадзкіх літаратараў і украінскіх рабоча-фэрмэрскіх мас да сучасных груповак ва украінскай літаратуры. Ён адзначыў, што як у Канадзе, так і ў Злучаных Штатах, неукраінскія масы ня

ведаюць украінскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. Як на прыклад гэтага ён паказаў на Антолёгію сусьветнай пролетарскай поэзіі, якая яшчэ нядаўна вышла ў сьвет. У гэтую антолёгію з украінскіх пісьменьнікаў увайшлі толькі Тарас Шэўчэнка і Мікола Тарноўскі, пролетарскі поэта, які пабываў у Нью-Ёрку.

Дакладчык адзначыў таксама, што украінскія літаратары ў Канадзе і ў Злучаных Штатах ня маюць організаванай сувязі з амэрыканскімі пісьменьнікамі і інформаваў, як цяжка прабівацца украінскай кнізе ў Амэрыцы.

Нарэшце, пісьменьнік зазначыў пра сваю літаратурна-організацыйную прыналежнасьць.

Міраслаў Ірчан застаецца на Украіне і будзе там працаваць.

* Гэтым летам група пісьменьнікаў: А. Панів, В. Сосюра, В. Кузьміч, С Божко і В. Чэчвянскі выяжджалі ў Запарожжа на літдыспуты.

Пісьменьнікі наведвалі прадпрыемствы і клюбы Запарожжа, Дняпростану, зрабіўшы 25 літвыступленьняў. Акрамя выступленьняў, пісьменьнікі знаёміліся з бытам рабочых і будаўніцтвам Днепрастану. Частка групы (Божко і В. Сосюра) з Запарожжа выехала ў Мелітопаль і правяла там некалькі выступленьняў на прадпрыемствах і клюбах.

* З мэтаю наладжаньня інформацыі закардону пра літаратурна-мастацкае жыцьцё УССР пры таварыстве культурнай сувязі з закардонам адбылася нарада па пытаньні організацыі літаратурна-мастацкай сэкцыі пры прэсбюро таварыства.

Паводле пастановы нарады, вышэйшым органам літаратурна-мастацкай сэкцыі будзе зьяўляцца праўленьне, а рабочаю часткаю—бюро сэкцыі. Савет складаецца з сталых прадстаўнікоў такіх організацый: усіх літорганізацый (ВУСПП, Плуг, Маладняк, Заходняя Украіна, Авангард і „Організацыя пісьменьнікаў пры літаратурнай ярмарцы"), выдавецтваў (ДВУ, Кнігаспілка, Украінскі робітнік, Рух і Пролетары) часопісу „Критыка", Інстытуту Шэўчэнка, катэдры літаратуры ІНО, прадстаўнікоў ад Агітпропу ЦК КП(б)У, ВУРПС, ЦК ЛКСМУ, МК пісьменьнікаў, Галоўліту, Дому літаратуры ім. В. Блакітнага і тых прадстаўнікоў, якія вылучыць у савет нарада мастацкіх організацый.

Бюро сэкцыі складаецца з 9 чалавек: 1 старшыня і па чатыры прадстаўнікі ад літаратурнага і мастацкага (тэатр, музыка) сэктараў. Літнарадаю ў бюро абраны т.т. Белакрыніцкі (НКО), Ткачук, Мікіценка і Любчанка.

Згодна пляну работы сэкцыі, які пераданы на далейшае распрацаваньне Бюро, інформацыйная работа сэкцыі будзеісьці ў такіх напрамках: высьвятленьне сучаснага стану савецкай літаратуры на Украіне, літаратурнай крытыкі і навукова-дасьледчай працы ў галіне літаратуры і мастацтва, мэтодолёгіі літаратуры, мовазнаўства і г. д.

Будуць асьвятляцца моманты як навукова-крытычнымі досьледамі, так і хронікаю з літаратурна-мастацкага жыцьця.

Намечана падаць матэрыялы наступнага парадку: пра пролетарскую савецкую, папутніцкую і дакастрычнікавую украінскую — літаратуры; артыкулы пра літэгуртаваньні і літаратуры нацменшасьцяй: ВУСПП, расійскую і яўрэйскую літаратуры на Украіне, Плуг, Маладняк, Новую Генэрацыю, Авангард, Заходнюю Украіну, групу пісьменьнікаў, згуртаваную навакол (досі „поза груповаго") „Літаратурна Ярмарку", пісьменьнікаў па-за організацыямі, Фэдэрацыю пісьменьнікаў.

Сэкцыя мяркуе даць сэрыю літаратурных портрэтаў сучасных пісьменьнікаў: П. Тычыны, А. Галоўкі, І. Куліка, І. Мікіценкі, І. Кірылёнка, М. Хвільявога, В. Сосюры, В. Падмагільнага, С. Піліпенкі, В. Палішчука, М. Семенка, П. Усенка і інш.

Плян прадбачыць ужо цяпер згоды з аўтарамі досьледаў пра творы

якія знайшлі найбольшыя водгукі ў нашай прэсе: „Бур'ян“ і „Можу“— А. Галоўка, „Вуркагані“ — І. Мікіценка, „Голубі ешелоні“—П. Панча і „Бяз грунту“ Г. Епіка.

*Дзесяцігадовы юбілей Дзяржаўнага Выдавецтва Украіны (ДВУ).* 5 мая г. г. мінула 10 год з дня заснаваньня дэкрэтам УЦВК Дзяржаўнага выдавецтва Украіны. Дзесяцігадовы юбілей ДВУ адначасна быў і дзесяцігадовым юбілеем украінскай савецкай кніжкі. Гэты юбілей савецкая грамадзкасьць адзначыла напружаньнямі на фронце культурнай работы, прасоўваньнем украінскай культуры, украінскай кніжкі ў масы; гэты юбілей украінская савецкая грамадзкасьць адзначыла месячнікам украінскай кніжкі з 1 мая па 1 чэрвеня.

Месячнік украінскай кніжкі па паказаньнях Агітпропу ЦК КП(б) Украіны праводзіўся пад лёзунгамі: 1) украінскую кніжку ў масы, 2) кніжка—прылада комуністычнага ўплыву і выхаваньня мас, 3) кніжка—першая патрэба для работніка і селяніна, 4) кніжка павышае культурны ўзровень, 5) украінская кніжка—падважнік украінізацыі пролетарыяту.

Для правядзеньня гэтага юбілейнага месячніка быў організаваны Ўсеукраінскі грамадзкі камітэт на чале з т. т. Хвілею (старшыня), Рыбыцкім (намесьнік старшыні) з удзелам прадстаўнікоў дзяржаўна-культурных органаў, выдавецтваў, профэсіянальных організацый, харкаўскіх вялікіх заводаў, пісьменьніцкіх і іншых грамадзкіх організацый.

На мясцох былі організаваны пры агітпропах адпаведныя камісіі з удзелам масавых організацый, якімі былі распрацаваны пляны правядзеньня месячніка ў акругах.

У часе майскіх сьвят і паходаў былі організаваны кніжныя карнавалы, кніжныя рынкі, перасовачныя кіёскі з максымальнымі скідкамі на літаратуру. На буйных прадпрыемствах былі організаваны кніжныя кіёскі украінскай кніжкі.

Сваю работу ДВУ распачала ва ўмовах цяжкіх акалічнасьцяй, у гады напружанай грамадзянскай вайны, у гады барацьбы за украінскі Кастрычнік. Гэта былі цяжкія гады пачатку работы ДВУ. За першы год работы ДВУ нават няма лічбовых даных; работа савецкае ўлады на пэўны час была перарвана наступленьнем контр-рэволюцыйных сіл.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што выдавецкая прамысловасьць пазьней за ўсе іншыя галіны народнае гаспадаркі перайшла да правільнай плянавай гаспадарчай работы.

Для ДВУ за пачатак плянавай работы можна лічыць толькі 1925-26 г. А пачаткам-жа пэўнае выдавецкае работы ДВУ толькі 1927-28 г.

Гісторыя ДВУ у лічбах, самых пераканаўчых сьведкаў, мае такі выгляд:

| Гады | Назваў | | Друкаваных аркушаў | |
|---|---|---|---|---|
| 1920/21 | 535 | 100 | 828 | 100 |
| 1921/22 | 345 | 65 | 1819 | 220 |
| 1922/23 | 326 | 61 | 2895 | 350 |
| 1923/24 | 471 | 88 | 3096 | 374 |
| 1924/25 | 1623 | 303 | 8124 | 981 |
| 1925/26 | 1170 | 219 | 7029 | 849 |
| 1926/27 | 952 | 178 | 6354 | 767 |
| 1927/28 | 1202 | 225 | 7301 | 882 |

| Гады | Экзэмпляраў | | Адбіткаў | |
|---|---|---|---|---|
| 1920/21 | 6021 | 100 | 12628 | 100 |
| 1921/22 | 4164 | 69 | 23345 | 185 |
| 1922/23 | 3190 | 53 | 28490 | 226 |
| 1923/24 | 5448 | 91 | 38893 | 208 |
| 1924/25 | 20395 | 339 | 133584 | 1058 |
| 1925/26 | 16340 | 271 | 99745 | 790 |
| 1926/27 | 12063 | 200 | 95840 | 759 |
| 1927/28 | 13849 | 230 | 105775 | 838 |

За той самы час удзельная вага украінскай кніжкі ў продукцыі ДВУ няўхільна ўзрастае. Вось даныя:

| Гады | Назваў | | Друк. аркуш. | |
|---|---|---|---|---|
| | Кольк. | % | Кольк. | % |
| 1920/21 | 195 | 36,4 | 336 | 40,6 |
| 1921/22 | 131 | 38,0 | 562 | 30,9 |
| 1922/23 | 123 | 37,7 | 1425 | 49,2 |
| 1923/24 | 286 | 60,7 | 1317 | 42,5 |
| 1924/25 | 1000 | 61,6 | 4502 | 55,4 |
| 1925/26 | 882 | 75,4 | 5373 | 76,4 |
| 1926/27 | 804 | 84,5 | 5205 | 81,9 |
| 1927/28 | 1066 | 88,7 | 6529 | 89,4 |

| Гады | Экзэмпляраў | | Адбіткаў | |
|---|---|---|---|---|
| | Кольк. | % | Кольк. | % |
| 1920/21 | 3200 | 53,2 | 6404 | 50,7 |
| 1921/22 | 2461 | 59,1 | 14756 | 63,2 |
| 1922/23 | 1604 | 50,3 | 17040 | 59,8 |
| 1923/24 | 4054 | 74,4 | 23991 | 61,7 |
| 1924/25 | 15148 | 74,3 | 96993 | 72,6 |
| 1925/26 | 13901 | 85,0 | 88715 | 88,9 |
| 1926/27 | 10354 | 85,8 | 80683 | 84,2 |
| 1927/28 | 12532 | 90,5 | 92718 | 87,7 |

А зараз, у зьвязку з вялікім рухам рабочых мас за аўладаньне украінскай культурай, маем вялікі, нячуваны да гэтага часу попыт на украінскую кніжку—мастацкую, масавую, політычную, тэхнічную і інш., і кніжная продукцыя яўна ўжо адстае ад усяго ўзросту попыту. Плян 1928-29 г. ужо вызначаны ў 160 мільёнаў адбіткаў (узрост супроць ранейшага 1927-28 г. на 50 проц.).

Высокі тэмп індустрыялізацыі нашай краіны, рэконструкцыя сельскае гаспадаркі вымагаюць у найкароткі тэрмін ліквідаваць няпісьменнасьць, надзвычайнага разьвіцьця украінскай культуры і рух рабочых мас за яе аўладаньне — зараз ставяць перад ДВУ патрабаваньне пераключыцца на новы тэмп і новыя мэтоды работы, якія адпавядалі-б тэмпам і мэтодам усяго соцыялістычнага будаўніцтва.

Выходзячы з гэтага, ДВУ перабудавала свой пяцігадовы плян, які значна перавышае першыя яго проектаваньні. І на дзень свайго першага і пачатку другога дзесяцігодзьдзя ДВУ мела выпрацаваны пяцігадовы плян, з якім і ўступіла ў другое сваё дзесяцігодзьдзе. У гэтым пляне зьвернута ўвага ня толькі на павялічэньне продукцыі, але і на павышэньне яе якасьці, на зьніжэньне сабекошту, на найлепшае і найтанейшае прасоўваньне продукцыі да спажыўца і г. д.

Першае дзесяцігодзьдзе украінскай савецкай кніжкі і яе вытворцы—Дзяржаўнага Выдавецтва Украіны, якое дае 50 проц. усёй масы кніжнай продукцыі УССР, было ня лёгкім. Зараз ДВУ ўступіла ў новае дзесяцігодзьдзе з вялікімі пэрспэктывамі, з нячуванымі раней заданьнямі і таксама значнымі труднасьцямі.

* „Бэрэзіль“—паказальны украінскі тэатр, які вызначыў у вялікай ступені мастацкі твар усёй тэатральнай Украіны... У будучым сэзоне „Бэрэзіль“ мяркуе, апрача пастановак клясыкаў, якія пераносяцца толькі на ранішнія спэктаклі, паставіць таксама агляд — „Алло“, на хвалі 447“. Проблеме нацыянальных узаемаадносін на Украіне будзе прысьвечана п‘еса „Міна Мазайло“. Сярод новых пастановак трэба адзначыць п‘есу Куліша „Дом № 13“. Драмгурткі Дняпроўскі і Сіменка па заказу тэатру рыхтуюць п‘есы, прысьвечаныя проблеме „Рабочыя на вытворчасьці“. Украінскі драмгурток Цымбал здаў тэатру п‘есу „Наказ пана Ралка“. Пісьменьнік Ерашэнка канчае для тэатру новую драму „Дон-Кіхот“.

* Група украінскіх конструктывістых „Авангард“, на чале якой стаяць: Валер‘ян Полішчук, Л. Чарноў, І. Сіменка і інш., гэтымі днямі выпусьцілі свой зборнік пад назваю „Авангард“. У зборніку аб‘яднаны мастацкія матэрыялы групы, абгрунтаваны тэорытычныя яе погляды, дана інфор-

мацыя аб рабоце украінскіх конструктывістых і адбіта думка групы па розных пытаньнях літаратурнага жыцьця Украіны і ўсяго Савецкага Саюзу.

Конструктывістымі выдана поэма Валер'яна Полішчука „Додэн і Роза“ з жыцьця Родэна і Анатоля Франса.

* ВУФКУ прыступіла да пастаноўкі вялікага фільму „Дарога агня“ -- па сцэнару С. Уэйцінга. Тэма: змаганьне ўсходніх народаў з ангельскім імпэрыялізмам. Ставіць карціну рэжысэр Тасін.

У пастаноўцы рэжысэра Стабавога канчаецца фільм „Экспонат з паноптыкуму“.

Вядомы украінскі драматург Мамантаў перадаў ВУФКУ сцэнар пад назваю „Яго ўласнасьць“. Ставіць будуць Стабавой і Лазурын.

Сцэнарная майстэрня адэскай кінофабрыкі канчае наступныя сцэнары: „Інфімела“—С. Уэйцінга. Гэта—комэдыя, якая малюе спаборніцтва паміж двума санаторыямі на лепшыя вынікі лячэньня. Сельска-гаспадарчым пытаньням прысьвечаны сцэнары „Сасновая сьцяна“ (аўтар—Іогансэн), „Князь Ігар“ (аўтар—Палонік) і „Рыбалоўства“. Сцэнарная майстэрня кіеўскай фабрыкі распрацоўвае рад новых сцэнараў: „Кварталы прадмесьця“. (Аўтар — Бажан). Фільма павінна адбіць змаганьне пролетарскай грамадзкасьці з антысэмітызмам, з аднаго боку, і яўрэйскім нацыяналізмам—з другога. Сцэнар разгортваецца часткова на фоне яўрэйскага местачковага жыцьця, часткова на вытворчасьці. „Даліна цудаў“, выкрывае рэлігійныя „цуды“. Аўтар—О. Рутор. „Тры браты“—сцэнар Кашэўскага, які выяўляе клясавае змаганьне на Украіне ў нашы дні. „Прыгоды савецкага Хлестакова“—комэдыя В. Ахрэменка. „Парыў“—сцэнар Рутэра, прысьвечаны проблеме мэханізацыі і рацыяналізацыі вытворчасьці.

Сцэнарысты Майскі заканчвае сцэнар „Сакрэт Рапіта“, які малюе станоўчы тып савецкага гаспадарніка. „Лясная песьня“—фільм для сяла (аўтар—Ятко). Тэма—барацьба за рацыяналізацыю ў ганчарнай вытворчасьці. Поўнамэтражны юнацкі фільм — „Студэнтка“, які трактуе проблему жанчыны ў студэнцкім быце, ставіць рэжысэр-вылучэнец Каплер па сцэнару украінскага пісьменьніка Бажана.

Кіеўская кіно-фабрыка выпускае вялікі фільм „У зарасьлях“. Сюжэт—чырвоная партызаншчына на Украіне. Рэжысэр Перагуда канчае карціну з быту савецкіх лётнікаў—„Мёртвая пятля“. М. Каффман, які здымаў фільм—„Адзінаццаты“ і „Чалавек з кіноапаратам“, мантуе поўнамэтражны фільм—„Вясна“.

„Здань, якая не зьвяртаецца“, так завецца фільм, скончаны на кіеўскай фабрыцы.

# КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЕ РСФСР

* Ільля Сэльвінскі працуе над новай комэдыяй з сучаснага быту.

* А. І. Сьвірскі гэтымі днямі скончыў першы том „История моей жизни“ (дзяцінства), які будзе друкавацца ў ЗІФ‘е. А зараз піша па заказу „Совкіно“ сцэнар „Наше счастье“.

* Тэатр імя МГСПС уключыў у рэпэртуар надыходзячага сэзону пакуль дзьве новыя пастаноўкі: „Чапаев“ — Фурманавой і Луніна, і „Ярость“ Е. Яноўскага.

„Ярость“ напісана на тэму аб сёньняшняй новай вёсцы, аб будаўніцтве соцыялізму на сяле. Гэта будзе адна з першых п‘ес у рэпэртуары аб тым, як на вёсцы, пад кіраўніцтвам пролетарыяту, ажыцьцяўляецца генэральная лінія партыі і савецкай улады.

Тэатр імя МГСПС пакажа яе яшчэ ў першай палове сэзону.

„Ярость“ прынята таксама да пастаноўкі ленінградзкім Вялікім Драматычным тэатрам.

* С. Мяцежны перакладае нядаўна атрыманую ім п‘есу нямецкага поэты Вальтэра Мэрынга—„Бэрлінскі купец“. Яна мае быць пастаўлена ў адным з маскоўскіх тэатраў. Гэтай п‘есай, між іншым, адчыняе зімовы сэзон у сваім бэрлінскім тэатры Эрвін Піскатор, якім на галоўную ролю запрошан заслужны артыст Дзяржаўнага Маскоўскага Яўрэйскага Тэатру—Міхоэлс. Пытаньне аб часовай паездцы яго ў Бэрлін, з 1 жніўня па 1 сьнежня, вырашана Галоўмастацтвам станоўча.

* На пашыраным пасяджэньні рэдкалегіі часопісу „Наши достижения“ ухвален проект організацыі мастацкага ілюстраванага часопісу пад назваю „СССР на стройке“. Гэты часопіс мае выдавацца пры ўдзеле т.т. Пятакова, А. Халатава, М. Кальцова і інш., у ім будзе адлюстроўвацца наша соцыялістычнае будаўніцтва. Усе ілюстрацыі ў часопісе будуць тлумачыцца на чатырох мовах (расійскай, нямецкай, францускай і ангельскай). Такім чынам, часопіс „СССР на стройке“ будзе разьлічаны ня толькі для расійскага чытача, але і для заграніцы.

* У сувязі са стагадовым юбілеем з дня нараджэньня композытара Рубінштэйна, Софіл мяркуе організаваць у другой палове зімовага сэзону ўсесаюзны конкурс піяністых і адмысловы концэрт.

* Нядаўна скончаная аповесьць С. Д. Мсьціслаўскага „Без себя“ выйдзе ў верасьні ў выданьні „Земля і фабрыка“ асобнай кніжкай.

* Дзяржвыдавецтва РСФСР выпускае масавым тыражом зборнік новых вершаў Александра Жарава на тэму аб соцыялістычным спаборніцтве; там-жа выходзіць паасобным ілюстраваным выданьнем яго поэма „Сентиментальный друг“.

* Тэатр-студыя Ю. А. Завадзкага ўключыў у рэпэртуар п‘есу маладога таленавітага нямецкага пісьменьніка Пэтэра Марыяма Лампэля „Бунт в воспитательном доме“. Тэма п‘есы—папраўчая ўстанова для няпоўналетніх у Нямечыне. Змрочнымі фарбамі малюе аўтар становішча ў гэтых дамох. П‘еса ставілася ў Бэрліне 150 раз. Перакладзена яна М. К. Левінай, якая на днях атрымала для перакладу і другую нашумеўшую п‘есу таго-ж аўтара—„Ядовитый газ над Берлином“. Пастаноўка гэтай п‘есы

была забаронена бэрлінскім паліцэйпрэзыдэнтам, бо яна зло сьмяецца з нямецкага рэйхсвэру і фашызму. „Ядовитый газ над Берлином“ таксама намячаецца да пастаноўкі адным з маскоўскіх тэатраў.

* У будучым сэзоне ў 1 і 2 дзяржаўным тэатрах опэры і балету будзе паказаны рад новых опэр, дазволеных да пастаноўкі Галоўмастацтвам: „Юдиф“—А. Серава, „Алмаст“-Спэндзіярава, „Новости дня“—Хіндэміта, „Загмук“—А. Крэйна, „Гибель богов“—Вагнэра і балет „Футболіст“—Аранскага.

* Э. Багрыцкі рыхтуе да друку для дзяржвыдавецтва з украінскае вершы Міколы Бажана, з беларускае—вершы Янкі Купалы, з яўрэйскае—вершы Перэца Маркіша.

* Уладзімер Лігаўскі падрыхтаваў да друку 3-ю кнігу вершаў „Страдания моих друзей“, працуе над шэрагам нарысаў аб соцыялістычным спаборніцтве на Урале і канчае поэму ў вершах „Сібір“.

* Д. Шчаглоў, аўтар „Пургі“ і „Норд-Оста“, здаў студыі Малога тэатру новую сваю п'есу „Пераплаў“. Напісана яна ў экспрэсіяніцкай манэры. Але ў той-жа час Д. Шчаглоў, шмат працаваўшы для самадзейнага тэатру, скарыстаў у сваёй п'есе элемэнты і прыёмы клюбнага спэктаклю. Яго „героямі“, якія змагаюцца, амаль гінуць, але ўсё-ж перамагаюць, зьяўляецца—па замыслу драматурга,—рацыяналізацыя вытворчасьці.—Сюжэтная інтрыга разгортваецца вакол вынайдзенага рабочым аўтомату.

* Дзяржаўны опэрны тэатр імя Станіслаўскага, маючы на ўвазе папоўніць свой рэпэртуар новымі савецкімі опэрамі, якія адбіваюць соцыяльныя зьявішчы нашай рэчаіснасьці, намеціў наладжваньне шырокага конкурсу сярод савецкіх композытараў.

* Зімовы сэзон у тэатры б. Корш пачнецца 1 кастрычніка. У рэпэртуар тэатру ўключаны пакуль дзьве новыя пастаноўкі, якія будуць паказаны ў першай палове сэзону: „Балота“ Ваньола і „Высоты“ Лібедзінскага.

* Першай новай пастаноўкай у зімовым сэзоне Малога тэатру будзе „Растеряева улица“—па Гл. Усьпенскаму, у інсцэніроўцы і пастаноўцы М. С. Нарокава. Гэты спэктакаль будзе паказаны ў лістападзе. Наступная прэм'ера адбудзецца ў сьнежні—„Горе от ума“, у пастаноўцы Н. О. Валхонскага. У другой палове сэзону будуць пастаўлены: „Угар“ Давідоўскага, па роману Д. Фібіха, і „Дон Карлос“ Шылера.

Новы рэпэртуар тэатру імя Сафонава будзе паказаны ў наступным парадку: „Разбойники“ Шылера, „Мнимый больной“ Мольера, „Настанет день“ Пэрсіянінавай, „Неопалимая купина“ І. Платонова і адна з п'ес Астроўскага—у новай пастаноўцы.

* У пачатку жніўня ў Маскву вярнулася з Кіргіскай рэспублікі экспэдыцыя навуковай асоцыяцыі ўсходазнаўства. Пад кіраўніцтвам т. Сьмірнова былі абсьледаваны вандроўныя і аселыя раёны, у прыватнасьці—Каракульскі поўвандроўны кантон, які аказаўся асабліва цікавым.

Апрача абсьледаваньня аселых кіргіскіх аулаў і вандроўных стаянак (джэйлаў), у гэтай-жа мясцовасьці была зьвернута вялікая ўвага на прышоўшыя ў 1921 годзе з заходняга Кітаю народы: дунганы і уйгуры. Па рэлігіі дунганы зьяўляюцца мусульманамі, па быту—кітайцамі, але становішча жанчыны ў іх яшчэ строга вызначаецца нормамі корану.

У раёне г. Оша была вывучана жаночая саматужная вытворчасьць (выраб дываноў). Цяпер гэты промысел знаходзіцца ў заняпадзе з прычыны дарагоўлі сырцу. Займацца ім у індывідуальным парадку стала цяжка, а прамысловая коопэрацыя ня досыць разьвіта. Старажытны спосаб вытворчасьці, якога там яшчэ прытрымліваюцца, вельмі прымітыўны, затое мотывы выррабу дываноў

надзвычайна рознайстайныя—многія кіргізкі ведаюць да 100 малюнкаў.

* Маскоўскі дзяржаўны пэдагогічны тэатр адкрые зімовы сэзон у нанава пабудаваным будынку, пабудова якога павінна скончыцца да 15 лістапада.

У гэтым новым тэатры, які будзе каштаваць каля 300.000 руб., будзе каля 900 месц. Акрамя залі і вялікіх фойэ, у тэатральным будынку будзе рад пакояў спэцыяльнага прызначэньня: для музэю, клюбу, дэлегацкіх сходаў, выставак макетаў і г.д. Асобна будзе абсталявана і дзіцячая пляцоўка.

Самы тэатр пастаноўлена з надыходзячага году ператварыць у дом мастацкага абслугоўваньня моладзі.

Рэпэртуар будучага сэзону склаўся наступным чынам: „Пароги“ Афінагенава, „Рыцари круглого стола“ Сумарокава, Курганава і інш. „Так было“ Зона і Бурштэйна і кукальны спэктакль „Лешка-кнопочка“ — Гуршанскага, Сажына і Каласаева.

У рэпэртуар уключана таксама спэцыяльная літкомпозыцыя „Шляхі перамогі“—з твораў Дзямяна Беднага, Дорахава, Беразоўскага, Алексеева і інш. пісьменьнікаў.

* Н. А. Крашэньнінікаў скончыў п‘есу з сучаснага жыцьця—„Вася“. Напісана яна па роману А. Н. Калантай „Василиса Колычева“. У цэнтры п‘есы маладая работніца-вязальшчыца.

* На днях выдана камітэтам популярызацыі мастацкіх выданьняў пры Дзяржаўнай акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры кніга „М. А. Врубэль“.

Кніга складаецца з лістоў мастака да яго сястры А. А Врубэль, лістоў да бацькі, у якіх ён гаворыць аб сваім сыне, і ўспамінаў самой А. А. Врубэль.

Увесь гэты матэрыял публікуецца ўпяршыню, за выключэньнем лістоў самаго мастака, якія часткова вядомы па невялікіх цытатах з іх. Па свайму зьместу гэты матэрыял мае буйную гісторыка-мастацкую вартасьць.

Гэты матэрыял мае ня толькі каштоўныя біографічныя паведамленьні (у прыватнасьці—падрабязнае апавяданьне аб апошнім пэрыодзе жыцьця М. А. Врубэля), ня столькі асьвятляе паасобныя моманты яго жыцьця, але—і гэта самае галоўнае—знаёміць з поглядамі мастака на яго работу і на работу наогул ўсякага маляра.

* Аднавілася спыненая на лета дзейнасьць творчага аб‘яднаньня драматургаў і працаўнікоў тэатру— „Пролетарскі тэатр“. За лета паасобнымі сябрамі аб‘яднаньня была праведзена значная работа ў розных гарадох СССР. Наладжана сувязь з замежнымі пролетарскімі групамі, якія працуюць у галіне тэатру.

Першы агульны сход аб‘яднаньня будзе прысьвечаны справаздачы аб летняй працы і прапрацоўцы пляну дзейнасьці ў бягучым сэзоне.

* Скончана формаваньне Татарскага акадэмічнага тэатру ў Казані. Дырэктарам прызначаны былы загадчык Татарскага Дому Культуры т. Мухсінаў; галоўны рэжысэр—заслужаны артысты З. Султанаў.

Агульнае мастацкае кіраўніцтва тэатрам даручага вядомаму драматургу К. Тэнчурыку.

* Трэцьцякоўская галерэя арганізоўвае аддзел стара-рускай жывапісі. Усе экспонаты і матар‘ялы музэю перадаюцца ў сувязі з гэтым у Трэцьцякоўку. Акрамя таго, у Трэцьцякоўскай галерэі будзе пашыраны аддзел сучаснай жывапісі. Такім чынам, у Трэцьцякоўцы будзе прадстаўлена ўся жывапісь, пачынаючы з XI веку, уключаючы апошні сучасны пэрыод.

* Барыс Пільняк прадаў эміграцкаму выдавецтву свой антысавецкі твор „Чырвонае дрэва“. Факт гэты выклікаў вялікае абурэньне ўсяе савецкае грамадзкасьці СССР, якая констатавала поўны пераход Б. Піль-

няка ў „Чырвоным дрэве“ на позыцыі буржуазіі і зьмяшчэньне ім гэтай аповесьці ў белагвардзейскім выдавецтве рашуча асудзіла.

У даным выпадку Пільняк не адзін. За ім ідуць Замяцін і інш. Пільняк зьяўляецца толькі найбольш выразным прадстаўніком буржуазнага перараджэньня правай часткі „папутчыкаў“.

УСП рашуча асудзіў ганебны ўчынак Б. Пільняка. Праўленьне УСП прызнала немагчымым астаўленьне Б. Пільняка ў складзе кіраўнічых органаў, склікала агульны сход Саюзу, на якім адбыліся перавыбары праўленьня. Намечаны асноўныя лініі далейшай працы.

На ўнечарговым паседжаньні праўленьня УСП выярашана зьмяніць назву Ўсерасійскага Саюзу Пісьменьнікаў на Усерасійскі Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў.

## ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* У Нью-Ёрку, у выдавецтве „Боні“, вышла невялікая кніга пісьменьніцы Жанэты Маркс, пад назваю „13 дзён“. На працягу 100 старонак аўтар дае яскравыя зарысоўкі тых 13 дзён, якія мінулі ад прыводу Сако і Ванцэці ў камэры сьмяротнікаў (9 жніўня 1927 г.) да моманту іх пакараньня сьмерцю (22 жніўня). Прымаючы блізкі ўдзел у рабоце камітэтаў абароны асуджаных, Жанэта Маркс мела магчымасьць непасрэдна наглядаць жыцьцё гэтых „штабоў справядлівасьці“ і „агульную гістэрыку гораду Бастону“.

* Сын памёршага гэтымі днямі вядомага аўстрыйскага пісьменьніка Гофмансталя паведаміў, што ў архівах айца выкрыта зусім скончаная, за выключэньнем дробных дэталяй, поэма „Дорабэлла“, якая павінна служыць лібрэто да новай опэры Рыхарда Штрауса. Поэма малюе жыцьцё польскіх эмігрантаў-арыстократаў у Вэне пасьла прыдушэньня польскага паўстаньня 1861 году.

* Тэадор Драйзэр прадаставіў Эрвіну Піскатору выключнае права інсцэніроўкі і пастаноўкі на сцэне ў Нямеччыне роману „Амэрыканская трагедыя“. Усьлед за пастаноўкай гэтай інсцэніроўкі ў Бэрліне (у пачатку бягучага сэзону) Піскатору-ж будзе даручана апрацаваць „Амэрыканскую трагедыю“ для нью-ёркскай сцэны.

* У Парыжы з‘організаваўся камітэт „Прыяцеляў Сэвэрын“ (Сэвэрын—адна са значных радыкальных журналістак і пісьменьніц Францыі, некалі бліжэйшая супрацоўніца Жуля Валеса. Яна памерла ўвесну гэтага году). Бэрнар Лекаш, давераны нябожчыцы, прыступіў да апублікаваньня нявыданых твораў Сэвэрын і яе перапіскі.

* У сучасны момант Шолам Аш працуе над вялікім романам пад назваю „Пецярбург“, дзея якога адбываецца напярэдадні імпэрыялістычнай вайны. Па словях аўтара, ён ставіць сабе задачай выкрыць у гэтым романе прычыны заняпаду царскай улады і тых соцыяльных пластоў, якія панавалі над Расіяй. Роўналегла з „Пецярбургам“ Аш рыхтуе яшчэ трылёгію пад назваю „Варшава“, у якой даны будзе малюнак Польшчы перад вайной 1914 году.

* Анры Бэро, выдатны француські романісты, напісаў некалькі год таму назад гнусны памфлет на СССР. Невуцтва і грубая тэндэнцыйнасьць Бэро былі выкрыты, між іншым, вядомым францускім адвокатам Гібу-Рыбо ў кнізе „Oú va la Russiё“. Гібу-Рыбо давёў досыць выразна, што Бэро наогул нічога ня бачыў у СССР і што кніга яго зроблена спэцыяльна па заданьні выдаўца і па рэцэптах бульварнага друку. Адну фразу кнігі адвоката Рыбо Бэро палічыў асабліва зьневажаючай для сябе (фраза гэта: „Бэро—лёкай друку, які знаходзіцца на ўтрыманьні“) і ўзбудзіў супроць аўтара судовы іск аб дыфамацыі, патрабуючы 50.000 франкаў у якасьці компэнсацыі за панесеную „моральную страту“!

Справа слухалася нядаўна ў Парыжы. Інтарэсы чорнасоценца Бэро абараняў рэнэгат, адвокат Торэс, цяперашні член францускай соцыялістычнай партыі. Суд прызнаў абві-

навачаньне даведзеным і прыгаварыў Гібу-Рыбо да ўплаты 5.000 франкаў на карысьць Бэро, 100 франкаў судовых выдаткаў і да 5 публікацый у друку...

* Французскі выдавец Франсуа Бэрнуар прыступіў да выданьня поўнага збору твораў Эміля Золя ў 50 монумэнтальных тамох. Паведамляючы аб гэтым „Літэрарышэ Вэльт“ піша, што прадпрыемства выдаўца— „амаль героічны ўчынак“, бо Золя ва Францыі належыць да тых пісьменьнікаў, аб якіх шмат гавораць і прытым не заўсёды ў добрых для яго выразах, але якіх мала чытаюць.

* У Нью-Ёрку адбылося сэнсацыйнае прысуджэньне прэміі ў 25.000 даляраў (за лепшы роман аб вайне), вызначаны выдавецтвам Міфліна і часопісам „Амэрыканскі Легіён“.

Прэмія падзелена паміж Вільямам Скэнлон (роман „Бог зьмілаваўся над намі“) і міс Мэры Лі (яе роман: „Гэта была вялікая вайна“). Выдумка такой чорнасоценнай арганізацыі, як „Амэрыканскі Легіён“, прасьледуе яўна рэакцыйна-патрыотычныя мэты. Самыя назвы раманаў у гэтых адносінах досыць характэрныя.

* Французкай акадэміі трэба будзе ў бліжэйшым будучым прысудзіць некалькі сот прэмій у разьмеры, пераважна, ад 500 да 1.000 франкаў (ад 40 да 80 рубл.). „Прэміі пачынаюць набываць у літаратуры тое-ж значэньне, што „ордэн ганаровага легіёну“ ў грамадзкім жыцьці Францыі“, — гаворыць „Літэрарышэ Вэльт“,—„г. зн. значэньне знадворнага адрозьненьня масы пасрэднасьцяй ад нямногіх абойдзеных, для якіх адсутнасьць прэмій зьявіцца лепшай рэкомэндацыяй“.

* У гутарцы з Э. Э. Кішам Эптон Сінклер паведаміў, што ў нью-ёркскім тэатры „Плейгауз“ у бліжэйшым часе будзе ісьці п'еса „Нафта“, інсцэніроўка вядомага роману. Пераапрацоўка для сцэны зроблена не самым романістым, а толькі пад яго непасрэдным наглядам (у Амэрыцы гэта практыкуецца вельмі часта).

Дарэчы, заслугоўвае ўвагі факт выпуску бэрлінскім выдавецтвам „Малік“ 100.000 экзэмпляраў „Нафты“ на нямецкай мове.

* Вядомы ангельскі рэволюцыйны пісьменьнік і публіцысты Артур Голічэр (Artur Holitscer) напісаў публіцыстычны роман „Што адбылося ў Маскве“ (Es geschah in Moskau), які хутка мае высьці асобнаю кніжкаю. Глыбокая сымпатыя аўтара да СССР, злучаная з яго востраю назіральнасьцю, дае падставы чакаць ад гэтага роману шмат чаго з сучаснага савецкага жыцьця. У № 3 часопісу „Die neue Bücherschau“ („Новы кніжны агляд“) апублікаваны ўрывак з гэтага роману „Місіс Сьміт едзе ў Расію“ (Artur Holitscher, Mrs Smit reist nach Russland), дзе аўтар перадае з тонкай гіроніяй свае ўражаньні ад Рэвэля—новаўтворанай „сталіцы“ лімітрофнай Эстоніі.

* Між драматычнымі навінамі апошняга часу зьявіліся дзьве драмы, якія карыстаюцца прыхільнаю крытыкаю друку. Першая—„Паўстаньне ў Мандэльдзі“, якая яскрава ілюструе бойкі нямецкага пролетарыяту 1921 г. Аўтар—вядомы пісьменьнік Рудольф Фукс. У сваёй драме ён паказаў усю фальш соцыял-дэмократыі, якая лічыла рэволюцыйны выбух пролетарыяту Нямеччыны „путчем“.

Другая драма належыць пяру вядомага нямецкага поэты-анархістага Эрыха Мізама—„Дзяржаўны рэзон“.

Тэма п'есы—закатаваньне Сако і Ванцэці. Аўтар здолеў даць удалую характарыстыку капіталістычнай юстыцыі і даў жывы малюнак трагедыі Сако і Ванцэці.

* Джон Голсуорці, адзін з буйных сучасных пісьменьнікаў Англіі, нядаўна романам „Лебядзіная песьня“ закончыў шматтомную сямейную эпопэю моцнага ангельскага роду Форсайту—„Форсайты“. У „Лебядзінай песьні“ апошні з Форсайтаў па-

мірае ў часе забастоўкі гарнякоў 1926 году, убачыўшы пагібель усіх сваіх ідэалаў. Політыка парляманту ў часе гэтай забастоўкі прымушае нават лібэральнага Майкеля Монта (мужа дачкі Форсайта—Флер) сумнявацца ў тым, ці сапраўды члены парляманту выказваюць народную думку. Стары быт валіцца, гінуць ідэалы „старой вясёлай Англіі“.

* Бэрнард Шоу напісаў новую кнігу „Даведнік для разважлівай жанчыны па соцыялізму і капіталізму“, дзе з дасьціпнай і злоснай гіроніяй малюе супярэчнасьці і нятрываласьць капіталістычнай сыстэмы.

* У Парыжы памёр выдатны францускі сатырык Жорж Куртэлін, аўтар шматлікіх романаў і п‘ес. Галоўныя мотывы яго творчасьці—рэзкая і злая сатыра на мяшчанскую абмежаванасьць, двудушнасьць, нікчэмнасьць. Але ў яго гневе і сатыры няма нічога рэволюцыйнага; Куртэлін ня ўзьнімаецца на вышыню актыўнага протэсту.

* Трэці інтэрнацыянальны тэатральны конгрэс, організаваны сусьветным тэатральным таварыствам, адбыўся 24—29 чэрвеня ў Барсэлоне.

Галоўныя пытаньні на конгрэсе маюць выключна практычны характар, між іншым, такое вострае пытаньне, як урэгуляваньне ўзаемаадносін паміж аўтарамі п‘ес і перакладчыкамі, праект заснаваньня касы ўзаемадапамогі артыстым усіх жанраў мастацтва шляхам марак на тэатральных квітках. Прадстаўнік СССР Таіраў, хоць і быў запрошаны на конгрэс, але так позна атрымаў дазвол на ўезд у Гішпанію, што ўжо ня мог быць на конгрэсе.

* Ня так даўно Амэрыка пачала ўжываць новыя захады да пашырэньня літаратурных навін сярод чытацкіх колаў. Гэта—спосаб абонэмэнтаў тэатральных або музыкальных. Стварылася ўжо некалькі організацый, якія ставяць сваёй мэтай заўчасны продаж пэўнай колькасьці кніжак у працягу году. Чытач купляе сабе ў такой організацыі „абонэмэнт“—кожны месяц атрымлівае кнігу, якую выбірае для яго спэцыяльная камісія з компэтэнтных членаў.

* Дзьве антолёгіі поэзіі нэграў. Нядаўна адначасова вышлі на нямецкай і францускай мове дзьве антолёгіі поэзіі нэграў. „Afrika Singt“ выдана Ганнаю Нусбаум у перакладах Г. Кесцта, І. Люітпольда, А. Сімэнсэна і А. Нусбаум (выданьне выд. Штайдэля) і Le négre qui chaute Maria Jalas.

У нямецкім зборніку відаць цесная сувязь амэрыканскіх нэграў з іх першаю бацькаўшчынай Афрыкай. Незалежна ад англа-амэрыканскай лірыкі наймацнейшым тонам у гэтай поэзіі і расавая прыналежнасьць. Ёсьць тут і народныя песьні і вершы паасобных аўтараў вялікае мастацкай вартасьці. Моцна прабіваецца ў іх пачуцьцё соцыяльнага прыгнечаньня, тугі аб далёкім родным краі і змаганьня за незалежнасьць. Дзіцячая скарга зьліта тут з акордамі рэволюцыйнага бунту.

У францускай антолёгіі падабрана поэзія так, каб усяго было пакрысе: з п‘яных песень і „танцуючых“, і рабочых, і старых баляд. Крытыка скардзіцца, што перакладчыкі не далі да іх яшчэ нот.

* Так званая ўзнагарода „Джэна Дэя“ прысуджана за мінулы год амэрыканскай пісьменьніцы Кацярыне Бравы за яе аповесьць „Бацька“.

* У 1927 годзе ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах выдана 2.392.044 орыгіналаў навуковых і тэхнічных кніжак, 875.191 орыгіналаў кніжак па соцыолёгіі і экономіцы і 282.861 па агрыкультуры.

* Бланко Фонбона надрукаваў у Мадрыдзе ў выдавецтве „Mundo latino“ вельмі таленавітую і сур‘ёзную працу пра сучасную гішпана-амэрыканскую поэзію. „El madernismo y los poetas madernistas“. У першых разь-

дзелах ён падае азначэньне модэрнізму, яго пахаджэньне і розныя напрамкі. Рэшта прысьвечана разгляду творчасьці поэтаў, аб'яднаных у некалькі груп.

* Вядомы поэта і крытык Альфрэд Ноіс выступіў упяршыню як новэлісты. Яго першая новэла „The Return ofthe Scrarecrow" сустрэла вельмі прыхільныя адносіны крытыкі. Пад надворным гумарам яна хавае сур'ёзную сатыру на сучасныя літаратурныя і соцыяльныя зьявішчы.

* Ангельскі пісьменьнік Альдоус Гакслей (Huxley) напісаў новы роман „Контрапункт", у якім шукае новай формы. Назва кніжкі характарызуе і тэхніку. Аўтар малюе вобраз лёндонскага таварыства „punctus contra puncutum". Багацьце выразна і тонка акрэсьленых характараў проста невычарпальнае.

*Рэдакцыйная колегія:* **Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І Шыпіла.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ



